

Шэсць магіляўчанак вырашылі сфатаграфавацца на памяць. Называем іх: першы рад — Ліда Шпакава, Тамара Яблыкава, Тамара Якубовіч, Ніна Наздрына, другі рад — Ліда Кароль і Ніна Власенка. Пра тое, хто яны, мы расказваем у рэпартажы на 82 старонцы.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:


☼ Вершы Пімена Панчанкі, Еўдакіі Лось, Веры Вярбы, Авяр'яна Дзеружынскага, Уладзіміра Верамейчыка.

☼ Аповесць Міхася Пянкрата «Шчасце маё».

☼ Апавяданні Міколы Гроднева і Барыса Камара.

☼ Дарогамі сямігодкі. Юры Ермалюк «Неспакойныя».

☼ Гары, камсамольскі аганёк!

☼ Давайце пагаворым. Каго мы называем мяшчанамі.

☼ Слухачам народных універсітэтаў.

☼ Артыкул І. Шышкіна «Загадка зямнога ядра».

☼ Наша пошта.

☼ Гумар і сатыра.


**3** (85)

Сакавік.

1960.

Год выдання VIII.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

На вокладцы малюнак мастака У. Гоманава.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7 Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 9.050 экз. Цана 4 руб.
АТ 07756. Здадзена ў набор 1.II.60. Падпісана да друку 9.III.60. Зак. № 77.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Пімен **ПАНЧАНКА**

## НОВЫЯ ВЕРШЫ

* * *



Руду і хлеб мы здабываем самі.
Ракеты збудавалі. А цяпер
На Месяцы высокім прапісалі
З сярпом і молатам савецкі слаўны герб.

Шасцідзесяты год, год высакосны,
Пластуюцца падзеі ўсё гусцей.
І цуда ўжо не цуда. Заўтра космас
Чакае да сябе зямных гасцей.

І юнакам той космас сніцца часта.
А я не сплю—а што, а што калі...
Варушацца зноў лапы чорных свастык,
І чуецца трывожны гул зямлі.

Сны чалавецтва да здзяйснення блізка.
Ды нехта правацыруе. І вось...
З магіл сарвацца хочуць абеліскі,
Каб тых вар'ятаў пранізаць наскрозь.

Гатоў грузіць мяшкі, араць да стомы поле,
Дзіцяці хвораму кроў пераліць сваю,
Каб толькі развязаць вайну не здолеў
Той зброд, што не дабілі мы ў баю.

* * *



Дождж ідзе прамяністы і дробны,
Пахнуць мятай мокрыя лугі.
Вось ён свет, як сэрца, непадробны,
Да дажджынкі кожнай не глухі.

Росная зялёная айчына!
На цябе, паўнюткую святла,
Пазіраюць круглымі вачыма
Птушаняты з цёплага дупла.

З гнёздаў мы даўно павылятալі,
Ды не развучыліся глядзець,
Як па спелым полі, па атаве
Дождж грыбны на дыбачках ідзе.

Самы раз цяпер з лазовым кошыкам
Па сцяжынках рысяў і ваўкоў
Выправіцца з раніцы на пошукі
Маладых тугіх баравікоў...

Я стаю, гады свае гартаю,
І сціскае сэрца нейкі боль,
Быццам я на Месяц адлятаю,
Быццам я лугі не ўбачу больш.

Не, не развітаюся ніколі
З родным краем, дзе так светла нам.
Проста я люблю яго да болю
І з любоўю дзецям перадам.

## МАЗУРКА ШАПЕНА



Ціхі гром шапенаўскай мазуркі.
Папрашу: замоўкні, не трывож!
Лье і лье ў бляшаныя мензуркі
Вадасцёчных труб асенні дождж.

Грае нада мною чараўніца.
Колькі шчасця, бляску ў гуках тых!
Быццам навальніца бліскавіцай
Б'е у дах асенняй глухаты.

Грае там не фея, не прынцэса,
Я дзяўчыну гэту не ўзлюбіў:
Сведкай навучальнага працэса
І ахвярай музыкі я быў.

А цяпер яна так слаўна грае.
Тры гады мінула, тры гады...
Што з таго, што зараз адабраю?
Не заглянуў ветла, не параіў,
Не памог я ёй нічым тады.

Шыбы заліло халоднай пенай.
Ну калі той дождж, той сум міне?
Лётае мелодыя Шапена,
Ды не для мяне, не для мяне.

## ПРА НЕЎМЯШАННЕ



Хабарнік, злодзей даўно не ў пашане,
Але працвітае 'шчэ п'яніцаў каста.
Даволі палітыкі неўмяшання
У п'янства і рознае ашуканства!

Мы б'ём перажыткі мінулага слаба,
Патураем чужым грахам,
І горад паганяць агідна ю славай
Хуліган, забулдыга і хам.

Бывае так: чалавек праходзіць
Ля брудных падзей і смяецца ў вус:
«Выходзяць са строю на параходзе
Вінты... а тут перажыткаў груз.

Мы ўсе бываем часамі грэшнымі,
Мы ўсе бываем часамі смешнымі.
Не трэба вывадаў паспешных,
Не трэба мераў непазбежных».

Спагада прытворная, словы фальшывыя!
А як бы жылося святлей і чысцей,
Каб хулігана і хама за шываат
Мы бралі часцей.

З рашучым гневам, з напорам рабочым
Давайце ўмешвацца—бой дык бой!—
Як дождж умешваецца ў пыл абочын,
Каб яны зеляне лі пад празрыстай расой.

## ПРА СУІСНАВАННЕ



Суіснаванне — слова моднае,
Для нас яно, як клятва, моцнае.
Яно ў палітыцы патрэбнае,
Яно у гандлі ўсім выгоднае,
Яно у подласці ганебнае.

І не для слоўнай акрабатыкі
Я ўзяў такую тэму слізкую.
Суіснаваць народам Балтыкі
Патрэбна, як сям'і над міскаю;

Амерыканскім людзям з рускімі,
Французам з гордымі арабамі,
І лэдзі лонданскім з зулускамі,
І дужым трэба жыць са слабымі;

З суседзямі не вельмі добрымі,
Былое не прыпамінаючы.
І нават, нават з небаскробамі.
Гатоў я зжыцца, іх не лаючы.

Вітаю дружбу гор з нізінамі,
Крыніц з гаямі салаўінымі...
А як жа вочы твае сінія
Мне спалучыць з вачмі савінымі?

Суіснуе любоў з нянавісцю,
Мяжуе гора з добрай радасцю...
Бываюць хмар асенніх навісі,
Калі не могуць сэрцы ў лад ісці.

Я жыць у дружбе век стараюся,
Але скажу вам праўду чыстую:
Суіснаваць я адмаўляюся
З падлюгамі і кар'ерыстамі.

І з плеткарамі, і з прапойцамі,
З хапугамі, што мруць ад скупасці,
І з тым рэдактарам-забойцаю,
Што рэжа добры верш ад тупасці.

## АМЕРЫЦЫ



Ляжыць на дне Гудзона чорны якар,
Ланцуг ад морскай солі пабялеў...
Ні просьбаў, ні прэтэнзій аніякіх
Не меў я да брытанскіх каралеў.

Ды стомлены Амерыкай без меры,
Я вымаўляю лепшую з прамоў:
«Куін Мэры» *, каралева Мэры,
Адвязі хутчэй мяне дамоў!

Я пабываў на форуме народаў,
Краіны роднай сціплы прадстаўнік...
ААН стаіць блакітнай глыбай лёду,
Саракавы паверх у хмарах знік.

Амерыка, зямля вялікай працы,
Шмат гарадоў багатых у цябе.
Але будынку Аб'яднаных Нацый
Ў Маскве стаяць было б куды цяплей.

Амерыка, я на цябе не ў крыўдзе,
Тваёй красы я з сэрца не сатру.
Калі да нас ты ў госці з мірам прыйдзеш,
Сустрэнем мы цябе, нібы сястру.

Я ў твой народ і ў сэрца твае веру,
Ды многа дзьме сцюдзёных тут вятроў.
Таму й прашу я каралеву Мэры,
Каб адвязла хутчэй мяне дамоў.

## У ДАУН—ТАУНЕ



Ёсць цэлы раён у даун-тауне **—
Прытулак мядзяных купцоў,
Дзе пахне жыццём старадаўнім,
Мястэчкам, бядой, селядцом.

Без песень унукаў, без пенсій
Старыя вартуюць свой хлам,
Сівыя цярэбячы пэйсы
Пад бляскам убогіх рэклам.

Збываюць з паклонам за цэнты
Плашчы, зажыгалкі, штаны
Палякі з не польскім акцэнтам,
Патомкі адэскай шпаны.

---

* Англійскі акіянскі лайнер.
** Ніжні горад (англ.).



І просяць, і лезуць смалою...
О, доларавыя міражы!
Нібы дакастрычніцкі Лоеў
Ў гіганцкіх памерах ажыў.

А там, на каменных задворках,
Каб звесці з канцамі канцы,
У душных майстэрнях Нью-Йорка
Працуюць худыя краўцы.

Турыстам такіх не пакажуць,
Там беднасць глядзіць з-пад ілба.
Там ноччу—надрывісты кашаль
Ды гангстэраў дробных пальба.

Патрэбна шмат поту і спрыту,
Каб цэнты на хлеб наскрабсці.
Два крокі адтуль да Уол-стрыта,
А хто іх адолеў прайсці?

## ХЛОПЧЫК З ФЕРМЫ



Мы жывём пад Нью-Йоркам на дачы
На уласным кавалку зямлі.
Папрацуем, дамо справаздачу
І на ўсход адплывуць караблі.

Побач—ферма, зусім не раскошная.
І праз шчыліну ў плоце глядзеў
Хлопчык з фермы той раніцу кожную
На дзяцей, на савецкіх людзей.

Чуб ды нос, ды вясёлыя вочы,
Ды на чубе блакітны берэт.
І яму, бачым, вельмі ўжо хочацца
Наш парушыць суверэнітэт.

Не збаяўся сенацкіх камісій,
І без віз, без вярбальных нот
З яўна мірнай гандлёваю місіяй
Перэлез ён адважна плот.

Дзелавіта абменьвае маркі,
Хваліць нашы цукеркі: «О кэй!»
І звініць над алеямі парка
Міжнародная мова дзяцей.

З ясным смехам і сэрцамі чыстымі
За вавёркай бягуць па расе.
І гуляюць то ў бітву з фашыстамі,
То у гангстэраў—па чарзе.

Апельсін рассыпаецца долькамі,
Што прынёс гэты хлопчык з сабой.
Для дзяцей пахнуць травы аднолькава
На Лонг-Айландзе і пад Масквой.

# СУСТРЭЧА З «БЯРОЗКАЙ»



Пасля брадвееўскага чаду
І тлуму, што душу грызе,
З «Бярозкі» рускія дзяўчаты
Зайшлі ў праслаўлены музей.

Спяшу я з імі прывітацца,
Шапнуць паціху, як я рад...
Музей сучаснага мастацтва,
Сухой абстракцыі парад.

Здалёк глядзяць дзяўчаты, зблізку—
Незразумела, хоць ты плач.
«Мы не пілі,—гавораць,—віскі,
Што тут такое, растлумач».

Наварочана, накручана
На кожным палатне.
Фарба фарбаю атручана,
Гніллю і трызненнем тхне.

Нейчая галёнка сіняя,
Поўшкілета селядца,
Вока, вуха, пляма, лінія,
Ломца — дрыца — гоца — ца!

Бярозкам гід пляце гасцінна
Лухту, а людзі ўсе, як ёсць,
Глядзяць на іх, не на карціны
І шэпчуць: «Што за прыгажосць!»

# НА АКІЯНСКІМ ЛАЙНЕРЫ



Учора Атлантычны
Грымотаў нарабіў,
Са злосцю фанатычнай
Ў ілюмінатар біў.

Сівы, касматы, грозны
Кіпеў, шумеў, шыпеў.
І я на тэмы розныя
Паразважаць паспеў.

Нічога невядома,
Хоць думай давідна—
І колькі міль дадому,
І колькі міль да дна.

А сёння волат сонны:
Пабушаваў дарма,
Заліта добрым сонцам
Шырокая карма.

З Нью-Йорка ганарыстага,
Не баючыся бур,
Багатыя турысты
Плывуць у порт Шэрбур.



Да дробязей распісана
Адзенне, словы, тон.
Начышчаныя лысіны,
Какетлівы нейлон.

І бары і басейны
Ужо абрыдлі ім,
У горадзе на Сене
Гульнуць, аж пойдзе дым.

З вішнёвымі губамі
Дзяўчынка вунь ляціць.
То шыяй, то клубамі
Абруч пачне круціць.

Мордачка лісіная,
Худзенькі жываток.
Адна панчошка сіняя,
Другая, як жаўток.

А ты глядзі, не смейся—
Ім спорт гавайскі люб,
Бо сам Ракфелер Нельсан
Круціць хула-хуп.

Ну што ж, яму, Ракфелеру,
Круціць не прывыкаць.
І не яму, а фермерам
На полі працаваць...

Дзяўчынку носяць д'яблы
З каюты ды ў вагон.
Галінка з белай яблыні
Не просіцца ў агонь.

Дзяўчынку круцяць долары,
І вучаць піць, курыць.
Бяздумная, вясёлая,
Згарыць яна, згарыць.

Ну й трапіў я ў кампанію
Тузоў і тузянят!
Глядзі на ўсё без панікі,
Часовы дыпламат...

І вустрыцы, і рабчыкі
Сцюарды ўжо нясуць,
І жабіныя лапачкі,
І з чарапахі суп.

Ты любіш боршч украінскі,
Аладкі, кіўбасу,
Ды не ўдавайся ў крайнасці,
Жуй з толкам, не пасуй.

Насмешак не наклікаю:
Тут я—не проста я,
За мной стаіць вялікая
Радзіма ўся мая.

З прыстойнасцю пахвальнай
Гляджу на ўсё, маўчу.
Над нёманскімі хвалямі
Яшчэ парагачу.

Бо добра мне вядома—
Дарога ўся відна—
І колькі міль дадому,
І колькі міль да дна.

Нарадзіўся я ў 1918 годзе ў вёсцы Карпілаўка Чэрвеньскага раёна, на Міншчыне.

Скончыў Смілавіцкі паляводчы тэхнікум. Потым — служба ў Чырвонай Арміі, першае баявое хрышчэнне ў 1940 годзе на Карэльскім перашыйку.

У Вялікую Айчынную вайну быў партызанам брыгады «Чырвоны сцяг».

Пасля вайны доўгі час працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет. У 1949 годзе надрукаваў першы верш, а праз сем год выйшла з друку першая кніжка вершаў «Салаўіны бераг».

Пасля Дзяржаўнае выдавецтва БССР выпусціла ў свет кніжку нарысаў «Простыя людзі», зборнікі апавяданняў — «Палын і кветкі» і «Не з таго канца».

Аповесць «Шчасце маё» — першае выступленне ў новым для мяне жанры.

Міхась ПЯНКРАТ.



**Міхась ПЯНКРАТ**

# ШЧАСЦЕ МАЁ

## Аповесць

Мал. Л. Дубара.

### I

Мы з бацькам ідзём па свежаму ржэўніку. Спяшаемся. Бацька з трывогаю паглядае на неба, нездаволена круціць галавою і ўжо каторы раз гаворыць адно і тое ж:

— От жа падаспее, ліха яго бяры! Да ніткі вымачыць...

І праўда: з захаду хутка насоўваецца шырокая, у паўнеба, цёмная густая хмара. Глуха грукоча гром. Водбліскі маланак перакрыжоўваюць хмару, сякуць яе на кавалкі, а яна, усё такая ж грозная, рухаецца наперад.

Усё бліжэй грыміць, усё мацней. А нам трэба яшчэ перайсці вузкую стужку скошанага лугу, потым пералесак. За пералескам і наша вёска — Карпілаўка. Толькі ж ці паспеем?.. Падаюць першыя кроплі. Вось-вось хлыне лівень.

Бацька нацягвае аж на вушы замусолены потам картузок і, нізка прыгнуўшыся, бяжыць у бок лесу. Я — за бацькам. А тут і хлынула... Цяжкі дождж, як бізуном, старатліва хвошча па нашых спінах.

Мы сядзім пад разлапістай старой елкай, шчыльней прыхінаемся да пахучай, смалістай кары, атрасаем з рукавоў цеплаватую ваду.

Доўга не было такога дажджу. Лье, нібы з вядра, і ліць, пэўна, будзе доўга.

Сядзім чакаем.

Сядзім на самым ускрайчыку лесу. Праз дымна-серабрыстую сетку дажджу бачым вузкія палоскі і кудлатыя, у быльнягах, межы. Поле якраз, як наша святочная коўдра, што маці нядаўна выткала: адзін прастакутнічак жоўты — гэта ржэўнік; другі чырванаваты — грэчка; трэці зялёны — лубін, а там чорны — папар...,

Бацька марудна круціць мокрымі, вузлаватымі пальцамі цыгарку. Доўга водзіць языком па няроўным краі паперы. А тая, каляная, непадатлівая, не хоча клеіцца. Чую, як яна шастае пад рыжаватымі, калючымі вусамі.

Твар у бацькі незадаволены, пахмуры, густа пасечаны глыбокімі маршчынкамі. Як хочацца, каб у мяне былі хоць маленькія маршчынкі, каб былі, як і ў бацькі, вось такія моцныя, што дубовыя карэнні, рукі. Тады б я мог ва ўсім памагаць бацьку. А то — адзін. За што ні возьмецца — адзін. Хоць і дужыя, шырокія бацькавы плечы, але і яны пачынаюць згінацца.

Шкада бацькі. Гляджу на свае кволыя пальцы, парэзаныя асакою, пакалатыя ржэўнікам, і мне робіцца крыўдна за свае дзевяць год. Было б мне хоць васемнаццаць, дык бацька расказваў бы мне пра ўсе свае невясёлыя думкі. З кім жа і дзяліцца, калі не са сваім памочнікам... А то сядзіць маўклівы, густа дыміць моцным самасадам, глядзіць на пярэстыя палі і штосьці думае, думае...

Раптам адна думка, відаць балючая, не ўмяшчаецца ў ягоным сэрцы. Бацька кажа:

— Зааралі б гэтыя палоскі ў адно поле. Вось бы добра было. Прыгожа. У другіх жа мясцінах робяць так...

— І нашу палоску заараць?

— І нашу...

Для мяне гэта незразумела.

— Хто ж згодзіцца на тое, каб яго палоску зааралі? — кажу. — Памятаеш, мінулым летам ты ў Рыгора Баравічка крышачку мяжы прыхваціў і то, што было... З дручком на цябе палез...

Бацька і галавы не павярнуў у мой бок. Нібы не чуў. Відаць, не для такіх, як я, гаворана. Глыбока зацягнуўся едкім дымам і спакойна сам сабе сказаў:

— Малы, дык і дурны...

Які ж я дурны? Ну, праўда: хто згодзіцца, каб яго палоску зааралі ў нейчае агульнае поле? І каму гэтае поле будзе? Памешчыку Невяроўскаму? Дык жа бацька сам казаў, што Невяроўскага прагналі, яго ўжо і сляды прастылі...

Нічога не разумею.

Гэта быў далёкі для мяне дзень.

Жылі мы тады ў вёсцы Карпілаўцы, на Міншчыне. Жылі незаўідна. Сям'я ў бацькі была не вялікая, але і не малая — сем душ. Самы старэйшы з дзяцей — я. Усёй зямлі чатыры дзесяціны было. Дастатку ў нас, як той казаў, кот наплакаў. Мелі маленькую, сівую кабылку, крышачку большую за казу кароўку, дзве авечкі. Свінні, як маці казала, у нас не вяліся. Купіць, бывала, бацька парася, а яно неўзабаве закырхае, сагнецца ў дугу і, глядзі, ногі працягвае. Бацька ўсё думаў, што ў яго рука «цяжкая», а маці казала, што нам сам бог прыбытку не дае. Спрабавалі мы і «цяжкую» руку абысці і бога падманіць. Рабілася гэта проста. Прыносіць бацька з базару парася з рукавіцу — на большае грошай не было. Заходзіць у хату і, нібы чужы, ветліва здароваецца. Потым з самым сур'ёзным выглядам пытаецца:

— Можа вам, кабетка, парася трэба? Прадаю.

Маці заглядвае ў торбу:

— А колькі вы за яго просіце?

Бацька называе цану—маці не згаджаецца. Таргуюцца доўга і ўпарта. Нарэшце, маці «плоціць» грошы і валачэ пакупку ў хляўчук.

Смяхоцце адно! Матчына рука аказвалася таксама «цяжкай». Спрабаваў «купляць» і я. У мяне таксама была «цяжкая» рука. Дзе ж ты бачыў, каб падманіць бога! Не падманіш! Каб была ў нас мука і бульба, дык тады і бога падманіць не штука, а па нішчымнай траве з вадою любое парася ногі працягне.

Адным словам, перабіваліся, уволю хлеба не бачылі.

Ішоў год, другі..., Жыла вёска нецікавым, шэранькім жыццём.

Мядзведжы куток.

Часта, асабліва ў святочныя дні, збіраліся сяляне ў адну хату. Чамусьці заўсёды ў нас, хоць наша старэнькая хата была і невялікая.

Як цяпер бачу, паважна рассаджваюцца па рыпучых лаўках, кураць зялёны самасад, вядуць доўгія гутаркі пра свае сялянскія справы. Часам такія гутаркі заканчваліся сваркамі. Часцей за ўсё, памятаю, за СкверНасловіцу сварыліся. А Скверасловіца — гэта забалочаны, парослы лядашчымі кустамі луг. Яшчэ дзяды ці прадзеды назвалі яго так. Акрамя гадзюк і жаб, там нічога не было. Так і засталася тая назва назаўсёды.

Кожны год няма чаго рабіць з касою на той Скверасловіцы. Але ў каго сенажаці мізэрныя, дык таму і гэта луг. Ды яшчэ «нічыйны». Хто захапіў, той і касіў. У каго ж ёсць дзе падкасіць лішнюю капу сена, той рукой махае: «Ат, няхай Скверасловіца пад агульны выпас адыходзіць...»

Вось і спрачаюцца кожны год.

Ды ці толькі за гэта? На мой тады дзіцячы розум, дык проста з-за глупства сварыліся. Я ўжо казаў, што наша палоска ў полі межавалася з палоскай Рыгора Баравічка. Ну, не памятаю ні аднаго лета, каб на той мяжы сваркі не было. То Рыгор Баравічок у свой бок мяжы адкрамсае, то бацька крышачку прыхопіць. Зямлі тае — забраў у шапку і панёс, а сварацца.

— Зямля — пяскі, — скардзіўся бацька. — Што ты з яе выціснеш? Перагортвай жаўтапесак кожны год, старайся, а карысці — ні на грош...

Маці моўчкі ківала галавою.

Аднойчы бацька вярнуўся дадому з поля і, не памыўшыся, як заўсёды, адразу прысеў да стала.

— Алена, — паклікаў ён маці. — Ідзі сюды, параімся.

Маці паставіла чапялу ў качарэжнік і падышла да стала. А я прытаіўся на печы і цікую — якая тут рада будзе. Бацька і гаворыць:

— Заўтра сход збіраюць. Начальства з Чэрвеня прыедзе. Калгас будуць арганізоўваць. Я думаю, каб падацца.

З-за коміна на печы мне добра відно. Твар у маці раптам стаў разгублены, спалоханы. Я ніколі не бачыў у яе такога твару.

— Міхаль, у цябе хіба што мазгі высахлі? Кабылу аддадзім, калёсы, плуг, а самі як застанемся?

— А на якое мне ліха твая кабыла, калі на ёй вазіць няма чаго. Няхай Васіль Харытановіч шкадуе, у яго чацвёра коней, пяць кароў...

Тут мне прыгадалася, як мы з бацькам хаваліся ад дажджу на ўскрайчыку лесу. Гэта ж якраз і гаворка пра тое, каб усе палоскі ў адно поле заараць...

Маці плакала. Бацька ні сумаваў, ні радаваўся. Яго не разбярэш. А на мяне нейкае ўтрапенне найшло. Я заганарыўся тым, што бацька сабраўся ў нейкую новую, невядомую дарогу, што мой бацька такі смелы і рашучы чалавек. А што маці плача — не бяда. Бацька не раз казаў, што ў жанчыны вочы на мокрым месцы. Не разумее, дык і плача. Калі бацька сказаў, так яно і будзе...

Назаўтра вечарам я з бацькам пайшоў на сход. Збіраліся ў школе. Калі мы прыйшлі, дык вялікае памяшканне былога папоўскага дома было паўнюсенькае. За сталом сядзеў старшыня сельсавета Іван Дзяркач. Поплеч з ім — невядомы чалавек з Чэрвеня.

Прыезджы чалавек з Чэрвеня доўга гаварыў пра тое, што працаваць лепш будзе разам, гуртам, што коней трэба звесці ў адно месца, палоскі заараць у адно поле. Потым пачаў пытацца, хто згодзен запісацца ў калектыў. Усе маўчаць. Нізка апусціўшы галовы, сядзяць нашы аднавяскоўцы Рыгор Баравічок, Мікалай Няхай, Андрэй Пятровіч, Сцяпан Кушнер...

Чаго ж яны маўчаць? І невядома, чаго маўчыць бацька. Я ж ведаю — ён згодзен. Можа бацька не адважваецца першы сказаць, чакае, пакуль хто да яго адзавецца? Я ад душы хачу выручыць бацьку. Пачырванелы, як рак, заікаючыся, крычу незнаёмаму прыезджаму з Чэрвеня:

— Мой бацька згодзен! Ён учора дома гаварыў!..

Першы раз за ўсё сваё нядоўгае жыццё я адчуў, якая сапраўды цяжкая рука ў майго бацькі. Калі яна ўзнялася над маёй патыліцай — не помню, толькі я адчуў, як нешта шырокае і мяккае пляснула мне па віхрах і я клюнуў носам у падлогу...

Горка, крыўдна. Слёзы коцяцца з вачэй і казычуць у носе.

Ну і няхай. У кожнага чалавека — у малога, ці старога — сваё гора і свая радасць. Заўтра я пайду на рэчку, а мо' і ў лес. Знайду там новыя, яшчэ нікому з маіх аднагодкаў невядомыя куточкі, самыя цікавыя і таямнічыя.

Я праведаю суседскую грушу са смачнымі пладамі...

Я...

Ды ці мала ў мяне будзе прыемнага і радаснага?!.

Шчасце маё — са мной!

## II

Наступіў той дзень, якога я чакаў з нецярплівасцю і якога крышачку баяўся. Скончыў сямігодку. А цяпер куды? З радасцю застаўся б дома памагаць бацьку ў гаспадарцы, але той і слухаць не хацеў.

— Чалавек без адукацыі, што лямпа без газы, — гаварыў ён. — Трэба, каб ты і сам быў светлы, і людзям святло даваў. Вось так...

Якую ж набыць спецыяльнасць? Фельчарам стаць?

— А можа, сынок, на тэхніка? — памагае мне бацька.

Я вельмі цьмяна ўяўляю сабе, чым павінен займацца тэхнік, але згодзен і на тэхніка.

Якіх толькі прафесій і спецыяльнасцей не перабралі мы з бацькам!



Нарэшце, яму надакучыла такое гаданне і ён сказаў, нібы нажом адрэзаў:

— Нарадзіўся ты сярод поля, на полі і працаваць будзеш! Едзь, сынок, у Смілавічы на агранома вучыцца. Тут якраз і ехаць недалёчка...

Бацька з паўсвета звандраваў, дык яму недалёчка, а для мяне Смілавічы — край свету. Я далей Чэрвеня нідзе не быў. І то за бацькаў воз трымаўся, каб не згубіцца. Але сказана — Смілавічы, няхай будуць Смілавічы. Бацьку я ніколі не пярэчыў.

Новыя абставіны, новыя людзі. А душа сумуе па роднаму кутку.

Доўгімі зімнімі вечарамі, пасля канспектаў і падручнікаў, я чытаў і перачытваў бацькавы пісьмы. Яны і цяпер захаваліся ў мяне, гэтыя сардэчныя і цёплыя, вясёлыя і сумныя — маленькія апавяданні тых дзён...

«Добры дзень, дарагі сынок Сцёпка!

Мы ўсе жывы і здаровы, таго ж і табе жадаем.

У нас, у Карпілаўцы, цяпер такая завируха — бяда. Калгас клеіць пачынаюць, а ён клеіцца пакуль слабавата. Запісалася толькі чалавек дванаццаць — астальныя хістаюцца. Запісаліся Рыгор Баравічок, Сцяпан Кушнер, Хвядос Ламбоцкі, Апанас Шкорык, Васіль Харытановіч, я, ну і другія.

Нядаўна такая калатнеча здарылася. Прыехаў старшыня сельсавета Іван Дзяркач. Ты яго павінен ведаць: маленькі такі, чорненькі, як блыха. Склікаў сход і пачаў кулакамі махаць. «У малады, — кажа, — арганізм калгаса забраўся класавы вораг Васіль Харытановіч. Гэты адростак старога рэжыму, кажа, прылабуніўся да вас для таго, каб падарваць калектыўную гаспадарку знутры...»

Андрэй Чырунец — той, што калісь ненарокам папа́ ў рэчку скінуў — паспрабаваў заступіцца за Васіля Харытановіча. «Які ён, — кажа, — адростак? Сваім гарбом нажываў дабро». Тады Дзяркач накінуўся на Андрэя. «Ты, — кажа, — сам падкулачнік, кулацкі падпявала, цябе самога трэба патрэсці, каб выбіць з цябе шкодны дух...»

Вось так яно і выйшла: Васіля Харытановіча падзялілі па частках — што яму пакінулі, а што ў калгас прыаб'ядналі. Самога Васіля разам з сям'ёй адправілі на другое пасяленне, а куды — нямаведама.

Пра Андрэя Чырунца я табе, сынок, так скажу: падпявала ён кулацкі ці не падпявала, а пра Васілёў горб ён няправільна сказаў. Наш горб таксама яму падпоркаю быў. Вось і гэтым летам маці тры дні жала на яго полі, а ён і хвастом накрыўся. Ні табе фігу, ні табе дзякуй...

А яшчэ, сынок Сцёпка, паведамляю табе аб тым, што ў нас дома бяда здарылася. Тая рабая свінка, што «купляў» у маткі — здохла. Але нічога, як-небудзь перакінемся.

Пасылаем табе, сынок, невялічкую дапамогу. Хутка атрымаеш. У пасылачцы будзе: баханок хлеба, дзесяць сушаных сырнікаў, яблыкі і тры рублі грошай...»

«Добры дзень, дарагі наш сынок Сцёпка!

Паведамляю табе, што мы ўсе жывы і здаровы, таго ж і табе жадаем.

Хацелася напісаць табе што-колечы прыемнае, але дзе ты тое прыемнае возьмеш? Смыліць душа, а прытушыць нічым не магу. Дні за два перад прачыстаю я ледзьве грэх на душу не ўзяў. Іду вуліцаю, а насупраць Рыгор Баравічок на нашай кабылцы дровы вязе. Такі воз наваліў,

аж страх мяне ўзяў. Сэрца захаланула. «Чаму ты, пляшывы чорт, свайго, гнедага не запрог?»—пытаюся. А ён: «Не сам каняку браў, мне конюх выдаў». Выдаў бы я тады яму поўнаю меркай, каб не ўцёк. Зваліў я дровы пад плот, выпраг кабылку і прывёў у свой хлеў. Не магу дапусціць, каб маю скаціну надрывалі. Сваёй каняцы, бывае, пад гарачую руку і па мордзе агрэеш, але ж потым і пашкадуеш. А чужому чалавеку што? — прыб'е адну каняку — другую запражэ...

Не ведаю, як будзе далей. Старшыня сельсавета Іван Дзяркач мне так сказаў: «Ты чалавек бедны, але хісткі. Не хочаш быць у калгасе — і д'ябал цябе бяры. Будзеш прасіцца потым...»

Дык цяпер, значыць, я адной нагой стаю нібы і ў калгасе, а другой — на сваёй незайздроснай гаспадарцы. Атрымалася амаль як у Васіля Харытановіча — на часткі разабраўся. Насенне і ўвесь інвентар у калгасе, а кабылка — у мяне...

І яшчэ напішу табе адну штукенцыю. Падаў заяву ў калгас наш поп Атрахім. Той самы, высокі такі, худы, як аглабля, якога Андрэй Чырунец ненарокам у рэчку выкуліў. Напісаў ён у заяве, што адракаецца ад царкоўнага сану і хоча з усёй сям'ёй працаваць у калгасе. А нашы карпілаўцы ні ў якую. «Абароцень ён, а не чалавек. Святую царкву абражае».

Праведаў пра гэта старшыня сельсавета Іван Дзяркач. Прызваў да сябе Атрахіма і пытаецца: «Хочаш грахі перад савецкай уладай замаліць?» Атрахім і прызнаецца: «Хачу, — кажа. — Вось вам...» Хацеў сказаць «хрэст» па звычцы, але спахапіўся. А Дзяркач — чалавек круты, не дай бог. Ён тады і кажа: «Праз нядзелю будуць каляды. Відаць, мала хто з калгаснікаў пойдзе рыхтаваць лес на калгаснае гумно. Дык ты бяры сваіх сыноў і ў першы ж дзень каляд пакажы, як трэба працаваць...»

Два дні каляд працаваў Атрахім у лесе, як вол. Тады Дзяркач прапанаваў прыняць папа ў калгас. «Ён, — кажа, — уласным потам выкупіў сваю віну». А карпілаўцы — у хамут. «Не жадаем богаадступніка ў свой калгас прымаць». А Дзеркачу да трох не гавары. «Я,— крычыць,— усіх вас услед за Васілём Харытановічам на часткі падзялю, на новае пасяленне адпраўлю!..»

Такім чынам, Іван Дзяркач уліў Атрахіма ў калгас. Нават сам яму пасаду прызначыў, кладаўшчыком зрабіў.

Вось і ўсе нашы навіны.

Пішы, сынок, як там жывеш, як вучышся? Ці хутка прыедзеш на канікулы? Матка падрыхтавала падаруначак. З чэсанай воўны напрала і выткала добрае сукно. Да зімы пашыем табе пінжак.

Будзь жыў і здароў, сынок».

«Добры дзень, Сцёпка!

Пасля апошняй тваёй пабыўкі ў нас многае змянілася. Я ўжо назаўсёды змірыўся з калгасам. І маці змірылася. А чаму ж не змірыцца? Хлеба мы атрымалі на працадні — дай божа! Наладжваецца жыццё.

І яшчэ навіну табе напішу. Старшыню сельсавета Івана Дзеркача адставілі ад службы. Чуў я, што за нейкія перахібы. Праўда, чалавек ён быў круты, мог і перахібіць... Яму гэта раз плюнуць.

А старшынёй калгаса ў нас цяпер Мікалай Троцкі, што на самым краі вёскі жыве, дзевяностая хата справа, калі ісці на Студзёнку. Гэта ён некалі страляў па зайцу, а пацэліў у свайго ганчака. Ну, дык вось. Гаспадар ён вельмі добры. Толькі нашы мужчыны ў яго адну загану знайшлі. «Едзь, — гаворыць, — да вышэйшай улады і перамяні прозвішча. Не жадаем пры савецкай уладзе кожны дзень меншавіцкае прозвішча слухаць...»

Але такой бяды. Быў бы чалавек добры. У Дзеркача і прозвішча было, як прозвішча, а перахібы дапусціў. Не ў прозвішчы справа.

Дарагі сынок Сцёпа! Хутка ты скончыш навуку. Прасіся дадому, у Карпілаўку. Вось была б цудоўная штукенцыя!

Напішы нам пра свае думкі. А таксама напішы, ці атрымаў ты 50 рублёў, што табе паслалі...»

Тры гады вучобы праляцелі, як тры дні. У якую дарогу цяпер накіруе мяне лёс?..

Я ведаю, што мне яшчэ прыйдзецца пераскочыць многа жыццёвых загарадак, шмат адведаць горычы. Але ведаю і другое: без цяжкага не бывае і лёгкага. Шчасце і радасць трэба заваяваць.

## III

Цягнік сіпла гукнуў і рушыў са станцыі.

Я доўга стаяў на пероне, глядзеў у сіняе мроіва, дзе павіслі белыя дымкі паравоза. Сэрцу стала цесна ў грудзях. Хацелася ехаць яшчэ далей, аж за тыя цёмныя вяршаліны дрэў, на якія абапёрся далёкі краявід.

Толькі не. Вунь яна, іржавая бляха на нізенькім будынку драўлянага вакзала з вымытым дажджамі надпісам «Зелянкі».

Станцыя невялічкая, незнаёмая. Можа таму такой вострай тугой сцялося сэрца. Мо' таму гэтак выразна цяпер прыгадалася дарагое і блізкае. Родная Карпілаўка... Родныя мясціны, якіх не вырвеш з сэрца... А потым: невялічкае, але шумлівае мястэчка Смілавічы... Трывожнае і непаўторна прыгожае студэнцкае жыццё... Радасныя твары сяброў-аднакурснікаў... Дзе вы цяпер, дарагія паплечнікі па вучобе? Можа і вы вось гэтак на далёкіх і глухіх станцыях сумуеце аб тым, што не можа і не павінна вярнуцца?..

За будынкам станцыі стаіць фурманка. Вакол яе тупае невялічкі, каранасты дзядок.

— Вы, часам, не з «Маяка»? — падышоў я да старога.

Той ямчэй усеўся на возе, з натугай стрымліваючы застаялага каня. На маё пытанне не адказаў, а запытаўся сам:

— А калі з «Маяка», дык што?

— То можа падвезлі б?

— Бач ты... «падвезлі б»! Ды вас, такіх пасажыраў, многа на дарозе знойдзеш. Ногі маладыя, дарога не дальняя — дойдзеш, нябога.

Я збянтэжыўся. Незразумела — жартуе стары ці праўду гаворыць. Ясна толькі, што гэта тая фурманка, якая мне патрэбна. Я ўзяўся рукою за драбінку і сказаў мякка, але настойліва:

— Падвязіце...

— От жа прыліп — смала-смалою. Сядай, толькі барджэй, і без гэтага палову дня задарма пратрубіў.

Я хуценька кульнуў у перадок воза невялічкі драўляны сундучок; нямёка, бокам прымайстраваўся сам.

Калі фурманка выехала на шырокі [illegible]ся:



— А ты адкуль такі?..
Я засмяяўся:
— Аграномам у вас буду.
— Ах, божа мой!— разгубіўся стары.— Дык гэта ж я за вамі і прыязджаў. Як жа гэта я, стары вываранць, не мог змікіціць?
Вохкаючы і прыгаворваючы, стары ямчэй прымасціў на возе мой сундучок, памог і мне лепш сесці і ўсё шчабятаў і шчабятаў:
— Завуць мяне Аляксандрам Каўрыжкам. Карацей — Каўрыжка. Бухгалтарам у калгасе працую. Ну, дык вось. Выклікае, значыць, мяне Якім Захаравіч, наш старшыня калгаса, і гаворыць: «Запрагай, брат, лепшага каня і — да цягніка на станцыю. Прызначаю цябе паўнамоцным прадстаўніком ад калгаса сустрэць і даставіць сюды агранома». Ну, я думаў, спаткаю такога важнага, пажылога, у капелюшы, з тоўстым партфелем. Якраз быў натрапіў на такога. Пытаюся: «Не вы будзеце аграном?» А ён паглядзеў на мяне злоснымі вачыма і нямаведама за што вылаяў: «Хрэн ты стары», — кажа. Я плюнуў і пайшоў.
Дужы конь труханў спорнаю рыссю. Насустрач беглі прыдарожныя бярозкі. У сінім, сухім небе звінелі жаўрукі, здавалася, што яны білі крыллямі ў сіні званок неба.
Кудысьці ў самы далёкі куток сэрца адышоў сум, замест яго наплывала ціхая радасць. Куды ні кінеш вокам — палі. Наліліся жыты. Хутка сюды прыйдуць людзі, і поле загудзе, заспявае...
— Ву-у-но і «Маяк», — паказвае Каўрыжка ўдалеч, дзе зялёныя купы садоў і чарапічны дах з высокай трубой.
— Хораша! — не стрымаўся я.
— Гэта яшчэ што! — пахваліўся Каўрыжка. — Гэта здалёк, а вы зблізку паглядзіце...
Калі пад'язджалі да калгаснай сядзібы, стары лёгенька крануў мяне за плячо і ціха, нібы яго маглі падслухаць другія, папрасіў:
— Вы, калі ласка, не кажыце старшыні, што гэтак няўдала атрымалася на станцыі. Засмяюць. Скажуць, стары Каўрыжка не вытрымаў дыпламатыю. А то пападзешся старшыні пад няроўны настрой — аштрафуе. Далібог, аштрафуе. У яго гэта не купіць.

## IV

У кішэні — атэстат агранома-палявода...
У руках — стары, драўляны чамаданчык...
На плячах — рыжы, выцерты суконны пінжачок...
За плячыма — чатыры гады вучобы ў тэхнікуме, неспакойнае студэнцкае жыццё, сяброўства; часамі горкія мінуты, часцей — весялосць...
Затое цяпер не да весялосці. Сяджу ў кабінеце старшыні калгаса «Маяк» Якіма Захаравіча Крупіцы.
Старшыня нешта чытае. Перад яго тоўстым бурачнага колеру носам ляжаць, мабыць, вельмі важныя паперы, бо Якім Захаравіч ніяк не можа ўзняць галавы і загаварыць са мною.
Чакаю. Хвалююся. Злую. У думках мяльцешыцца розная дрэнь. «Зараз паднімуся, плюну і пайду, — думаю. — А куды?»
Нарэшце, на мяне паглядзелі вясёлыя, кругленькія, як у птушкі, вочкі.
— Гэта ты аграном?



— Я.
— Ага! А я, брат, затлуміўся тут са сваёй канцылярыяй і ўсё такое... Старшыня падняўся, патупаў каля стала і зноў сеў.
— Значыць, аграномам да нас?
Не паспеў я адказаць, як ён нібы агрэў мяне чым:
— А я сяджу і думаю: навошта цябе прыслалі да нас? Я так і ў раёне самому таварышу сакратару райкома гаварыў: «Аграном мне не патрэбен, я сам аграном». Дык жа, бач, усё роўна прыслалі. Ну, няхай. Прыслалі, дык прыслалі. Што зробіш? Толькі ты, браце, па маладосці, а значыць, па нявопытнасці, пайшоў у калгас. Табе дзе-колечы б пры вопытных людзях у канцыляры пацерціся, а потым ужо на поле. Вопыту няма, вось у чым загвоздка і ўсё такое...
— Вопыт,— кажу, — справа нажыўная, будзе.
— Бач, куды загнуў... — здзівіўся старшыня. — Хоць малады, ды ранні. Нажываў бы ты вопыт у іншым месцы. А нам, браце, кваліфікаваную працу давай і ўсё такое...
Я набраўся смеласці і адказаў:
— Ну і дам кваліфікаваную працу!
Старшыня аж разгубіўся.
— Стой, стой! Ты гэта падумаўшы сказаў, ці проста так, дзеля смеху?
— Падумаўшы, — кажу.
У Якіма Захаравіча заварушыліся вусы. У старшыні яны былі вельмі цікавыя: доўгія, агніста-рыжыя, жорсткія. Калі яму што не падабалася, дык вострыя кончыкі вусоў варушыліся, як у прусака.
— Сеялку на поўную норму высеву ўстанавіць можаш? — пытаецца. Гэта мне, аграному, такое пытанне!
Здзек, але мушу душыць самалюбства. Спакойна адказваю:
— Магу.
— А я кажу — не можаш! Даю табе такі практычны прыклад і ўсё такое... Трэба нам высеяць, скажам, пшаніцы з разліку сто восемдзесят кілаграмаў на гектар. У мяне, як у старшыні, не хапае такой колькасці. Установіш ты сеялку на поўную норму высеву пры такой сітуацыі і ўсё такое? Га? А я ўстанаўлю! Кінуся ў адзін бок, кінуся ў другі — з-пад зямлі насенне дастану. Тое ж я і казаў: агратэхніка агратэхнікай, але і вопыт гаспадарчы давай. Кіраўнік без вопыту, што гаспадыня без чапялы і ўсё такое...
Я канчаткова быў збіты з панталыку: і няласкавым прыёмам старшыні, і яго грубаватым «тыканнем», і гэтым нечаканым «прыкладам».
Старшыня, бачачы, што збіў мяне з капылоў, зарагатаў:
— Ох, і дзівак ты! Мы з табой пра справы гаворым, а ты крыўдаваць пачынаеш. Няма, брат, у цябе ні гаспадарчага, ні жыццёвага вопыту і ўсё такое. Чаго ж крыўдаваць? Людзей яшчэ распазнаваць трэба, акрамя ўсяго. А ты і гэтага не ўмееш. Скажам, вось у даны момант: пакрыўдзіўся ты на мяне, а завошта? Я проста... ну, як табе сказаць? — вясёлы чалавек...
Старшыня раптам стукнуў даланёй па стале.
— Сашка!
З другога пакоя выйшаў той, каго звалі Сашкам — мой знаёмы, бухгалтар калгаса Аляксандр Васільевіч Каўрыжка.
— Сашка, — сказаў старшыня, — сёння ты ўладкуй яго дзе-колечы пераначаваць і ўсё такое. — Старшыня тыцнуў пальцам у мой бок. — Заўтра мы яму кватэру знойдзем. А цяпер я паехаў у раён па справах...
— Будзе зроблена, Якім Захаравіч, — прашчабятаў дзядок і знік за дзвярыма. Старшыня ўсміхнуўся і сказаў:

— Галавасты стары. Усе, якія толькі ёсць бухгалтарскія сістэмы, як семкі лускае. Адзін толькі недахоп мае, ад якога ніяк вылечыць яго не магу: на перажытак мінулага хварэе. Піша такой каліграфіяй — вачэй не адвядзеш, але старарэжымнае «яць» ставіць і ўсё такое. У раёне з мяне смяюцца, бухгалтарскія паперы чытаючы. «Дзе ты, старшыня,— кажуць,—царскага пісара адкапаў?» Сапраўды, няёмка. Колькі разоў казаў старому: «Сашка, сорам табе пры савецкай уладзе старыя перажыткі пісаць. Пераходзь, — кажу, — на новую граматыку». Што ты думаеш? «Я, — кажа, — лепш свайго бухгалтарскага месца адракуся, а «яць» не выкіну. «Яць, — кажа, — усю прыгажосць у почырку трымае...» Вось які дзівак і ўсё такое.

На гэтым мы развіталіся.

Вечарэе. Мы ідзём з Каўрыжкам па шырокай калгаснай вуліцы. Дзядок, як верабей, шчабеча і шчабеча.

— Ёсць у нас тут птушніца Аксіння. У гадах ужо жанчына. Дом мае вялікі, чысціню любіць. Наш Якім Захаравіч часта са сваімі сябрамі заглядвае туды. Збяруцца гамузам ды гарэлку жлукцяць. А сёння, бач, у раён паехаў. Як бы выхадны зрабіў. Ну і добра, калі так. Я вас да Аксінні і дабаўлю. Спакайнейшага месца ва ўсім калгасе не знайсці...

Праз колькі мінут Каўрыжка «дабавіў» мяне да Аксінніна́й хаты.

Гаспадыня пачаставала добрай вячэрай і паслала мне за невысокай палатнянай шырмачкай.

Тлумны дзень вельмі стаміў мяне. Толькі лёг і адразу ж праваліўся ў бяздонне.

Колькі мне прыйшлося паспаць — не ведаю. Разбудзіў гоман у хаце. Першае, што я заўважыў праз шчылінку ў шырмачцы, дык гэта знаёмыя рыжыя вусы Якіма Захаравіча... Здагадваюся, што старшыня з кампаніяй сядзяць за сталом. Потым яшчэ заўважаю: пад вус павольна наблізілася шклянка, напоўненая нечым жаўтаватым. Пры кожным глытку кончыкі вусоў падскоквалі ўгору, варушыліся.

Калі ў шклянцы нічога не засталося, рыжыя вусы падскочылі яшчэ разы са два і супакоіліся. Якім Захаравіч смачна крэкнуў і прадаўжаў, відаць, перапыненую размову:

— Я, значыць, і кажу — акадэмік! А навошта мне акадэмік, калі я сам сабе акадэмік і ўсё такое...

Гутарка, здагадваюся, пра мяне. Чамусьці не хочацца крыўдаваць на старшыню. Думаю другое: да чаго ён усё гаворыць гэта? Тым часам Якім Захаравіч дабіваў мой агранамічны аўтарытэт:

— ... Акрамя тэорыі, у галаве — ні гу-гу. А з норавам: «дам, — кажа, — кваліфікаваную працу». Можа і даў бы, каб было што даваць. Але такой бяды, будзе мне памагаць паперы ў раён рыхтаваць і ўсё такое...

За сталом зарагаталі. Потым пачаўся прыглушаны голас Аксінні:

— Дык ці не гэты самы аграном спіць вунь там за шырмай? Каўрыжка прывёў пераначаваць...

У хаце стала ціха-ціха. Раптам рыпнула адна масніца, другая. Адтуліна паміж шырмачкай і сцяной павялічылася. Паказаўся адзін вус, потым другі...

І няёмка, і смешна. Глытаючы смех, кажу:

— Маё шанаванне, Якім Захаравіч!

А ён ад нечаканасці схамянуўся:



— Гэта, значыць, ты тут і ўсё такое?

— Можа і я.

— Чуў, аб чым гамонка была?

— Чуў.

— От, ты скажы! А я, да прыкладу, ведаў, што ты не спіш. Дай, думаю, пажартую: пакрыўдзіцца ці не? А ты што падумаў?

— Я падумаў, што бухгалтар мяне не ў тое месца начаваць прывёў.

— Што ты, што ты! — замахаў рукамі Якім Захаравіч. — Не крыўдуй. Я, брат, проста вясёлы чалавек. Люблю пажартаваць. Часамі, здараецца, і чарку вып'ю, чаго і табе жадаю.

— Дзякую за пажаданне.

— А ты спачатку выпі, а потым і дзякуй.

— Што ж зрабіць, калі яшчэ піць не навучыўся.

— Значыць, да стала не пойдзеш?

— Не пайду.

— У такім выпадку — дабранач і ўсё такое...

Не марудзячы, Якім Захаравіч пайшоў. А за ім і яго сябры. Я так і не заснуў да ранку. Усё думалася: хоць старшыня, як ён сам гаворыць, і вясёлы чалавек, але працаваць з ім будзе не вельмі весела. Адно ён правільна сказаў: няма ў мяне ні агранамічнага, ні жыццёвага вопыту. Набываць гэты вопыт прыйдзецца ў цяжкіх умовах. Ну і няхай. Дорага якраз тое, што цяжка заваёўваецца.

## V

Назаўтра раніцою я прыйшоў у праўленне калгаса. Якім Захаравіч сядзеў ужо ў сваім кабінеце і шастаў паперамі.

— А, добрай раніцы, ваша пладароддзе! — прывітаўся ён са мною.— Чым вырашана займацца?

— Хто чым будзе займацца — не ведаю, а мне трэба фурманка і чалавек, які добра ведае палі. Хачу паглядзець севазварот у натуры...

— Сашка! — пастукаў старшыня ў фанерную перагародку. — Пашлі за брыгадзірам Мікалаем Чупраком. Ды перадай няхай запражэ «Эмку» і пад'язджае да праўлення...

— Даю ў тваё распараджэнне лепшага брыгадзіра і лепшую ў калгасе кабылу. Вецер, а не каняка! Віхор!

І праўда: праз якую паўгадзіну пад акном стаяла «Эмка» і нецярпліва шыбала капытамі зямлю.

У кабінет зайшоў нізкі, пажылы чалавек, з сумнымі вачыма. Густыя, але кароткія вусы яго былі двух колераў: верхняя частка — светлая, амаль белая, а ніжняя, падсмаленая самасадам — жоўтая, амаль карычневая. Я здагадаўся, што гэта і ёсць лепшы брыгадзір Мікалай Чупрак.

Брыгадзір ветліва прывітаўся і сеў. Якім Захаравіч кіўнуў на прывітанне галавою, моўчкі паглядзеў на брыгадзіра, а потым запытаўся:

— Да ўборкі змабілізаваўся?

— А як жа! У баявой гатоўнасці.

— Ну, тады павязеш таварыша агранома па нашых палявых уладаннях. Раскажаш яму, дзе што пасеяна і дзе што сеяцца будзе...

У гэтых словах я ўлавіў новы падкоп пад мой агранамічны аўтарытэт. Не стрымаўся:

— Дзе што пасеяна, я і сам убачу, а дзе што сеяцца будзе — схема севазвароту пакажа...

— От жа фацэтны хлопец! — рассмяяўся старшыня. — Ты думаеш, у нас тут вучэбная гаспадарка і ўсё такое? Узорны севазварот? Гэта, брат, у вашых кніжках усё вельмі добра распісана, а на практыцы так не атрымліваецца. Чатырохполка — паўправаротка. Чатыры брыгады і чатыры розныя севазвароты. Вось табе і ўся навука. А інакш — нельга. Самі здагадаліся б на лепшае, каб можна было. Адным словам, сам паглядзіш і ўсё такое...

Мікалай Чупрак тузае за пяньковыя лейцы, нокае. Старатлівая «Эмка» бадзёра трухае пыльнай палявой дарогай.

— Як вам спадабаўся наш старшыня калгаса? — раптам пытаецца Чупрак.

— Яшчэ не паспеў разабрацца, — шчыра прызнаўся я.

— Дзіва што! — згаджаецца Чупрак. — Я ведаю нашага Якіма Захаравіча добрую трыццатку год і то яшчэ не разабраўся, што ён за чалавек. Глядзіш, і сур'ёзны такі, і паважны, а як адмочыць часам коніка — за вушы хопішся... Вось я вам адно здарэнне раскажу. Было гэта ў мінулым годзе. Раскарчавалі мы ў нашай брыгадзе невялічкую плошчу ў хмызняках. Вырашылі распрацаваць участачак і проса пасеяць. Звычайную барану туды не пусціш. Пружынавага драпача не было. Дык мы дзедаўскую прыладу зрабілі: звязалі яловыя плахакі з доўгімі завостранымі сукамі. Калі на такую прыладу грузу палажыць, скажам, дзёрану, дык вельмі добра мох і перагнілае карэнне выскубае... Зрабіць зрабілі, а працаваць новай прыладай ніхто не хоча. «Людзі, — кажуць, — засмяюць. Сорамна з такой тэхнікай паказвацца». Дык я тады нашаму бухгалтару прапанаваў — у яго ўсё роўна работы малавата. А стары — ні ў якую! «Справа гэта, — кажа, — вельмі сур'ёзная, і я не магу браць на сябе адказнасць. Няхай больш кемісты і маладзы за гэта бярэцца!» «Якая ж тут адказнасць, — кажу, — прадрапачыць участачак». «Прадрапачыць не штука, гэта я магу, а вось з новаю прыладай рызыкоўна. Буду ехаць з ёю па дарозе, а тут і перахопяць сакрэт, спішуць усю канструкцыю...» Пажартаваў гэтак стары, на гэтым і скончылася б. Але якраз у гэты дзень прыехаў у калгас малады хлопец з раённай рэдакцыі. Не спрактыкаваны зусім. «Што ў вас новенькага ў калгасе?» — пытаецца. А наш Якім Захаравіч і дакладвае: «Ёсць, — кажа, — вельмі радасная навіна. Наш брыгадзір Мікалай Чупрак сканструяваў новы культыватар «МЧ-1». Машына паспяхова праходзіць выпрабаванні ў палявых умовах...» Хлопец не злавіў жарту і бухнуў у газету паведамленне аб новым культыватары «МЧ-1». Дасталося потым і карэспандэнту, і Якіму Захаравічу. А Якім Захаравіч рагоча, за бокі бярэцца. Дык вось я і кажу, вельмі няроўны чалавек па характару. Мы, свае людзі, дык прызвычаіліся, а чыламу чалавеку гаварыць з ім цяжкавата. Не зразумееш, куды ён можа павярнуць...

Палі, палі...

І гэтыя недаспелыя каласы, і гэтыя стужкі лапушыстай бульбы, і густыя зараснікі лубіну хвалююць сэрца, якое любіла ўсё гэта з дзяцінства і будзе любіць да скону...

Цяпер я не магу, не маю права толькі любавацца палеткамі. Я павінен памагаць людзям узбагаціць гэтыя палеткі, зрабіць іх яшчэ прыгажэйшымі.

Чупрак раптам задумаўся, памаўчаў, пасля загаварыў сам:

— Як вы думаеце, таварыш аграном, у калгаснай гаспадарцы канюшына абавязкова ці не абавязкова?

— Без канюшыны, — кажу, — нельга ўвесці правільны севазварот.

— Вось бачыце. Мне таксама здаецца, што без канюшыны нельга, а Якім Захаравіч так кажа: «Раз канюшына ў нас не расце, то і траціцца на яе не трэба». А яно і праўда: не расце ў нас канюшына. І траты на яе вялікія — таксама праўда. Кожны год выменьваем у другіх калгасах насенне на грэчку, ячмень ці гарох, і ўсё прахам ідзе. Аніяк не можам уласнага насення сабраць. Проста дзіўна: і зямля як зямля...

— І ў гэтым годзе сеялі?

— Паспрабавалі пасеяць у маёй брыгадзе гектары чатыры. Не пайшла. Адным словам, макам села.

— Давайце паглядзім на канюшыну...

Неўзабаве мы былі на канюшынавым полі. Правільней, не на канюшынавым, а на шчаўевым. Такое высокае конскае шчаўе расло, што між яго трэ' было адшукваць хілыя кусцікі чырвонай канюшыны.

— Кіслая глеба, — кажу, — таму і не расце. Вапнаваць трэба.

Чупрак здзіўлена паглядзеў на мяне, нічога не сказаў. Відаць, не зразумеў маіх слоў ці проста не паверыў ім.

Амаль да самага вечара мы блукалі між зялёных бульбянікаў і жоўтых жытоў. А калі вярталіся ў калгас — на душы было самотна і трывожна. І тыя прымітыўныя севазвароты, якія былі — заблытаны. Схем севазваротаў, дасланых з раённага зямельнага аддзела, ніхто не прытрымліваўся. Ды каб і прытрымліваўся, то ўсё роўна карысці было б мала: схемы зроблены ў спешцы, без уліку мясцовых глеб. У гэтым я ўпэўнены, гэта адчуваю, хоць і не магу сказаць канкрэтна, дзе і што зроблена ў спешцы.

Пажывём — убачым.

Мы пад'язджалі да невялічкага мосціка праз вузкую рачулку Усу, што недалёка ад калгаснай сядзібы. Раптам з кучаравага арэшніку выскачылі нам насустрач дзве дзяўчынкі. Беленькія, шумлівыя, вясёлыя...

— Дзядзька Мікалай, падвязіце!

Не чакаючы згоды, дзяўчынкі ўскочылі на шырокую каламажку.

Асабліва мне спадабалася адна... Тая, якую само сонца пафарбавала ў свой залацісты колер...

Тая, у якой кучаравы кужаль валасоў рассыпаўся па плячах...

Тая, што імгненна ўторкнула васільковую кветачку ў выцвілы картузік Мікалая Чупрака...

Тая, якая апякла мяне сінімі неспакойнымі вачыма і абыякава адвярнулася ў другі бок...

Мне хацелася, каб сядзіба калгаса была хоць бы за дзесяць кіламетраў. Хоць бы за пяць. Ну, няхай за тры. Ну, няхай бы яшчэ праехаць з паўгадзіны. Дык жа не. Гэта было імгненне. Вось ужо саскочылі з каламажкі дзве дзяўчынкі і паплылі... Вось ужо Чупрак распрагае «Эмку», а я стаю каля яго і хачу запытацца, ды не ведаю, як...

Чупрак доўга корпаецца ля хамута: супонь завязалася «сабачым» вузлом.

— Гэтыя дзяўчаты з нашага калгаса? — нарэшце асмеліўся я.

Мне здалося, што Чупрак хітра ўсміхнуўся і крышачку злосна сказаў:

— Адна то наша, а другая, што з васількамі была, быццам бы наша і не наша. Старшынёва дачка, Марыська. Распешчаная, не прывядзі бог! Адзінае дзіця заўсёды такім бывае. Сем класаў сяк-так скончыла, а далей — у хамут. Паехала ў Мінск. Там у нейкай канцылярыі працуе. Цяпер от на адпачынак да Якіма Захаравіча прыехала...

## VI

Жніво наблізілася непрыкметна.

Колькі ў гэты час прыгажосці, адвечных песень і хваляванняў чалавека!

Мяне ў першую чаргу трывожыла не ўборка збажыны. Людзі працавалі старатліва, весела. Адчувалася, што кожнае зярнятка з поля на руках вынесуць. Трывожыла другое: сяўба азіміны і севазварот. Разам з малацьбой і хлебаздачай дзяржаве трэба было рыхтаваць глебу і насенне для сяўбы азіміны. Па звычцы, гэтыя работы адкладвалі на канец уборкі.

Якіма Захаравіча ў гэтыя дні было цяжка напаткаць. Днём ён без упынку ездзіў на «Эмцы» па палях, а вечарамі знікаў у невядомым кірунку.

Неяк апоўдні я выпадкова спаткаўся з Якімам Захаравічам на полі першай брыгады каля жняяркі. З машынай нешта не ладзілася, і старшыня лаяўся на чым свет стаіць:

— Гэта ж чорт ведае што!.. І ўсё такое... Надвор'е — хоць ты бліны на сонцы пячы, а яны ў жняярцы корпаюцца! Дзе вы раней былі?

— А хто ведаў, што МТС нам няспраўную жняярку падашле? — паспрабаваў агрызнуцца машыніст.

— А вочы, вочы дзе твае былі, калі ты гэтую разваліну прымаў? Я табе даваў распараджэнне няспраўную жняярку прымаць?

Нарэшце жняярка застракатала, замахала крыламі. Толькі тады старшыня заўважыў мяне.

— Бачыў, якія лайдакі? Толькі адвярніся, дык яны ў халадок і пяткі ўгору.

— У мяне да вас, Якім Захаравіч, справа, — не даў я выгаварыцца старшыні. — Трэба нам цяпер ужо касіць лепшыя ўчасткі жыта і насенне рыхтаваць пад азіміну. І потым трэба было б пагутарыць наконт севазваротаў. Мне не падабаюцца тыя палі, што прызначаны пад азіміну. Трэба перапланіроўку зрабіць.

— А, братачка, а які ж ты гарачы чалавек. Тут табе і жніво, тут табе і малацьба, тут табе і хлебаздача, і севазвароты, і сяўба, і ўсё такое... Жывот надарвеш. А пагэтаму не спяшайся з козамі на торг. Шэсць тыдняў з гакам яшчэ маем да сяўбы азіміны. Навошта ж разрывацца?

— Няхай будзе, да прыкладу, па-вашаму, шэсць тыдняў. А калі ж мы зможам насенне ачысціць? Мы ж нават трыера ў МТС не папрасілі. Аддадуць другім, а нам чакай...

— А навошта насенне чысціць? Нас, брат, за такую справу жанчыны пашкуматаць могуць. Ім жа потым на пасевах не будзе чаго рабіць, калі ўсходы будуць чыстыя. Дзе ж яны траўкі дабудуць для ўласнай жывёлы? На калгасную ж сенажаць я іх не пушчу і ўсё такое...

Жартуе ён ці праўду кажа? Хутчэй за ўсё ні тое, ні другое. Проста ён ігнаруе мяне як спецыяліста. Ну і няхай. Гэта не першая горкая пілюля, якую мне даводзіцца глытаць. І, відаць, не апошняя. Кажу зусім спакойна:

— Давайце, Якім Захаравіч, праўленне склічам. Доўга засядаць не будзем — час не той, а гадзінку якую патрацім...

— Ніякіх гаварыльняў у такую гарачую пару арганізоўваць не буду, — сказаў, нібы нажом адрэзаў, старшыня. — Цябе, браце, як бачу, на канцыляршчыну цягне. Я ж табе казаў, што не блага было б сярод папер пацерціся такому чалавеку, як ты, і ўсё такое...



— У такім выпадку я буду змушаны паскардзіцца на вас у райком партыі, — нечакана вырвалася ў мяне.

— У райком партыі? Паскардзіцца?

У вачах Якіма Захаравіча мільганула нешта да болю знаёмае...

Шалёная іскрынка...

Такая ж, як у тых вачах, у Марысьчыных...

— Бывай, браце! Паеду ў трэцюю брыгаду і ўсё такое...

«Эмка» ўзняла жоўты пыл на палявой дарозе.

## VII

Такія вечары бываюць не часта...

Недзе грае гармонік.

Недзе песня адгукаецца яму...

Вось пайсці б і самому туды, дзе блукаюць галасы дзяўчат. Туды кліча сэрца. Там жа Марыська...

Толькі пайсці туды мне ніяк не выпадае. Нечакана паклікалі на пасяджэнне праўлення...

Калі я прыйшоў у калгасную кантору, там былі ўжо ўсе члены праўлення: бухгалтар Каўрыжка, брыгадзір Мікалай Чупрак, старшыня рэвізійнай камісіі Антон Таўкач, кладаўшчык Макар Запятка, малады, хваравіты на від хлопец — Амбрось Патуга і яшчэ тры-чатыры незнаёмыя калгаснікі.

Якім Захаравіч адкрыў пасяджэнне.

— Абмяркуем адно пытанне, — сказаў ён. — Пытанне такое: нездавальняючы ход уборкі збажыны, здачы хлеба дзяржаве і ўсё такое...

Члены праўлення расселіся па кутках і, сагнуўшы спіны, заўзята дымілі самакруткамі. Якім Захаравіч інфармаваў:

—Жніво ў брыгадах ідзе марудна... Тры жняяркі-лабагрэйкі больш рамантуюцца, чым працуюць... Дрэнна наладжана сушка снапоў, што затрымлівае малацьбу і здачу хлеба дзяржаве...

Пералічыў, нібы па кантычку прачытаў, і запытаўся:

— Якія будзем рабіць вывады?

Падняўся Мікалай Чупрак.

— Старшыня, як мне здаецца, усё ў адну кучу зваліў: і тое ў нас дрэнна, і гэта не так. Адным словам, — усё дрэнна. Гэта няпраўда. Уборка ва ўсіх брыгадах ідзе зладжана. Іншая справа, што мы не можам правільна арганізаваць малацьбу. Вось аб гэтым, Якім Захаравіч, і гаварыць трэба. Малатарню МТС дала нам старэнькую — ледзь-ледзь ліпіць. Трактар таксама на адпачынак просіцца. Але ж мы і гэтую тэхніку не выкарыстоўваем як след. Возім снапы з поля на гумно. Трасём іх, зерне абіваем. А ці нельга малатарню да снапоў дабавіць, а не снапы да малатарні? І яшчэ адно: распанелі мы дужа. Лішняй гадзіны папрацаваць не можам. Чаму б нам не малаціць ноччу?..

Гаварылі, спрачаліся. А калі скончылі з першым і апошнім пытаннем, Якім Захаравіч неспадзявана сказаў:

— Слова мае наш аграном, таварыш Паплаўка.

Першы раз старшыня назваў мяне па прозвішчу. Гэта — прыемна.

Непрыемна толькі, што я хвалююся, як хлапчук, і гавару, відаць, чорт ведае якую лухту. А ўсё ж вельмі проста і ясна. Трэба цяпер жа весці малацьбу збожжа з лепшых, найбольш ураджайных участкаў і тут жа чысціць насенне. Нельга зацягваць гэтую працу на канец уборкі. Сяўбу азіміны адкладваць на больш позні тэрміны нельга.



Пасевы не паспеюць раскусціцца, акрэпнуць і пойдуць пад снег слабыя, кволыя...

У роце перасохла. Сеў на сваё месца і чакаю падтрымкі ад членаў праўлення.

А яны маўчаць. Яшчэ ніжэй прыгнулі спіны, яшчэ гусцей дымяцца самакруткі.

— Якія будуць меркаванні? — пытаецца Якім Захаравіч.

Маўчаць.

— Ёсць прапанова: думку таварыша агранома прыняць да ведама...

Лёгка ўздыхнулі праўленцы, адным махам разагнулі спіны.

— Пасяджэнне закрыта.

— А чаму б не запісаць у пратакол усё, аб чым гаворана? — пытаюся амаль у роспачы.

Мае словы згубіліся ў тупаце цяжкіх ног, у гамонцы, у скрыпе дзвярэй...

На вуліцы ўжо Амбрось Патуга паклаў мне на плечы худую, дзіцячую руку і сказаў так, нібы мы з ім былі знаёмыя даўно-даўно;

— Пойдзем за ваколіцу. Гуляюць яшчэ. Чуеш?

Мне ніколі ў жыцці не забыць той вечар...

Той малады клёнік...

Тую лаўку пад клёнікам...

Тыя вочы, што ўвабралі ў сябе жнівеньскую сіньку неба...

Я захлынуўся ад шчасця.

А сэрца жыве: б'ецца, трапечацца...

Мы засталіся адзін на адзін.

— Марыська, мы будзем дружыць? Скажы ўсё, што думаеш. Я не пакрыўджуся на горкім слове. Ты толькі скажы...

— Я ж цябе зусім не ведаю. Хто ты? Адкуль? Што я магу сказаць?

— Але ж ты бачыш, што я люблю цябе. Хіба гэтага мала? Я буду для цябе самым найлепшым другам...

— Ты не можаш быць для мяне самым найлепшым другам. Праз два тыдні я паеду ў горад.

— Ты смяешся з мяне. У цябе няма сэрца. Дазволь мне заўсёды быць з табою...

— Не трэба...

— Марыська! Дазволь мне пацалаваць цябе...

— Які ж ты дурны! Хіба аб гэтым пытаюцца?

Я лячу ў нейкае прадонне...

## VIII

Цікавы гэты хлопец — Амбрось Патуга. Працавіты, просты, сардэчны. Але ніводнай вечарынкі не было ў «Маяку», каб Амбрось не заварыў бойкі. Ён заўсёды знойдзе прычыну прыдрацца да каго-небудзь з хлопцаў. І пападала заўсёды яму, Амбросю. Да каго ён толькі не прыставаў, і хто толькі яго не лупцаваў!

І вось з гэтым самым Амбросем я падружыўся. Можа ён мне і паў на сэрца тады, тым вечарам пасля праўлення...

Нельга сказаць, каб у калгасе не паважалі Амброся. А калі часам білі, дык гэта проста так, па звычцы. Прыстане, крыху падвыпіўшы, да якога-небудзь хлопца, лаецца, круціць сухімі кулачкамі пад носам — надакучліва. Стукнуць яму каля завушша, глядзіш і супакоіўся. Зноў — чалавек-чалавекам.

Аднойчы ў абедзенны перапынак мы сядзелі з Амбросем на полі, пад жытняю бабкай. У халадку. Рукі, паколатыя снапамі, нылі сухім болем. Ад самага ранку звозілі снапы ў скірду.

Баліць спіна, баляць рукі.

Амбрось прытуліўся да снапоў і задрамаў.

— Амбрось, — клічу я. — Ты спіш?

— А ліха яго ведае, — сонна адказвае Амбрось. — Здаецца, сплю.

— Ну, калі спіш, тады нічога і казаць не буду...

— Не, не, ты кажы! Я буду спаць і слухаць.

— У мяне вельмі важная размова, Амбрось, баюся, каб ты ўсё за сон не прыняў.

Амбрось адарваў цяжкую галаву ад снапоў і нацэліўся на мяне стомленымі, пачырванелымі вачыма.

— Я буду слухаць. Кажы.

— Тады слухай. Было гэта зусім нядаўна. Вучыўся я ў Смілавічах. Сяброў у мяне было — лічы не злічыш. Што ні студэнт, то сябар. Кожны дзень мы карпелі над падручнікамі і канспектамі. Кожны працаваў паасобку. Але чаму ж так атрымлівалася, што мы заўсёды адчувалі локаць таварыша, адчувалі, што жывём у адной дружнай сям'і і робім кожны паасобку, але адну вялікую і патрэбную для Радзімы справу? Калі, скажам, хто-небудзь з нашай групы атрымліваў дрэнную адзнаку — перажывалі ўсёй групай. А вечарамі, у вольны час, мы выходзілі ў парк. Гулялі ў гарадкі, у валейбол. Мы і тут адчувалі сябе адной сям'ёй...

— Табе шкада тых дзён, Сцёпа? — пытае Амбрось.

— Шкада, вядома, шкада. Толькі справа не ў гэтым. Я папрасіўся ў калгас. Папрасіўся таму, што ведаю — аграном павінен быць у полі, а не ў канцылярыі. Прыехаў да вас. І вось бачыш, акрамя цябе, у мяне амаль няма сяброў. А ў калгасе ж каля двухсот хлопцаў і дзяўчат! І няма ў нас адной, маладой сям'і. Дрэнна хто працуе ці добра — нікому гэта не цікава. Як быццам і ў адной гаспадарцы жывуць і працуюць, і ў той жа час — кожны адасоблена...

Амбрось жуе саломіну і ківае галавою.

— Яно то так, але ж інакш нельга. То быў тэхнікум, а тут — калгас. Яно інакш нельга...

— Чаму, Амбрось, інакш нельга?

— Ну, я ж, — кажу, — калгас...

— А я табе кажу: калгас то калгас, але бяда ў саміх нас...

Амбрось засмяяўся. Вельмі яму спадабалася, што я ненарокам у рыфму сказаў.

— Ты, відаць, Сцёпа, вершы пішаш?

— А ты што пра вершы загаварыў? Хіба сам пішаш?

Амбрось памаўчаў, уздыхнуў.

— Не, цяпер не пішу. Калісь пісаў. Усё больш пра каханне. У раённую газету пасылаў.

— Друкавалі?

Махнуў рукою:

— Дзе там! Паперку прыслалі. Маўляў, у вас нешта такое ёсць, але гэтага недастаткова. А чаго канкрэтна — пасаромеўся запытацца.





— А ў душы ўсё ж застаўся паэт?

— У душы і сапраўды нешта ёсць. Здаецца, напісаў бы такія вершы — агнём бы гарэлі!.. А як возьмешся за аловак — нічога няма. От дзіўна! Унутры нешта сядзіць, а на паверхню не выходзіць.

— А ты ведаеш, Амбрось, што паэзія не толькі ў вершах бывае.

— А ў чым жа яна яшчэ бывае?

— У працы, у дружбе, у адпачынку...

— Стукні мне па загрыўку — нешта я не кумекаю.

— Во, толькі, відаць, я адзін яшчэ табе і не стукаў.

Амбрось не пакрыўдзіўся. Наадварот, нават развесяліўся.

— А стукнеш некалі, не можа быць! Я, брат, без гэтага не магу. бывае, такі смутак адолее — ратунку няма. Вып'еш гарэлкі, дык яшчэ горш робіцца. Нейкая невядомая сіла кіпіць у грудзях, нешта хочацца рабіць. А што рабіць? Прыйдзеш на вечарынку — заўсёды адно і тое ж: тупаюць польку, як толькі ногі да таго самага месца не паадбіваюць. Злосць бярэ. Пад адну распараную фізіяномію кулак падставіш, пад другую. Стукне хто-колечы табе — і ачуняеш. Запытацца б: за што стукнулі? Але ж тады і другое пытанне: а чаго лез з кулаком? Я сам разумею...

Амбрось пасур'ёзнеў.

— Вось табе і ўся паэзія. А ты гаворыш...

— Паэзія, братка, не ў гэтым. Паэзія ў тым, каб у цябе на працы душа гарэла, каб ты не толькі аб сабе думаў, але і аб таварышах, каб ты ламаўся праз старое і грудзьмі ўрываўся ў новае. Каб ты, зрэшты,

выскачыў з гэтых вузенькіх рамак, у якіх цяпер знаходзішся, і выйшаў на шырокі прастор. Тады табе і адпачынак будзе інакшы. Тады ты нешта і ў адпачынку знойдзеш новае і цікавае.

Амбрось засмяяўся:

— Чэснае слова, нічога не разумею. Стукні па загрыўку.

— Не разумееш? Камсамольскую арганізацыю нам трэба ствараць у калгасе. Тады ў нас будзе свой, баявы калектыў. Мы будзем змагацца за ўсё новае ў гаспадарцы, будзем ісці наперадзе. Тады мы і Якіма Захаравіча крышачку падапрэм. Тады мы і адпачынак свой інакш наладзім. Драматычны гурток, музычны, харавы. Заняткі па агратэхніцы... Бачыш, колькі будзе новага і цікавага...

— А ты ўсё гэта можаш наладзіць?

— Я — не магу.

— А хто можа?

— Усе мы — хлопцы і дзяўчаты калгаса.

— Сцёпка, дык што ж мы цягнем, давай пачынаць!

— Пакуль пачынаць будзем другое. Вунь ужо на поле людзі ідуць... Трэба за працу брацца.

А як ныюць рукі і спіна! Як хочацца кінуцца і заснуць. Хоць бы на хвілінку...

## IX

Ад ранку і да позняга вечара бываю на полі. З віламі, касою, плугам. Трэба заваяваць павагу калгаснікаў. Няхай не думаюць, што я «гарадскі», не бачыў, дзе хлеб расце, а прыехаў вучыць адвечных хлебаробаў.

Адначасова раблю і сваю, агранамічную справу. А гэта цяжэй і за вілы, і за касу, і за плуг.

Колькі намаганняў мне каштавала арганізаваць летнюю здабычу торфу і рыхтаваць у полі торфагноевыя кампосты. А падбор гатунковага насення, а пратраўліванне яго ядахімікатамі, а радковая сяўба!.. Ды хіба ўсё пералічыш, што хочацца рабіць і чаго не хоча рабіць праўленне.

А пры сяўбе азіміны здарылася такое, што і цяпер сорамна. Сорамна да болю.

Устанаўліваў я сеялку на норму высеву. Зерне было сырое, клейкае і ішло дрэнна. Устанавіў чын-чынам і пайшоў у кантору калгаса зводку для раёна рыхтаваць. Праз нейкі час прыбягае да мяне чалавек ад сеялкі:

— Таварыш аграном, не ладзяцца справы...

Кулём лячу да сеялкі. А там, як на грэх, ужо брыгадзір і Якім Захаравіч.

Сеялка стаіць.

— У чым справа? — пытаюся.

Якім Захаравіч глядзіць на мяне і жмурыцца. Можа ад сонца жмурыцца, а можа смеху стрымаць не можа.

— Ты, браце, хутка нас мільянерамі зробіш. Будзем высяваць на кожны гектар па трыццаць кілаграмаў, а здымаць па дваццаць пяць цэнтнераў.

—У чым жа справа?

— Справа ў тым, што цэлы гектар аббегала сеялка, а нормы не высеяла. Вунь, адважаны мяшок насення застаўся...

Я паглядзеў у скрыні сеялкі, памацаў насенне і ўсё зразумеў...



Устанаўліваў я сеялку на высеў сухім, дробным насеннем і не падумаў аб тым, што сеяць будуць больш буйным, а галоўнае, сыраватым.

Як я мог дапусціць гэта! Успомнілася колішняе пытанне Якіма Захаравіча: «А сеялку на высеў устанавіць можаш?» А ён глядзіць цяпер на мяне вясёлымі вачыма і пытаецца:

— Дык што, таварыш аграном, рабіць будзем?

— Што ж рабіць, — кажу, — конь на чатырох спатыкаецца, і чалавеку таксама дазваляецца спатыкнуцца. Недагледзеў. Але ж і бяда не вельмі вялікая: пасеялі толькі адзін гектар. А я зараз нанова ўстанаўлю сеялку...

Якім Захаравіч спахмурнеў;

— Бяда, кажаш, не вялікая? Я не ведаю, як з агранамічнага боку, а в гаспадарчага — бяда нішто сабе. Па-першае, зацягнем сяўбу, па-другое, — нягледзячы на тое, што мы праваронім час, дык МТС яшчэ трэба будзе заплаціць, а па-трэцяе, невядома як пасля тваёй папраўкі справа пойдзе. Можа, ліха яе бяры, па гэтулькі пачне высяваць, што нам і насення не хопіць, і ўсё такое... У машыны, брат, вельмі круты нораў: захоча — так зробіць, а захоча — інакш... Я думаю, правільней за ўсё будзе, калі мы свае сеялкі пусцім. Мікіту, Паўлюка і Сабанея...

— Якім Захаравіч, — малюся, — дык мы ж і так палавіну азіміны «сваімі сеялкамі» пасеялі. Куды ж больш?

— Брыгадзір, ідзі за сеялкамі!

Не зважаючы на Якіма Захаравіча, я разаслаў на раллі пустыя мяшкі — малавата. Зняў свой рыжы студэнцкі пінжачок. Буду выпраўляць памылку...

## X

Неўзаметку прайшлі дні, тыдні. Гарачай спёкай адсмылела лета: Абпаліла лісце на дрэвах. І цяпер яно — калянае і жоўтае — суха шапоча на голлях, зрываецца і золатам падае на дол.

Пачатак залатой восені...

А я не адчуваю восені. Для мяне толькі пачынаецца вясна. І, здаецца, не толькі для мяне. Запытайцеся ў Марыські...

Марысьчына мяккая і цёплая далонь — на маёй далоні.

Рука з рукой.

Пляча з плячом.

Думкі з думкамі...

Вось гэты масток, праз які я некалі ехаў з Мікалаем Чупраком.

Вось гэтая рачулка.

Вось гэты беразнячок, з якога тады выскачылі нам насустрач дзве тонкія сцяблінкі-дзяўчынкі...

А такі вечар падаравала нам маладая восень! Чысты, звонкі, з духмяною сыраватай прахалодай.

Недзе ў лазняку ціха булькоча рэчка.

У густым бярэзніку аніяк не ўтаймуюцца нанач сарокі.

Крутарогі месяц плыў і плыў па чыстым небе, пакуль не зачапіўся рогам за кашлатую вершаліну старой сасны, якая, як нязменны вартавы, стаіць пасярод поля, на ўзгорку. Месяц зачапіўся і павіс, нібы ліхтар. Свеціць на ўсё наваколле.

— А куды ж мы ідзём? — пытаецца Марыська.

— А хіба я ведаю, куды? Ёсць дарога, ёсць вось гэты цудоўны вечар,

а галоўнае, што ёсць каханне ў сэрцы — вось і крочым. А куды — хіба не ўсё роўна?

— А праўда, як хораша! Вось ты, Сцёпа, паспрабуй так: заплюшчы вочы, ідзі і нічагусенькі не думай. Здаецца, ісці б так, ісці, аж на край свету...

— Давай і пойдзем на край свету.

— Што ты! — нібы і ўсур'ёз перапалохалася Марыська. — Мне ж часу няма — паслязаўтра на працу, у Мінск. Падыхала вясковым паветрам і досыць.

Як жа я на гэта забыўся! Першае, шчырае каханне, выходзіць, не любіць заглядаць наперад.

— А як жа я, Марыська? Як жа мы?..

— Спаткаемся наступным летам. Ты да таго часу ажэнішся, а я выйду замуж. От і будзем тады ўсім кагалам хадзіць па палях, па лугах...

— Так не трэба жартаваць, Марыська. Ты сама казала, што любіш мяне.

Засмяялася звонка-звонка, нібы срэбныя званочкі на дарозе рассыпала. Рэзка абарвала смех і — сур'ёзна:

— А што ж з таго, што люблю? Ты ў «Маяку», а я ў Мінску...

— Марыська, а мы давай будзем разам. Разам, у «Маяку».

— Мілы, які ты смешны. А дзе ж мы жыць будзем?

— Ты сказала «мілы». Дык жа з мілым і ў шалашы рай.

— Яно то так, але ж у цябе і шалаша няма.

Праўда, у мяне і шалаша няма. Я і цяпер жыву там, у Аксінні за вузкаю паркалёваю шырмачкай, куды «пасяліў» мяне стары Каўрыжка.

Як усё проста ў жыцці і як складана!

Ідзём, маўчым.

І раптам — ласкава, ціхенька:

— Сцёпка, а ты не пашкадуеш потым, што... Ну, гэтае самае... разам?

— Я? Пашкадую?

Я больш нічога не змог сказаць. Але і гэтых двух слоў было дастаткова. Марыська заглянула мне ў вочы і прачытала тое, чаго ніхто і ніколі не здолее выказаць словамі.

І зноў — ласкава, суцішна:

— Мы часова маглі б пажыць у таты.

— Марыська, радасць мая!

...Непрыкметна згубілася дарога. Мы сталі пад старой сасной на ўзгорачку і маўчым. Толькі стукаюць сэрцы.

Маўчым — марым.

Потым Марыська гаворыць:

— Мы часова пажывём у таты. Ён згодзіцца, вось паглядзіш. Ён добры. А потым пераедзем у Мінск. Праўда?

Цяпер, у гэтую мінуту, я знаю толькі адну праўду: люблю Марыську. А што будзе заўтра, — няважна. Першая, шчырая любоў не любіць заглядаць наперад. Я мацней прыціскаю да сваіх грудзей Марыську і шапчу:

— Шчасце маё са мной!

## XI

Хлынулі зябкія дажджы. Супакоіліся. Пачала цярушыць рэдзенькая імжа. З дня на дзень. Надакучлівая.

Сцюдзёная восень не застудзіла майго кахання. Я быў на сёмым небе.



Якім Захаравіч настойваў на тым, каб вяселле зрабіць «па-хрысціянску», па ўсіх правілах. Тут у мяне і атрымалася «сямейная» сутычка з будучым цесцем. Ад папа я катэгарычна адмовіўся. Марыська смяялася і нічога не гаварыла. Відаць, ёй было ўсё роўна — з папом ці без папа. Якім Захаравіч злаваўся.

— Гэта, не раўнуючы, сабачае вяселле: круць-верць хвастом і ўсё такое...

Абышлося без папа.

Я забраў ад Аксінні свой драўляны студэнцкі чамаданчык і з гэтым пасагам перайшоў у хату Якіма Захаравіча.

Аксіння правяла мяне за парог, развіталася:

— Шчаслівага жыцця табе, сынок...

Мне было нечага шкада. Я звыкся са сваім ціхім куточкам за паркалёвай шырмачкай, з чыста выскабленай падлогай, са святочна чыстым абрусам на стале.

На Аксінніным парозе я развітаўся са сваім юнацтвам...

Назаўтра ў новай, прасторнай хаце Якіма Захаравіча гулялі вяселле...

Вяселле, як гаварыў Якім Захаравіч, было «не такое, як у людзей», аднабокае. Гулялі толькі ў «маладой». У жаніха не было свайго «ні кала, ні двара».

Аб гэтым я не думаў. Я быў багацейшы за ўсіх гасцей, якія сядзелі за сасновымі сталамі. Побач была Марыська.

Госці весяліліся, як умелі. Стары Каўрыжка ні з таго ні з сяго крыкнуў «горка» і палез цалавацца да маёй былой гаспадыні Аксінні. А калі тая стукнула яму драўлянай лыжкай па носе, стары не разгубіўся і, нібы певень, пракудахтаў:

— А сват свацці паплёў лапці
З тоўстых лык;
Надулася сваццця, як індык...

Каля печы, на ўслончыку — гронка дзяўчат. Шапталіся, паціху пырскалі ад смеху, а потым гукнулі ў адзін голас:

— Закруціла пад акном
Белая пароша.
Весяліся, аграном,—
Ёсць жа аграномша!

Пазнаю Амброся Патугу. Прыйдзецца яшчэ раз пагутарыць з ім. А цяпер, такой бяды, няхай смяюцца.

Пажылыя жанчыны таксама не засталіся ў даўгу:

— Да дому, сваткі, да до-о-м-у-у,
Паелі конікі са-а-ло-му-у...

Але дадому ехаць нікому не прыйшлося. Самы разгар вяселля перарвала нечаканая вестка: калгасны свіран абакралі!

Старшынёва хата была недалёчка ад калгаснага двара. А на калгасным двары — свіран.

Усім вяселлем рушылі туды. І праўда: прабоі выдраны жыўцом, дзверы адчынены. На ганку рассыпана жыта.

Агледзелі засекі — забрана шмат.

Гаварылі, спрачаліся — хто б гэта мог?

Паслалі за міліцыянерам.

Толькі пасля ўсяго агледзеліся, што няма начнога вартаўніка дзядзь-





кі Кузьмы. А тут і Кузьміха дачулася, прыбегла. У слёзы кінулася: «Дзе Кузьма?» А Кузьмы няма. Абышлі вакол свірна — няма. Пад паветкай паглядзелі, дзе стары інвентар згрувашчаны, — няма. Стрэльба з Кузьмой была — і стрэльбы няма.

Плача Кузьміха. Вясельныя жанкі таксама насы выціраюць кончыкамі хустак. Няйначай, зладзеі прыстукнулі Кузьму і завалаклі ў альховіцу...

Стары Каўрыжка абхадзіў з ліхтаром увесь двор — не знайшоў Кузьмы. Вярнуўся да свірна і прысеў на перавернутую дагары скрыню, у якой вазілі бульбу на свінаферму. Прысеў і тут жа падскочыў, нібы падсмалены: пад скрыняй штосьці варушылася...

Прыпаднялі скрыню. Кузьма, крэкчучы, падняўся, пачухаў пад пахаю і ашалелымі вачыма паглядзеў на людзей каля свірна.

Кузьміха ад радасці завыла, залементавала, нібы па нябожчыку.

Якім Захаравіч падышоў да Кузьмы:

— Як ты трапіў у гэтую кватэру, братачка?

Кузьма панёс такую лухту, што ўсе зразумелі — ён яшчэ не прачнуўся.

А было вельмі проста. Вартаўнік прысеў за скрыняю на саломку — ад ветру схаваўся. У добрым кажусе сагрэўся і неўзаметку прылёг. А як прылёг, дык і заснуў. Начныя «госці» нічога лепшага не прыдумалі, як перавярнуць скрыню і прыкрыць Кузьму...



Якім Захаравіч вылаяўся і павёў гасцей у хату. Але весялосці ўжо не было. Жанчыны казалі, што пакража ў час вяселля — дрэнная прыкмета, за сталамі сядзелі маўкліва. А калі жанчыны маўчаць, дык якая ж можа быць весялосць? Толькі дзяўчаты і хлопцы не звярталі ўвагі на прыкметы: не шкадавалі ні галасоў, ні абцасаў.

## XII

Атрымалі з раёна дырэктыву: калгас «Маяк» будзе раённай насеннаводчай гаспадаркай — райнасенгасам. Вось чаму мяне былі і накіравалі сюды аграномам.

Сабралася праўленне. Якім Захаравіч праінфармаваў:

— Будзем вырошчваць насенны матэрыял для калгасаў усяго раёна. Гэта гонар для нас, таварышы. І, галоўнае, клопаты невялікія. Лепшыя гатункі зерневых культур прадаставіць дзяржава. Будзем размнажаць і ўсё такое...

Слухаючы старшыню, можна было падумаць, што з паляводствам у нас вельмі лёгка пойдуць справы. Дзяржава дасць лепшыя, высокаўраджайныя гатункі зерневых культур, і нічога больш не застаецца, як высяваць іх, здымаць высокі ўраджай і атрымліваць падзякі з раёна.

— Гэта для нас не палёгка, а вялікі клопат і вялікі абавязак, — кажу членам праўлення. — Па-першае, нам патрэбна неадкладна разбіць палі і ўвесці правільны травапольны севазварот. Па-другое, глебы нашы з году ў год галадаюць. Нам, відаць, нельга спадзявацца толькі на мінеральныя ўгнаенні і на той гной, які атрымліваем ад сваёй жывёлы. Трэба здабываць торф. Балот жа колькі навокал!.. Адно поле шматгадовых траў павінна быць абавязкова. А канюшына ў нас не расце — закіслены глебы. Значыць, і пра вапну не лішне будзе паклапаціцца як мага хутчэй...

Якім Захаравіч нецярпліва ёрзаў па лаўцы, але не перапыняў. А калі я скончыў, падняўся і сказаў:

— Вы чулі, браткі, якую анцімонію развёў наш паважаны аграном? І ўсё такое... Ды калі нам усе яго парады выканаць, дык, акрамя паляводства, другімі справамі і займацца не будзе часу. Шматгадовыя травы, торф, вапна... Нашы дзяды і прадзеды ніколі пра торф і вапну не

чулі, а ўсё ж не памiралі з голаду і ўсё такое... Вось ты, Мікалай, скажы: праўду я гавару ці не? — звярнуўся ён да брыгадзіра Чупрака.

Мікалай Чупрак падняўся, пачухаў патыліцу і нехаця сказаў:

— Паміраць не памiралі, гэта праўда, але і наядацца не наядаліся... Па-мойму, дык мы дарэмна нашых дзядоў і прадзедаў турбуем. Не раўняцца ж нам на іх. Некалі сахою поркалі зямлю і лічылі, што лепшай прылады і не трэба. А цяпер час другі, трактары пачалі падмяняць і жалезны плужок і коніка... Да навукі трэба прыслухоўвацца. Прывяду такі прыклад. Неяк мы з таварышам аграномам аглядалі палі ў маёй брыгадзе, на Выселках. Залучылі на канюшынішча. Канюшына, самі ведаеце, якая там была: палова канюшыны і палова конскага шчаўя. Не расце там канюшына дый годзе. А хіба мы горш апрацоўвалі глебу, чымсьці некалькі год назад? Не горш. Дык жа раней расла там канюшына, а чаму цяпер не расце? Я неяк і не заўважыў, што на тым полі ніколі конскае шчаўе не расло. Адкуль жа яно ўзялося? Таварыш аграном і растлумачыў мне: глеба закіслілася. Значыць, навука ведае, што да чаго. Значыць, да навукі трэба прыслухоўвацца...

Чупрак сеў. Няёмкую цішыню парушыў нейчы нізкі і лянівы голас з месца:

— Мікалай праўду гаворыць...

— Хто хоча выказацца? — збянтэжана пытаецца Якім Захаравіч.

Пажадаў выказацца Амбрось Патуга. Красамоўства ў яго незавіднае. Гэта я ведаў. Але на гэты раз Амбрось здзівіў мяне.

— Даверылі нашаму «Маяку» вырошчваць насенне? А мы на дзедаўскую агратэхніку будзем апірацца? Хто нам гэта дазволіць? Хіба аграном не праўду гаворыць? Торф нам трэба? Вапна трэба? Высокая агратэхніка трэба? Ёсць у нашым калгасе камсамольская арганізацыя? Хоць маленькая і маладая, але ёсць. Вось яна і павядзе моладзь і на торф, і на вапну...

Раскраталіся і другія члены праўлення. Сышліся на думцы: як мага больш нарыхтаваць на зіму арганічных і мінеральных угнаенняў. Праўда, зімой нарыхтоўваць торф не вельмі выгадна — больш вады на поле прыйдзецца вазіць, чым торфу. Але ж і зімовая нарыхтоўка апраўдае сябе.

Стары Каўрыжка запісаў усё ў пратакол. Якім Захаравіч крэкнуў і падпісаў пратакол пасяджэння праўлення.

Усе разышліся. Засталіся мы з Амбросем, каб дакладна дамовіцца аб складзе камсамольска-маладзёжнай брыгады па нарыхтоўцы ўгнаенняў.

Відаць, ужо за поўнач мы ішлі ціхай мокрай вуліцай, прыціскаючыся да платоў, каб у поцемках не трапіць у лужыну.

Ішлі моўчкі, кожны заняты сваімі думкамі.

Калі параўняліся з калгасным дваром, мне здалося, што каля свірна хтосьці бразнуў жалязякай.

— Амбрось, — ціха шапчу, — чуеш, нехта, відаць, з замком балуецца. Каля свірна...

— Ат, чаўпеш...

— А ты паслухай.

Прыслухаліся. Не, мне не здалося. Ля свірна чуваць нейкая валтузня. Не зважаючы на лужыны, падаліся праз вуліцу да свірна. Тры цёмныя постаці нырнулі за вугал. Я скочыў таксама туды... Мяне нехта агрэў па патыліцы. Чырвона-зялёныя іскры пырснулі з вачэй... Халодная, з прэсным пахам гразь ударыла ў твар...

Калі я падняўся, ля свірна было ціха. Падышоў да дзвярэй. На прыступках сядзеў Амбрось, гладзіў калена і войкаў. Ён спатыкнуўся быў у пацёмках, зачапіўшыся за мяшок са збожжам, які вывалаклі са свірна зладзеі, і ўдарыў нагу.



— Дзе ж вартаўнік? — пытаюся.

— А я што, вартаваў твайго вартаўніка? — агрызнуўся Амбрось.

Яно і праўда: недарэчнае пытанне.

Пакуль я выціраў брудны твар, надышоў і вартаўнік Кузьма.

— Дзе ж вы былі? — пытаю Кузьму. — Свіран жа зноў абакралі...

— Ах ты, божа мой! — завохкаў Кузьма. — Я ж на мінутачку адлучыўся, не пры вас гаворачы, — да ветру хадзіў...

Амбрось свяціў запалкамі, я аглядаў кінуты ў гразь мяшок. На мяшку хімічным алоўкам пазначаны былі дзве літары: «Я. К.»

Зрабілася горача-горача.

Не хапала паветра.

Нешта трэба было сказаць, але не мог.

Як трапіў сюды гэты мяшок? Яшчэ ўчора ён вісеў у сенцах Якіма Захаравіча, на цвічку...

— Сцяпан, дзіва-дзіўнае! — чую голас Амброся. — Ты толькі паглядзі: замок адамкнуты і ключ у замку тырчыць.

— Хто ж адмыкаў? — крычу перапалоханаму Кузьму.

— Ах ты, божа мой, хіба ж я ведаю? Я ж на мінутачку... Да ветру...

Мяшок зацягнулі ў свіран.

Замкнулі.

Ключ я ўзяў у кішэню.

— Спакойнай ночы, Амбрось!

— Спакойнай ночы, Сцёпа!

А ноч была такая неспакойная. Цяпер ясна, адкуль штодзённыя выпіўкі ў Якіма Захаравіча, адкуль такая дружба старшыні з кладаўшчыком Макарам Запяткам — п'яніцай і гультаём.

Марыська, дарагая мая! Каб не ты, я плюнуў бы і пайшоў з гэтай нячыстай хаты. Цесна мне тут. Душна.

## XIII

Пуд солі трэба з'есці, каб пазнаць чалавека. Я ж з'ем дзесяць пудоў і ніколі не пазнаю Якіма Захаравіча. У хаце ён амаль ні з кім не размаўляе. Усё цішком. Пахмуры, надзьмуты, як індык. Ці ў добрым настроі ён ці ў дрэнным — не разбярэш.

Раніцою, пасля цяжкой для мяне ночы, Якім Захаравіч збіраўся на працу. Я моўчкі падаў яму ключ ад свірна. Якім Захаравіч паглядзеў на мяне незразумелымі вачыма, звычна тузануў за вус.

— Што такое?

— Ключ. Ад свірна. Перадайце Макару Запятку, ён мінулай ноччу забыўся яго выняць з замка. Да слова сказаць, вы таксама забыліся ля свірна свой мяшок...

Якім Захаравіч спакойна ўзяў ключ і, не сказаўшы нічога, ляпнуў дзвярыма.

Аб сваёй падазронасці я сказаў Марысьцы — самаму блізкаму чалавеку. Марыська моўчкі выслухала мяне, а потым:

— А якая табе справа да ўсяго гэтага? — зашчабятала. — Ты ж аграном, а не міліцыянер ці следчы. Займайся сваімі справамі і ўсё. А яшчэ лепш будзе, калі ты наогул адмовішся ад гэтых вясковых прыгод. Пара ўжо, мілы, пра горад падумаць...

Абняла, пацалавала.

І соладка, і горка.
Пайшоў да Амброся Патугі.
У калгаснай канцылярыі паспелі ўжо накурыць, закідаць падлогу тоўстымі «бычкамі».
Калгаснікі чамусьці атрымлівалі нарады на працу не на калгасным двары, а ў канцылярыі. Атрымаўшы прызначэнне, не спяшаліся ісці — таўкліся ў цесным памяшканні. Амброся ў канцылярыі не было. Няйначай, павёў «тарфяную» брыгаду на балота.
У кабінецiку Якіма Захаравіча таксама людна. Прыходзяць падпісваць паперкі, параіцца, паскардзіцца...
— Я сёння, Якім Захаравіч, павінен паехаць у раённы зямельны аддзел, — кажу. — Трэба дамовіцца наконт севазваротаў, аналізу нашых глеб, насення, мінеральных угнаенняў...
— Правільна, язджай, — згадзіўся Якім Захаравіч.
— І яшчэ трэба пагутарыць наконт пакраж. Участковы міліцыянер чамусьці ніяк не можа высачыць злодзея...
Якім Захаравіч узняў на мяне абыякавыя вочы і сказаў:
— Дарагі зяцёк, не бяры ты на сябе чужы клопат. Дай бог, каб ты са сваім справіўся і ўсё такое...
— Дык жа крадуць калгаснае дабро!
— Хто крадзе?
Хацелася крыкнуць: кладаўшчык Макар Запятка крадзе, вартаўнік Кузьма яму памагае, старшыня калгаса Якім Захаравіч Крупіца іх бласлаўляе...
Хацеў крыкнуць, але стрымаўся. Сказаў зусім другое:
— Вось якраз з раёна нам і памогуць узяць за руку злодзея.
Якіму Захаравічу раптам стала весела:
— Есць у цябе высакароднае жаданне, малады чалавек, і зусім няма дыпламатычнай стрункі і ўсё такое... Ну, добра. Расклепеш ты па ўсім раёне, што ў нас бываюць пакражы. Ну, добра, зловяць злодзея і ўсё такое. А ці падумаў ты над тым, што скажуць пра нас? «Сляпцы, скажуць, там, а не кіраўнікі калгаса — нейкага задрыпанага мяшэчніка не могуць да рук прыбраць. А мы яшчэ ім раённае насенняводства даверылі і ўсё такое...» Скеміў, якая тут дыпламатыя?
— Па-мойму, Якім Захаравіч, самая найлепшая дыпламатыя, гэта гаварыць праўду.
— А па-мойму, — сказаў старшыня, — ты скруціш сабе шыю і кадук цябе бяры...
На гэтым і дамовіліся.
Вясёлая «Эмка» бегла з усіх капытоў. Гадзіны праз дзве я быў ужо ў райцэнтры.
У райзя людзей — пальцам не праткнуць. У невялічкім пакойчыку каго толькі не было: старшыні калгасаў, брыгадзіры, бухгалтары, кладаўшчыкі.
Загадчык райза, невялічкі, лысенькі круглячок, прымаў наведвальнікаў, нібы ўрач сельскай бальніцы. Час ад часу адчыняліся лёгкія фанерныя дзверы, на якіх была шыльдачка «Загадчык райза тав. Галуза А. М.», высоўвалася ружовая, вільготная лысіна і бадзёры галасок запрашаў:
— Наступны! Калі ласка!
На дзесяты скрып дзвярэй прыпала мая чарга. Па праўдзе кажучы, мая чарга яшчэ не праспела, але таварыш Галуза выпадкова заўважыў мяне, у знак прывітання махнуў галавою, нібы муху з носа прагнаў, і запрасіў:



— Калі ласка, прашу вас...
Першаму калгаснаму аграному выпала льгота. Густы касяк калгаснага актыву неахвотна прапусціў мяне ў дзверы.
Загадчык райза ўжо сядзеў за сваім невялічкім столікам, круціў у пальцах алоўак. Кіўком галавы запрасіў у крэсла насупраць. Мне здалося, загадчык вось-вось спытае: «На што скардзіцеся?» А сказаў іншае:
— Я вас слухаю, таварыш...
— У нас, у «Маяку», многага не хапае, Антон Мітрафанавіч...
— Не толькі ў вас...
— У нас — другое. Насенгас. Значыць, у першую чаргу...
Пачынаю загінаць пальцы:
— Скласці глебавую карту, разбіць палі на дзевяціпольны севазварот, атрымаць нарад на мінеральныя ўгнаенні, перамяніць наш насенны фонд, прымацаваць адзін трактар з МТС для вывазкі торфу...
— І гэта ўсё?
— Пакуль усё.
Антон Мітрафанавіч занатаваў нешта ў кніжачку і сказаў, як пячаткай прыстукнуў:
— У самыя бліжэйшыя дні да вас выедзе брыгада землеўпарадчыкаў і аграномаў. Нарад на мінеральныя ўгнаенні і гатунковае насенне можна атрымаць цяпер жа. У таварыша Парашковіча. Наконт трактара буду званіць у МТС. Усё, малады чалавек?
— Не, не ўсё, — неспадзявана для самога сябе выдыхнуў я. — Крадуць у нас калгаснае дабро, вось што...
Алоўак Антона Мітрафанавіча пахіснуўся ў белых выпеставаных пальцах і паляцеў на запісную кніжку.
— Хто крадзе?
— Самі ж і крадуць — калгаснікі. Кладаўшчык Макар Запятка, вартаўнік Кузьма...
— Дык вы самі рады ім не можаце даць?
— Справа ў тым, што сам Якім Захаравіч Крупіца патурае ім. На самагонку зерне цягнуць...
— Ого, нават сам Якім Захаравіч! — здзівіўся загадчык райза і засмяяўся. Толькі на момант засмяяўся. Тут жа на ягоны твар набегла цёмная хмурынка і голас аледзянеў:
— Несур'ёзны вы, малады чалавек. Вы што, маеце доказныя факты? Вы што, злавілі Якіма Захаравіча за руку? Вы што... — Антон Мітрафанавіч задыхнуўся. Супакоіўся і зноў роўна, як па пісанаму: — Такія наскокі, малады чалавек, не робяць вам гонару. Не. Аглабельная палітыка ў адносінах старых кадраў у нас забаронена. Прашу гэта памятаць. Раптам ён стаў ласкавы: — Выбачайце, малады чалавек, за інтымнае пытанне... Чуў я, што вы ажаніліся, звязалі, так сказаць, свой лёс. З Якімам Захаравічам парадніліся?
— Парадніліся, праўда.
— Цудоўны чалавек, кажу я вам. Разам у грамадзянскую вайну прыходзілася ў акопах гібець. А ў вас гэта маладая рамантыка іграе... З доўбняю, значыць, на сваяка ісці. Гэта вы кніжак начыталіся. Былі ў гісторыі такія факты. Скажам, Тарас Бульба і сын. Відаць, памятаеце: я цябе парадзіў, я цябе і заб'ю. Там бацька на сына руку падняў на святой, ідэалагічнай, так сказаць, аснове. А вы ж на цесця руку паднімаеце толькі за падазронасць у патуранні крадзяжу мяшэчка зерня. Сорамна, малады чалавек, сорамна...
Мне і сапраўды было сорамна і за сябе, і за Якіма Захаравіча.

## XIV

Як доўга я не атрымліваў весткі з дому.

Цяпер у мяне два дамы. Адзін — бацькоўскі, другі — Якіма Захаравіча.

Душа прывязана да таго і да другога.

У адным бацька і маці, у другім — Марыська.

Нарэшце, сёння мне прынеслі пісьмо. Квадратны самаробны канверт, заклеены хлебным мякішам. Размашысты почырк бацькі.

«Дарагі сынок Сцёпа!

У першых радках свайго пісьма паведамляем табе, што мы пакуль што жывы. А здароўем хваліцца не буду. Слабое здароўе. Хварэем наперамену з маткай. Але нічога не зробіш — ад нядужнасці не схаваешся.

Жывём нядрэнна. Сёлета атрымалі на працадзень і хлеба, і бульбы. Наладзілася жыццё. А было цяжка, ой як цяжка! Добрага старшыні аніяк не траплялася. Паверыш, ці не — усе калгаснікі па радоўцы адзін час старшынстравалі. І мне давялося ў старшынях пахадзіць.

Цяпер старшыня доўгачасовы — Васіля Закрэўскага сын, Тараска. Галавасты гаспадар. Такім бокам павярнуў справу, што мы нават і не агледзеліся, як гаспадарка ўгору пайшла. Калі трэба, дык такі строгі бывае — не дай бог.

Некалі я табе пісаў, што былы старшыня сельсавета Дзяркач папа Атрахіма загнаў у калгас і ўласнаручна яго кладаўшчыком прызначыў. Ну, дык вось. Кладаўшчыкаваў Атрахім месяц, другі, трэці, а потым д'ябал збіў яго з дарогі — красці пачаў. Праўда, на месцы кражы яго не злавілі, але падазронасць такая была. Не доўга думаючы, Тараска праўленне склікаў. І Атрахіма выклікалі на праўленне. Тараска і гаворыць Атрахіму: «Таварыш Атрахім Шалепа.— Шалепа—прозвішча Атрахімава.— Колькі вы, скажыце, калі ласка, калгаснага зерня выцягнулі са свірна? Мы неяк падлічвалі ў бухгалтэрыі і ніяк падлічыць правільна не змаглі. Памажыце нам...»

І што б ты думаў? Атрахім падняўся і кажа: «Кроўна вінават, таварыш старшыня калгаса, выцягнуў па дурасці кілаграмаў сто, не больш. Семдзесят кілаграмаў жыта — астатняе грэчка і гарох...»

Тараска як бы і не здзівіўся. «Хто, кажа, за тое, каб Атрахіма Шалепу выключыць з калгаса, а справу перадаць у народны суд?»

Гэта было так нечакана, што ніхто з членаў праўлення не паспеў своечасова руку падняць. Атрахім тады і кажа: «Паважаныя члены праўлення і таварыш старшыня! Прашу прыняць пад увагу мой былы царкоўны сан, хай яго... Многа гадоў ён мяне ў грэх заводзіў — прывык усё да сябе гарнуць...»

І што б ты думаў? Адрагаталіся, павыціралі рукавамі слёзы і даравалі Атрахіму. Тараска сказаў: «Улічваючы былы царкоўны Атрахімаў сан, які паклаў глыбокі след на характары Атрахіма, і ўлічваючы таксама чыстасардэчнае прызнанне Атрахіма Шалепы, апошняга ў калгасе пакінуць умоўна, справы ў народны суд не перадаваць. І яшчэ: зняць Атрахіма з пасады кладаўшчыка і прызначыць яго на летні рабочы перыяд пастаянным прычэпшчыкам на трактар — прычапных прылад не ўкрадзе...»

Святым чалавекам цяпер стаў Атрахім. Працуе, як вол. І няхай на дарозе золата валяецца — не возьме.

Вось і ўсе нашы вясковыя навіны. Перадавай наша прывітанне Марысьцы і яе бацькам. Заставайся жыў і здароў, сынок...»



Але Якім Захаравіч — не Тараска. Гэта яўна. Пад націскам Якіма Захаравіча праўленню ўсё ж прыйшлося скарыцца: кладаўшчыка Макара Запятку і вартаўніка Кузьму «пакаралі» — Запятку зрабілі старшым конюхам, а Кузьму — фуражырам.

Не, паважаны мой, цесць Якім Захаравіч, з гэтым пагадзіцца нельга.

## XV

Прыйшла зіма. Ударылі маразы. Паваліў снег. Нарыхтоўваць торф было нельга. Лесавывазка прыпынілася. Я заняўся сваёй папяровай гаспадаркай. Падшываў цыркуляры. А яны ішлі кожны дзень: з наркамзема, з аблза, з абкома партыі, з аблвыканкома, з райза, з райкома партыі, з райвыканкома, з МТС.

Ат, такой бяды, буду падшываць усе ў адну папку.

Больш за ўсё цыркулярам з райза. Прымільгаўся доўгі, як спружына, подпіс Антона Мітрафанавіча. А цыркуляры сур'ёзныя, катэгарычныя: «Прапануем у бліжэйшы час...», «Катэгарычна забараняем...», «Высылайце ў адрас...» І ніводнага па тых пытаннях, з якімі я ездзіў да Антона Мітрафанавіча. А часу прайшло дастаткова. Мы яшчэ не абмянялі насенны фонд, не атрымалі трактара для вывазкі торфу, глебавая карта не складзена. Не ўзяты пробы глеб для лабараторных аналізаў.

Вось табе і сябар Якіма Захаравіча!

Але ж і сам Якім Захаравіч не вельмі рвецца да таго, каб навесці парадак у паляводстве. Прыдзецца зноў ехаць у раён да Антона Мітрафанавіча.

Акрэпла зіма.

На калгасным двары зноў узгарэлася барацьба за лішнія калгасныя сані, за кожны хамут, лейцы. Не хапала інвентару і збруі. Лесавозчыкі цягнулі сабе, а «тарфяная брыгада» Амбр握ся Патугі — сабе.

Толькі стары Каўрыжка ніколі не ўмешваецца ў гэтыя спрэчкі. Ён урачыста выносіць з кладоўкі скураную, аздобленую медзянымі бляшкамі збрую, павольна валачэ яе да пузаценькага вазка. Вазок і збруя засталіся калгасу ад кулакоў. Каўрыжка запрагае «Эмку», садзіцца на пярэдняе сядзенне і, адкінуўшыся назад, моцна нацягвае лейцы. «Эмка» нецярпліва кідае галавой пад высокую чырвоную дугу. Толькі тады выходзіць Якім Захаравіч. Куляе аблезлы партфель у свежую салому, уладкоўваецца сам.

— Паехалі!

І гэтак кожны дзень. Куды ездзіць, па што — невядома. Справаздачы нікому не дае.

А вось сёння яму, відаць, не прыдзецца выехаць. У мяне такі настрой, што я нават Якіма Захаравіча магу пацалаваць у калючае рыжаватае шчаціннне.

— Якім Захаравіч, — кажу, — сёння ад радасці я магу заспяваць.

— Ты ўсё можаш. Толькі з самай раніцы спяваць не варта, каб не прыйшлося пад вечар плакаць...

— Што вы, Якім Захаравіч, вось паперка, у райком партыі выклікаюць, у партыю будуць прымаць...

— Такога чалавека, як ты, абавязкова трэба прыняць.

Невядома, ці ён пахваліў мяне, ці зганіў.

— Дык я паеду...

— Скажы, няхай Сашка збіраецца.

— Навошта ж ён мне, я і адзін з'езджу.

— А калі каняка ў дарозе выпражэцца, што будзеш рабіць?

Спрачацца не варта.

Праз якую паўгадзіну стары Каўрыжка пад'ехаў пад кантору...

Я вучыўся, здаваў экзамены на годнасць агранома.

Прайшоў той час.

Працую аграномам, хвалююся, гнуся пад цяжарам неспакойнай работы...

Цяпер еду здаваць экзамен на годнасць камуніста. Ці добра я падрыхтаваўся да гэтага?

А ўсё атрымалася шчыра і проста. Я ніколі не забудуся тых слоў сакратара райкома партыі Навадворнага:

— На маю думку, аграном Сцяпан Паплаўка заслужыў права быць у радах бальшавіцкай партыі. Чалавек гэты працавіты, праўдзівы і любую справу, мне здаецца, ён зможа давесці да канца. Хто за тое, каб таварыша Паплаўку прыняць...

І мне зрабілася горача-горача. Я не памятаю, як гэта атрымалася, але падняўся і спытаў:

— Мне можна сказаць слова?

— Калі ласка! — усміхнуўся сакратар райкома.

— Вы сказалі, што я праўдзівы і любую справу магу давесці да канца. Дык вось: я і не праўдзівы, і пачатай справы да канца давесці не магу...

— Ого!.. — здзівіўся сакратар райкома. — У чым справа?

— Справа ў тым, што ў «Маяку» крадуць грамадскае дабро і гэтаму патурае старшыня калгаса Якім Захаравіч Круціца...

— І вы да гэтага часу маўчалі?

Я абвёў вачыма пакой. На крайнім крэсле ад дзвярэй сядзеў Антон Мітрафанавіч — загадчык райза. Яго круглыя, жоўтыя, як пятакі, вочы, не мігаючы, глядзелі на мяне.

— Я дакладваў аб гэтым у райза, Антону Мітрафанавічу...

Пятакі спачатку загарэліся гарачым бляскам, а потым раптоўна патухлі.

Сакратар райкома крышачку падумаў, нешта прыгадаў і сказаў:

— Ага, зразумела. Што яшчэ?

— Наш калгас павінен быць насенняводчай гаспадаркай. Многае трэба перайначваць, рабіць па-новаму. Райза абяцае, а дапамогі ніякай не дае...

Сакратар прыстукнуў даланёй па стале:

— Кропка! Гэтае пытанне мы разбяром на бюро райкома. А вы, таварыш Паплаўка, памятайце, што вы цяпер камуніст і старайцеся любую справу даводзіць да канца. Вось так...

Выйшаў я з райкома ў радасці.

Суха скрыпіць снег пад нагамі.

Цёпла на сэрцы.

Хтосьці дагнаў мяне і лёгенька крануў за рукаво:

— Дык мы цяпер дадому паедзем, ці як?

— Вядома, дадому і зараз жа!

— Дык вы ж не туды пайшлі. «Эмка» вунь яна, каля райкома...

Стары Каўрыжка паглядзеў на мяне і паўтарыў:

— Каля райкома. Вунь...



## XVI

— Значыць, ты, Сцёпка, назаўсёды хочаш застацца ў вёсцы? — глядзіць на мяне Марыська сумнымі вачыма.

Чырвоная без рукавоў блузка...

Тонкія і смуглыя рукі...

Залатая пасмачка валасоў на чыстым ілбе...

Як я люблю Марыську!

— Мне цяжка так, Сцёпа. Адной. У чатырох вуглах. Я ж маладая, я хачу бачыць вялікае жыццё... Ты мне схлусіў, Сцёпа. Памятаеш, там, пад старою сасной... Ты ніколі не думаў пра горад... Запамятай, Сцёпа, што я не адступлю. Падумай пра гэта...

Не, я не пакрыўдзіўся на яе. Я не мог пакрыўдзіцца.

— Марыська, дарагая, навошта хвалявацца? У нас яшчэ наперадзе ўсё жыццё.

Не, у Марыські не сумныя вочы. Сум з'явіўся на нейкі момант і непрыкметна знік. Зноў у вачах тыя ж шалёныя, знаёмыя агеньчыкі.

Як я люблю Марыську!

## XVII

Паток цыркуляраў з райза раптам зменшыўся, а потым амаль зусім спыніўся. Замест белых, зялёных, сініх паперак рознага памеру ў калгас нарэшце прыбылі людзі: аграномы з планамі і картамі, землеўпарадчыкі з мернымі лентамі і тэадалітамі. Цэлая брыгада на чале з самім Антонам Мітрафанавічам!

Пара, праўда, не вельмі зручная — зіма. Але ж і адкладваць няма куды. Выбівалі ломікамі пробы глеб, шукалі ў снезе межавыя слупкі — граніцы палёў...

Праца ў калгасе кіпела, як ніколі. Адвозілі ў райцэнтр насенны матэрыял і абменьвалі там на гатунковы. Нарыхтоўвалі торф, вывозілі яго на палі і ўпершыню кампаставалі з гноем. Ад ранку да позняга вечара званілі малаткі ў кузні: рамантавалі плугі, бароны, калёсы...

Стары Каўрыжка ўжо не мог сумяшчаць пасаду бухгалтара і «шафёра». Трэба было заводзіць новыя кнігі, афармляць абменныя квіткі на збожжа, складаць зводкі па нарыхтоўцы і вывазцы ўгнаенняў, па рамонту інвентару і збруі.

Далёка за поўнач у цесным пакойчыку калгаснай канцылярыі трашчалі арыфмометры, стукалі лічыльнікі, шасталі паперы.

Два тыдні «выязное райза» працавала ў калгасе.

## XVIII

Рыхтаваліся да пробнага выезду ў поле. Заканчвалі віць новыя пяньковыя лейцы і пастронкі, рамантаваць збрую і інвентар.

Амбрось Патуга, лежачы на жываце на шчарбатай падлозе калгаснай канцылярыі, заканчваў лозунг: «Па-бальшавіцку правядзём вясновапасяўныя работы!»

На праўленні калгаса былі абмеркаваны і зацверджаны ўдзельнікі пробнага выезду ў поле. Вылучаліся лепшыя людзі.

Красавік падкраўся непрыкметна. Днём пракладваў вясёлыя ру-

чайкі, а вечарам і раніцай падвешваў пад стрэхамі звонкія, шкляныя цырубалкі.

Надышоў дзень пробнага выезду ў поле.

Запрагалі найлепшых коней. Дугі і грывы коней упрыгожвалі чырвонымі папяровымі стужкамі. На вазы грузілі адрамантаваныя плугі, бароны, новыя панарады для фурманак...

Доўгі абоз рушыў да сельсавета. У галаве абоза — каламажка Якіма Захаравіча.

Спявалі гармонікі.

Спявала моладзь.

Плёскаўся на арэхавых палках лозунг: «Па-бальшавіцку правядзём вяснова-пасяўныя работы!»

На полі, за будынкам сельсавета — сапраўдны кірмаш. Кожнаму калгасу — сваё месца. Роўнымі радамі паставілі фурманкі. Спецыяльная камісія хадзіла і правярала якасць рамонту інвентару і збруі, стан цяглавай сілы.

Камісія правярала і занатоўвала свае заўвагі на паперы.

Гэта адна частка «кірмашу».

Другая частка пачалася з выступлення раённага прадстаўніка. Потым выступалі па чарзе: старшыня сельсавета, дырэктар школы, старшыні калгасаў.

Першае месца па лепшай падрыхтоўцы да вясны заняў «Маяк». Якім Захаравіч, выступаючы з трыбуны, сказаў:

— Мы, дарагія таварышы, зрабілі ўсё, што маглі, але зрабіць маглі б яшчэ больш і ўсё такое...

Адным словам, вясну мы сустракалі ў поўнай падрыхтаванасці.

## XIX

Як хутка ідзе час!

У напружанай працы.

У штодзённых клопатах.

І што ні год, то новая радасць. Вось і цяпер: у мяне на каленях сядзіць маленькі, неспакойны сын. Пухленькі і няўрымслівы Сашка...

За вокнамі — вечар: не па-летняму халаднаваты, мокры. Касматай лапаю стукаецца ў шыбіну клён. Жоўты, неспакойны аганёк лямпы раз-пораз уздрыгвае.

Побач — Марыська, блізкая, ласкавая.

Каля печы на ложку варочаецца Дар'я — маці Марыські.

Якіма Захаравіча няма. А — позна. Дзе б ён мог быць?

У апошнія дні з ім робіцца штосьці незразумелае. Абмяк, прыціх, часцей пачаў «закладваць за каўнер». І цяпер, відаць, сядзіць дзесьці і «закладвае».

Канчаткова «звіхнуўся» Якім Захаравіч з таго часу, калі апошні раз пабываў у раёне. Што яму там сказалі — невядома, толькі, вярнуўшыся, ён сказаў мне адзінае слова:

— Віншую...

Мне да болю крыўдна. Крыўдна таму, што мой цесць не ведае, у чым справа. Сапраўды, мне гаварылі ў райкоме аб маёй кандыдатуры на старшыню калгаса. Але ж я катэгарычна адмовіўся. Хіба ж я, «зялёны аграном», мог думаць аб такой вялікай і адказнай справе?

Злосна грукнулі весніцы.





Цяжкія боты нерашуча патупалі ў сенцах і прыціхлі. Відаць, Якім Захаравіч шукаў упоцемках клямку.

Зайшоў азызлы, хісткі. Бокам асунуўся на лаўку каля стала. Упёршыся рукамі ў калені, доўга моўчкі глядзеў на мяне прыпухлымі чырвонымі вочкамі. Нарэшце сказаў:

— От ты скажы мне, таварыш аграном, такую палітыку і ўсё такое. Старшыню калгаса назначае райком партыі ці яго выбіраюць на агульным калгасным сходзе?

— Вядома, калгаснікі выбіраюць на сходзе.

— Тады адкажы на другі бок майго пытання. Якім жа макарам ты думаеш сапхнуць мяне з пасады? Ці райком цябе назначыць ці калгаснікі выберуць?

— Я ніякім макарам не думаю лезці ў старшыні. Райком партыі хацеў рэкамендаваць мяне агульнаму сходу, але я наадрэз адмовіўся.

Якім Захаравіч стукнуў пудовым кулаком па стале. Жоўты аганёк лямпы падскочыў угору.

— Правільна зрабіў, што адмовіўся. Калгаснікі цябе ўсё роўна не выбралі б...

Ужо спіць Сашка, раскінуўшы пульхныя, ружовыя ручкі...
Ужо ўтаймаваўся Якім Захаравіч.
Ужо даўно супакоілася на ложку Марыська...
А я не хачу спаць.
Я сяджу ля стала.
Шкрабецца ў шыбіну клён.
Б'ецца ў гарачае шкло лямпы ачмурэлы матылёк.
Неспакойна тахкае сэрца...

Што ж гэта такое? Чаму Марыська, заўсёды такая ласкавая, клапатлівая, ціхенька лягла, не сказаўшы мне ні слова? Яна ж ведае, што мяне пакрыўдзіў Якім Захаравіч. Чаму не сказала слова ўцехі, чаму не супакоіла? Яна ніколі, ніколі не была такой абыякавай. Лягла — і спіць.

Не, не спіць. Я пэўна ведаю — яна, заплюшчыўшы вочы, думае. Але вось толькі пра што думае?

Крыўдна.
Незразумела.
Трывожна.
Думкі кіпяць, блытаюцца.
Стома.
Трэба адпачыць, супакоіцца...
Прыкручваю кнот. Вясёлы аганёк змяншаецца і памірае.
Цемень.
Вецер за акном.
Адубелы клён просіцца ў хату:

## XX

У хаце брыгадзіра Мікалая Чупрака — не прадыхнуць. Махорачны дым густы і едкі — аж лямпа гасне.

У прэзідыуме: сакратар райкома партыі таварыш Навадворны, Мікалай Чупрак, старшыня рэвізійнай камісіі Антон Таўкач, Амбрось Патуга і я.



Якім Захаравіч заканчвае справаздачу.

— ... Як бачыце, таварышы калгаснікі, зроблена не мала і ўсё такое. Будзем жа і надалей працаваць не пакладаючы рук!

Недзе ў запечку запляскалі ў далоні. Хто драмаў, выпрастаўся, працёр вочы, з палёгкай уздыхнуў: вытрымаў нуду Якіма Захаравіча.

Пачаліся спрэчкі. Адны выступалі і жорстка крытыкавалі Якіма Захаравіча. Справядлівыя словы сыпаліся на шырокія плечы старшыні, і тады, здавалася, ён згінаўся і, апусціўшы галаву, нешта шастаў алоўкам у блакноце. Другія доўга і беспадстаўна хвалілі старшыню. Тады ён выпростваў спіну, узнімаў галаву і, не мігаючы, глядзеў на людзей. Вусы яго задаволена варушыліся.

Але згінацца прыходзілася больш, чым выпроствацца...

Слова папрасіў Амбрось Патуга. І сход адразу ж ажыў. Не таму, што Амбрось прыгожа і моцна гаварыў. Ён яшчэ не паспеў сказаць ніводнага слова. Справа ў тым, што Амбрось не вельмі часта выступаў. Цяпер ён стаяў за сталом, чырвоны, як рак, добрую мінуту шукаў, дзе б прыладкаваць рукі і — маўчаў. Тая думка, з якой ён хацеў пачаць сваё выступленне, мусіць, уцякла. Стаіць і маўчыць.

Нарэшце Амбрось глынуў пракуранага паветра і не сваім голасам сказаў:

— Нам прыходзіцца весці барацьбу не толькі за рост нашай грамадскай гаспадаркі... Вось... Нам яшчэ прыходзіцца змагацца з адсталымі поглядамі нашага паважанага Якіма Захаравіча... Вось... Ён, гэтае самае... не разумее агратэхнікі і не хоча яе разумець... Вось... Ён нават загадваў дзедаўскія бароны рабіць... культыватар «МЧ-1»... Вось...

Грымнуў рогат. Амбрось канчаткова збянтэжыўся і сеў.

Сакратар райкома партыі Навадворны папрасіў слова.

— Таварышы калгаснікі, — сказаў ён. — Вельмі правільную думку выказаў таварыш Патуга. Якім Захаравіч не разумее новых задач і новых цяжкасцей. Калі калгас быў невялічкі, тады было не так прыкметна. Цяпер жа, калі гаспадарка вырасла, узбуйнела, кіраўнічага клёку ў таварыша Крупіцы яўна не хапае. Не хапае ні ведаў, ні вопыту, ні жадання набыць тое і другое...

Навадворны змоўк, нібы даючы людзям час падумаць і зразумець яго словы.

Якім Захаравіч як прыгнуўся над блакнотам, так і не разгінаўся.

— ... Я вам зараз адкрыю сакрэт. — Навадворны выцер насоўкай мокры лоб і засмяяўся. — Райком партыі хацеў рэкамендаваць агульнаму сходу на пасаду старшыні вашага аграномa. Вось ён тут сядзіць каля мяне і, відаць, крыўдуе, што я не ўмею трымаць сакрэты. Добры быў бы старшыня?

Сход — адным уздыхам:

— Ого!

— Толькі таварыш Паплаўка наадрэз адмовіўся.

— Цесця, Якіма Захаравіча, не хоча пакрыўдзіць...

Хто так сказаў? Здаецца, знаёмы голас, але ніяк не магу ўспомніць.

Гэта быў папрок, крыўдны і несправядлівы. Толькі пагэтаму яму было суджана павярнуць маё жыццё...

— Няпраўда! — амаль крыкнуў я. — З-за сваяцкіх адносін я ніколі не хацеў шкодзіць агульнай справе...

Аднекуль здалёку да мяне дайшоў голас Навадворнага.

— Я ўпэўнены, што не з-за сваяцтва вы адмовіліся. Але калгаснікі, відаць, хочуць ведаць сапраўдную прычыну: чаму?

— Да ведаў яшчэ трэба вопыт...

— А вопыт справа нажыўная. Будуць памагаць усе калгаснікі, райком партыі. Правільна я гавару?

— Правільна, — загудзеў сход.

І мне засталося сказаць адзінае, што можна было сказаць:

— Дзякую за давер. Калі калгаснікі пажадаюць выбраць мяне старшынёй — я паспрабую...

Хто гэта гаворыць: я ці не я?

Нібы п'яны, натыкаючыся ўпоцемках на платы, ішоў я дадому — новы старшыня...

## XXI

Ужо другі дзень майго старшынства.

Ужо другі дзень я, нібы падсмалены, кідаюся з брыгады ў брыгаду.

Якім Захаравіч — мой намеснік. Свае абавязкі ён разумее вельмі проста: «Калі не будзе старшыні, тады я буду за старшыню, а калі старшыня працуе, тады няма каго замяшчаць».

Нічога не робіць.

Ужо другі дзень я думаю аб Марысьцы. Нейкая яна незразумелая ў апошнія дні.

Няма спакою.

Няма Марыські.

Ужо другі дзень няма.

— Дзе ж Марыська? — пытаюся ў маці.

— А хіба я ведаю дзе?

Няпраўда — ведае. Адкуль жа тады такі спакойны голас?

Якім Захаравіч проста пазбягае мяне. Таксама нешта ведае. Толькі маленькі Сашка нічога не ведае, ён шчыра цягнецца да мяне ружовымі ручкамі і смяецца на поўны шчарбаты роцік...

Аж праз тыдзень я атрымаў вестку, якую мне суджана было атрымаць.

«Сцяпан!

Выбачай, што так нядобра атрымалася. Я паехала ў горад і назад, відаць, не вярнуся. Вінаваты ў гэтым ты сам. Я верыла табе. А ты ўвесь час абяцаў, што мы выедзем у горад жыць. Цяпер усім вядома, што ў вёсцы ты застаешся назаўсёды. Табе гэта падабаецца — заставайся. Мне гэта зусім не падыходзіць. Я таксама хачу жыць.

І справа яшчэ не ў гэтым. Галоўнае, што я не люблю цябе. Ты для мяне зусім чужы чалавек. Памылка маладосці.

Сашку забяру.

М.»

Я не веру гэтаму. Проста Марысьцы захацелася пажартаваць. Так не можа быць!

Якім Захаравіч са мной размаўляе, як заўсёды: грубавата, жартаўліва. Маці Марыські спакойна завіхаецца па гаспадарцы і, як ніколі, лашчыцца да Сашкі — не выпускае з рук. На ўсе мае пытанні адказвае адно і тое ж: «Я не ўмешвалася ў вашы справы, калі вы сыходзіліся, не ўмешваюся і цяпер...»

У доме Якіма Захаравіча я чужы чалавек.

Боязна заставацца аднаму. Але пакуль ёсць Амбрось Патуга, таварышы, сябры, я не адзінокі. Прыходзяць, чым могуць суцяшаюць.

Ні на крок ад мяне не адступае Амбрось. І на працы, і пасля працы.

— Кінь ты так сумаваць, — суцяшае ён. — Падумаеш, кінула, пайшла. Адумаецца — вернецца, а не вернецца — значыць, такі яна лёгкадумны чалавек. А такога і не шкода. Ці мала на свеце дзяўчат...

Дарагі Амбрось, ён так гаворыць, быццам бы сам перажыў не адно такое гора...

Цяжкія, нібы камені, дні коцяцца марудна ў вечнасць...

Ужо няма і Сашкі — адзінай балючай нітачкі, якая звязвала мяне з Марыськай. Прыехала, забрала. Нават не захацела ўбачыцца са мною.

У доме Якіма Захаравіча я зусім чужы чалавек.

Амбрось Патуга прыйшоў памагчы мне перабрацца жыць да іх.

У хату Патугаў мы перанеслі ўвесь мой «скарб» — драўляны студэнцкі сундучок, у якім была бялізна, падручнік па глебазнаўству і даведнік агранома...

У доме Якіма Захаравіча пакінуў сваю тугу па кароткім, але яркім, як успых маланкі, шчасці.

## XXII

Вясновае сонейка ўлюбёна глядзела на зямлю. І яна, сагрэтая цяплом і ласкай, прыбралася, як нявеста. Зялёнае адзенне ўпрыгожыла чырвонымі, сінімі, жоўтымі кветкамі...



### ПЕРШЫЯ ТВОРЫ

Віктар Грамыка нарадзіўся ў 1923 годзе на Магілёўшчыне ў сям'і служачага. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў партызанам на Віцебшчыне. Прафесійную адукацыю атрымаў у Мінскім мастацкім вучылішчы, пасля чаго паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Вучыўся і працаваў у рэдакцыі нашага часопіса мастацкім рэдактарам.

Дыпломная работа Віктара Грамыкі — «Дарогамі мсціўцаў».

Цяпер Віктар Грамыка працуе выкладчыкам у тэатральна-мастацкім інстытуце.

Арлен Кашкурэвіч нарадзіўся ў Мінску ў 1929 годзе. Прафесіянальную адукацыю атрымаў у Мінскім мастацкім вучылішчы, а затым у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце, дзе і працуе цяпер выкладчыкам. Тэмай дыпломнай работы выбраў ілюстрацыі да рамана ісландскага пісьменніка Х. Лакснеса «Атамная станцыя», стварыўшы дзесяць аўталітаграфій. Адну з ілюстрацый мы публікуем у нашым часопісе.





А. Кашкурэвіч. З ілюстрацый да рамана Х. Лакснеса «Атамная станцыя».



У. Ананька. Даярка.



І. Саковіч. Ой, рэчанька, рэчанька...



В. Грамыка. Дарогамі мсціўцаў.

На гэтай дарозе — мы ўдваіх. Я і вясна.

Я люблю гэтую дарогу.

Тую дарогу, за мастком, каля маладога бярэзніку, мне нельга не любіць. З гэтай дарогі мы выходзілі з Марыськай на свой сумесны жыццёвы шлях.

Тады была жоўтая восень.

Цяпер зялёная вясна.

Сярод поля на пагорку стаіць знаёмая і блізкая мне старая сасна. Убачыла здалёк мяне, махае зялёнымі рукамі, кліча.

Чаму ж не пагаварыць са старай знаёмай?

Падышоў. Сеў на вільготную зямлю, прыпёрся плячыма да шурпатай кары.

Старая сасна шапоча:

— Я многа год пражыла на свеце, многа бачыла і чула на сваім вяку. Многае знаю. Таму ты паслухай мяне, як сябра, які не скажа табе ніводнага фальшывага слова... Дык вось. Памятаеш, тады, восенню, вы прыходзілі з Марыськай да мяне. Вельмі горача палыхнула ваша любоў. Ты прабач мне, але што хутка ўспыхвае — хутка згарае... Але ж Марыська па-сапраўднаму сумавала, ты сам гэта знаеш. Яна, праўда, старалася не паказаць табе свайго суму, толькі палова яе сэрца была занята табой, а палова сумам і нязведанай трывогай...

Я не веру табе, старая сасна!

— ... Яна не бачыла таго шчасця, якое бачыш ты. Тваё шчасце ў працы і ў каханні. Марыська ж бачыць сваё шчасце толькі ў каханні. У песнях, у яркіх агнях горада, у маладым кіпенні бесклапотных будняў. Ты даў ёй толькі палову шчасця, а Марысьцы трэба поўнае шчасце.

Я не веру табе, старая сасна!

— І ты сам вінаваты ў гэтым. Чаму не даў таго, што абяцаў? Ды ты і не змог бы даць.

Я не веру табе, старая сасна!

— ... Ты не верыш не мне, а самому сабе. Ты яшчэ на нешта спадзяешся? Ты думаеш, гэта жарт? Марыська «папалохае» цябе і вернецца?..

Я не веру табе, старая сасна!

— ... Паверыш...

А ўсё ж, старая сасна, ты гаворыш праўду. Ты гаворыш праўду таму, што падслухала мае думкі. Толькі не гавары больш пра гэта. Не трэба.

## XXIII

Круціць майская мяцеліца. Засыпае вішнёвым белакіпенем двары і сцяжынкі.

Цвітуць і адцвітаюць сады.

Колькі прыгажосці на гэтым невялічкім кавалачку маёй Радзімы, які называецца «Маяком»! Колькі цеплыні і радасці ў сэрцы людзей! Колькі шчасця!

А маё шчасце павезла Марыська ў Мінск.

Толькі таму, што вакол мяне добрыя і сардэчныя людзі, я не магу апусціць рукі, кінуцца ў бездань смутку...

Я не магу крывіць душою — мне цяжка. Вельмі цяжка. Аб гэтым не буду гаварыць людзям, нават бліжэйшым сябрам. Навошта? Яны



і самі разумеюць мяне. А тое, чаго нельга стрымаць, што абавязкова трэба выказаць — напішу... У дзённіку...

**25 мая.** Сёння раніцай пайшлі глядзець малады сад. На дзесяці гектарах. Яго мінулай восенню пасадзілі камсамольцы і моладзь калгаса па ініцыятыве Амброся Патугі. Сад назвалі «Маладзёжным».

Нас — цэлая брыгада: Амбрось Патуга, Якім Захаравіч, брыгадзір Мікалай Чупрак і я.

Раніца празрыстая, звонкая. Мы ходзім ад аднаго маладога дрэўца да другога, асцярожна дакранаемся да тугіх, вільготных лісцяў. Добра прыняліся яблынькі і грушы! Добра, ды не ўсе. Вось адна ледзь чапляецца за жыццё. Лісці зморшчаныя, сухаватыя. Ці то саджанец неакуратна выкапалі, ці то пасадзілі яго не так, як трэба. Але яблынька будзе жыць...

З маладога саду відаць удалечыні старая сасна. Я стаю і доўга гляджу на яе вершаліну. Побач аказаўся Якім Захаравіч. Нібы здагадаўся, аб чым я думаў у гэтую мінуту, крануў мяне за рукаў і ўпершыню назваў па імю. «Сцяпан, — кажа. У вачах і ў голасе нешта незвычайнае. — Сцяпан, — кажа, — а ты ведаеш, што я ні ў чым не вінаваты? Дай я табе пацісну руку, як мужчына мужчыну і ўсё такое...»

Што ён хацеў гэтым сказаць?

**26 мая.** Ездзілі ў райцэнтр. Утраіх: я, стары Каўрыжка і... Марыська. Марыська ў маім сэрцы...

**27 мая.** У раённай газеце надрукавалі артыкул пра наш калгас. Залішне хваляць. Няма пакуль за што. Якраз цяпер самы круты пад'ём. А ўсё ж прыемна, калі хваляць. Гонар.

**28 мая.** Адкуль столькі энергіі ў Амброся Патугі? На від жа ён такі кволы, а на ўсё яго хапае: і на працу, і на арганізацыю адпачынку. Вось і сёння. З раніцы на дзвярах нашага невялічкага клуба з'явілася афіша: «Маладзёжны вечар. Запрашаюцца ўсе калгаснікі».

Відаць, усе калгаснікі і сабраліся, бо месца ў клубе не хапала. Паадчынялі і вокны, і дзверы.

Выступаў драматычны гурток. Потым — танцы. Пад гармонік і скрыпку.

Позна ішоў дадому. Праходзіў каля хаты Якіма Захаравіча. У вокнах гарэла святло. Відаць, Якім Захаравіч нядаўна вярнуўся з клуба.

Зашчымела сэрца. Хацелася, як бывала, ціхенька падысці да акна, прыхінуцца да шыбіны... Сядзіць каля стала Марыська, а на руках у яе маленькі, бязмежна дарагі мне чалавечак... Пагляджу, палюбуюся, пастукаю пальцам у шкло... Марыська засмяецца, жартаўліва пагрозіць у чорны квадрат акна...

Нястомны гармонік павёў хлопцаў і дзяўчат ад клуба па шырокай вуліцы...

**29 мая.** Сёння Амбрось Патуга «адкрыў мне душу». Аказваецца, у яго таксама ёсць сваё, уласнае гора. Нерашуча дастаў з кішэні акуратна згорнутую паперку і дрыжачым, усхваляваным голасам прачытаў:

Я мяцеліцай белаю стыну
На ружовым, сухім снягу.
Я шукаю сваю дзяўчыну,
А знайсці яе не магу.

Ну, чаму я такі балючы,
Што ў жыццёвым віры адзін,

Над бяздоннаю чорнаю кручай
Захапляюся сном мандалін?

Сэрца будзе заўсёды рада
Стрэць найлепшае у жыцці.
Усё роўна знайду Эльдарада,
Хоць у сонме, у забыцці.

Хочаш, сэрца дастану, кіну
У завірушны, пякельны гул...
Я шукаю сваю дзяўчыну,
А знайсці яе не магу.

Дарагі Амбрось. Ён глядзіць на мяне спалоханымі вачыма і чакае майго слова. Я сказаў яму: «Слаба я разбіраюся ў вершах, Амбрось. Але, мне здаецца, вельмі нешта незразумела ў цябе атрымалася. І мяцеліца, і ружовы снег, і сонмы, і мандаліны, і Эльдарада...»

Тут ён мне і адкрыўся. «А яе, Сцёпка, толькі і можна ашаломіць такімі незразумелымі словамі. Усе зразумелыя словы я ёй выказаў — смяецца і — нос угору. Учора вечарам толькі адзін раз і абняў — і то на сцэне. Так па п'есе прыходзілася. У жыцці ж усё наадварот ідзе...»

«Дык гэта ты па Аленцы Беразняковай так смуткуеш?» — пытаюся «Па ёй, — адказвае і пытае: — Як ты думаеш, Сцёпа, перадаць гэты верш кім-небудзь ці самому прачытаць ёй?..»

У кожнага сваё. Амбрось Патуга з маладым болем у сэрцы шукае тое, што я згубіў...

Балюча таму і другому.

## XXIV

Клаўся спаць — была вясна: маладая, кіпучая, квяцістая. Лёг — і зіма...

Падае снег, якраз такі, як пад навагоднюю ноч: мяккі, сухі, ціхі.

Я іду заснежанай дарогай. Вось знаёмы масток праз невялічкую рачулку. Абапал бярозкі ў белых сукенках. Я іду ў далячынь. У якую? Куды? А хіба мне не гаварыла Марыська, тады, восенню, вось на гэтай дарозе: «Заплюшчы вочы ды ідзі»?

Я заплюшчваю вочы. Іду.

Хораша.

Скрыпіць пад нагамі снег. На сэрцы цёпла. Цягнецца і цягнецца дарога. Раптам гулка забілася ў грудзях сэрца... Цяпер я ведаю, куды ішоў. Вось яна перад вачыма — хата Якіма Захаравіча. З хаты выходзіць прыгожы юнак: высокі, светлавалосы, сінявокі. «Паклічце, — прашу, — Марыську».

Выйшла Марыська. Кінулася мне на грудзі: «Мілы мой, доўгачаканы». Ласкава паглядзела ў вочы і раптам холадна адштурхнула: «Не, гэта не той, якога я чакала».

І знікла.

Зноў той жа юнак. Як жа я не пазнаў? Сашка! Сын мой! Толькі я зноў жа не пазнаў. Гэта не Сашка, гэта стары Каўрыжка. Ён цягне мяне за руку і гаворыць: «Ідзём адсюль. Ідзём, Сцяпан!»

Адсюль я нікуды не пайду. Тут Марыська, тут сын мой...

Каўрыжка раззлаваўся і з усёй сілы тузануў мяне за рукаў.

— Сцёпка, уставай, ты ж прасіў разбудзіць праз паўгадзіны. Хутка



праўленне будзе збірацца... — чую я, праціраю вочы і гляджу на Амброся Патугу.

— Зараз, Амбрось...

Праўленне адразу ж пачалося бурна. Абмяркоўвалі два пытанні: праполка пасеваў і падрыхтоўка да ўборкі ўраджаю.

Калі па другому пытанню рашэнне прынялі спакойна і згодна, дык па першаму прыйшлося паспрачацца. Выказаў сваю думку Якім Захаравіч:

— Канешне, паколькі мы насенгас, то пасевам павінны аддаваць выключную ўвагу і ўсё такое. Але, як той казаў: што залішне, то не дужа. Супраць лёну я нічога не маю. Лён трэба праполваць абавязкова. А навошта, скажыце, праполваць яравую пшаніцу? Хто калі гэта рабіў?

Якім Захаравіч на мінуту змоўк, шукаючы, відаць, больш грунтоўныя доказы.

— Дорага нам абыдзецца гэтае насенняводства. Торф на поле вазілі. Баранавалі, культывавалі, сеялкі пускалі. Насенне чысцілі, травілі і ўсё такое. А цяпер нам старшыня гаворыць: «Давайце праполваць і лён, і пшаніцу, і нават ячмень». Навошта тады, ліха іх матары, гатунковыя пасевы, калі на іх працы не набрацца? Давайце кінем другія работы, а ўсім калгасам пойдзем на праполку. Гэта яўная трата працадзён і ўсё такое...

Брыгадзір Мікалай Чупрак накінуўся на Якіма Захаравіча:

— Я табе, Якім Захаравіч, адкрывенна скажу: далёка наперад не зойдзеш, калі на кожным кроку будзеш назад аглядвацца. Таго раней не было, гэтага раней не рабілі... Дык у нас раней, пры тваім старшынстве, мы ледзь і канюшыну не звялі. А якая канюшына ў нас у гэтым годзе? Цудоўная канюшына. З двух укосаў кармамі завалімся. Тое ж атрымалася і з зерневымі. Раней на нашых землях мы атрымлівалі ў сярэднім трыццаць — трыццаць пяць пудоў з гектара. У гэтым годзе віды на ўраджай найлепшыя. Сярэдні ўраджай да шасцідзесяці пудоў дацягне. Значыць, і той жа торф, і тое ж гатунковае насенне, і тая ж новая, перадавая агратэхніка апраўдалі сябе. І праца наша апраўдалася. Апраўдаецца яна і ў далейшым. Таму я кажу: прымуць тут рашэнне ці не, а мая брыгада праполе і лён, і пшаніцу, і ячмень...

— Цяжкавата будзе, — згаджаючыся, уздыхнуў Якім Захаравіч. — Прынцыпова я не супраць, але — цяжкавата...

— А лёгкага хлеба не бывае! — адрэзаў Мікалай Чупрак і сеў.

Ужо даўно было закрыта пасяджэнне праўлення, а людзі не разыходзіліся. Сядзелі, курылі, гаварылі аб гаспадарчых справах.

## XXV

Бяда звалілася раптоўна і балюча ўдарыла ў сэрца...

Бяда вялікая, усенародная...

Яшчэ не так даўно я ехаў па гэтых мясцінах цягніком. Ехаў пачынаць сваё працоўнае, самастойнае жыццё. Цяпер я іду гэтымі мясцінамі назад, на ўсход, каб ратаваць гэтае жыццё...

Не я адзін — нас сотні на спякотнай, пыльнай дарозе.

У гарачым летнім небе шнуруюць самалёты. Чорныя. З крыжамі. Часам яны сцелюцца над самай зямлёй. Тады мы разбягаемся, падаем у прыдарожныя канавы.

І гэтак дзень за днём.

На ўсход...

На ўсход...

Мне суджана было прайсці мясцінамі, дзе нарадзіўся і рос.

Карпілаўка...

Дык вось як давялося спаткацца, дарагія мае, родныя. Не радасная сустрэча, пасля доўгага развітання.

Вельмі кароткая гэтая горкая сустрэча. Толькі абняць, пацалаваць і развітацца.

На ўсход...

На ўсход...

Мы прыселі з бацькам на ўскрайку таго лесу, дзе колісь хаваліся з ім ад дажджу. Перад вачыма жыты, жыты... Без канца, без краю... Тады хвастаў іх цёплы лівень. Цяпер хвошча іх гарачы свінцовы дождж...

Бывай, бацька...

Бывай, Карпілаўка...

Аповесць майго жыцця не канчаецца. Яна толькі пачынаецца. І не толькі мая, але і ўсіх маіх аднагодкаў — маладых, дужых, гарачых. Я вярнуся, абавязкова вярнуся.

Пераможцам. Творцам. Гаспадаром.



Еўдакія ЛОСЬ

## ЖЫВУ Я Ў ДОМЕ ГАРАДСКІМ



Лічуся чалавекам гарадскім,
Жыву у доме я шматпавярховым...
Здаецца, сумаваць няма па кім,
Бо радуюся весткам жаніховым.
Нямала год то Мінскам, то Масквой
Я да сваіх знаёмых пісьмы значу
І не сябрую з весняй муравой,
І соснаў пазалочаных не бачу.
Але чаму, калі прыходзіць ноч,
Мне так і сняцца мурагі, яліны?
Прысніцца збіты прыдарожны корч,
Крывулінка вясновай ручаіны.
Вільготных градак роўныя шнуркі,
Дзе, на чаканне гаспадынь удзячных,
Прарэзаліся смешна агуркі:
Па два лісточкі—два зубкі дзіцячых.
Выразна мне абрад увесь відзён,
Які над глебай шэраю спраўляюць.
А раніцай, калі пачую звон,
Дык, мне здаецца,— косы адбіваюць...

## НЕЧАКАНЫ ПРЫХОД ЗІМЫ



Была, здаецца, так далёка,
А вось прыкрочыла за ноч...
Суцэльнай белай павалокай
Накрыла ўсё як ёсць наўзбоч:
З лісцём няскінутым рабіну,
І плуг з зямлёй на лемяху,
І непрымкнёную адрыну,
І недакрытую страху...
Калі вось гэтак нечакана
Прыходзіць белая зіма,
Да сцюжы непадрыхтаванай
Бывае і душа сама...

* * *



Ты —
Ясакар,
Я побач з табою—бяроза.
Цёмны да хмары чуб
І светлыя косы...

Мой ясакару,
Песеннік мой зацяжны!
І непакорны ты,
І недасяжны...

Але ж чупрыну тваю
Паланіла
Рабіна!
Ты да рабіны свае прасціраеш
Галіны.

Чую — гамоніце з ёй
Нада мною...
Калі б магла я—схавалася б
Пад карыною!

Прыземістай сумнай бярозе
Адзінае выйсце:
Слёзы раняць на зямлю,
Як лісце.

Друг ясакар,
Калі гэтыя слёзы заўважыш,
Стройнай гордай рабіне аб іх
Ты не скажаш?

Мікола ГРОДНЕЎ

# ГАЛАЧКА

## Апавяданне

Мал. І. Раманоўскага.

Той дзень я ніколі не забуду. Калі прыгадаць, то здаецца, нічога дзіўнага і не было — і сонца свяціла, як заўсёды, і кветкі цвілі, і птушкі спявалі. Толькі я мала прыглядаўся да хараства вясны, бо пачаліся дзяржаўныя экзамены ў інстытуце. Сядзеў, як заўсёды, у гарадской бібліятэцы і чытаў, не адводзячы вачэй ад кніжкі. Раптам чую:

— Прабачце, каля вас вольнае месца?

Бачу — перада мной стаіць дзяўчына, з выгляду школьніца — ростам невялічкая, каштанавыя валасы кучаравыя і пышныя.

Пакуль я паспеў адказаць, яна ўжо і кніжкі паклала на стол. У чытальні людна, а вольнае крэсла было сапраўды толькі каля мяне.

Не, яна не школьніца, бо набрала такіх жа кніжак, як і я. Праз некалькі хвілін я стаў глядзець у яе канспект больш, чым у сваю кніжку. І што гэта са мною сталася: дзяўчына ў мой бок нават не зірнула ні разу, а я ўжо не мог сядзець спакойна.

— У вас таксама экзамены? — сарвалася ў мяне з языка.

Няўжо нельга было зачаць гаворку цікавей? Калі ж, як не такой парой, пачынаюцца студэнцкія экзамены!.. Замест адказу яна толькі галавой кіўнула. А потым спакойна дастала з кішэні жакеціка акуляры і начапіла іх на свой кірпаценькі нос. Я зразумеў, што да гэтага моманту яна можа трошкі і паважала мяне, а пасля такіх недарэчных слоў нават саромецца перастала і надзела акуляры. Больш я не ўседзеў. Спярша папрасіў прабачэння, а потым дазволу прайсці. Дзяўчына прыўзнялася і прапусціла мяне.

Няпраўду кажуць, што нібыта з папяросай спакайней становіцца на сэрцы. Я выкурыў не адну папяросу, а з думкамі сабрацца не мог.

Калі вярнуўся ў чытальню, яе канспекты ляжалі на стале, а яна сама некуды выйшла. Тады я згроб са стала яе канспекты і свае і пайшоў дадому. Што гэта было: жарт ці злачынства — я так і не мог зразумець за цэлую ноч. Назаўтра такой жа парой я пайшоў у чытальную залу і сеў за той жа стол. Прыйшла і яна. Я спадзяваўся, што дзяўчына пачне выгаворваць мне за свавольства, а яна, як бы нічога не здарылася, узялася канспектаваць, толькі акуляры не надзявала.

Сядзім, маўчым. Хоць яна бачыла, што яе канспекты зноў ляжаць на стале, а выгляду не падавала. Я спрабаваў і запіскі пісаць ёй, але ні адну не дапісаў. Потым склаў такі план: паспрабую пры ёй забраць яе канспекты. Толькі сабраў яе і свае сшыткі, а яна і кажа:

— Сёння вось гэтыя вазьміце, — і дае мне дзве брашуры, — а тыя дайце мне.

Мне стала радасна і горача, крыўдна і сорамна. Я зусім разгубіўся.

Праўда, яна хутка закончыла канспектаваць, пачала збірацца. Хто ведае, можа ёй столькі ж сядзелася, колькі і мне. Нарэшце, я забраў усе канспекты — свае і яе — і панёс. Я панёс і яе самую ў сваім сэрцы, марах...

Ішлі разам. Сам не ведаю, адкуль браліся ў мяне словы. Пра што мы толькі не гаварылі! А вось як яе зваць — не прызнавалася, сказала— адгадай. Называю яе Альжбетай. Заліваецца смехам і называе сваё імя — Галя.

Досвіткам я вяртаўся ў інтэрнат узрушаны і шчаслівы. Галя таксама заканчвае пedінстытут. Бывае ж так, што выпадак зводзіць людзей назаўсёды...

Пра спатканні мы ніколі не дамаўляліся. Я прыходзіў у чытальню пасля абеду, Галя — трошкі пазней. Здавалася, толькі прысядзеш за стол, усяго некалькі старонак прачытаеш, хвілінку пагутарыш, а ўжо нам кажуць, што пара разыходзіцца. Глядзіш на гадзіннік — адзінаццаць. Я зноў нёс яе канспекты, касынку, і зноў мы бачылі, як узыходзіла сонца, і зноў не дамаўляліся пра спатканне.

Мы часта хадзілі ў кіно. Там нам абодвум было добра. А вось у тэатры я саромеўся Галі. Справа ў тым, што ў мяне быў паношаны касцюм: яго даводзілася часта прасаваць, і ўсё роўна ён не набываў святочнага выгляду.

А Галя кожны дзень апраналася ў новыя сукенкі і, здавалася мне, яшчэ больш прыгажэла.

Пралятаді дні.

Я ўжо не мог жыць без Галі. Аднойчы, калі мы сядзелі на беразе Сожа і пазіралі на месяц, які калыхаўся ў вадзе, я сказаў Галі:

— Засталіся апошнія дні студэнцкага жыцця. Хутка размеркаванне і... каго куды.

— Ромка, — перабіла яна мяне, — а куды мы паедзем? На цаліну, Камчатку ці ў Сібір?

Ад радасці я не мог стрымацца. Рукі мае самі абхапілі яе моцна... і я ўпершыню пацалаваў Галю.

Наступнае пасля гэтага спатканне я ніколі не забуду. Галя чакала мяне на лавачцы ў парку. Ніколі гэтак не было, каб яна прыходзіла раней. Я павітаўся з ёю і хацеў папрасіць прабачэння, што прымусіў чакаць, але яна апярэдзіла

— Учора я прызначэнне атрымала. А ты?

— І я таксама, — мусіў пажартаваць я.



— Куды цябе?

— Няўжо не здагадваешся? Будаўнік — у тайгу.

— А мяне туды, дзе шмат коз і вёску яшчэ не электрыфікавалі...

Я рыхтаваўся ёй сказаць, што мы пажэнімся і разам паедзем працаваць, а яна сваё:

— Ромка, парай, што рабіць? Тата кажа, калі не пашанцуе ў дваццаць сёмай школе атрымаць работу, то можна будзе ў аспірантуру падацца. А не паступлю ў аспірантуру, дык, пакуль знайду лепшую школу, можна і дома пасядзець.

Што я мог адказаць? У мяне знік той добры настрой, з якім я спяшаўся на сустрэчу з Галяй.

Праз тыдзень і ў нас адбылося размеркаванне. Я не выбіраў сабе лепшага кутка, а на пытанне старшыні размеркавальнай камісіі: «Куды жадаеце паехаць?» адказаў: «Куды накіруеце». Мяне паслалі на будаўніцтва адной магутнай ГЭС. Я спадзяваўся, што мы паедзем туды разам з Галяй.

Але мая радасць Галю не кранула. Яна ўсё ўспрыняла так, нібы я прапанаваў ёй пайсці купацца ў халоднай, ледзяной вадзе. І забараніла мне гаварыць з яе бацькамі.

Пасля дзяржаўных экзаменаў на апошнія студэнцкія грошы я купіў падарунак і накіраваўся да Галі.



Яе дома не было. «Паехала да дзядзькі», — сказалі мне. А дзе той дзядзька жыў, я не спытаў.

* * *

Тры гады я працаваў на будоўлі і тры гады марыў пра сустрэчу з Галяй. Па праўдзе сказаць, я там сябраваў з дзяўчатамі, але такой прыязнасці, як да Галі, не адчуваў ні да адной. Пісьмы Галі не пісаў, бо не ведаў куды.

І вось, нарэшце, за тры гады я атрымаў адпачынак. Не паехаў гуляць на ўзбярэжжа мора, як рабілі гэта іншыя, каб пасля сібірскіх зім пагрэцца на крымскім сонцы. Мне захацелася пабачыць маці.

Я даведаўся, што Галя працуе недалёка ад маёй вёскі — у невялікім раённым гарадку.

Няхай яна аспірантка, няхай нават і замужняя, але мне хацелася яшчэ раз пабачыцца з ёю, пагутарыць, як таварыш з таварышам. Ну, а калі яна яшчэ не замужам і нікога ў жыцці не спаткала?.. Ад такой думкі сэрца маё замірала.

Гэта было яшчэ да мая, калі вясновая вада плыла ўсюды: па дарогах, па вуліцах. Я ехаў дзень і ноч... На фурманцы, на спадарожным грузавіку, поездам, ішоў пехатой.

І вось, нарэшце, той гарадок, па вуліцах якога ходзіць Галя.

Але дзе яна жыве?

Я спярша зайшоў у гасцініцу. Абмыў боты ад гразі, твар — ад поту.

Жанчына, у якой я запытаўся, дзе жыве настаўніца Галя Васільчанка, неяк падазрона зірнула мне ў вочы, а потым указала рукою на першы домік за мастком.

Домік той невялічкі. У агародзе. На мяне глядзяць два акны. А можа ў гэтым доміку жыве яна не адна, а з мужам і дзецьмі? Ад такой здагадкі становіцца горача...

Дзверы адчыніла прыветлівая бабулька.

— Тут, тут жыве Галя. Толькі яе дома няма.

— А дзе ж яна?

— Пайшла. Казала, к вечару вернецца.

— А яна адна?

— А з кім жа ёй быць? А вы хто ж ёй? — спыталася бабка.

Што я мог адказаць?

— Зямляк! — сарвалася ў мяне з языка.

Да вечара я абхадзіў амаль усе вуліцы гарадка. Думаў, сустрэну Галю. Але не сустрэў.

...І вось праз тры гады я зноў бачу Галю. Чую яе мілы, такі знаёмы мне голас. Ужо не чырванею і не губляюся.

— Ты? — глядзіць яна мне ў вочы і не верыць, што гэта я.

— Я!..

Мы доўга стаім. Стаім і маўчым.

Нарэшце яна запрасіла мяне ў свой пакойчык. Вядома, у горадзе, у бацькоў, Галя мела лепшы пакой. А тут усё па-простаму. І ложак, здавалася, можна было лепей прычапурыць, і на стале навесці парадак. У вочы кінулася электраплітка, яна стаяла пасярод пакоя і нагрэлася да чырвані. Мне стала шкада Галю.

Я спадзяваўся, што Галя сядзе побач са мной і пачне расказваць пра сябе, а я — пра сябе, як бывала. Але яна спярша паправіла ложак. Потым пераклала са стала на этажэрку кніжкі, запрасіла мяне павячэраць. Я падзякаваў, і яна больш не настойвала. Здавалася, на гэтым і скончацца яе клопаты. Але не. Яна ўключыла святло, прынесла венік і пачала падмятаць падлогу.

— Галя, добра будзе і так...

— Ведаеш, Ромка, я сабралася выязджаць адсюль... Цэлы тыдзень не прыбірала... Але са школы не адпускаюць.

— Куды ж ты збіраешся?

— Ат... Надакучыла мне тут. Да бацькоў паеду.

Я ўздыхнуў. Чаго, і сам не ведаў.

— А як ты жывеш? — запытаў я, калі Галя прысела каля століка.

Яна ледзь прыкметна ўсміхнулася, неяк сарамліва адказала:

— Жыву як бачыш, — аб нечым падумала і дадала: — Жыву і ўсё. Удзень у школе, а ўвечары ў кіно схаджу, ды рыхтуюся да заняткаў. І так кожны дзень. А калі танцы якія ў клубе, дык не хочацца ісці. Чэпяцца многія, а душа ні да кога не ляжыць. Мама пісьмо прыслала. Піша, каб прыехала. У адзінаццатай школе некалькі рабочых гадзін для мяне будзе. Гэта з восені. А цяпер тату пуцёўку на курорт далі. Дык яму часу няма ехаць, на мяне хоча пераафарміць.

— Так... А я думаў, ты замуж выйшла...

— Няма за каго.

— Так... — я намагаўся гаварыць, а гаворка, як на злосць, не ладзілася. Тады я зноў зірнуў на электраплітку і запытаў: — Без дроў зімуеш?

— Чаму? Дровы ёсць... Але пакуль распаліш...

Зноў сядзелі і маўчалі. Нарэшце яна запытала:

— А ты дзе працуеш?

— На Ангары.

— На Ангары? — нібы здзівілася яна.

— Заканчваем будаўніцтва Брацкай ГЭС.

— Ажаніўся?

— Студэнтам не паспеў... Ну, а цяпер баюся. У Сібір ні адна дзяўчына са мной не паедзе.

— Ты так думаеш?

— Я ў гэтым упэўніўся...

Мне здавалася, што я ўсё сказаў Галі.

Галя пачала расказваць, як не паступіла ў аспірантуру, як ёй абрыдла сядзець дома без працы і як трапіла сюды, у гэтую школу.

Нарэшце яна змоўкла. І я нічога не гаварыў. Чуваць было, як пасвістваў за акном вецер. Раптам Галя закрыла далонямі твар і заплакала.

Я не кінуўся суцяшаць яе.

— Ромка, я часта плачу, ты не звяртай увагі, — голас яе быў жаласны. — Ніколі не забуду, як ты канспекты мае краў, як на Сож хадзілі...

Я маўчаў. Галя падсела бліжэй да мяне.

— Ромка, чаму ты сумны такі? Дарога далёкая? Можа стаміўся, адпачні...

— Стаміўся, — мусіў сказаць я, — дужа стаміўся.

Яна паклала на маю руку свае далоні. Яны былі халодныя, як лёд.

— Я пайду, Галя, адпачну ў гасцініцы...

— Адпачні. А заўтра ў мяне ўрокаў няма. Я буду ўвесь дзень дома.

Яна праводзіла мяне ў двор. Я хацеў на развітанне сказаць ёй некалькі слоў, але ў мяне толькі вырвалася:

— Бывай...

— Чаму?

— Раніцай а шостай гадзіне поезд...

— Паедзеш?

Я нічога не адказаў.

— Ромка... Ромка...

Я не мог застацца... На вуліцы я не бачыў гразі, не зважаў на лужы. У чаравіках хлюпала вада. А на сэрцы было балюча, быццам я страціў самае дарагое ў жыцці. А што? У той момант я не мог разабрацца.

У пакоі гасцініцы я быў адзін. Хваляванне пякло маё нутро. Здавалася, нехта мяне клікаў, а я не мог адгукнуцца на гэты кліч...

Каб супакоіцца, я пачаў хадзіць з кутка ў куток. Хадзіў доўга, доўга, але думкі не пакідалі мяне.

Я прылёг на ложак. «Зноў адзін, — думалася мне, — зноў не будзе спакою».

Па калідоры застукалі абцасы. Дробненька-дробненька. Я насцярожыўся. Няўжо да мяне? За дзвярыма нехта ўсхліпнуў. Я паімкнуўся выйсці, але абцасы зноў застукалі. Хто выбег з калідора — я не прыкмеціў.

У тую ноч я так і не заснуў. Да поезда заставалася дзве гадзіны, і я наважыў пайсці на вакзал. Выйшаў на ганак. У твар пырснулі халодныя кроплі дажджу. Мо' перачакаць?..

— Ромка!

Я здрыгануўся.

— Ромка!.. — яшчэ раз паклікаў з перадсвітальнай цемры Галін голас.

Я выпусціў з рук чамадан.



**Вера ВЯРБА**

* * *



Белакрылая хусціна,
Звіўся кужаль русых кос...
Не пытайцеся ў хлапчыны,
Да зямлі чаго прырос.

Ты з якое выйшла казкі?
У якую клічаш даль?...
Як раса да ранняй краскі,
Лепш за шоўк табе паркаль.

Праспявай яшчэ з ахвоты
Хоць хвіліначку адну.
Млее стан твой ад работы,
Ломяць рукі ад ільну.

Калі лён ты сёння брала,
Сонца з неба так пякло...
Мо' ў яго ты адабрала
Незгасальнае святло?

І цяпер усмешкай свеціш,
Дня блакітнага мілей.
Калі сонцы два на свеце,
Удвая жыць весялей!

* * *



Схіляецца ніва да самай зямлі,
У кветках паснулі ад спёкі чмялі,

На лапах замшэлых калышацца бор
І пыльныя ногі казыча чабор.

Як добра стаміцца ад цяжкіх дарог,
Зваліцца ў знямозе пад елку на мох

І слухаць так прагна, і соладка сніць,
Як срэбны жаўрук над палямі звініць,

Хвалюецца жыта ў спелай красе,
Чмель лапкаю з вуса пылок абтрасе...

Зямля залатая, з цяжарам палёў,
І рэчак люстраных, і цёмных бароў,
Паслухай маленькага сэрца любоў!

Авяр'ян **ДЗЕРУЖЫНСКІ**

# КАЗКА ПРА ВАДУ, АГОНЬ І ВЕЦЕР



Сышліся на дасвецці
Вада, агонь і вецер,
Зайшла ў іх паступова
Па шчырасці размова.
Пра ўсё яны згадалі:
Дзе на вяку бывалі,
Хто мае болей славы,
Якія робіць справы.

Вада сказала:
— Мыю
Я ўсе куткі зямныя:
Хачу—размыю горы,
Хачу—зраблюся морам.
Хто справіцца са мною,
З магутнаю вадою?
Маёй вы сіле верце!..

Тады падняўся вецер.
Ён прабасіў:
— Вадзіца,
Навошта так хваліцца?
І я раблю, што трэба:

Хачу—закрыю неба,
Хачу—ўспылю абшары,
Паразганяю хмары,
Схілю лясы і травы—
Шмат маю сіл і славы.

Агонь свой чуб гуллівы
Ускінуў ганарліва,
Нахмурыў трохі вочы,
Сказаў:
— Хто ж сярод ночы
У змроку ясна свеціць?
Хіба вада і вецер?
Не вы, а я, вядома;
Са мною добра дома,
У лузе на начлезе
І ўзімку ў цёмным лесе,
Лёс праклянуць свой людзі,
Калі агню не будзе...

— Ну, хопіць, брат, хваліцца,—
Прамовіла вадзіца.
— Не ты галоўны ў свеце,—
Сказаў са злосцю вецер.
Яны ўступілі трое
У спрэчку між сабою,

К ім чалавек, што крочыў
На луг, з дарогі збочыў.
Сказаў:
— Нашто сварыцца?..
Пара вам з тым змірыцца,
Што і агонь, і воды,
І вецер назаўсёды,
Ад веку і да веку,
Мне служаць, чалавеку.
Над вамі я ўладару—
Спрачацца не да твару.
Хай кожны помніць службу,
Ідзе дарогай дружбы.

— Пайду!—ручай ускрыкнуў,
— Пайду!—агонь успыхнуў.
— Пайду!—зашастаў вецер,—
Служыць людзям на свеце.



Уладзімір Ананька нарадзіўся ў 1929 годзе ў горадзе Мінску. Закончыўшы Мінскае мастацкае вучылішча, паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут на аддзяленне скульптуры. Летась абараніў дыпломную работу «Даярка».

Цяпер мастак працуе ў Гродна.



Ірына Саковіч нарадзілася ў 1928 годзе ў г. Мінску ў сям'і настаўнікаў. Пасля заканчэння Мінскага мастацкага вучылішча працавала выкладчыкам рысавання ў Мінскім харэаграфічным вучылішчы. З 1953 года навучалася ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Яе дыпломная работа — лірычнае палатно «Ой, рэчанька, рэчанька».

Пасля заканчэння інстытута Ірына Саковіч працуе выкладчыкам у Мінскім мастацкім вучылішчы.

Барыс КАМАР

# КАМЕНЬЧЫК

### Апавяданне

Мал. А. Бараноўскага.

Хлопцы дабеглі да бураковай плантацыі і залеглі ў вузенькай, неглыбокай канаўцы, у якой ловяць жукоў-даўганосікаў. Было прыемна прыпасці да халоднай зямлі разгарачаным целам і перадыхнуць пасля такога нястрымнага бегу.

У вушах Міколы звінела, як ад гучнага стрэлу, і сэрца білася так, нібы хацела выскачыць з грудзей. А з Пецькі раптам буйным дажджом паліўся пот. Заліваў вочы, салёнымі кроплямі падаў з носа, з падбародка.

Крыху супакоіўшыся, яны прыслухаліся і пачулі сярдзітыя словы. Садоўнік камусьці скардзіўся, што сёлета, як ніколі, няма адбою ад гэтых шыбенікаў, хоць ты па іх страляй з гарматы...

Калі дзед змоўк, Мікола крыху прыўзняўся, каб убачыць, з кім жа гэта ён размаўляе. Зірнуў у бок саду і зноў прылёг на дно канаўкі — дарогаю з горада каля саду ішла нейкая дзяўчына з чамаданчыкам у руцэ.

— Падымайцеся. Дзеда няма ўжо...—сказала дзяўчына, спыніўшыся каля схованкі хлопцаў.

Мікола падхапіўся, абтрусіў кашулю, штаны, прыгладзіў рудую шорсткую чупрыну. Увесь твар яго быў акраплены буйным рабаціннем, а на кончык носа ўпала самая большая кропліна, і таму хлопец нагадваў маладога задзірыстага пеўніка. Асабліва выклікаў гэтае падабенства залацісты чубок-грабеньчык.

Пецька падымаўся павольна, спачатку на адно калена, потым на другое і толькі тады стаў на ўвесь рост. Хоць ён і Міколаў равеснік, але быў значна ніжэйшы, нібы яго малодшы брат. Пецька выцер твар рукавом, прыжмурыў ад сонца свае дабрадушныя вочы і загледзеўся на дзяўчыну, схіліўшы пры гэтым галаву, як робяць малыя дзеці.

У абодвух хлопцаў былі поўныя пазухі яблыкаў.



— Ой, якія ж вы смешныя! — сказала дзяўчына і засмяялася. — Як тоўстыя гномікі... Бачылі кінафільм пра Беласнежку?

— Не бачылі і бачыць не хочам, — груба адказаў Мікола.

«Прычапілася нямаведама чаго, ішла б сваёю дарогай! Бо і сама амаль што не большая за нас. От толькі што значок камсамольскі прышпіліла. І то, мабыць, таму, каб дарослейшай быць, а ўжо глядзі ты на яе — «тоўстыя гномікі!».



— Пецька, гайда за мною!

Пецька спрабаваў пабегчы, ды не змог. Уцякаючы з саду, ён загнаў калючку ў нагу, і яна цяпер балела. Ён мог стаць на левую нагу толькі адным пальцам.

— А ты выцягні, — параіла дзяўчына.

— Няма чым.

— А я дам брошку, — адказала яна і адшпіліла ад кофты чырвоную кветку.

Пецька прысеў на купіну, доўга вадзіў іголкаю, але калючкі так і не знайшоў.

— Давай я дастану.

Дзяўчына ўзяла з рук хлопца брошку.

І толькі яна дакранулася да пяты, як Пецька войкнуў і адхапіў нагу.

— Што ты войкаеш, яно зусім і не баліць.



Пецька адвярнуўся, дзяўчына дастала доўгую жоўтую стрэмку. Хлопец стаў на пяту, паспрабаваў, ці не коле. Не, не коле. А потым засунуў руку за пазуху, дастаў чырвонабокі яблык, крыху падумаў і дастаў яшчэ адзін.

— На, — працягнуў ён дзяўчыне.

Тая крышку павагалася і ўзяла. Выцерла яблык хустачкай, укусіла і выплюнула.

— Ой, неба можна ўбачыць! — скрывілася яна. — Навошта толькі вы іх ірвяцё?

А хлопцы ўзялі па яблыку і так захрумсталі, быццам ніколі ў жыцці яны нічога смачнейшага не елі. І ні разу не скрывіліся, толькі прычмоквалі ад задавальнення.

— У вас дома, напэўна, няма садоў?

— Чаму ж няма? Ёсць! — адказаў Мікола, кінуўшы агрызкам у птушку, якая скакала непадалёку.— У Пецькі во якія вялікія яблыкі, а салодкія, салодкія, як мёд!.. І ў нас такіх шмат, ажно голле гнецца!

— Дык навошта ж тады вы ірвяцё ў калгасным садзе? Ды яшчэ такія горкія?

— А чаму ж дзед Антон такі? Да саду нават падступіцца нельга, адразу пачынае крычаць: «Красці прыйшлі!» Нібы сад яго ўласны...

— Усё роўна кепска вы робіце. А калі садоўнік каторага з вас зловіць? Тады што?

— Не бойся, абы цябе не злавіў, — раззлаваўся Мікола: «І якая яе справа?»

— А пры чым тут я? Кепска, што дзед не ведае пра зладзеяў і дрэннымі лічыць усіх дзяцей...

— А якая мая справа? Аднак жа дзед не ведае, хто крадзе, а таму і думае так кепска аб дзецях...

Мікола дастаў з кішэні пачак «Бокса», што сёння купіў у магазіне. Нічога, што яны танныя, затое моцныя. Усе так кажуць.

«Дай,— думае ён,— закуру, хай яна ўбачыць, што мы не маленькія».

— Дык ты ўжо і курыш? — здзівілася дзяўчына, калі хлопец узяў у зубы цыгарку.

— А што тут такога?

— А я думала, што ты ў школу ходзіш...

— І ў школу хаджу...

— А хіба настаўнікі не забараняюць курыць?

— Хай сабе забараняюць! У нас такія настаўнікі, што іх абдурыць нічога не значыць! Я нават і ката ў клас прыносіў. І парты часнаком націраў, а настаўніца ніяк не магла здагадацца, хто гэта зрабіў... Малым забараняецца... А мы курым.

— Хто гэта «мы»?

— Ды хто ж, пяцікласнікі...

— Вы пяты клас ужо скончылі?

— Не, перайшлі. А што тут дзіўнага?

— Ды нічога, гэта я так,— яна змоўкла і паглядзела на хлопцаў.

А ў Міколы, як знарок, ніяк не прыпальвалася цыгарка. Усё гаслі запалкі. Нарэшце, ён прыпаліў. І зацягнуўся так, што слёзы на вачах паказаліся. Потым адвярнуўся, каб не бачыла дзяўчына,— нібыта поле разглядае. А яна смяецца:

— Дык ты і курыць як след не ўмееш, а бярэшся. Кінуў бы ты гэтую дрэнь. А яшчэ школьнік!..

Ах, як раззлаваўся на яе Мікола!

«Дык яна яшчэ і насміхаецца. Фіфа нейкая!»

Ён цыркнуў скрозь зубы на дарогу і прыбавіў кроку. Хай ведае, што яму няма аб чым з ёй гаварыць.

Каля вёскі дзяўчына пачала распытваць, дзе знаходзіцца сельсавет, дзе клуб, дзе школа... Пецька ўсё ёй паказваў і расказваў.

— А ты да каго ж ідзеш? — пацікавіўся хлопец.

— Ды гэта я... — і не адказала. — Добрае, кажа, у вас сяло...

— Нядрэннае, — адказаў ён.

Каля першых двароў яны развіталіся, і дзяўчына выганам пайшла далей.

...І як жа здзівіліся хлопцы, калі ў першы дзень заняткаў дзяўчына прыйшла ў клас. Аказваецца, яна — настаўніца, выкладае батаніку. Апрача таго, яшчэ і кіраўніком іхняга класа прызначана. Завуць яе Валянціна Міхайлаўна Сястрычка.

Міколу хоць пад парту хавайся! Ён усё ўспомніў: і як яблыкі краў, і як пры настаўніцы курыў, і як расказваў пра ката і часнок...

«Яна ж пачне зараз сароміць перад класам, — падумаў ён, — ды яшчэ і лінейкай стукне па стале, і дырэктару раскажа...»

Аднак Валянціна Міхайлаўна была зусім не такой. Спачатку пазнаёмілася з вучнямі, расказала, што гэта за такая навука батаніка, і ні слова не ўспомніла аб тым, чаго так баяўся Мікола. І хлопец крыху заспакоіўся. Але ў канцы ўрока яна сказала, што ў наступны раз яны пойдуць на экскурсію ў калгасны сад і што яна ўжо дамовілася аб гэтым з вартаўніком. Сказала і скоса зірнула на Міколу.

У таго аж у сярэдзіне пахаладзела, а потым разабрала злосць: «Бач ты яе, нам не прызналася, хто яна такая, а толькі ўсё выпытвала. Цяпер жа хоча да садоўніка павесці, сораму нарабіць. Цікава



і як толькі ставяць такіх настаўнікаў? Не, яе трэба правучыць, ды так, каб надоўга запомніла!.. Але ж як?» — думаў ён.

Параіўся з Пецькам.

— Ды што тут думаць, — адказаў той, — і ёсць тут над чым галаву марочыць! Давай мух наловім.

Мікола ўзрадаваўся: гэта ж у іх самы вярнейшы, самы выпрабаваны сродак. І як ён не здагадаўся адразу?

Паўдня палявалі хлопцы на мух. Дома вылавілі да адной, і ў Міколы, і ў Пецькі. Пецькава бабуля нават пахваліла іх:

— От малайцы! Цяпер і я скажу — сапраўдныя піянеры! Усіх шкоднікаў вынішчылі.

Мух налічылі аж сорак тры. Сорак простых, а тры вялікія, зялёныя. Пасадзілі іх у шкляную трубку, заткнулі з абодвух бакоў і прынеслі ў школу. На перапынку перасыпалі іх у чарнільніцу-вылівайку, а калі празвінеў званок, Мікола паставіў яе настаўніцы на стол...

У клас увайшла Валянціна Міхайлаўна, прывіталася, села ля стала. Адразу заўважыла, што вучні чамусьці насцярожыліся, прыціхлі. Што ж здарылася?.. Перад тым, як пачаць пераклічку, яна адкрыла чарнільніцу і хацела была памачыць пяро, ажно адтуль адна за адной сыпанулі мухі, зазвінелі. Настаўніца ссунула бровы ад здзіўлення, але не спалохалася. Хлопцы нахіліліся да парт: справа не ўдалася. А дзяўчаты апусцілі вочы — сорамна было перад новаю настаўніцай.

Валянціна Міхайлаўна зірнула на Міколу і, не падымаючыся з месца, сказала:

— Нічога лепшага не маглі прыдумаць? Толькі хваляцца, што мы пяцікласнікі! — і яна пагардліва зірнула на Міколу. — Васіленка, ідзі і памяняй чарнільніцу.

Мікола разгубіўся: ісці яму ці не ісці? Потым павольна выйшаў з-за парты, схапіў чарнільніцу і, зачырванеўшыся, выскачыў з класа. Ён гатоў быў праваліцца скрозь зямлю...

Вечарам маці паслала яго аднесці ў малочную малако. Размахваючы парожнім вядром, ён вяртаўся дадому. Насустрач яму — Валянціна Міхайлаўна. Уся ў белым, на галаве — капялюшык. Замест таго, каб ісці паважна, проста, як гэта належыць настаўніцы, яна то лісцік з дрэва сарве, то ў роў загляне, ды яшчэ і спявае. Не хацелася Міколу сустракацца з ёю, і ён схаваўся ў кусты.

Сядзіць і чакае, пакуль яна пройдзе, а яна не ідзе. Зірнуў з-за куста, а яна з некім размаўляе.

«Ну, пачакай жа, — вырашыў ён, — я ж цябе правучу. Будзеш ведаць і як насміхацца, і як паводзіць сябе тут».

Пачало цямнець. Чуе Мікола, тупоча настаўніца сваімі чаравікамі на высокіх каблуках і нешта спявае.

Хацеў Мікола намацаць глыбку, а яму пад рукі каменьчык папаўся. Невялічкі такі, але важкі. І толькі настаўніца прамінула яго схованку, прыцэліўся і шпурнуў той каменьчык ёй услед. Каменьчык праляцеў каля яе і ўпаў на дарогу.

Настаўніца спынілася, прыціхла і азірнулася. І ці то здалося хлопцу, ці не, усміхнулася, потым чамусьці падняла каменьчык і пайшла далей.

Міколу здзівілі паводзіны настаўніцы: яна не кінулася наўцёкі, а толькі ўсміхнулася ды яшчэ і каменьчык забрала... Навошта ён ёй?



Няўжо здагадалася, хто яго кінуў і хоча некаму паказаць? Не, каменьчык гэты звычайны, як і ўсе. Тут нешта другое...

Цяпер Мікола намагаўся добра паводзіць сябе ў школе, добра вучыўся. Нават пачак з папяросамі «Бокс» выкінуў. Чакаў, што вось-вось яго паклічуць да дырэктара, пачнуць распытваць пра каменьчык. На перапынках прыслухоўваўся, што гавораць настаўнікі. Пачынаў размову з піянерважатым, спадзеючыся, што ён прагаворыцца. Але ніхто не сказаў ні слова, як быццам нічога і не здарылася. Валянціна Міхайлаўна таксама быццам бы не злавалася, а ўсё таямніча ўсміхалася Міколу пры сустрэчах. Хадзілі на экскурсію ў сад. Настаўніца паказала ўсе пароды дрэў, як належыць, а пра тое, што хлопцы яблыкі кралі, не сказала ні слова. Садоўнік таксама маўчаў. Запрашаў прыходзіць у сад. І калі б не здарыўся адзін выпадак, то хлопец, мабыць, так і паверыў бы, што ўсё забыта.

Неяк пасля заняткаў Валянціна Міхайлаўна выйшла са школы разам з вучнямі. Дзяўчаты акружылі яе, а хлопцы брыдуць ззаду, але не штурхаюцца, не крычаць. Разгаварыліся. Дзеці пачалі распытваць настаўніцу аб тым, аб сім. А потым нехта з вучняў пацікавіўся, якая ў настаўніцы кватэра.

— Давайце зойдзем, пабачыце, — сказала яна.

Дзяўчаты згадзіліся адразу. Хлопцы спачатку зірнулі на Міколу. Ён кіўнуў галавою: адмаўляцца ж няёмка. Пайшлі і яны.

У пакоі Валянціны Міхайлаўны было вельмі ўтульна. На сцяне віселі партрэты Мічурына і Макаранкі, стаяла новенькая этажэрка з кнігамі. Пахла мятай.

Селі, хто на ўслончыку, хто на лаве, а Мікола з Пецькам прымайстраваліся проста на парозе.

Валянціна Міхайлаўна спытала ў дзяцей:

— Ну як, падабаецца?

Дастала з чамадана альбом з фотакарткамі. Якіх там толькі не было! І маці, і бацька, і нават прафесар з інстытута. А найбольш дзецям спадабалася тое фота, дзе Валянціна Міхайлаўна была знята з дэлегатамі з'езда камсамола.

«Бачыш ты яе, яшчэ і на з'езд выбралі», — падумаў Мікола.

— А гэта я за школу атрымала, — падала яна вучням залаты медаль.

Інстытуцкі дыплом таксама быў з адзнакай.

Потым паказала лісток з клёна, што расце каля магілы Шаўчэнкі ў Каневе (яна была там ажно двойчы), самшытавую галінку з Каўказа, розных колераў і форм чарапашынкі з Чорнага мора. Валянціна Міхайлаўна не раз хадзіла ў турысцкія паходы. Нават і сёлета была ў Карпатах, адтуль прывезла ўсякія гуцульскія вырабы з дрэва, шмат мінералаў. І ўсё беражэ, як памяць аб сваіх падарожжах.

— І гэта таксама нейкі мінерал з Карпат? — не адважваючыся ўзяць са стала каменьчык, спытаў адзін з вучняў.

— Не, — засмяялася настаўніца, — гэта ўжо мясцовы. Паглядзіце, магчыма хто яго і пазнае, — і падала вучням.

Дзеці разглядалі каменьчык і здзіўляліся, чым ён цікавы — такіх у іхняй вёсцы колькі хочаш. Толькі Мікола хутчэй здагадаўся, чым пазнаў, што гэта за «мінерал». Каменьчык быццам апёк яму руку, і ён, патрымаўшы яго нейкую хвіліну, аддаў Пецьку. Мікола адчуў, як і тады ў класе, што твар яго палае ад сораму. Каб не выдаць сябе, ён нахіліўся зашнураваць чаравік, хоць той і быў зашнураваны.

Калі «мінерал» прайшоў праз усе рукі, Валянціна Міхайлаўна зноў паклала яго на стол.

Вучні развіталіся і выйшлі з хаты. Валянціна Міхайлаўна правяла іх ажно за вароты, падзякавала і запрасіла прыходзіць яшчэ.

Потым яна вярнулася ў свой пакой, узрадаваная, што падружыла з вучнямі. А калі зірнула на стол, — убачыла, што каменьчыка не было. Падышла да адчыненага акна і паглядзела на вучняў.

З вясёлым гоманам яны ішлі каля сажалкі. Раптам Мікола адстаў ад гурбы, азірнуўся, размахнуўся і кінуў нешта ў сажалку з усёй сілы. Пасля азірнуўся яшчэ і пабег даганяць сваіх сяброў.

Валянціна Міхайлаўна засмяялася і адышла ад акна.

Пераклаў з украінскай мовы Р. Няхай.



**Уладзімір ВЕРАМЕЙЧЫК**

# РАЗВІТАННЕ З АРМЕНІЯЙ



Адыходзіць цягнік з Ерэвана.
Абдымаю прыціхлых сяброў.
Дайце, хлопцы,
У вочы Арменіі гляну,
Што азёрамі ззяюць між горных хрыбтоў.
Тут я песні Севана паслухаў,
Па-пластунску прапоўз, не прайшоў.
Часам стомлены
Падаў між плітаў ружовага туфу
І глядзеў на застыглую ў камені кроў.
Дайце, хлопцы, рукою салдата
Дакрануцца да дрэў, ручаёў.
Як не хочацца ехаць
Вясною дахаты
З вашых белых духмяных садоў.
Дык бывай, крутагорая веліч!
Прызнаюся я гэтай парой:
Не было б на Палессі
Маіх дарагіх Васілевіч,
Развітацца не змог бы з табой.



# ПІСЬМЕННІК І СУЧАСНАСЦЬ

Сямігодка. Мінуў толькі першы год здзяйснення велічнай праграмы разгорнутага будаўніцтва камунізма ў нашай краіне, а слова сямігодка стала крылатым. Ім вымяраюцца не толькі планы ўсяго савецкага народа, але і кожны сённяшні крок чалавека ў нашай краіне, дзе б ён ні працаваў.

Велічная карціна стваральнай працы рабочых, калгаснікаў і інтэлігенцыі нашай рэспублікі была разгорнута на XXIV з'ездзе Камуністычнай партыі Беларусі ў справаздачным дакладзе яе Цэнтральнага Камітэта, з якім выступіў кандыдат у члены ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ К. Т. Мазураў. Кожны дзень жыцця і працы беларускага народа прыносіць багаты плён той нябывалай творчай ініцыятывы мас, якая рухае нашу краіну сямімільнымі крокамі сямігодкі ў светлае камуністычнае заўтра. Аб гэтым плёне, аб нескарыстаных яшчэ магчымасцях на працоўным фронце, які праходзіць праз кожнае прадпрыемства, кожны калгас і саўгас, лабараторыю вучонага і кабінет пісьменніка, і гаварылі дэлегаты на з'ездзе, што адбыўся ў сярэдзіне лютага.

Сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі Леанід Максімаў паведаміў, што моладзь рэспублікі падрыхтавала вялікі працоўны падарунак з'езду камуністаў: маладыя рацыяналізатары і вынаходцы ўнеслі летась 30 тысяч прапаноў, што дало звыш 70 мільёнаў рублёў эканоміі дзяржаўных сродкаў, моладзь сабрала 66 тысяч тон металалому ў фонд стварэння меліярацыйнай тэхнікі.

Акрылёная ўвагай і даверам, наша цудоўная моладзь горача ўспрыняла заклік партыі — быць у першых радах будаўнікоў камунізма і ўжо ў пачатку сямігодкі праславіла сябе гераічнай працай. Л. Максімаў заявіў на з'ездзе, што звыш пяці тысяч маладзёжных калектываў змагаюцца ў рэспубліцы за праваназывацца камуністычнымі. Але не стаў яшчэ штодзённай справай клопат партыйных, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый, дзеячоў навукі, літаратуры і мастацтва пра выхаванне моладзі ў духу высокай камуністычнай маралі.

Шмат увагі на з'ездзе аддавалася абмеркаванню практычных захадаў па здзяйсненню пастановы ЦК КПСС «Аб задачах партыйнай прапаганды ў сучасных умовах». У дакладзе і выступленнях многіх дэлегатаў з'езда (старшыні праўлення СП БССР П. Броўкі, міністра культуры БССР Р. Кісялёва, загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ М. Халіпава і другіх) было адзначана, што беларускія пісьменнікі, мастакі, кампазітары, работнікі тэатраў, кіно яшчэ не ўваходзяць як след у жыццё, а таму так мала пакуль з'яўляецца высокамастацкіх твораў на сучасную тэму.

— Пісьменнік і сямігодка,— заявіў на з'ездзе П. Броўка,— вось асноўная праблема, якая зараз хвалюе ўсіх нас.

Што гэта сапраўды так, адчуў кожны, хто прысутнічаў на другім пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, які адбыўся 22 і 23 лютага. Цікавы і змястоўны даклад Янкі Брыля «Пісьменнік і сямігодка» выклікаў гарачыя спрэчкі, у якіх прынялі ўдзел: А. Адамовіч, А. Вялюгін, У. Юрэвіч, М. Аляксееў, І. Навуменка, І. Грамовіч, Р. Сабаленка, Я. Казека, С. Грахоўскі, У. Няфёд, У. Карпаў, А. Русецкі, І. Шамякін, А. Бялевіч, М. Барсток, А. Міронаў, А. Ус, А. Маўзон, Я. Васілёнак, М. Гарулёў, А. Асіпенка, П. Броўка, намеснік загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ Р. Канавалаў і сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Л. Навічэнка.

— Вялікія ідэі патрабуюць высокага майстэрства, — так і толькі так, — сказаў у сваім дакладзе Я. Брыль,— з такім ацэначным крытэрыем павінны падыходзіць мы да кожнага нашага твора, не робячы скідак ні на чыны, ні на намеры аўтараў.

Дакладчык падкрэсліў далей, што майстэрства пісьменніка дасягаецца толькі ў самай цеснай, непасрэднай сувязі пісьменніка з жыццём народа, што абавязак кожнага літаратара ўслаўляць подзвігі сваіх сучаснікаў, герояў сённяшняга дня, будаўнікоў камуністычнага грамадства.

Кіруючыся галоўным крытэрыем нашага часу — спалучаць вострае, страс-



Янка Брыль выступае з дакладам.
Фота А. Дзітлава.

нае адчуванне сучаснасці з выдатным майстэрствам, дакладчык даволі падрабязна спыніўся на здабытках беларускай паэзіі і прозы ў першым годзе сямігодкі. З маладзейшых паэтаў ён адзначыў зборнікі вершаў Н. Гілевіча, А. Пысіна, Н. Кісліка, Р. Барадуліна, вершаваны рэпартаж У. Нядзведскага «Будні Салігорскія», у якіх бадзёра б'ецца пульс нашай сучаснасці. У дакладзе была звернута ўвага і на істотныя недахопы беларускай лірычнай паэзіі.

— У друку з'явілася, — сказаў Я. Брыль, — шмат *зарыфмаванай* ганарыстай нудоты, напышлівай і пустой трасКатні, сентыментальнай «жвачкі са слязою», дзячкоўскага каляндарнага «славословия», дробязных па тэме і сатырычна-бяззубых практыкаванняў у жанры байкі, нямала было безгустоўных, вельмі слабых тэкстаў для песень... У старэйшых паэтаў такое часта паўзе з-пад пяра ад лішняй самаўпэўненасці, самалюбавання, ад мяшчанскай ляноты думкі і затхласці пачуццяў, у маладых — то ад нявопытнасці, то—куды горш!— ад не зусім чыстага ці проста халтурнага, спекулянцкага падыходу да святое справы літаратуры.

На думку дакладчыка, летась справа з апавяданнем, нарысам і публіцыстыкай выглядала значна горш. Адзначыўшы, як радасную з'яву, выхад першых зборнікаў І. Пташнікава, В. Адамчыка, цікавую творчую заяўку Б. Сачанкі і ўдачы некаторых старэйшых празаікаў, Я. Брыль усё ж вымушан быў зрабіць такі вывад:

— Пішам мы, таварышы апавядальнікі, апошнім часам у большасці нецікава; вяла, шэра, мнагаслоўна, без таго маладога, высокага ўздыму, якім вызначаюцца лепшыя ўзоры нашай сучаснай паэтычнай лірыкі, без значнай думкі, якая спрадвеку лічылася першаасновай сапраўднай прозы.

Пераходзячы да разгляду твораў буйных жанраў, Я. Брыль сказаў:

— Разуменне сучаснай тэмы не павінна быць спрошчаным, вузкім. Адсутнасць або недастатковую выразнасць найбольш перадавога ў наш час марксісцкага светапогляду, які дае літаратару магчымасць правільна заўважыць у жыцці новае, абагульняць яго і прадбачыць, нельга ні падмяніць, ні замаскаваць ніякімі чыста знешнімі атрыбутамі самай надзённай, самай моднай сучаснасці.

З пяці паэм, упершыню апублікаваных летась, дакладчык лічыць найбольш цікавымі «Штодзённы лістапад» С. Гаўрусёва і «Хто робіць пагоду» М. Лужаніна. З васемнаццаці аповесцей леташняга года першае месца, на думку дакладчыка, належыць аповесці «Агонь і снег» з тэтралогіі І. Шамякіна «Трывожнае шчасце». Далей ён станоўча ацаніў аповесці А. Карпюка «Данута», А. Савіцкага «Кедры глядзяць на мора», А. Рылько «Мядовыя краскі», І. Пташнікава «Не па дарозе», Б. Бур'яна «Твая аповесць», Р. Сабаленкі «Каралінцы»...

Прамоўцы, што выступалі ў спрэчках, пагадзіліся на адной думцы, што нам патрэбны сёння перш на перш такія творы, якія б паказвалі харאство душы савецкага чалавека, яго творчую няўрымслівасць, высокую працавітасць, гарачы патрыятызм, імкненне да вышыняў сацыялістычнай культуры. Шмат дакораў было выказана ў адрас тых, хто даводзіць кнігу да чытача — работнікаў бібліятэк і кнігагандлю, якія ўсё яшчэ абыякава ставяцца да прапаганды беларускай савецкай літаратуры.

Пленум Саюза пісьменнікаў БССР, прынцыпова абмеркаваўшы адно з самых актуальных творчых пытанняў, заклікаў пісьменнікаў Беларусі сваёй штодзённай працай памагаць роднай партыі ў фармаванні новага чалавека, усебакова развітага члена камуністычнага грамадства.



У зале пасяджэння пленума СП БССР.





На Мінскім мотавелазаводзе. Ганна Масель вывешвае вымпел сваёй брыгады.
Фота С. Чырэшкіна.

*Дарогамі сямігодкі*

Юры ЕРМАЛЮК

# НЕСПАКОЙНЫЯ

### З жыцця брыгады камуністычнай працы

Галоўны пралёт велакорпуса на Мінскім мотавелазаводзе вельмі нагадвае шумлівую гарадскую вуліцу. Рабочыя называюць яе праспектам. Зусім як на вуліцы, усцяж вісяць дарожныя знакі і ім падначальваюцца аўтапагрузчыкі, электракары, мотакаляскі. У перазменку тоўпіцца на «праспекце» рабочы люд, а ў рабочы час па ім спяшаюцца слесары, дыспетчары, рамонтнікі. Кожнаму кідаецца ў вочы залаты надпіс на вымпеле: «Тут працуе брыгада камуністычнай працы».

І мы спыніліся на дадзелачным участку аўтаматычнага цэха, каб бліжэй пазнаёміцца з тымі людзьмі, якія першыя на Мінскім мотавелазаводзе ўдастоены высокага звання. Ля станкоў Алена Акунец, Ніна Дуліч, Алімпіяда Ждановіч,

Яўгенія Каспяровіч, Ніна Маркевіч, Ганна Масель, Мая Ульянцава, Ганна Чарнавец і Марыя Шкурская. Дзявочая брыгада камуністычнай працы.

Калі ў дзяўчат пытаюць, як ім удалося даць за год дзве нормы і дасягнуць узроўню вытворчасці, запланаванага на 1965 год, яны, звычайна, адказваюць: «Мы вучыліся адна ў адной!..»

— Папрацавалі мы, дзяўчаткі, добра, — выступала неяк перад сяброўкамі брыгадзір Ніна Маркевіч, — і за квартал далі чатырохмесячную норму. А ці можам дамагчыся большага?

— Можам, — сказала Ганна Чарнавец. — Вось я, напрыклад, хутка апрацоўваю ніпелі, Маша і Лена — конусы. Жэня лепш упраўляецца ля мотагаек, а Мая — з велагайкамі... Вось і замацуйце ўсе ніпелі за мной. А за конусы няхай адказвае Лена...

Так і зрабілі. І вось гэтае, на першы погляд нязначнае, нававядзенне прынесла цудоўныя вынікі. Жэня і Мая раней апрацоўвалі за змену па 6 тысяч конусаў. А зараз адна Ганна Чарнавец выдавала іх 10 тысяч. Бывала, і ёй даручалі мотагайкі. Яна рабіла іх па 6—7 тысяч за змену. Цяпер жа за іх адказвала Жэня. І яна гэтых гаек выдавала па 10—11 тысяч.

Прайшло некалькі месяцаў. Праграму па выпуску матацыклаў павялічылі амаль удвая, і дзяўчатам стала цяжэй. Справа ў тым, што майстрамі па дэталях былі толькі Жэня, Лёля і Ніна Дуліч. Цяпер яны не спраўляліся. Каб не сарваць праграму, усе гатовы былі прыйсці ім на дапамогу. Але яны ж спецыялізаваліся кожная на вырабе адной дэталі. Што ж рабіць?

І дзяўчаты прыдумалі.

— Вучыцца. Кожнай асвоіць усе аперацыі!

Жэня вучыла Маю апрацоўваць мотагайкі, а Мая паказвала Лене, як хутчэй і лепш рабіць велагайкі.

Праз некалькі тыдняў ужо можна было кожнай даручыць любую аперацыю. Адразу павысілася выпрацоўка. За паўгода брыгада выканала план дзесяці месяцаў.

А што далей? Хіба ўжо ўсе рэзервы? Не, не ўсе.

У Ніны Маркевіч з'явілася новая прапанова:

— Мы, канешне, перадавікі, — горача даводзіла яна. — А ёсць жа ў нас у цэху работніцы, якія, можа, лепшыя за нас. Думаю, што не пашкодзіць нам у іх павучыцца.

І пасля змены дзяўчаты заставаліся ў цэху, каб прыглядзецца, як працуюць на іншых участках і нават у іншых цэхах. Разам дзяліліся ўражаннямі, раіліся, што можна скарыстаць для сябе. Так паступова дзяўчаты самі сталі настаўнікамі. Свае метады і прыёмы зараз перадаюць суседзям.

Можна крок за крокам прасачыць гісторыю брыгады, але пагаворым пра справы яе так, як расказвалі самі дзяўчаты.

* * *

У цэху было толькі і гаворкі, што пра новую п'есу «Барабаншчыца». Меўся быць культпаход, а брыгадзе ў той вечар трэба заступаць на другую змену. Дамовіліся пайсці ў тэатр у першую нядзелю. У суботу Ганна Чарнавец сустрэла сяброўак з білетамі ў руках.



Ніна Дуліч ля свідравальнага станка.





У вольны час любяць дзяўчаты спяваць прыпеўкі і пад балалайку: Мая Ульянцава, Ганна Масель, Марыя Шкурская, Ніна Дуліч і Ганна Чарнавец.

Толькі ў Ніны Маркевіч на сэрцы неспакойна было: не выйшла на работу Лёля Ждановіч. Ніна пабегла ў інтэрнат. Лёля ляжала ў пасцелі.

— Урач быў?

— Толькі што.

— Ну?

— Грып, кажа.

Ніна ўзяла рэцэпты і — у аптэку. Хуценька справілася і зноў у цэх:

— Дзяўчаткі, давядзецца адмяніць тэатр.

Усе зашумелі. Адны крычалі: «Правільна!», іншыя — «Нічога, паправіцца, адна сходзіць». Ім пярэчылі: «Значыць, сяброўка хварэе, а мы — у тэатр?» А Ніна, выслухаўшы ўсё гэта, прапанавала:

— Галасуем... Так. «За» — шэсць, «супраць» — двое. У тэатр не ідзём. Аня, прадасі білеты.

Лена Акунец і Маша Шкурская фыркнулі:

— А мы ўсё роўна пойдзем. Самі. Падумаеш...

...Ля ложка Лёлі шумна. Не варта было б трывожыць хворую, але дзяўчаты не могуць стрымацца. То Ганна Масель гучна разрагочацца, расказваючы, як пасварыліся табельшчыца з кладаўшчыцай, то Ніна Дуліч раптам пачне напяваць нешта. Лёлі прыемна. Быццам бы і паздаравела, тэмпература паменшылася. Радаснымі вачыма глядзіць на сяброўак і пытаецца:

— А вы не маніце? Праўда не было білетаў?

Раптам дзверы расчыняюцца, і на парозе паказваюцца Лена і Маша. Абедзве крыху збянтэжаныя, але не падаюць выгляду.

— Вось, Лёля, яблыкі, — дружна прапанавалі яны. — Папраўляйся...

Неўзабаве Ніна Маркевіч падае каманду:

— Пасядзелі — і дадому. Лёлі адпачываць трэба. Вечарам Жэня Каспяровіч пабудзе, а я прыду начаў.

У тэатр дзяўчаты ўсё ж схадзілі, праўда, праз месяц.

На заводзе была экскурсія. Салдаты запоўнілі аўтаматны цэх, і інжынер цэлую гадзіну расказваў ім пра завод. Двое падышлі да станка, дзе працуе Ніна Маркевіч.

— Сяржант Пятроў, — адрэкамендаваўся адзін з іх. Потым адным дыхам вымавіў: — А гэта мой сябар Ніко Мінашвілі. — І хлопцы прапанавалі дзяўчатам у выхадны дзень сустрэцца ў парку.

І вось знаёмыя сустрэліся. Хутка асвойталіся. Воіны пахваліліся, што іх узвод лічыцца лепшым. Дзяўчаты не пярэчылі. Каталіся на каруселі, частаваліся марожаным... Па алеі гулялі ўжо не гуртам, а парамі. Ніко Мінашвілі ішоў з Маяй Ульянцавай і ўсхвалявана расказваў аб сонечнай Грузіі, запрашаў правесці адпачынак на Каўказе. Ля ціра Ніко спыніўся:

— Пастраляем? Усе прызы нашы будуць. Я ж міма не б'ю.

Шумлівай грамадой зайшлі ў цір. Дзяжурны ўзрадаваўся такой кампаніі і ветліва запрасіў:

— Калі ласка, усяго дваццаць капеек за стрэл!

Ніко хусцінкай працёр мушку пнеўматычнай вінтоўкі агледзеў



**Каб павысіць свае тэхнічныя веды, члены брыгады Марыя Шкурская, Яўгенія Каспяровіч і Алена Акунец часта збіраюцца ў начальніка аддзела тэхнічнага навучання завода А. Говардзя.**

кожны патрончык. Прыгожым, эфектным рухам павёў ствол, і раптам шчоўкнуў стрэл. На стэндзе з мішэнню расчыніліся дзверцы лялечнага ангара, з яго вылецеў маленькі самалёцік, загудзеўшы, заслізгаў па тугім дроце.

— Па-гвардзейску! — выгукнуў Ніко.

— Дай я паспрабую.

Мая прыцэлілася і націснула спуск. Уверсе зашыпела. Успыхнула лямпачка, заіграла пласцінка. На сцэне раскрылася заслона і ў танцы закружыліся лялькі.

Самаўпэўнены Ніко пацішэў. Пяццю стрэламі ён збіў тры «бомбы». Гучна стукаліся аб жалезны ліст стальныя пруткі з насаджанымі на канцах капсулямі. А Мая прамахнулася толькі адзін раз. Хлопцы маўчалі. А дзяўчаты смяяліся:

— Што, апякліся?

Наўрад ці знойдзецца чалавек, на жыццёвым шляху якога ўсё гладка. Бываюць і памылкі, але адкаму іх выправіць не лёгка. Іншая справа ў калектыве, калі побач з табою сябры. Ніна Маркевіч некалькі разоў пераконвалася, што гэта так.

Дзяўчаты вырашылі павысіць вытворчую кваліфікацыю — і ўсёй брыгадай пайшлі на курсы тэхнічнага навучання. Нічога, што некаторыя трэці ці чацвёрты раз слухалі адно і тое ж. Паўтарэнне — маці вучэння. Прайшоў месяц, і выпрацоўка павысілася яшчэ на пяць працэнтаў. Мала? Памяркуйце. Калі ўвесь завод перавыканае гадавы план усяго на адзін працэнт, то будзе зроблена дадаткова 1 000 матацыклаў і 2 500 веласіпедаў.

Аднойчы Жэня Каспяровіч шукала-шукала наладчыка, не знайшла і рызыкнула сама ўзяцца за наладку. І ведаеце, атрымалася добра. Гэта надало ўпэўненасць другім, і хутка наладчыку не заставалася нічога іншага, як прасіць начальніка цэха аб пераводзе на другі ўчастак. Пераход на самаабслугоўванне адразу ўзняў прадукцыйнасць. Але гэта не заспакоіла брыгадзіра. Яна шукала новыя рэзервы. І, як ёй здалося, знайшла іх.

У цэху было некалькі заточнікаў. Яны забяспечвалі станочнікаў інструментам. «Абышліся без наладчыкаў,— думала Ніна,— абыдземся і без заточнікаў». Сваёй задумай падзялілася на сходзе брыгады. Прапанову сустрэлі з адабрэннем. Але Маша Шкурская думала інакш.

— Усё роўна ж станок не працаваў, пакуль з ім поркаўся наладчык,— сказала яна.— Іншы раз гадзіна пройдзе, пакуль яго знойдуць, а потым паўгадзіны цягнецца наладка. А што цяпер атрымаецца? Пойдзеш на заточку, а станок выключаеш. Не, дзяўчаткі, прайграем на гэтым.

Многія згодны былі з Машай. Аднак Ніна настаяла, каб дзяўчаты сталі навучацца заточцы інструменту. Аказалася, што гэта не так проста. Шмат давялося папацець. І вось брыгада стала працаваць без заточніка. Як заўсёды, новае не адразу ўдаецца. Таму нікога спачатку не ўстрывожыла, што брыгада здала пазіцыі, знізіўшы выпрацоўку на 30 працэнтаў. Але ішлі дні, тыдні, а прадукцыйнасць не ўздымалася. Ніна засмуцілася, але не хацела здавацца. Неяк вечарам яна зайшла ў кабінет начальніка цэха і... расплакалася.

— Што ж цяпер рабіць? Абнясславіліся, а чаму, ніяк не ўцямлю.

Начальнік цэха ўсміхнуўся:

— Вось бачыш, Ніна, што можа атрымацца, калі не паверыць сябрам. Дзяўчаты ж у цябе вунь якія!..

Засмучоная, дзяўчына вярнулася ў інтэрнат. Адчыніла дзверы, а ў пакоі Маша, Жэня, Лена і Лёля. На стале папера, у руках Машы аловак.

— Ніна, сядай, — запрасіла яна брыгадзіра.— Будзем лічыць. Нас у брыгадзе дзевяць. На заточку кожная траціць па паўгадзіны за змену. Ды яшчэ не заўсёды дачакаешся наждака: чарга. Так што, лічы, у сярэднім па 45 мінут выйдзе. А ўсяго атрымліваецца,— губляем за змену 6 гадзін 45 мінут. Амаль цэлы рабочы дзень. А адзін заточнік, апрача нас, абслугоўваў яшчэ 20 чалавек. Вось і выходзіць, што на гэтым эканомілася два рабочыя дні.

— Прабачце, дзяўчаткі,— Ніна абняла сяброўак.— Дрэнны з мяне брыгадзір. Машу трэба выбраць, а мяне вызваліць.

— Але ж ты зразумела сваю памылку?

— Зразумела.

— Хай гэта і будзе спагнаннем.

Сяброўкі ўвесь час аб нечым шапталіся, а як толькі падыходзіла Лена, разам змаўкалі. Дзяўчына ўстрывожылася. На гэта была прычына: Лена запусціла вучобу. У школу хадзіла, а вось да ўрокаў рыхтавалася дрэнна і ў выніку, як кажуць, схапіла некалькі «троек». Што зробіш, захапілася сардэчнымі справамі. Але хіба для брыгады гэта апраўданне? Даўно ўжо вырашылі, што ні танцы, ні хлопцы не павінны перашкаджаць вучобе. Хіба Ніна Маркевіч атрымала хоць адну «тройку»? І ў Лёлі ўсё ў парадку. А астатнія? Таксама ўсё ідзе добра. Вось чаму ўстрывожылася Лена. Яна падумала, што сяброўкі вырашылі паслухаць яе справаздачу аб школьных справах, як гэта даўно вядзецца ў брыгадзе. Таму пасля змены адразу ж засела за ўрокі, а вечарам атрымала «чацвёрку» па хіміі і «пяцёрку» па гісторыі.

Раніцай Лена адчувала, што ў яе ёсць добры козыр, калі яе задумаюць паслухаць. А сяброўкі не ведалі яшчэ аб адзнаках, якія яна атрымала напярэдадні. У вясёлым настроі прыйшла на завод.

Цэх сустрэў Лену прывычным шумам. Звінелі слясарныя малаткі, весела стракацелі матацыклы, грукацелі магутныя прэсы... Вось і пралёт аўтаматнага цэха. Але што гэта? На сцяне плакат: «Віншуем Лену Акунец з дваццаціпяцігоддзем! Жадаем шчасця ў працы і асабістым жыцці. Калектыў цэха».

Вось табе і маеш!.. Лена зусім забылася пра свой дзень нараджэння. Па праўдзе кажучы, не зусім забылася, але ж ён заўтра, 5 снежня. Цэх вырашыў павіншаваць Лену чацвёртага, таму што ў свята завод не працаваў. Расчуленая, ішла дзяўчына да свайго станка, а з усіх бакоў неслася:

— Прывітанне імянінніцы!

— Віншуем, Лена!

Яшчэ здалёк убачыла Лена сваіх дзяўчат. Яны сталі паўкругам, схаваўшы рукі за спіны. Лена падышла. Ніна Маркевіч ступіла наперад і працягнула сяброўцы прыгожа вышытую навалачку.

— Ад душы, Леначка, віншую! І прымі падарунак, сама вышывала, усе пальцы пакалола!..

Ніну змяніла Маша, якая, павіншаваўшы Лену, падарыла ёй насавыя хусцінкі. Аня Масель паднесла сурвэтку з вышытымі ружамі. Пры гэтым Жэня войкнула: выявілася, што яна зрабіла якраз такую ж сурвэтку (у адным нумары «Работніцы і сялянкі» бралі ўзор). Ніна Дуліч паднесла пальчаткі, якія звязала сама.

Калі ўсе члены брыгады прадэманстравалі свае майстэрства, Ніна ўручыла Лене калектыўныя падарункі: альбом у аксамітнай воклад-

цы з фотакарткамі ўсіх дзяўчат і чайны сервіз.

Лена стаяла, трымаючы ахапак падарункаў. Яна паўтарала:

— Дзякуй, дзяўчаткі! Дзякуй!..

Працавалася Лене ў гэты дзень хораша. Дэталь за дэталлю спрытна ставіла яна пад свёрлы і час ад часу азіралася на сяброўак: якія ўсё ж яны добрыя дзяўчаты...

Але вось і канец змены. Усе сабраліся ў чырвоны куток. Расселіся, і Ніна сказала:

— Дзяўчынкі, па вашаму даручэнню я пагаварыла з класным кіраўніком восьмага класа нашай вячэрняй школы. Дрэнна вучыцца наша Лена. І хоць яна імянінніца, я думаю, усё ж яе трэба паслухаць сёння. Ну, Лена гавары!

Лене адразу ж прыгадаўся яе козыр. Але... нічога пра яго не сказала. Памаўчаўшы крыху, яна прагаварыла:

— Вось што, дзяўчаткі, другую чвэрць скончу без «троек», але пры адной умове, каб Аня Масель памагла па алгебры.

— Я згодна,— адказала Аня.

Хоць Ніна і Жэня трымалі гэта ў сакрэце, сяброўкі нейкім цудам выведалі: увечары дзяўчаты запрошаны ў цырк... Калі назаўтра яны з'явіліся ў цэху, з усіх бакоў пасыпаліся пытанні:

— Ну як, Серада спадабаўся?

— А паветраныя гімнасты ўчора выступалі?

Жэня і Ніна з вінаватай усмешкай адказвалі:

— А мы зусім і не ў цырк хадзілі.

— Куды ж?

— Сакрэт.

Між іншым, сярод сяброўак сакрэтаў не бывае, і хутка брыгада даведалася, у чым справа. Было так. Калі яны ўбіраліся, у пакой зайшла суседка (назавем яе Вольгай). Нешчаслiва склалася ў яе жыццё. Каханы чалавек, калі з'явілася дзіця, пакінуў яе з хлопчыкам. Тры гады Вольга ні разу не ўсміхнулася. А ў апошні час яна нібы памаладзела, ёй здалося, што яна сустрэла, нарэшце, сваё шчасце. Вы здагадваецеся, што яна спаткала любага чалавека. На гэты вечар ён узяў білеты ў тэатр. Звычайна хлопчык начаваў у дзіцячым садзіку, але ў гэты дзень Вольга, засумаваўшы, узяла яго дадому. Аднесці назад? Нейк нявёмка. І яна вырашыла папрасіць суседак прыглядзець малога. Ніна з Жэняй нават разгубіліся. Як быць? І ў цырк хочацца, і трэба б памагчы Вользе. І Ніна сказала:

— Ідзі ты, Жэня, адна, растлумач хлопцам...

— Чаму гэта адна? І я пабуду.

— Ідзі, ідзі. Слухайся брыгадзіра.

Жэня пайшла, а Ніна, выслухаўшы настаўленні маці, засталася з Паўлікам. Прачытала Ніна малому казкі пра Муху-Цакатуху і доктара Айбаліта, праспявала «В лесу родилась ёлачка», паспела пабыць конікам і аўтамабілем, як раптам з'явілася Жэня.

— Хлопцы не пакрыўдзіліся. У цырк пойдзем на наступным тыдні. А цяпер, давай я Паўліку казкі пачытаю.

Гэты выпадак і быў прычынай, якая штурхнула брыгаду запісаць у сваіх сацыялістычных абавязацельствах: «Узяць шэфства над маладымі мацяркамі. Дапамагчы ім вечарамі вучыцца, хадзіць у тэатр».

У Доме ўрада трэба быць а дзесятай раніцы, але Ніна, прыбраўшыся, спачатку ідзе на завод. У прахадной шумна. Гамонка. Прывітанні. У цэху дзяўчаты акружаюць свайго брыгадзіра, хвалююцца, радзяцца, хоць ім не ўпершыню праводзіць сяброўку на сесію Вярхоўнага Савета БССР.

— Галоўнае — смялей там,— гаворыць Жэня, — ты проста, панашаму, па-рабочаму.

Што хоча гэтым сказаць Жэня — Ніна не разумее, але згодна ківае галавой. Пачынаецца змена. Дзяўчына не спяшаецца выходзіць з завода. Задумліва крочыць па пралёце роднага корпуса. А вакол кіпіць работа. Ветэраны працы,



інжынеры, майстры, табельшчыцы — усе здалёк пазнаюць дзяўчыну, усміхаюцца ёй, адабральна ківаюць галавой. Яна — іх выбраннік, прадстаўнік заводскага калектыву ў вышэйшым органе ўлады рэспублікі.

А калі вячэрняе пасяджэнне скончылася і большасць дэпутатаў накіравалася ў тэатр, на канцэрт, Ніна зноў садзіцца на тралейбус і едзе да прыпынку «Мотавелазавод». Яе чакаюць у чырвоным кутку. Уся змена. Усхваляваная перажытым за дзень, Ніна з захапленнем расказвае аб тым, што бачыла і чула. Гаворыць пра знатную свінарку, славутага будаўніка, сівога акадэміка, праслаўленага генерала, з якімі пазнаёмілася на сесіі. Якія гэта цудоўныя людзі! І Ніне здаецца, што яна яшчэ нічога не зрабіла, што не заслужыла такога высокага гонару. Хто яна? Простая дзяўчына.

Ніна Маркевіч яшчэ некалькі год назад жыла ў бацькоў на вёсцы. Потым прыехала ў Мінск. Хутка асвоілася яна на заводзе, набыла спецыяльнасць, стала перавыконваць нормы. Маладая сціплая работніца заваявала аўтарытэт у цэху дзякуючы сваёй працавітасці, прынцыповасці.

Стаўшы дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі, Ніна Маркевіч засталася такой жа. Як і раней, актыўна ўдзельнічае ў камсамольскім жыцці цэха, паспяхова вучыцца ў вячэрняй школе, займаецца спортам, любіць музыку.



**Разам працуюць, разам і вучацца. Ганна Чарнавец, Ніна Макарэвіч і Алімпіяда Ждановіч рыхтуюць дамашнія заданні.**

* * *

Пройдземся па заводскім праспекце. Наступны квартал — механічны цэх. Тут працуе брыгада Рыгора Дашкоўскага. А гэта гальванічны цэх. Тут уперадзе брыгада Галіны Дубоўскай... На заводзе шмат брыгад і змен, якія спаборнічаюць за званне калектываў камуністычнай працы. Пра кожную з іх ёсць што расказаць. Але абмяжуемся на гэты раз расказам пра Ніну Маркевіч і яе сяброўак. Усе яны — настойлівыя і неспакойныя — смела пракладваюць шлях у камуністычную будучыню.

„Маладосць“ вядзе рэпартаж...

# ШЭСЦЬ МАГІЛЯЎЧАНАК

Фота і тэкст А. Дзітлава

Гэта было ў Магілёве. Дзве Ліды, дзве Ніны і дзве Тамары вырашылі сфатаграфавацца на памяць. Яны сабраліся разам на скверыку ля Дома культуры швейнікаў. Дзяўчаты ажыўлена перагаворваліся, папраўляючы адна на другой шапачкі і хусцінкі, аблюбоўваючы месца, дзе можна было б больш зручна размясціцца.

Прахожыя звярталі на іх увагу. Вельмі магчыма, што многія з іх з задавальненнем далучыліся б да вясёлай кампаніі дзяўчат, але... спагадліва ўсміхнуўшыся, ішлі сваёй дарогай.

Стараючыся стаць шчыльней, нехта некаму наступіў на нагу, нехта некага штурхнуў у снег. Адна з іх рассмяялася, за ёй гучна — астатнія.

У гэты момант ледзь чутна загудзеў затвор апарата. На плёнцы зафіксаваўся адлюстровак, які вы бачылі на другой старонцы вокладкі гэтага нумара часопіса.

— Ды хто ж яны такія?—чуцён голас збоку.

Гэта ж цікавіць і вас, чытач?

Калі ласка, пазнаёмцеся.

Калі прадстаўляць усіх агулам, прыдзецца сказаць так: гэта звычайныя дзяўчаты-магіляўчанкі. Адны працуюць, другія яшчэ вучацца, трэція робяць тое і другое адразу. Кожная з іх выдатна выконвае свае працоўныя абавязкі, умее цаніць дружбу. Кожная з іх, апрача сваёй прафесіі, аддае нямала часу і іншым любімым заняткам. Кожная з іх мае сваю мару. Якую?.. Аб гэтым пагаворым па чарзе.

## Ліда Шпакава

Яна прыехала на гэтую сустрэчу з паўднёва-заходняй ускраіны Магілёва, адтуль, дзе днём і ноччу дыміць высокі комін клеявога завода. Не думайце, што вельмі проста зрабіць плітку звычайнага сталярнага клею, здабыць пры гэтым з касцей як мага больш тлушчу для іншых галін прамысловасці.

Тры гады таму назад Ліда паступіла на завод, не маючы прафесіі. Пры гэ-



тым яна не кінула вучыцца, толькі перайшла ў вячэрнюю школу. Але ў школе вучылі наогул, а Лідзе патрэбны былі веды па тэхніцы. Таму яна запісалася яшчэ і на курсы тэхмінімуму. Часу для вучобы было мала, але добрае веданне фізікі, хіміі, матэматыкі, біялогіі дазволіла маладой работніцы хутка разабрацца і ў пытаннях вытворчасці. Неўзабаве яна атрымала дыплом апаратчыка. У гэтым годзе ёй уручаць яшчэ і атэстат сталасці. А потым? Потым Ліда марыць пра хіміка-тэхналагічны інстытут.

На заводзе пра гэтую дзяўчыну кажуць:

— Яна шмат чытае сама і памагае чытаць нам усім.

Гэта таму, што Ліда яшчэ і бібліятэкар. Не падумайце, аднак, што работа ў заводскай бібліятэцы — праца па сумяшчэнню. Гэта занятак па любві, камсамольскае даручэнне. І на ўсё ў яе хапае часу. Культпаходы ў тэатр, экскурсіі на іншыя прадпрыемствы, калектыўныя лыжныя прагулкі—усё гэта не абыходзіцца без Ліды.

## Тамара Яблыкава

З работніцай завода электрарухавікоў Тамарай Яблыкавай мы пазнаёміліся у тыя дні, калі наша краіна адзначала 100-годдзе з дня нараджэння Антона Паўлавіча Чэхава. Неяк сама сабой усчалася гаворка пра вялікага рускага пісьменніка.

Сярод герояў, створаных геніем Чэхава, ёсць вядомая Алена Іванаўна Папова—удовіца з п'есы-жарту «Мядзведзь». Тамара ж займаецца ў самадзейным драматычным калектыве завода. Яна свядома пайшла на адмаўленне свайго «я» і вечарамі стала называцца Аленай Іванаўнай. Вядома, у тыя вечары, калі яна са сваім партнёрам, рабочым таго ж завода Сямёнам Балцерам, разыгрывае на сцэне вядомы чэхаўскі жарт.

А што датычыць мары... Яна ў Тамары, вядома, ёсць! Але пры першым знаёмстве яна не захацела адкрываць самае запаветнае.





## Тамара Якубовіч

Свабоднае паліто хавае ад вачэй стройную, зграбную фігуру гэтай дзяўчыны. Тамара—студэнтка педагагічнага інстытута, хоць у Магілёве яе больш ведаюць як абавязковую ўдзельніцу многіх спартыўных сустрэч. Яна—лепшая гімнастка горада.

— Напэўна, вы займаецеся гімнастыкай з дзяцінства?—пацікавіліся мы, калі ўбачылі яе майстэрскі скачок над брусамі.

— Зусім не. У школе, нават у старэйшых класах я была, як і ўсе, звычайнай фізкультурніцай. Лёгка бегала. Лічылася лёгкаатлетам. Абараняючы спартыўны гонар школы, добрасумленна прыносіла камандзе ачкі і на гэтым супакойвалася. І толькі перад самым заканчэннем школы нечакана захапілася гімнастыкай. Цяпер не ўяўляю, як жыць без гэтага цікавага віду спорту. Маю першы разрад.

— Трэніруецеся па праграме майстроў?

— Самым настойлівым чынам!

— І марыце...

— ...і мару стаць майстрам спорту, каб памножыць спартыўную славу роднай Беларусі!

## Ніна Наздрына

Ніна—маладая жыхарка Магілёва. Яна пераехала сюды з Брэста, дзе выхоўвалася ў дзіцячым доме, а потым вучылася ў рамесным вучылішчы. Цяпер яна кваліфікаваная швяя на фабрыцы імя

Валадарскага. Брыгада, у якой працуе Ніна, мае вялікія вытворчыя поспехі.

Ніна — камсорг брыгады. Адна з адметных асабістых якасцей Ніны — цікаўнасць да ўсяго.

Калі пачынаеш распытваць Ніну пра што-небудзь, яна неяк адразу сама пачынае перапыняць вас пытаннямі.



Варта толькі з'явіцца ў горадзе афішам, якія паведамляюць аб цікавай лекцыі, як Ніна ўжо здымае тэлефонную трубку.

— Алё! Гэта палац культуры? Гавораць з фабрыкі Валадарскага. Вельмі просім пакінуць нам для маладзёжнай брыгады трынаццаць... не! лепш чатырнаццаць добрых білетаў... Што азначае добрых? Ну, каб усё было чуваць і добра відаць. Я зайду адразу ж пасля змены. Хто гаворыць? Ніна Наздрына.

## Ліда Кароль

Сярод прамысловых прадпрыемстваў Магілёва ёсць адно, пра якое ведаюць у многіх кутках нашай краіны. Гэта—завод штучнага валакна імя Куйбышава. Калектывы цэхаў, змен, брыгад спаборнічаюць за датэрміновае выкананне сямігадовага плана, за тое, каб зрабіць свой дастойны ўклад у развіццё хімічнай прамысловасці краіны. Лепшай на заводзе з'ўляецца змена аддзелачнага цэха № 2, якую ўзначальвае Тацяна Канстанцінаўна Шустрава. Большасць змены складаюць камсамольцы. Выключныя працоўныя поспехі, грамадская актыўнасць, пастаянны клопат аб павышэнні сваіх ведаў, добрая вытворчая дружба, таварыскасць,—вось якасці, якія дазволілі змене заваяваць высокае званне калектыву камуністычнай працы. У гэтым калектыве і працуе Ліда Кароль. І не проста працуе, а слыве як лепшая сярод лепшых.

Адзін з грамадскіх абавязкаў Ліды— шэфская работа ў дзіцячым доме. Многа добрага робіць для выхаванцаў дома Ліда разам са сваімі сяброўкамі па рабоце. Заводскія дзяўчаты сочаць за школьнымі поспехамі сваіх падшэфных, ходзяць разам з імі ў кіно, на экскурсіі, адзначаюць дні нараджэння выхаванцаў.

Як толькі радыё перадало паведамленне аб тым, што новая звышмагутная савецкая касмічная ракета зрабіла свой паспяховы палёт у раён Ціхага акіяна, Ліда пабегла ў дзіцячы дом, каб расказаць рабятам аб гэтай новай перамо-



зе. Ёй радасна і лёгка гаварыць аб працоўнай доблесці савецкага народа — будаўніка камуністычнага грамадства, бо яна сама ідзе наперадзе яго вялікіх здзяйсненняў.

## Ніна Власенка

Сярод сельскай моладзі Беларусі цяпер добра вядомы калгас «Авангард» на Магілёўшчыне. Тамашнія камсамольцы вырашылі выйсці наперад у спаборніцтве маладых жывёлаводаў рэспублікі. Яны звярнуліся з заклікам да сельскай моладзі правесці новы паход у жывёлагадоўлю. «Няхай жа новы паход моладзі на фермы будзе масавым і баявым!»— заявілі яны.

У «Авангардзе» ўсе галіны жывёлагадоўлі камсамольцы ўзялі ў свае рукі.



Каб павысіць свае веды, стварылі заатэхнічны гурток. Перагледзелі абавязацельствы калгаса і вырашылі гадавы план па вытворчасці малака павялічыць удвая, а па вытворчасці мяса — утрая. А яшчэ моладзь узялася вырасціць за лета 10 тысяч качак і курэй.

Вялікая доля ініцыятывы ў гэтым прыпадае на долю Ніны Власенка, чый подпіс пад адкрытым пісьмом заслужана стаіць першы. Хто ж яна такая?

Ніна—заатэхнік, сакратар камсамольскай арганізацыі і намеснік старшыні калгаса па жывёлагадоўлі. Ад калгаса «Авангард» да горада недалёка, і Ніна лічыць сябе магіляўчанкай, бо бывае вельмі часта ў Магілёве. Яна—член магілёўскага райкома камсамола. Па ўсіх пытаннях звяртаецца за парадай да каго-небудзь з раённых камсамольскіх важакоў, тым больш, што адзін з сакратароў — яе старэйшы таварыш па прафесіі, таксама заатэхнік Яўген Верацён.

* * *

Шэсць магіляўчанак вырашылі сфатаграфавацца на памяць. Яны сабраліся напярэдадні здзяйснення сваіх вялікіх планаў. Пажадаем ім удачы ў ажыццяўленні іх шчырых задум.

# Гары, камсамольскі аганёк!

## У ПАХОДЗЕ ЗА КУЛЬТУРУ

Цяпер гэта ўжо не так важна, дзе; у якім раёне, у якой камсамольскай арганізацыі нарадзілася ідэя пра аб'яўленне двухгадовага паходу за культуру. Ясна адно — гэтая цудоўная ініцыятыва нарадзілася ў той час, калі камсамольцы, юнакі і дзяўчаты рэспублікі рыхтаваліся да 40-годдзя ВЛКСМ. І самае важнае, што камсамольская двухгодка нарадзілася не ў цішы кабінетаў, а ў самай гушчы нашай баявой вясковай камсамоліі.

Намеры і планы камсамольскіх арганізацый былі шырока падтрыманы партыйнымі арганізацыямі. Цэнтральны Камітэт ЛКСМБ вывучыў абавязацельствы камсамольскіх арганізацый і вынес іх на абмеркаванне XX з'езда ЛКСМ Беларусі. Так нарадзіліся кантрольныя лічбы камсамольскай двухгодкі культурнага будаўніцтва.

Прынята лічыць, што мова лічбаў сухая і сумная. Але іншая лічба можа сказаць больш, чым красамоўны расказ. Уступаючы ў двухгодку, камсамольцы рэспублікі абавязаліся пабудаваць больш тысячы клубаў і чырвоных куткоў, 450 танцавальных пляцовак, 20 стадыёнаў і больш 5 тысяч прасцейшых спартыўных збудаванняў, падрыхтаваць 2 300 кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці, стварыць дадаткова тысячы самадзейных гурткоў.

### Гарачыя будні

Інакш і не назавеш тую хвалю шырокага культурнага будаўніцтва, якая ахапіла моладзь усіх куткоў рэспублікі. Адначасова з абмеркаваннем планаў камітэты камсамола стварылі камсамольска-маладзёжныя будаўнічыя брыгады. Асабліва вялікі размах набыло будаўніцтва клубаў і хат-чытальняў у Гомельскай, Гродзенскай, Віцебскай і Магілёўскай абласцях.

Яшчэ год таму назад сумна было моладзі ў вёсцы Тартакі Баранавіцкага раёна. Тут не было ні клуба, ні бібліятэкі. Не было куды пайсці, не было дзе правесці свой вольны час.

Абмяркоўваючы пастанову абкома камсамола аб удзеле моладзі ў паходзе за культуру, камсамольцы вырашылі пабудаваць клуб, адкрыць бібліятэку, абсталяваць кінаўстаноўку, электрыфікаваць вёску, стварыць гурток мастацкай самадзейнасці. Словы камсамольцаў не разышліся са справамі.

Загляніце цяпер у Тартакі. Жыццё там крынічыць. У новым клубе ёсць багатая бібліятэка, рэгулярна дэманструюцца кінафільмы, у хатах калгаснікаў гарыць электрычнасць. На самадзейнай сцэне спявае свой хор, выступаюць свае чытальнікі, танцоры. Але моладзь лічыць, што гэта яшчэ толькі пачатак вялікай работы па стварэнню сапраўднай культуры быту на вёсцы. Увесну з новай сілай забурліць работа ў калгасе «40 год Кастрычніка».

Распрацаваўшы на сваім сходзе двухгадовы план культурнага будаўніцтва, камсамольцы калгаса «III з'езд Саветаў» Кіраўскага раёна дабіліся яго зацверджання на праўленні і адразу ж стварылі камсамольска-маладзёжную будаўнічую брыгаду. Яе ўзначаліла камсамолка Таіса Камар. Пакуль брыгада выконвала земляныя работы па закладцы фундамента для дома культуры, маладыя калгаснікі Аляксандр Камар і Мікалай Булах вучыліся ў Магілёве на курсах муляроў. Вярнуўшыся, яны навучылі гэтай справе іншых хлопцаў і дзяўчат і разам працавалі, не ведаючы стомы.



Цяпер у калгасе «III з'езд Саветаў» узвышаецца прасторны двухпавярховы дом культуры. На яго будаўніцтве камсамольцы сэканомілі больш 500 тысяч рублёў. Члены камсамольска-маладзёжнай будаўнічай брыгады ўзнагароджаны пахвальнымі лістамі райкома камсамола, Міністэрства культуры БССР прысудзіла калгасу грашовую прэмію за поспехі ў культурным будаўніцтве.

Толькі за першы год двухгодкі культуры ў Кіраўскім раёне пабудавана 10 калгасных клубаў і дамоў культуры. Гэта — справа рук моладзі.

Пры актыўным удзеле моладзі пабудаваны добрыя клубы ў калгасах імя Энгельса, «Чырвоны сцяг», імя Горкага, у саўгасах «Лоеўскі», «Дняпроўскі» Лоеўскага раёна. Многія культасветустановы капітальна адрамантаваны. У раёне пры дапамозе моладзі пабудавана больш 25 кінабудак пры клубах, шмат танцавальных і спартыўных пляцовак.

Камсамольцы і моладзь Быхаўскага раёна аказалі грамадскасці вялікую дапамогу ў будаўніцтве 78 школ. У 19 школах абсталяваны вытворчыя майстэрні. На будаўніцтве сярэдняй школы ў саўгасе імя Леніна працавалі чатыры камсамольскія брыгады. Рукамі маладых будаўнікоў былі ўзведзены школы ў калгасах імя Горкага і імя Дзяржынскага.

Быхаўскія камсамольцы пабудавалі 4 стадыёны, 20 баскетбольных пляцовак, 3 спартыўныя залы, каля 160 прасцейшых спартыўных пляцовак.

Актыўны ўдзел у будаўніцтве спартыўных пляцовак прымае моладзь Свіслацкага, Зельвенскага, Добрушскага, Тураўскага, Слонімскага і многіх іншых раёнаў. Напрыклад, у Берастовіцах леташняй восенню збудавалі адкрыты водны басейн. У Гродна заканчваецца будаўніцтва стадыёна на 15 тысяч месц.

Папярэднія вынікі двухгодкі культуры паказваюць, што многія юнакі і дзяўчаты рэспублікі добра папрацавалі. Менш чым за два гады пабудавана 808 калгасных клубаў і 35 іншых культасветустаноў, 1 897 кінабудак, больш 7 тысяч спартыўных пляцовак, з іх некалькі дзесяткаў стадыёнаў і футбольных палёў, абсталявана каля 1 700 чырвоных куткоў. Неўзабаве будзе збудавана яшчэ больш пяцісот клубаў, кінатэатраў і бібліятэк.

### Быт — не прыватная справа

Адна добрая справа нараджае другую, яшчэ больш цудоўную. Камсамольцы калгаса «За Радзіму» Пастаўскага раёна заявілі, што мала пабудаваць добры клуб, чырвоны куток ці спортпляцоўку. Трэба яшчэ здолець цікава арганізаваць культурны адпачынак моладзі. «Мы абяцаем навесці ідэальны парадак у сябе ў хаце, на двары, у сваім родным калгасе, брыгадзе, школе. Няхай і сярод вас не будзе абыякавых у гэтай вялікай і высакароднай справе», — пісалі камсамольцы ў сваім звароце.

Па закліку пастаўцаў у большасці раёнаў моладзь узялася за рамонт дарог, тратуараў, вуліц, мастоў, разгарнула будаўніцтва лазняў, бетаніраваных калодзежаў, вадаёмаў. Пасаджаны новыя сады, азеляніны вуліцы і дарогі, насаджаны новыя скверы і паркі.

У многіх камсамольскіх арганізацыях створаны пасты і дружыны па барацьбе за захаванне правіл санітарыі і гігіены на прадпрыемствах грамадскага харчавання і гандлю, у дварах і жылых дамах.

У масавых нядзельніках за навядзенне чысціні і парадку прынялі ўдзел дзесяткі тысяч юнакоў і дзяўчат. Неяк увосень у Пліскім раёне прайшоў масавы агульнараённы нядзельнік, у якім удзельнічалі не толькі камсамольцы, але і пажылыя людзі. За дзень было пасаджана больш 5 тысяч дрэў і кустарнікаў, прыведзены ў парадак клубы і хаты-чытальні, адрамантаваны і пафарбаваны платы каля грамадскіх будынкаў і сядзіб калгаснікаў; пабудаваны 3 танцпляцоўкі, 8 спартыўных гарадкоў, ачышчаны ад смецця і гразі двары і вуліцы.

У трэцяй паляводчай брыгадзе калгаса «17 верасня» маладыя калгаснікі заклалі сквер, зрабілі і расставілі на ім лаўкі.

На Бабруйшчыне праведзены «Дзень лесу». Разам з камсамольцамі на пасадку дрэў выйшлі і піянеры. За гэты дзень было пасаджана каля 139 гектараў лесу, 55 гектараў лесу было ачышчана ад смецця, 18 тысяч пладовых і дэкаратыўных дрэў пасаджана каля грамадскіх будынкаў, жывёлагадоўчых ферма́ў, уздоўж дарог і вуліц. Асабліва вызначыліся тады камсамольцы і піянеры Даманаўскай сярэдняй школы.

У Шаркоўшчынскім, Ашмянскім, Браслаўскім, Пастаўскім і іншых раёнах створаны камсамольскія штабы па кіраўніцтву паходам за культуру быту. Тут сістэматычна арганізоўваюцца камсамольскія рэйды.

Камсамольцы Столінскага раёна за апошні час правялі чатыры грамадскія рэйды па праверцы чысціні ў хатах, затым абмяркоўвалі вынікі на

сходах, крытыкавалі ў сатырычных газетах і бюлетэнях. Цяпер можна бачыць чысціню і парадак у вясковых хатах і дварах.

У Ашмянскім, Міёрскім і іншых раёнах створаны і працуюць спецыяльныя агіткультбрыгады. Адзіндва разы на тыдні яны выязджаюць у калгасы са спецыяльнымі праграмамі. Перад тэматычнымі канцэртамі праводзяцца гутаркі: «Які павінен быць чалавек камуністычнага грамадства», «Дом, у якім я жыву», «Што павінна ведаць маладая гаспадыня», «Аб шкодзе алкаголю» і іншыя.

У многіх камсамольскіх арганізацыях Віцебскай, Брэсцкай, Гродзенскай абласцей становяцца традыцыйнымі вечары маладажонаў, маладой маці і гаспадыні, тэматычныя вечары «Не праходзьце міма», «Быт — не прыватная справа», «Аб цяжкіх і лёгкіх дарогах у жыцці», «Ці гатовы ты жыць пры камунізме».

Цяжка пераацаніць тую вялікую і плённую работу па барацьбе за здаровы і культурны быт, якую праводзяць камсамольскія арганізацыі, якія падтрымліваюць пачын пастаўцаў.

Рукамі моладзі пасаджана за два гады больш двух мільёнаў дрэў, сотні гектараў пладовых садоў, разбіта каля двухсот паркаў і сквераў, адрамантаваны дзесяткі мастоў, многія сотні кіламетраў вуліц і дарог, электрыфікавана і радыёфікавана тысячы дамоў калгаснікаў.

### У пошуках новага

Цікава тое, што новыя формы выхаваўчай работы паспяхова выкарыстоўваюцца сёння камсамольскімі камітэтамі ўсіх звенняў ад абкома да пярвічнай арганізацыі. Да ўдзелу ў іх прыцягваецца шырокі камсамольскі актыў, старыя бальшавікі, ветэраны вайны і працы, перадавікі прамысловасці і сельскай гаспадаркі, ударнікі і члены брыгад камуністычнай працы.

Цікавы вечар, напрыклад, адбыўся ў калгасе імя Янкі Купалы Маладзечанскага раёна на тэму «Працоўныя былой Заходняй Беларусі ў барацьбе за савецкую ўладу». Першай на вечары выступіла загадчыца Палачанскай сельскай бібліятэкі Філіпава. Яна расказала аб цяжкім паднявольным жыцці працоўных Маладзечаншчыны пры панскай Польшчы. Затым удзельнікі вечара на яркіх, пераканаўчых прыкладах паказалі тыя велізарныя змены, якія адбыліся ў заходніх абласцях і ў тым ліку ў вёсцы Палачаны, пасля ўз'яднання. Адна з першых палачанскіх камсамолак-падпольшчыц Ніна Леган расказала аб рэвалюцыйнай барацьбе моладзі, пра герояў-землякоў камсамольцаў Генадзія Паўлоўскага і Івана Легана, закатаваных гітлераўцамі ў 1941 годзе за актыўную антыфашысцкую дзейнасць і сувязь з партызанамі.

Пераканаўчым і яркім было выступленне дачкі былога батрака Клімашэўскай, якая працуе цяпер звеннявой па ільну і завочна займаецца ў сельскагаспадарчым інстытуце. У заключэнне вечара выступіў адзін з актыўных падпольшчыкаў і змагароў за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне працоўных Заходняй Беларусі С. Прытыцкі.

Рашэнні гістарычнага XXI з'езда КПСС, XIII з'езда ВЛКСМ выклікалі ў моладзі новую магутную хвалю творчасці, ініцыятывы і самадзейнасці. Камсамольскія арганізацыі правялі велізарную работу не толькі па мабілізацыі юнакоў і дзяўчат на выкананне вытворчых заданняў, але і паклапаціліся аб арганізацыі культурнага адпачынку, духоўным росце моладзі.

Вялікае прызнанне ў юнакоў і дзяўчат атрымалі камсамольска-маладзёжныя клубы. Яны сталі сапраўднымі штабамі па арганізацыі культурнага адпачынку моладзі. Сёння ў рэспубліцы дзейнічае больш 50 такіх клубаў. Гэта «Камсамольскі аганёк» і «Клуб цікавых сустрэч» — у Гомелі, «Клуб інтэрнацыянальнай дружбы» і «Клуб дзяўчат» — у Гродна, «Спадарожнік» — у Віцебску, «Цэнтральны камсамольскі» — у Мінску. Клубы будуюць сваю работу на аснове шырокай самадзейнасці.

У многіх клубах цікава праходзяць вечары і сустрэчы на тэмы: «Майстры мастацтва ў майстроў вытворчасці», «Мы народжаны, каб казку зрабіць явай», «Камунізм — гэта маладосць свету і будаваць яго маладым», «У камуністычных брыгадах мы ідзём да камунізма». Іх удзельнікі — ударнікі і члены брыгад камуністычнай працы, маладыя рабочыя і старыя бальшавікі, студэнты, перадавікі вытворчасці, вядомыя пісьменнікі, кампазітары, артысты.

Імкненне моладзі да ведаў, да вялікай культуры выклікала да жыцця яшчэ адну новую цудоўную форму выхаваўчай работы сярод юнакоў і дзяўчат — універсітэты культуры. Цяпер у 106 універсітэтах культуры займаецца больш 35 тысяч чалавек.

Трэці год працуе ўніверсітэт культуры ў Віцебску. На 550 месц, які мае ўніверсітэт, было пададзена больш 800 заяў. Заняткі ва ўніверсітэце праводзяцца два разы ў месяц па 4 гадзіны. Лекцыі аб мастацтве і частка лекцый па літаратуры суправаджаюцца канцэртамі, паказам кінафільмаў і сцэн са спектакляў.

Ва ўніверсітэце выступае таксама самадзейны сімфанічны аркестр гарадскога Дома культуры. Ёсць радыёла і вялікі набор пласцінак з лепшымі творамі айчыннай і замежнай музыкі. Для чытання лекцый запрашаюцца лепшыя педагогі музычнага і мастацка-графічнага вучылішча, высокакваліфікаваныя выкладчыкі літаратуры, рэжысёры мясцовага тэатра. Шмат лекцый і гутарак правялі дзеячы культуры, што прыязджалі з Масквы, Мінска і Ленінграда.

Ужо два гады, як пачалі стварацца ўніверсітэты культуры на вёсцы. Мсціслаўскі народны ўніверсітэт Гродзенскай вобласці наведваюць каля 100 чалавек маладых рабочых і служачых саўгаса «Гнёздна». Асаблівасцю гэтага ўніверсітэта з'яўляецца яго шырокі профіль.

У Рэчыцкім універсітэце, напрыклад, нядаўна ўведзен новы цыкл лекцый на тэму: «Жыць, працаваць і вучыцца па-камуністычнаму». Сёлета пры ўніверсітэце адкрыўся новы факультэт перадавога вопыту і рацыяналізацыі, які ставіць сваёй задачай вывучэнне перадавой тэхналогіі мэблевай вытворчасці, разгортванне рацыяналізацыі і вынаходніцтва, азнаямленне слухачоў з дасягненнямі айчыннай навукі і тэхнікі.

За час двухгодкі культуры далейшае развіццё атрымала мастацкая самадзейнасць, павысілася выканаўчае майстэрства, палепшыўся і пашырыўся рэпертуар самадзейных выканаўчых калектываў. Значна ўмацаваліся сувязі камсамольскіх арганізацый з творчай моладдзю.

### Зноў у дарогу!

Двухгодка культуры была добрым пачаткам вялікай і карыснай работы. Але было б няправільна сцвярджаць, што ўжо ўсё зроблена. Ёсць яшчэ, на жаль, нямала вёсак, дзе не створаны нармальныя ўмовы для асветнай работы і культурнага адпачынку юнакоў і дзяўчат. Не перавяліся ў нас яшчэ і аматары пагуляць у ініцыятыўную шуміху, пусціць пыл у вочы, выступіць са зваротам, а затым — схавацца ў кусты.

Ініцыятарамі паходу за культуру на Брэсчыне выступілі таварышы з Высокаўскага раёна. Шуму было нямала. А надышоў час падвесці вынікі — і лічыць няма чаго: ні новых клубаў, ні паркаў, ні сквераў. У многіх населеных пунктах ужо на працягу некалькіх год не дэманстравалася кіно. Спыніла сваю работу рэдкалегія раённай сатырычнай газеты. Не прывіліся ў раёне ні вусныя часопісы, ні дыспуты, ні тэматычныя вечары... Нават лекцыі і даклады па пытаннях літаратуры, мастацтва, музыкі наладжваюцца рэдка. Не павялічылася ў раёне і колькасць калектываў мастацкай самадзейнасці.

Не выканалі сваіх абавязацельстваў многія камсамольскія арганізацыі Драгічанскага, Давыд-Гарадоцкага, Маларыцкага, Бешанковіцкага, Лёзненскага і некаторых іншых раёнаў.

Няправільна было б вінаваціць за гэта толькі камсамольскія арганізацыі. Справа ў тым, што многія кіраўнікі калгасаў і саўгасаў да гэтага часу не могуць зразумець і правільна ацаніць ролю культурнага росту рабочых і калгаснікаў. Яны абыякава адносяцца да просьбаў і патрабаванняў моладзі і не лічаць будаўніцтва новых ачагоў культуры сваёй кроўнай справай.

Яшчэ і цяпер нямала клубаў і бібліятэк размешчана ў непрыстасаваных памяшканнях і прыватных хатах, у іх няма самага неабходнага абсталявання, культінвентару, музычных інструментаў. Сотні сельскіх культурна-асветных устаноў не маюць глядзельных залаў, памяшканняў для заняткаў гурткоў мастацкай самадзейнасці. Будаўніцтва многіх клубаў і палацаў культуры ў вёсках вядзецца па выпадковых праектах або зусім без іх. Не заўсёды ўлічваюцца пры вызначэнні будоўлі перспектывы развіцця калгаса. У многіх калгасах яшчэ няма бібліятэк.

Усё гэта гаворыць за тое, што нам належыць яшчэ многа зрабіць. Вось чаму ўсялякай падтрымкі і распаўсюджання заслугоўвае ініцыятыва камсамольцаў калгаса імя Калініна Рагачоўскага раёна, якія ўзяліся сваімі сіламі абслугоўваць чатыры клубы, размешчаныя на тэрыторыі калгаса. Раней на абслугоўванне чатырох клубаў і трох бібліятэк затрачвалася каля 3 000 рублёў і 1 000 працадзён у год. Камсамольцы вырашылі прыбіраць памяшканні, а таксама сачыць за чысцінёй і парадкам у клубах і бібліятэках самім, а сэканомленыя сродкі выкарыстоўваць на набыццё неабходнага культ- і спортінвентару.

Пачын калінінцаў знайшоў падтрымку ў многіх калгасах і саўгасах Гомельшчыны. І гэта яшчэ адзін прыклад росту камуністычнай свядомасці нашых юнакоў і дзяўчат, іх гаспадарскіх адносін да справы.

Задача цяпер заключаецца ў тым, каб памагчы актывістам культурна-масавай работы атрымаць належную падрыхтоўку, прыцягнуць іх да ак-

тыўнай работы ў самадзейных калектывах. У гэтай важнай справе ў нас у рэспубліцы ёсць добры вопыт. Але не дрэнна было б запазычыць сёетое, скажам, у Наўгародскай вобласці, дзе распрацаваны сямігадовыя планы падрыхтоўкі кадраў для ўстаноў культуры ў сярэдніх агульнаадукацыйных школах з вытворчым навучаннем. Бадай было б не дрэнна адкрыць пры музычных школах і вучылішчах вячэрнія аддзяленні, арганізаваць на грамадскіх пачатках завочныя і вячэрнія ўніверсітэты па падрыхтоўцы кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці. Трэба смялей запрашаць для работы ў іх мясцовых артыстаў, музыкаў, нашу творчую моладзь. На наш погляд, вельмі важна, каб вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы прадумалі сістэму прывіцця нашым студэнтам навыкаў грамадскай работы.

Падвядзенне вынікаў двухгадовага паходу за культуру супала з пачаткам усесаюзнага паходу камсамола за веды, абвешчанага VI пленумам ЦК ВЛКСМ. Юнакі і дзяўчаты актыўна ўключыліся ў гэты паход.

У рэспубліцы ўжо створаны і працуюць сотні камсамольска-маладзёжных школ перадавога вопыту, дзесяткі факультэтаў навукі і тэхнікі пры ўніверсітэтах культуры, пачалі працаваць тэхнічныя лекторыі і кіналекторыі. Ствараюцца гурткі моладзі па інтарэсах: аматараў тэхнікі, кіно, тэатра, паэзіі і інш. Яшчэ ў мінулым годзе пачалі працаваць камсамольскія штабы тэхнічнага прагрэсу на Віцебскім заводзе заточных станкоў, на «Гомсельмашы», Мінскім аўтазаводзе, «саветы маладых спецыялістаў», «Клубы тэхнікі», «Тэхнічныя бюро» — на прадпрыемствах Брэста, Гомеля, Маладзечна і іншых гарадоў.

Усесаюзны паход камсамола за веды супаў у нашай рэспубліцы з падрыхтоўкай моладзі да свайго слаўнага свята — 40-гадовага юбілею Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі.

У гонар саракагоддзя камітэты камсамола аб'яўляюць працоўныя вахты, шырэй пачалі праводзіцца рэйды «лёгкай кавалерыі» па праверцы ўдзелу камсамольскіх арганізацый у эканоміі металу, электраэнергіі, у разумным выкарыстанні абсталявання і машын на прамысловых прадпрыемствах, транспарце, будоўлях, а таксама сельскагаспадарчай тэхнікі ў калгасах і саўгасах.

Камітэты камсамола праводзяць вялікую падрыхтоўчую работу, звязаную з закладкай новых садоў і сквераў, азеляненнем нашых гарадоў і вёсак, дарог і магістралей, будаўніцтвам клубаў, дамоў культуры, кінатэатраў, рыхтуюцца масавыя турыстычныя паходы камсамольцаў і моладзі па месцах баёў беларускіх партызан у гады грамадзянскай і Вялікай Айчыннай вайны.

Многія камсамольскія арганізацыі ў дні святкавання 40-годдзя ЛКСМБ установяць памятныя дошкі, адкрыюць помнікі выхаванцам камсамола, якія загінулі ў баях за Радзіму.

Ёсць надзея на тое, што, ідучы насустрач свайму 40-гадоваму юбілею, камсамольцы рэспублікі, выконваючы рашэнні XXIV з'езда КПБ і XXI з'езда ЛКСМБ, унясуць дастойны ўклад у далейшае развіццё народнай гаспадаркі і культуры, яшчэ больш актывізуюць сваю работу па камуністычнаму выхаванню падрастаючага пакалення, мабілізацыі юнакоў і дзяўчат на датэрміновае выкананне планаў велічнай сямігодкі.

**А. ПЕТРАШКЕВІЧ,**
**намеснік загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК ЛКСМБ.**

## *Навука - праца - чалавек*



**Кандыдат сельскагаспадарчых навук Тамара Ніканндраўна Кулакоўская.**

# ХІМІЯ КРОЧЫЦЬ НА ПАЛІ

*Нашы інтэрв'ю*

Калі, мінуўшы заходнюю ўскраіну Мінска, перасекчы ўзгоркавыя палі і невялікую рэчку і ўзняцца па крутым схіле насустрач старым елкам і ліпам, вы трапіце ў невялікі пасёлак Курасоўшчыну. Тут узвышаюцца шматпавярховыя мураваныя будынкі, частка якіх яшчэ не дабудавана. Гэта — Беларуская акадэмія сельскагаспадарчых навук. Сюды сыходзіцца мноства нябачных ніцяў, якія звязваюць сэрца беларускай сельскагаспадарчай навукі з саўгасамі і калгасамі, з асобнымі даследчыкамі ва ўсіх кутках рэспублікі. Навука не замыкаецца больш у цішы гарадскіх кабінетаў, не абапіраецца толькі на лабараторны эксперымент. Полем яе дзейнасці стала цяпер уся рэспубліка. Аб'яднаўшыся з практыкамі, вучоныя ўсё больш паспяхова вырашаюць надзённыя пытанні сельскагаспадарчай навукі, заглядваюць у будучыню. Расчышчаючы шлях наватарскай думцы, вучоныя ствараюць навуковыя асновы для далейшага яшчэ больш крутога ўздыму сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, як таго патрабуе па-

станова снежаньскага Пленума ЦК КПСС.

У адным з карпусоў акадэміі размясціліся лабараторыі. Тут вядуцца дакладныя даследаванні, апрацоўваюцца вынікі шматлікіх палявых доследаў, абагульняюцца нагляданні, накопленыя даследчыкамі.

Мы наведалі аграхімічную лабараторыю інстытута глебы. Лабараторыяй кіруе кандыдат сельскагаспадарчых навук Тамара Нікандраўна Кулакоўская. Калектыў лабараторыі складаецца з васьмі чалавек, сем з іх — жанчыны. Шмат часу супрацоўнікі лабараторыі праводзяць непасрэдна ў полі. Іх ведаюць у многіх калгасах рэспублікі. Мы папрасілі кіраўніка лабараторыі расказаць аб рабоце беларускіх аграхімікаў.

— Аграхімікі, як прадстаўнікі аднаго з раздзелаў агранамічнай навукі, вывучаюць магчымасці кіравання ўрадлівасцю глебы. Паміж глебай, раслінамі і ўгнаеннямі, што ўносяцца ў глебу, існуюць вельмі складаныя ўзаемаадносіны. Не трэба быць вялікім спецыялістам сельскай гаспадаркі, каб уявіць сабе разнастайнасць глеб, living рознахарактарнасць раслін і мноства ўласцівасцей угнаенняў (арганічных і мінеральных). Як складаецца залежнасць паміж усімі гэтымі элементамі? Якія з мноства камбінацый найбольш спрыяльныя для развіцця раслін, для захавання станоўчых уласцівасцей глебы?.. З даследавання і вывучэння гэтых тэарэтычных пытанняў выцякае важны практычны вывад. Палявод атрымлівае магчымасць разумна кіраваць урадлівасцю глебы.

Як вядома, на тэрыторыі Беларусі цяпер праводзіцца дэталёвае глебавае картаванне. Складаюцца падрабязныя карты, на якіх паказваецца распаўсюджанне глеб, розных па саставу. Дадаткам да гэтага з'яўляюцца спецыяльныя картаграмы, якія змяшчаюць звесткі аб наяўнасці ў глебах асноўных спажыўных рэчываў — фосфару і калію, а таксама картаграма кіслотнасці. Мэтай калектыву нашай лабараторыі і з'яўляецца стварэнне практычных рэкамендацый для паляводаў. Мы хочам памагчы ім чытаць глебавую карту і вызначаць дозы мінеральных угнаенняў, маючы на ўвазе не ўрадлівасць глебы наогул, а патрабаванні пэўных раслін. Складанне такіх практычных рэкамендацый для ўсіх асноўных відаў глебы на тэрыторыі Беларусі будзе працягвацца тры гады.

На працягу першага года мы закончылі даследаванні на суглiністых глебах. Гэтыя глебы сустракаюцца ў нас найбольш часта. Мы ўстанавілі заканамернасць узаемаадносін паміж усімі ўласцівасцямі глеб. Нам удалося прасачыць за дзеяннем угнаенняў у залежнасці ад ступені кіслотнасці.

Кіслотнасць глебы можа быць названа ворагам угнаенняў. У шэрагу выпадкаў унясенне мінеральных угнаенняў павышае кіслотнасць і, такім чынам, не прыводзіць да павышэння ўраджайнасці. Распрацаваны практычныя рэкамендацыі па дазіроўцы вапны, якая ўносіцца ў глебу для барацьбы з кіслотнасцю. Прымяняльна да соляў Старобінскага месцанараджэння ўдалося зрабіць каштоўныя практычныя вывады: на многіх глебах гэтыя солі лепш прымяняць у неўзбагачаным выглядзе, але ў шэрагу выпадкаў гэта прывядзе да рэзкага зніжэння якасці глебы.

Вось чаму за ўласцівасцю глебы трэба сачыць рэгулярна. Без гэтага прымяненне мінеральных угнаенняў можа зрабіць не станоўчы, а адмоўны ўплыў. Дозы мінеральных угнаенняў раней рэкамендаваліся навукай, зыходзячы толькі з уліку патрабаванняў раслін, абапіраючыся толькі на іх уласцівасці. Цяпер удалося ўнесці важнае ўдакладненне: дозы павінны мяняцца ў залежнасці і ад таго, што гавораць картаграмы пра прысутнасць фосфару, калію і г. д. Рэгуляваннем доз мінеральных угнаенняў, вапнаваннем глебы і ўнясеннем арганічных угнаенняў аграном можа цяпер дабіцца кіравання ўрадлівасцю. Устойлівасць ураджаяў цяпер у яго руках.

Мы пайшлі на шырокае выкарыстанне радыёактыўных ізатопаў, у прыватнасці радыёактыўнага фосфару. Нагляданне складаных працэсаў у глебах і ў раслінах пры дапамозе мечаных атамаў і дазволіла дабіцца высокага эфекту даследаванняў.

Распрацаваныя намі практычныя рэкамендацыі могуць прымяняцца не толькі ў Беларусі, але ва ўсіх раёнах з дзёрнава-падзолістымі глебамі нечарназёмнай зоны Савецкага Саюза. Імі змогуць карыстацца таксама і нашы замежныя сябры, у прыватнасці работнікі сельскай гаспадаркі Польшчы, з якімі ў лабараторыі ўжо ўстаноўлена сувязь. Мы падтрымліваем таксама кантакты з нашымі калегамі ў Чэхаславакіі і Венгрыі.

***Нашы інтэрв'ю***

# ЗНОЙДЗЕНАЕ ПРЫЗВАННЕ

Прасторны светлы цэх, усцяж застаўлены разнастайнымі станкамі. Яны грукочуць, кожны на свой лад. Але, зліваючыся, гэтыя гукі ствараюць суладную мелодыю. І здаецца, нейкі нябачны дырыжор умелай рукою кіруе своеасаблівым аркестрам.

Гэты дырыжор — рабочы калектыў. Людзі схіліўшыся над станкамі, уважліва сочаць за іх работай.

На адным з участкаў у два рады пасталі зубадаўбёжныя станкі. Між імі сюды-туды ходзіць невысокая дзяўчына ў чыстым, адпрасаваным халаціку. Яе рухі спакойныя, нетаропкія. Здаецца, кожны яе крок разлічаны.

Вось дзяўчына, схіліўшы галаву, на секунду спынілася, да нечага прыслухоўваецца і рашуча накіроўваецца да аднаго са станкоў. Звычным рухам спыняе агрэгат, здымае шасцярню, аглядае яе і кладзе на стус гатовых дэталей. Затым адной рукой бярэ новую пакоўку, а другой у гэты час правярае мацаванне аснасткі і інструменту. На ўсё гэта траціцца не больш хвіліны.

І станок зноў працуе, даўбяк угрызаецца ў метал, апрацоўваючы зубы наступнай шасцярні. Нейкі момант дзяўчына стаіць нерухома, услухоўваючыся ў музыку механізмаў. Потым, зноў гэтак жа спакойна і дакладна, рэгулюе струмень фрэзолу, які льецца на метал, вычышчае адтуліну, праз якую выцякае вадкасць, падыходзіць да другога станка, затрымліваецца крыху і крочыць да трэцяга, чацвёртага, пятага...

Дзяўчына раптам вяртаецца зноў да першага агрэгата. Закончыўшы апрацоўку дэталі, станок



**Ева Маркава раіцца з Верай Міхалюкевіч, як лепш апрацаваць шасцярню.**

прасігналіў, што працуе на халастым ходзе. Дзяўчына хуценька зняла шасцярню, паставіла новую пакоўку.

Дзяўчына магла і не спяшацца. Нічога не здарылася б ні са станком, ні з дэталлю. Агрэгаты, якія яна абслугоўвае, апрацаваную дэталь аўтаматычна адсоўваюць, але не спыняюць свайго руху, працуюць ухаластую.

Дзяўчына неадкладна паяўляецца ля таго станка, які заканчвае апрацоўку дэталі. Як гэта яна ўхітраецца, сказаць цяжка. Напэўна, гэта і ёсць тое майстэрства, якое даецца не адразу і не кожнаму.

Хто ж гэта дзяўчына, што так увішна ўпраўляецца ля грамады станкоў? Камсамолка Ева Маркава, фрэзероўшчыца. Яна працуе ў цэху задніх мастоў на дзевяці станках, на якіх апрацоўваюцца зубы шасцерняў трактара. Штодзённа на дошцы паказчыкаў супраць яе прозвішча з'яўляецца лічба «200». Гэта азначае, што за змену яна выконвае дзве нормы.

— У дзяўчыны залатыя рукі, — гаворыць пра Маркаву майстар участка Іван Міхайлавіч Слабыш. — Ёй першай у нашым цэху прысвоена званне ўдарніцы камуністычнай працы.

Тут жа майстар дадае:

— Такіх, як Маркава, у нас на трактарным не мала. Фрэзероўшчыцы Карусенка, Міхалюкевіч, Палякова таксама перавыконваюць нормы, даюць якасную прадукцыю. І ўсё ж Маркава абагнала іх, бо не спыняецца на дасягнутым. Узнімаецца ўгору, бы па лесвічцы, пераадольваючы ступеньку за ступенькай. Потым жа Маркава — актыўны грамадскі работнік, яна — прафгрупорг участка, член заводскага камітэта камсамола, член таварыскага суда.

Пакуль мы гутарылі з майстрам, стрэлка гадзінніка перайшла за лічбу «3». Набліжаўся канец змены.

Ева ачышчае і працірае станкі, прыбірае стружку.

На ўчастак прыйшла яе зменшчыца Алена Дзядзюля. Яшчэ здалёк спытала ў Евы, колькі сёння зроблена дэталей.

— 240, — пачула ў адказ.

— Гэта на 110 штук больш, чым па норме, — уздыхнула Алена. — А я ўчора дала толькі дзвесце дэталей.

— Нічога, — супакоіла сяброўку Ева. — Дагоніш і ты, абы жаданне.

— Што жаданне!.. — горача загаварыла Алена. — Мне хочацца цяпер не адстаць ад цябе. Я ж таксама спаборнічаю, хачу быць ударніцай камуністычнай працы.

Пачуўся гудок, які абвяшчаў пра пачатак змены. Ева раіць сяброўцы, каб яна не марудзіла з наладкай, бо на гэта трацяцца дарагія хвіліны. Потым, усміхнуўшыся, дадае:

— Было гэтак некалі і ў мяне...

Ева прыгадвае 1956 год, калі яна, скончыўшы дзесяцігодку, прыйшла на завод. На першым часе аж разгубілася, але хутка асвоілася. Праўда, у гэтым ёй памаглі сябры. Навучаць Еву ўзялася кваліфікаваная фрэзероўшчыца Вера Міхалюкевіч, якая тады працавала на шасці станках.



Пасля работы Еву Маркаву можна сустрэць на лыжах у заводскім парку.



Спачатку Ева працавала на адным, потым пачала на двух і крыху пазней перайшла на чатыры станкі. Праз два месяцы ў яе ўжо было шэсць станкоў, як і ў настаўніцы. Здавалася, усё зразумела, старалася, але выпрацоўкі такой, як Вера Мікалаеўна, не дамаглася.

Дзе прычына? Чаму ў яе выпрацоўка ніжэйшая, чым у іншых рабочых?

Таварышы гаварылі Еве, што яна шмат часу траціць на наладку станкоў. А як паскорыць яе? Ева пачала прыходзіць у цэх загадзя, да пачатку змены, заставалася пасля работы і глядзела, як працуюць другія. У хуткім часе яна пераканалася, што ўсё залежыць ад таго, як авалодаеш сакрэтам наладкі. Спрактыкаваныя рабочыя упраўляюцца за паўгадзіны, а ў навічкоў звычайна трацяцца паўтары, а іншы раз і дзве гадзіны. Потым жа час ідзе на замену інструменту, праверку аснасткі...

Назіраючы за работай перадавікоў, Ева старалася не прапускаць ніводнай дробязі, усё запомніць.

Неўзабаве і да Евы прыйшла працоўная радасць. Калі напярэдадні XXI з'езда КПСС у нашай краіне нарадзіўся выдатны рух сучаснасці — спаборніцтва за званне брыгад і ўдарнікаў камуністычнай працы, камсамолка Ева Маркава смела заявіла:

— Магу перайсці на абслугоўванне 10 станкоў!

Свае слова камсамолка падмацавала справай. Ёй адразу далі дзесяць станкоў. Потым неяк захварэла былая яе настаўніца Вера Міхалюкевіч і Еве давялося працаваць на 13 станках.

Ева навучылася браць ад машын тое, што яны могуць даваць. І свой сакрэт, свой вопыт перадае сяброўцы-зменшчыцы Алене Дзядзюля і ўсім тым, хто сёння займаецца ў заводскім інстытуце перадавых метадаў працы, дзе Ева Маркава выступае як выкладчык-інструктар.

Па прыкладу рабочых-наватараў фрэзероўшчыца Ева Маркава вывучыла некалькі новых станкоў і навучылася кіраваць імі. Яна сама робіць дробны рамонт і на гэтым таксама эканоміць час. Заўсёды, калі спатрэбіцца, яна можа замяніць таварыша.



**Ніводнае спаборніцтва па шахматах на заводзе не праходзіць без удзелу Евы Маркавай.**

Фота К. Незаметдзінава.

..Закончан яшчэ адзін працоўны дзень. У гурце маладых, энергічных хлопцаў і дзяўчат Ева выходзіць з прахадной і кіруецца да трамвайнага прыпынку. Хлопцы прапануюць ёй прайсціся разам, прагуляцца, але Ева адмаўляецца і паказвае на скрутак паперы ў руках. На ўчастку вырашылі выпускаць сваю насценную газету, але выявілася, што няма каму загаловак намаляваць. Ева ўспомніла пра свае поспехі па маляванню ў школе і згадзілася.

Дамовіўшыся заўтра разам з сябрамі пайсці ў тэатр, Ева заспяшалася дамоў. У дарозе думкі не давалі спакою. Ці правільна яна зрабіла? А магла б пагуляць, павесяліцца. Мажліва, праўда тых, што гавораць: Ева занадта захапляецца грамадскімі справамі, працай, забываючы пра свае, асабістае. Не, не можа яна пагадзіцца з такімі разважаннямі. Хіба работа — не яе асабістае?!

Для Евы не існуе такой мяжы, якая аддзяляла б яе асабістае жыццё ад грамадскага абавязку, ад грамадскіх турбот. Дзяўчына не любіць бавіць час попусту, без пэўнага занятку, і яна з сябрамі бывае ў кіно, у тэатрах, у музеях, захапляецца спортам, шмат чытае...

У роздуме Ева не заўважыла, як прыехала дадому. Неўзабаве ў яе руках былі аловак і фарбы. Як

даўно Ева не малявала! А некалі яе малюнкі былі на ўсіх школьных выстаўках, а адзін — нават трапіў на сусветную выстаўку вучнёўскіх работ. На сцяне — партрэт маці, яго Ева намалявала, калі яшчэ вучылася ў школе.

Пасля школы Ева спрабавала паступіць у політэхнічны інстытут. І трэба ж было так здарыцца, што на іспытах правалілася якраз па маляванню.

Цяпер Ева не шкадуе, што назаўсёды звязала свой лёс з вытворчасцю. А што далей?

— Калі моцна захочаш у інстытут, — сур'ёзна гаворыць камсамолка Маркава, — то самая прамая дарога туды — праз завод.

Такі шлях і выбрала яна.

**Б. ГАРЭЛІК.**

# ПОДЫХ ЖЫЦЦЯ

Варта зайсці ў адзін з інтэрнатаў, дзе жывуць першакурснікі Беларускага політэхнічнага інстытута, як вы пачуеце ледзь улоўны пах жалеза і машыннага масла. І ідзе ён ад рабочых камбінезонаў, якія вісяць побач са святочнымі студэнцкімі касцюмамі.

Варта глянуць пад студэнцкія ложкі, як побач з туфлямі і чаравікамі ўсіх фасонаў і памераў вы ўбачыце важкія «спецчаравікі» са слядамі таго ж масла і сталёвага пілавіння.

Памеркаваўшы і, як кажуць, падлічыўшы свае магчымасці, камендант інтэрната мог бы што-небудзь прыдумаць, каб рабочае адзенне студэнтаў захоўвалася асобна ад святочнага. Але, мабыць, не паспеў яшчэ ён прызвычаіцца да таго новага, што прыйшло ў студэнцкае жыццё. Ды, урэшце, гэта справа дзесятая, і факт застаецца фактам: у самым пачатку сямігодкі жыццё ўвайшло ў вышэйшую школу з вытворчым подыхам.

Мы прыслухаліся да размовы, якая даносілася праз крыху адчыненыя дзверы.

— А ўсё ж, хлопцы, што ні кажыце, а як успомніш пра экзамен — мурашкі па спіне бегаюць.

— Што той экзамен — латарэя!..

— Лухта! Калі ведаеш — кожны білет шчаслівы.

І адразу пра іншае ўжо:

— Падыходзіць да мяне майстар, не вітаецца, глядзіць некуды ў бок і пытаецца са злосцю: «Зноў запароў?» Ну што ты яму адкажаш?! «Запароў, кажу, вінаваты, перараблю». «Мы што ж, сюды прыйшлі жарты строіць ці працаваць? Дэталь жа грошы каштуе!.. Тут завод, а не дзіцячы сад». А якія там жарты! У самога на сэрцы шкрабе.



Студэнт факультэта машынабудавання А. Цішук на Мінскім трактарным заводзе набыў спецыяльнасць токара.
Фота С. Чырэшкіна.

Нехта ўздыхнуў:

— Цяжкавата ўсё ж...

Пасыпаліся кпіны:

— А ты маці паскардзіся...

— Або на вёску дзядулі Канстанціну Макарычу.

— Ну, добра, добра, хлопцы, таго, хто ляжыць, не б'юць.

— Гэта я ляжу?..

— А хто ж!..

— Я?!.

Шумная, крыху бязладная гаворка. І ў размове гэтай ужо дыферэнцыялы і інтэгралы, формулы малекулярнай фізікі і іншая мудрасць побач са спрэчкамі аб геаметрыі разца, аб допусках і прыпусках, аб заработках і тарыфных сетках, са скаргамі на дрэнны рух трамваяў і словам ухвалы па адрасу цэхавай сталовай...

Так размаўляюць студэнты-рабочыя.

Хто яны такія?!

1045 чалавек прыняў летась на першы курс Беларускі політэхнічны інстытут. Большасць з іх — людзі з пэўным жыццёвым вопытам. Яны прыйшлі ў інстытут з заводскіх цэхаў і з калгасных ферм, з арміі і флоту. Гэта добра. Аднак ёсць і такія, хто адразу ж перасеў са школьнай парты за інстытуцкі стол. Як з імі быць? І што рабіць з тымі, хто прыйшоў у інстытут з арміі ці з вёскі і, нягледзячы на свой жыццёвы вопыт, не мае практыкі па выбранай спецыяльнасці?

Студэнт-першакурснік Фёдар Кішкун да паступлення ў інстытут працаваў у спажывецкай кааперацыі. Праца — патрэбная. Аднак якія адносіны мае, напрыклад, нарыхтоўка яек да канструявання станкоў-аўтаматаў? Яго таварышы Аляксандр Цішук, Адам Макаранка і Уладзімір Новікаў дэмабілізаваліся з арміі. Гэта былі выдатныя салдаты, але майстэрства поўзаць па-пластунску і трапляць у цэль з першага стрэлу зноў жа не мае дачынення да тэхналогіі машынабудавання. Аляксандр Лукашэвіч працаваў у калгасе і бачыў станкі толькі на малюнках. Андрэй Туркоўскі і Валеры Зарэцкі наогул учарашнія дзесяцікласнікі.



Добрай свідравальшчыцай стала першакурсніца Рэгіна Ігнатава.

Як жа быць? Практыка паказала, што тым інжынерам, якія пачыналі вучобу ў інстытуце адразу пасля дзесяцігодкі, прыходзіцца некаторы час «даспяваць», а то і перавучвацца на вытворчасці. І гэта цяжкі, часам пакутлівы працэс. Многія з нядаўніх выпускнікоў нават пужаліся станкоў і пачыналі вучыцца ў тых самых рабочых, якімі павінны былі кіраваць. Часам яны не ўмелі чытаць чарцяжы, не тыя, што так лёгка і проста кладуцца на чорны глянец класнай дошкі, а тыя замасленыя калькі і сінькі, з якіх нараджаюцца сапраўдныя станкі і машыны. Яны не ведалі і не разумелі жыцця простых рабочых. Некаторыя з іх так і не знайшлі свайго месца ў жыцці, засталіся «аранжарэйнымі», «цяплічнымі» інжынерамі.

Так, была практыка і раней. Але як мала могуць даць трыццаць шэсць гадзін работы на станку будучаму інжынеру! Гэта, як кажуць, шапачнае знаёмства, не больш. Станок заставаўся таямніцай, поўнай загадак і нечаканасцей. Надыходзіла працяглая пераддыпломная практыка, і студэнт — ужо без пяці хвілін інжынер — глядзеў на многія станкі, як на нешта незнаёмае.

У яго была адна задача: абараніць дыпломны праект, па якім, ён ведаў, ніколі і нічога не пабудуюць, не зробяць ніякай машыны. Дыпломнік бачыў толькі паперу, якая будзе пыліцца ў архіве, пакуль яе не спаляць.



**У цэху матораў трактарнага завода старшы майстар участка П. І. Ахрэмчык (злева) дае заданне студэнтам А. Лукашэвічу, А. Макаранку і В. Панасюку.**

І вось жыццё прад'явіла свае правы. Партыя наладзіла ўсенароднае абмеркаванне праектаў перабудовы падрыхтоўкі спецыялістаў, быў прынят новы закон аб вышэйшай школе.

У гэтым законе калектыў інстытута знайшоў адказ на пытанне, як быць з тымі студэнтамі, якія не маюць практыкі па спецыяльнасці.

Адказ быў зусім просты: стаць да вытокаў вытворчасці, з першых жа студэнцкіх дзён пайсці на вывучку да жыцця, зрабіць першакурснікаў на некаторы час рабочымі.

... Пачатак вучобы ў інстытуце Фёдар Кішкун уяўляў сабе па даўно выпрацаваных стандартах.



**Калектыўная думка памагае хутчэй рашыць самае складанае пытанне. А. Цішук, В. Зарэцкі, Ф. Кішкун і В. Новікаў рыхтуюць вучэбнае заданне.**

Залітыя промнямі сонечнага святла аўдыторыі. Прафесар з сівой барадой, паблісхваючы акулярамі, завіхаецца ля дошкі, даказваючы ім, студэнтам, тэарэмы вышэйшай матэматыкі.

Але ўсё атрымалася інакш.

Першага верасня Фёдар разам з групай таварышаў апынуўся не ў аўдыторыі, а ў аддзеле кадраў трактарнага завода.

— Студэнты? — з некаторым недаверам у голасе сказаў памочнік начальніка. — Цяжкавата будзе прыстроіць...

Толькі пасля яны зразумелі, што азначаюць гэтыя словы. Як людзей «часовых», іх неахвотна бралі — начальнікі цэхаў і яшчэ больш неахвотна — майстры і брыгадзіры. З гэтымі студэнтамі клопатаў не абярэшся. Калі ён студэнт, абавязкова трэба ставіць яго ў першую змену, пачнуцца экзамены — давай яму нечарговы адпачынак ды вучы, сачы ўвесь час, каб не нарабіў браку... А між тым — план застаецца планам.

Аляксандр Цішук расказвае:

— Паслалі нас у цэх задніх мастоў. Прыходзім, кадравік гаворыць: «Куды вас паставіць, не ведаю. Месц няма. Прыходзьце заўтра». А заўтра — тая ж гісторыя, паслязаўтра — зноў тое самае. Цеганіна. Бачым, справы дрэнь, прабіліся да начальніка цэха. Той, нарэшце, знайшоў і для нас месца.

Яшчэ цяжэй давялося Адаму Макаранку. На пачатку яму даручалі ўсялякія падсобныя работы — перакладваць дэталі, адносіць на пераробку брак, не пускалі да станка.

Мінула якіх пяць месяцаў, і цяпер для большасці студэнтаў усё гэта засталося ззаду. Яны ўжыліся,ураслі ў калектыў, заваявалі давер і павагу таварышаў па цэху.

Вось рабочая «кар'ера» Фёдара Кішкуна.

Пачаў ён вучнем токара ў цэху матораў. Прынялі добра. Майстар прымацаваў яго да вопытнага токара і сказаў: «Стой і глядзі, прывыкай да стружкі». Ужо на другі дзень Фёдар стаў да станка. І як узрадаваўся ён, калі майстар сказаў:

— Пойдзе справа. Як цябе завуць?

— Фёдар.

— Пойдзе справа, Фёдар.

Неўзабаве яго паставілі на лінію ўкладышаў. Гэта была ўжо самая сапраўдная работа, работа «на план», за якую плоцяць грошы і якую адзначаюць у зводках. І думка пра тое, што дэталі, якія ён робіць, трапяць у сапраўдныя трактары, напаўняла сэрца студэнта гонарам.

Вялікая справа — быць стваральнікам рэчаў, патрэбных народу! Усведамленне гэтага нібы падымае чалавека ў сваіх вачах і ў вачах таварышаў, кліча наперад, абуджае новыя сілы... Асабліва радуе яно маладога чалавека, студэнта, які доўга знаходзіцца на ўтрыманні народа, надоўга выключаецца з вытворчасці матэрыяльных каштоўнасцей. Не ва ўсіх хапае сіл на гэтую доўгую дыстанцыю. Некаторыя прывыкаюць глядзець на фізічную працу зверху ўніз, як на цяжкі і няўдзячны занятак. І ці не ў гэтым якраз — у адрыве ад жыцця заводаў і калгасаў — адна з галоўных прычын паяўлення так званых стыляг, маральных калек, людзей з вузкім светапоглядам.

Працягнем, аднак, рабочую біяграфію Фёдара Кішкуна. З лініі ўкладышаў яго перавялі на ўчастак поршняў. Гэта было рызыкоўнае рашэнне. Поршань — не ўкладыш, а дэталь больш адказная і каштоўная. Апрача таго, затрымка з адной аперацыяй азначала затрымку і спыненне ўсёй лініі. А праграма на поршнях — не жарты, за такі правал па галоўцы не пагладзяць.

Фёдару ўсё ж даверылі.

— Пад калектыўную адказнасць, — сказаў начальнік цэха.

Першы дзень прынёс непрыемнасці. Праз гадзіну пасля пачатку змены гара дэталей ля станка Фёдара была даволі ўнушальнай, задзел змяншаўся, і суседзі па лініі з хваляваннем сачылі за маладым токарам. Ім пагражаў прастой.

— Зарэжа і план і заробак, — падумаў брыгадзір.

Выратаваў абедзенны перапынак, Фёдар не пайшоў у сталовую і працягваў работу, каб накапіць



**Першакурснікі Ф. Кішкун і В. Зарэцкі на практычных занятках у лабараторыі неарганічнай хіміі.**

запас дэталей для таварышаў, каб не збіць з рытму ўвесь участак. Ён выстаяў да канца, дзённы план быў выратаваны. І хто ведае, можа іменна ў гэты дзень у маладога студэнта пачалося выхаванне якасцей, так патрэбных інжынеру — упартасць у дасягненні мэты, пачуццё адказнасці перад калектывам, самавалоданне, вера ў свае сілы...

Далёка не адразу наладзіліся справы. І ў цяжкія хвіліны Фёдар заўсёды адчуваў цвёрдую падтрымку — руку рабочага калектыву. Цяпер Фёдар Кішкун — токар пятага разраду, асвоіў работу на шасці станках, а заработак яго намнога перавышае звычайную студэнцкую стыпендыю.

Добра ідуць справы і ў яго сяброў. З вучняў яны сталі кваліфікаванымі слесарамі, токарамі, фрэзероўшчыкамі, кавалямі. «Рабочым класам» завуць іх у інстытуце. І яны ведаюць: у гэтых словах шмат цеплыні.

Гэты расказ аб студэнтах-рабочых быў бы далёка не поўны, калі не сказаць пра некаторыя «але».

Вось нарадзілася ў нашым жыцці новая з'ява — студэнты-рабочыя. Добра гэта ці дрэнна? Безумоўна, добра.

Аднак гэта новае, як і ўсё новае на свеце, сустракае перашкоды. Яго ўжо атакуюць. Чуваць галасы: «А ці правільна, каб студэнты-першакурснікі станавіліся сапраўдны-

мі рабочымі і толькі тры вечары на тыдзень займаліся тэорыяй? Ці не рана? Ці не лепш пасылаць іх на заводы з трэцяга курса, калі пачынаецца вывучэнне спецыяльных прадметаў?»

З гэтымі людзьмі варта паспрачацца.

Час зразумець, што паўнацэнным спецыялістам можа стаць толькі той студэнт, які прайшоў усе ступені вытворчасці. І гэтую вытворчую школу будучыя студэнты павінны прайсці іменна з самага пачатку вучобы. Да трэцяга курса яны стануць ужо зусім сталымі рабочымі. Чарцяжы і схемы напоўняцца для іх рэальным зместам, як для людзей, якія самі адчулі важкасць металу, яго пругкую, непакорную сілу.

Трэба ўзняць голас і супраць «спажывецкіх» адносін да студэнтаў на заводах, супраць погляду на іх, як на людзей часовых, што парушаюць рытм вытворчасці. Гэта горшы від бяскрыласці, няўмення і нежадання зазірнуць у заўтрашні дзень свайго ж завода. Хочацца сказаць камандзірам вытворчасці:

— Сённяшні дзень важны. Але трэба глядзець у заўтра. Сённяшнія студэнты — гэта заўтрашнія інжынеры. Трэба наблізіцца да іх, памагчы ім. Не замыкайце іх у вузкае кола адной станочнай аперацыі, шырэй адкрывайце перад імі скарбніцу свайго вытворчага вопыту. Гэта ж вашы будучыя калегі, ваша змена, якая заўтра панясе наперад сцяг савецкай індустрыі.

**Б. УСЦІНАЎ.**

# КАМУ ДАСТУПНА ВЫШЭЙШАЯ АДУКАЦЫЯ Ў ЗША

У Злучаных Штатах Амерыкі рэкламуюць усё — пачынаючы ад кніжак, у якіх даюцца парады, як прасты чалавек можа стаць мільянерам, і канчаючы паслабляльнымі пілюлямі навейшага вырабу. Але простыя амерыканцы пераканаліся: калі што-небудзь узмоцнена, назойліва прапануюць — будзь асцярожны, бо можа быць падлог. Гэтаму іх навучыла штодзённая рэчаіснасць «амерыканскага ладу жыцця».

На самай справе, яшчэ ўчора лічылася, што буйнейшая кампанія па вытворчасці маргарыну «Блу Банет маргэрын» выпускае гэты прадукт, дабаўляючы ў яго асобыя «пахучыя рэчывы», а сёння высветлілася, што гэта было грубае ашуканства... Яшчэ ўчора трэст «Алюмініум карпарэйшн оф Амерыка» пераконваў тэлегледачоў, што алюмініевая фальга лепшы абгортачны матэрыял, а сёння стала вядома, што гэта чысцейшай вады жульніцтва... Яшчэ ўчора кампанія «Кальгейт-Пальмаліў компані» сцвярджала, што з дапамогай яе пасты для галення тыпу «рэпід-шэйв» можна «пагаліць» наждачную паперу, а цяпер ашуканыя пакупнікі даведаліся, што гэта быў танны прыём, разлічаны на прастакоў... Учора кампанія «Пепсадэнт» праз сваю рэкламу крычала, што яе зубная паста выдаляе плямы, якія застаюцца на зубах ад цыгарэт, а сёння выявілася, што разам з плямамі паста знішчае і зубную эмаль... Аб усім гэтым паведаміла амерыканскай грамадскасці федэральная гандлёвая камісія ЗША.

Усё гэта міжвольна прыйшло на памяць, калі мы прачыталі ў адным з амерыканскіх выданняў такую смелую заяву журналісткі Шафер: «Амерыканская народная адукацыя — самая дэмакратычная ў свеце. Яна прадастаўляе кожнаму ў грамадстве роўныя магчымасці для атрымання ведаў...»(?!) Звернемся адразу да фактаў, узятых таксама з амерыканскіх крыніц.

У сучасны момант у ЗША ёсць 1 863 вышэйшыя навучальныя установы, з іх 1 201 прыватная і 662 «дзяржаўныя». У іх навучаецца 3,5 мільёна студэнтаў. Гэтыя навучальныя установы вельмі розныя. Ёсць велізарныя ўніверсітэты, накшталт Каліфарнійскага, дзе 72 тысячы студэнтаў, і ёсць, напрыклад, каледж Морлбора ў штаце Вермонт, дзе вучыцца ўсяго 30 студэнтаў.

У ЗША ёсць дзве катэгорыі вышэйшых навучальных устаноў. Першая катэгорыя — гэта прыватныя навучальныя ўстановы, якія існуюць на ахвяраванні буйных капіталістаў, за кошт капіталаўкладанняў дзяржавы і высокай платы, якая ўносіцца студэнтамі; да другой адносяцца так званыя «дзяржаўныя» каледжы і ўніверсітэты, якія фінансуюцца за кошт падаткаў, што плоцяць жыхары адпаведных штатаў.

Апрача таго, усяго толькі 1 200 з агульнага ліку з'яўляюцца навучальнымі ўстановамі з чатырохгадовым курсам, якія маюць права прысуджаць ступень. Астатнія — гэта так званыя «малодшыя каледжы», дзе курс навучання двухгадовы і дзе не даюць ніякіх ступеней.

Колькі ж каштуе навучанне амерыканскіх студэнтаў ва ўсіх гэтых навучальных установах? Міністр аховы здароўя, асветы і сацыяльнага забеспячэння ЗША Флемінг неяк гаварыў, што ў прыватных навучальных установах год прабывання ў ёй каштуе ў сярэднім 1 170 долараў для мужчын і 1 209 долараў для жанчын, не лічачы выдаткаў на падручнікі і

г. д. У «дзяржаўных» каледжах і ўніверсітэтах, паводле даных таго ж міністра, навучанне абыходзіцца кожнаму ў сярэднім каля 700 долараў у год. Выходзіць, што нават «дзяржаўная» вышэйшая адукацыя ў ЗША патрабуе ад таго, хто яе хоча набыць, шмат грошай.

У такіх буйных гарадах, як *Нью-Йорк і Лос-Анжэлас, ёсць жменька* каледжаў, дзе абучэнне лічыцца бясплатным. Але ж і гэтыя навучальныя ўстановы бяруць некаторую плату — за рэгістрацыю, за карыстанне лабараторыямі, за падручнікі. Ні адзін з гэтых гарадскіх каледжаў, якія фінансуюцца муніцыпалітэтамі, не забяспечвае сваіх навучэнцаў інтэрнатам.

Трэба сказаць, што ўсе гэтыя вышэйшыя навучальныя ўстановы не карыстаюцца асаблівай пашанай у ЗША. Можа таму і плата ў іх параўнальна меншая, чым у такіх «зарэкамендаваўшых» сябе ўніверсітэтах, як *Горвардскі*, *Уэльскі*, Прынстанскі, Калумбійскі. Адна з галоўных мэт «вядомых» універсітэтаў заключаецца ў падрыхтоўцы «выбраных» і ў забеспячэнні іх, як гаворыць часопіс «Ньюсуік», «неабходным пашпартам для поспеху, багацця і віднага месца ў грамадстве». Таму гэтыя ўніверсітэты і становяцца з кожным годам усё больш дарагімі.

Згодна справаздачы міністэрства асветы ЗША, плата за *абучэнне* ў прыватных вышэйшых навучальных установах узрасла за апошнія 10 год на 76 працэнтаў. Газета «Нью-Йорк джорнэл-Амерыкэн» пісала летась: «У 1949 *годзе* пасладь юнака на год у Калумбійскі ўніверсітэт каштавала 1 700 долараў. Цяпер гэта каштуе 2 555 долараў за год». Але і гэта яшчэ не ўсё. Міністр Флемінг прадказаў нядаўна павелічэнне кошту вышэйшай адукацыі ў бліжэйшыя чатыры гады яшчэ на адну трэцяю.

Каментыруючы існуючае становішча, амерыканская газета «Вашынгтон пост энд таймс геральд» пісала: «Рост платы за навучанне *ствapae небяспеку*, што ў каледжах будуць вучыцца толькі багатыя. Плата за вучобу ў каледжах расце хутчэй, чым кошт жыцця. Ствараецца пагроза, *што па гэтай прычыне вышэйшая* адукацыя стане недаступнай многім маладым амерыканцам».

Гэтая пагроза даўно ўжо стала рэальнасцю. У 1958—1959 навучальным годзе сярэднія школы ЗША закончылі 1 мільён 369 тысяч юнакоў і дзяўчат, з іх толькі адна трэцяя частка паступіла ў каледжы і ўніверсітэты. Амерыканскі прафсаюзны часопіс «Лейбарс эканомік рэв'ю», прыводзячы гэтую лічбу, указваў, што «кошт навучання ў каледжах дасягнуў такога ўзроўню, калі пераважная большасць сем'яў не можа дазволіць сабе даць сваім дзецям вышэйшую адукацыю».

Вядомы амерыканскі аўтарытэт у галіне ракет адмірал Рыковер скардзіўся, што «палавіна нашай моладзі, дастаткова здольнай, каб паступіць у *каледжы і ўніверсітэты, гэтага не ро*біць. На кожнага, хто канчае сярэднюю школу і нарэшце атрымлівае ступень доктара, прыпадае 25 другіх, якія здольны дасягнуць таго ж, але не робяць гэтага». Чаму ж? Рыковер не адважыўся сказаць праўду, якая заключаецца ў тым, што дзеці небагатых бацькоў не маюць сродкаў для аплаты вучобы ў вышэйшых навучальных установах.

Стыпендыі, якія выдаюцца *невялікай* колькасці студэнтаў, не мяняюць становішча. Памяркуйце самі. Як заявіў член палаты прадстаўнікоў кангрэсу ЗША ад штата Нью-Йорк *Тэлер*, у 1957 годзе стыпендыі атрымала ўсяго каля 228 тысяч студэнтаў, з іх каля 73 тысяч атрымалі яе ў мізэрным размеры — 125 долараў. Сярэдні ж размер стыпендыі складае паводле даных упраўлення асветы 277 долараў у год.

Ёсць, праўда, невялікая праслойка студэнтаў, якая атрымлівае параўнальна высокія стыпендыі — ад 600 долараў і нават вышэй. Яны трапляюць у рукі — *галоўным чы*нам членаў футбольных, бейсбольных і іншых спартыўных каманд. Кампаніі, якія фінансуюць той ці іншы ўніверсітэт, з дапамогай гэтых *студэнтаў-спартсменаў* выцягваюць велізарныя сумы з публікі, якая глядзіць спартыўныя спаборніцтвы. Газета «Нью-Йорк таймс» нядаўна прыводзіла заяву прэзідэнта Уэльскага ўніверсітэта Грысуолда, які сказаў, што «стыпендыі спартсменам з'яўляюцца адным з найвялікшых жульніцтваў у адносінах да амерыканскай моладзі. Гэтыя стыпендыі прызначаны не для навучання моладзі, а для забавы дарослых, не дзеля дабрабыту спартсмена, а для задавальнення гледача».

Пасля ўсяго гэтага не выклікае здзіўлення той факт, што большасць *студэнтаў вымушана шукаць «прыра*боток», каб прадоўжыць навучанне. Але і гэта часам мала памагае. Часопіс «Скул лайф» пісаў наконт гэтага: «Нават калі яны будуць працаваць поўны рабочы дзень на працягу лета і часткова ў час навучальнага года, многія студэнты каледжаў не забяспечаць сябе сродкамі. Калі ім не здолеюць памагчы сем'і, каледжы або хто-небудзь яшчэ, для іх застанецца адно — кінуць каледж. Гэта той выбар, які штогод робяць тысячы маладых людзей... Няма сумнення, што фінансавая нястача з'яўляецца адным з важнейшых фактараў таго, што яны кідаюць вучобу».

Дададзім да гэтага, што не ў меншай нястачы знаходзяцца і выкладчыкі многіх вышэйшых навучальных устаноў ЗША, асабліва калі яны ідуць у адстаўку. Выступаючы ў адной з сенацкіх падкамісій, прэзідэнт амерыканскай асацыяцыі адстаўных прафесароў Канстанцін Панунцыо заявіў: «Аб адстаўных прафесарах каледжаў клапоцяцца *менш*, чым аб армейскіх мулах. Калі армія ліквідавала свой транспарт на мулах, яна выпусціла апошніх у нацыянальныя запаведнікі, лясы і пустыні. Гэта значна лепш за тое, што даводзіцца перажываць многім з нашых прафесароў, якія выйшлі ў адстаўку. Ім даводзіцца есці адзін раз на дзень».

Вось якія «дэмакратызм» і «даступнасць» амерыканскай вышэйшай адукацыі! І тут гэтая «дэмакратыя» выглядае перш за ўсё, як «дэмакратыя долара» — у каго шмат долараў у кішэні, той, і толькі той, можа скончыць вышэйшую навучальную ўстанову ў ЗША. Што ж датычыць запэўненняў амерыканскай журналісткі Шафер аб тым, што «амерыканская народная адукацыя — *самая* дэмакратычная ў свеце», дык гэта адкрыта ілжывая рэклама накшталт той, з якой былі злоўлены амерыканскія гандлёвыя фірмы.

**Г. НАВІЦКІ.**

Уладзімір МЯЖЭВІЧ

# АДЗІН У ТАЙЗЕ

Мал. Ю. Сандгазіна.

Івана Сяргеевіча Жодзінава мы знайшлі на ўскрайку лесу. Ён сядзеў на пяньку і ўзіраўся ў разгорнуты на каленях блакнот. Адарваўшыся ад свайго занятку, Іван Сяргеевіч павітаўся з намі.

— Ведаю, мне маці казала, — заківаў ён галавою, як толькі даведаўся пра мэту нашага наведвання. — Зараз пакажу вам сваю гаспадарку.

Гэта быў невялікага росту, прысадзісты, шыракаплечы чалавек год пад трыццаць. З яго чорных жвавых вачэй струменілася бадзёрасць. Акінуўшы нас — двух журналістаў — хуткім позіркам, ён лёгка ўзняўся з пня і, крыху накульгваючы, накіраваўся ў лесагадавальнік. Ідучы, ціха прагаварыў:

— Дружок, сюды!

У тую ж хвіліну з кустоў выскачыў чорны сабака, у белых шкарпэтках і такой жа белай манішцы. Над вачыма і на ілбе ў яго блішчэлі прыгожыя жоўтыя плямы.

Неўзабаве ўвайшлі ў гадавальнік. Я ўжо быў тут неяк увосень. Маленькія, тоненькія дрэўцы, скінуўшы сваю напратку — шыпулькі, мелі тады даволі сумны выгляд. Пахмурны дзень, свінцовае неба ўзмацнялі ўражанне кволасці раслін. Цяпер яны падужэлі пад яркім веснавым сонцам.

— Вось гэта аднагадовая сібірская лістоўніца, — расказваў Іван Сяргеевіч. — Наступнай вясной мяркую засадзіць ёю яшчэ гектараў дзесяць лясных высечак. Сібірская госця ў нас, на Палессі, адчувае сябе добра. Сёння рабіў прамеры, і выходзіць, што прырост у нас яна дае не меншы, чым на радзіме — у Прыангар'і. На маю думку, яна ў нас, у лесаводстве, адыграе тую ж ролю, што кукуруза ў паляводстве.

Іван Сяргеевіч дастаў з кішэні блакнот, адгарнуў некалькі старонак.

— Ці ведаеце вы, што адзін гектар зямлі, заняты пад лес і сельскагаспадарчыя культуры, дае далёка не аднолькавыя вынікі? — запытаўся ён у нас. — Вось некаторыя лічбы. Калгасы ад збожжавых культур атрымліваюць у сорак разоў больш прыбытку, чым мы ад лесу. Калі ж зямля засяваецца тэхнічнымі культурамі, то розніца яшчэ большая.

Калгаснікі за апошнія гады падвоілі, а месцамі нават патроілі ўраджайнасць, а ў лясной гаспадарцы засталося ўсё, як было пры дзядах. Прырост драўніны ў год складае на гектары, у лепшым выпадку, два кубаметры. Вялізныя плошчы займае хмызняковая вольха ды каржакаватая самасейная бяроза. Хіба гэта лес? Лепш крапіву разводзіць — і то будзе болей карысці, чым з такога лесу!

— А дзе ж выхад?

— Выхад? — перапытаў Іван Сяргеевіч і горача прадаўжаў: — У лесе трэба паляпшаць гаспадаранне. Лясная глеба патрабуе мінеральных угнаенняў, а дрэвастой — пераглядy і ачысткі. Побач з таполяй і лістоўніца павінна заняць самае пачэснае месца. На нашай глебе яна можа расці да 40—45 метраў у вышыню. Адно дрэва можа даць 6—8 кубаметраў драўніны.

Лесавод загаварыў пра тое, як ён ездзіў у прыангарскую тайгу вывучаць умовы развіцця сібірскай лістоўніцы. Крыху пачакаўшы, мы нагадалі Івану Сяргеевічу, каб расказаў нам пра свае прыгоды ў тайзе. Спачатку адмоўчваўся, а потым усё ж згадзіўся. Дружок ляжаў каля яго ног і нібы таксама ўслухоўваўся ў тое, пра што расказваў гаспадар.

...Яшчэ была толькі палова верасня, а набліжэнне зімы ў тайзе ўжо адчувалася.

У той дзень, калі малады ляснічы адправіўся на абследаванне бору, надвор'е хутка псавалася. Над лесам ужо грымеў вецер, зрываў з дрэў лісце, напаўняючы наваколле трывожным шумам. Тужліва крычалі арэхаўкі, побач церлася і рыпела дрэва, а сухая лістоўніца вызвоньвала суччам, нібы жалезнымі ланцугамі. Усе гэтыя гукі зліваліся ў суцэльны шум, і ўжо не вецер, а бура стагнала над тайгой.

Зрабілася так цёмна, што на цыферблаце наручнага гадзінніка нават ўспыхнулі лічбы, нібы ноччу. А між тым ішла толькі чацвёртая гадзіна дня. Змрок гусцеў, і стала цяжка прадзірацца праз заraснікі. На шляху ляжалі вываратні, галлё. Яшчэ дзесятак крокаў, і пад нагамі захлюпала вада, зашамацелі кусты парэчак.

Іван Сяргеевіч недзе збочыў і трапіў у балота. Каб выбрацца, ён рашуча павярнуў управа. Наперадзе пачуўся моцны трэск, а потым глухі ўдар: бура ламала дрэвы. Ісці далей было небяспечна. Іван Сяргеевіч спыніўся пад старой лістоўніцай і, стуліўшыся за яе магутны ствол, вырашыў тут перачакаць. Вецер даймаў яго і за дрэвам, але яго парывы не былі ўжо такімі вострымі.

Раптоўна вецер сціх. Пасвятлела і пацішэла. А праз колькі хвілін пайшоў снег. Буйныя сняжынкі павольна ляцелі, клаліся на зямлю, усцілаючы белым дыванам дрэвы, кусты, траву і ўсё, што было перад вачыма. Тут і там з-пад снегу выглядалі зялёныя галінкі маладых бярозак, лапкі ялінак. Першы раз у жыцці бачыў Жодзінаў, як на зялёны лес клаўся снег.

Насоўвалася ноч. Іван Сяргеевіч адчуў, што, відаць, давядзецца начаваць у тайзе, ля агню. Даводзілася ж некалі на Палессі не раз праводзіць ночы на Прыпяці. Праўда, тады ён быў хлапчуком і не адзін, а з бацькам. Зараз жа ён зусім дарослы чалавек.

Снег ішоў нядоўга. Прыцерушыўшы зямлю, ён заціх, перастаў. Неба вызарылася. Пахаладнела. Бралася на мароз. Іван Сяргеевіч прыпомніў, што ў кедрачы, каля



сухастояў, ляжала сухое суччa. Вярнуўся туды і распаліў агонь. Набіраючы сілу, полымя выхоплівала з цемені маўклівыя дрэвы, кідала палосы святла на снег, пяшчотна грэла чалавеку рукі і ногі. Жодзінаў знайшоў ля разбітага маланкай дрэва зручны адшчэп і прыстасаваў яго замест лаўкі. Прысеўшы, прыгадаў, што з ранку нічога не еў, і заняўся вячэрай.

Іван Сяргеевіч думаў пра тое, як цяжка заўтра будзе наносіць на карту абрысы сасновых насаджэнняў. Нечаканы снег з'явіцца сур'ёзнай перашкодай. Намагаўся ўявіць сабе ўсё гэта ў дэталях, а думкі хваляй адносіла назад, і перад вачамі паўставаў дырэктар лясгаса Бурцэвіч.

Прыехаўшы ў лясгас, Жодзінаў паклаў перад дырэктарам накіраванне. Яго пасылалі на пасаду лесатэхніка. У паперы значылася, што ён можа быць выкарыстаны і ў якасці памочніка лясніччага.

— На жаль, — сказаў тады Бурцэвіч, — мы не зможам выканаць загаду краявога ўпраўлення. Нам вельмі патрэбны ляснічыя. Таму вам, малады чалавек, прыдзецца працаваць не лесатэхнікам, а ляснічым...

— Але, таварыш дырэктар, я зусім не падрыхтаваны да такой самастойнай працы, — спрабаваў пярэчыць Жодзінаў. — Адразу прыняць лясніцтва — гэта занадта многа!

— Называйце мяне, малады чалавек, Сямёнам Яфрэмавічам, — прагаварыў Бурцэвіч. — А што датычыць вашага прызначэння, дык тут усё нармальна. З вас будзе выдатны ляснічы. Іменна — выдатны! Не пярэчце! Давайце лепш падбярэм для вас лясніцтва. Вось глядзіце сюды, — Сямён Яфрэмавіч падышоў да карты. — Гэта Чунскае лясніцтва, а вось гэта — Васюшкінскае. Мне б хацелася, каб вы згадзіліся на Васюшкінскае. Там прадугледжваюцца вялікія работы. Перспектыўнае лясніцтва! Але не буду ад вас таіць, што яно самае далёкае ў лягасе. Дабірацца туды не лёгка. Трэба плысці па рацэ, а там — конна...

— Скажыце, а лістоўніцы там багата?

— Думаю, што адна трэцяя частка ад усіх парод належыць гэтай царэўне нашых лясоў.

— Згодзен, — цвёрда сказаў Іван Сяргеевіч. — Мне такое лясніцтва якраз падыходзіць.

Дырэктар быў крыху здзіўлены. Ён падрыхтаваўся выслухаць самыя разнастайныя пытанні аб Васюшкінскім лясніцтве і пасля пачуць адмову, а перад ім стаяў хлопец і весела ўсміхаўся. Потым задаў толькі адно пытанне:

— Скажыце, Сямён Яфрэмавіч, а сабалі там водзяцца?

— Сабалі? — са здзіўленнем узняў бровы дырэктар. — Сабалі водзяцца. Гэта, ведаеце, славутыя сабаліныя месцы. А вы хіба захапляецеся паляваннем?

— Мне не даводзілася яшчэ сур'ёзна паляваць, — шчыра прызнаўся Жодзінаў. — Бацька мой быў добры паляўнічы на Палессі. Ад яго засталася стрэльба. Яе падараваў яму адзін высокі начальнік, калі выйшлі з лесу, дзе бацька камандаваў партызанскім атрадам. Перад самым заканчэннем вайны бацька загінуў, а стрэльбу мне перадала маці, як старэйшаму сыну...

Жодзінаў пасля заканчэння тэхнікума мог застацца ў Беларусі ці, у крайнім выпадку, працаваць дзенебудзь на Урале. Але яго даўно цягнула прыангарская тайга. Напэўна, прывяла яго сюды бацькава мара, якую яму не ўдалося ажыццявіць, — мара аб шырокім распаўсюджванні сібірскай лістоўніцы ў Беларусі.

— Я быў бы дрэнным сынам, — гаварыў Іван Сяргеевіч, — каб не ўзяўся за тую справу, якой не паспеў зрабіць мой бацька...

Нешта кранула Бурцэвіча. Ён усхваляваўся. Мажліва, прыгадаў свае захапленні ў маладосці, а можа іншыя думкі авалодалі ім. Ён цёпла, па-бацькоўску, прыгарнуў да сябе хлопца...

— У такім выпадку шчыра жадаю поспеху! — моцна пацісніў руку маладому лесаводу Бурцэвіч. — Рад, што не памыліўся, прызначаючы вас на адказную пасаду.

Дзіўна, што ва ўсіх драбніцах прыпомнілася цяпер Жодзінаву гэтая сустрэча. Добры, душэўны чалавек, гэты Сямён Яфрэмавіч. Вось каб ён цяпер быў тут каля вогнішча, можна было б аб усім пагаварыць... А то сядзі ў лесе адзін!

Здалося, што хтосьці прабег за кедрамі, якія стоўпіліся за спіной, ахутаныя снегам. Нібы зусім выразна пачулася, як нехта шастаў у ельніку. Жодзінаў раптам падхапіўся і, сціскаючы ў руках стрэльбу, закрычаў:

— Хто тут? Гавары!

Рэха падхапіла словы, панесла іх за ручаіну, пад гару. У начным лесе загрымела — «ва-ры». І зноў усё заціхла.

Іван Сяргеевіч пастаяў з хвіліну, падумаў і раптам рушыў у ельнік, трымаючы перад сабой з узведзенымі куркамі стрэльбу. На першых кроках ён нічога не бачыў. Засланіўшы спіной агонь і паступова прызвычаіўшыся да цемені, ён павольна ішоў, азіраючыся навокал. Раптам на свежым снезе паказаліся сляды. Нядаўна прабег нейкі звер. Ці не воўк? Іван Сяргеевіч ведаў, што ваўкі трымаюцца бліжэй да ўскраін, да людскога жылля і рэдка калі забіраюцца ў тайгу. Ці не леснікоў сабака тут ходзіць? Успомніўшы пра сабаку і ўзрадаваўшыся сваёй здагадцы, закрычаў:

— Дружок, Дружок!

Ніхто не азваўся. Не было чутна ніякага шолаху. Толькі рэха старалася: «ок... ок...»

Жодзінаў вярнуўся да агню. Доўга яшчэ сядзеў, змагаўся са сном. Зліпаліся павекі, і з кожнай хвілінай адольваў сон. Трэба было хоць крыху паспаць, каб заўтра з новымі сіламі ўзяцца за работу.

Недалёка ад вогнішча знайшлося добрае месца. Гэта была невялікая ямка, засланая імхом. Іван Сяргеевіч наламаў яловых лапак і вымеў з ямкі снег. З лапак зрабіў сабе пасцель. Торбу паклаў пад галаву, а стрэльбу побач з сабой, нацягнуўшы рамень на руку. Не паспеў прытуліць галаву, як вочы заплюшчыліся.

Весела патрэсквалі сухія дровы, шугаючы полымем. Хоць і моцна спаў зморaны за дзень Жодзінаў, але часта прахопліваўся. Адзін бок прыпякала, а другі мёрз ад холаду. Прыходзілася часта варочацца. А калі канчалася паліва — уставаў і зблізку цягнуў ламачча. Пад рукі трапіла сухая верхавіна, і яна лягла ў агонь, хоць была доўгай і канчалася недзе ля сухой сасны, гэтая верхавіна і нарабіла бяды.

Калі прагарэлі дровы, агонь прабег па верхавіне, наблізіўся да сухой сасны. Полымя лізнула старую падсушыну і, знайшоўшы тут смалу, зашумела бойка і весела. Праз колькі хвілін сасна загарэлася, як свечка. Агонь маланкай узвіўся па дрэву і злізаў з яго сухую кару, а вярнуўшыся ўніз, сур'ёзна прыняўся за справу. Сасна высахла пасля пажару, які год сем назад прайшоў па тайзе.

Раскладаючы агонь, Іван Сяргеевіч бачыў гэту сухую сасну. У водбліску полымя ён угледзеў на камлі засмол і падумаў, як многа можна было тут здабыць смалякоў.

Нізам па лесе, нібы ў гіганцкай трубе, цягнула паветра. Агонь шумеў, як пад кавальскім мехам. Сасна гарэла, уздрыгвала, хісталася.

Неўзабаве, чапляючыся за кедры, атрасаючы з іх снег, трацячы рэшткі сухога суччa, што не паспелі яшчэ абламаць ветры, — сасна, перарэзаная агнём, рынулася ўніз.

Жодзінаў прачнуўся ў тое імгненне, калі дрэва было ўжо над ім. Ён не паспеў нават крыкнуць ці варухнуць губамі...

Неўзабаве над лесам заняўся новы дзень. Хутка сонечны прамень прабіўся праз густое галлё, завешанае снегам, прабег па сасне, што ляжала на зямлі, затрымаўся, напаткаўшы чалавека, пяшчотна крануў яго бледныя вусны. Іван Сяргеевіч павольна расплюшчыў вочы. Першай думкай, якая маланкай пранеслася ў галаве, было тое, што ён жывы, хоць прыдушаны дрэвам.

Мабыць, бязногі, але жывы!

Жодзінаў азірнуўся. На яго нагах ляжала дрэва. Нібы ланцугом, ён быў прывязаны да сасны, па якой слізгалі языкі агню.

На зямлі, прыгрэтай ранішнім

сонцам, раставаў снег. Вада пра-сочвалася ў ямку і, здаецца, забіралася ў вопратку. Стала холадна. Сціскаючыся, Жодзінаў варухнуўся і адразу ж ад вострага болю страціў прытомнасць. А пасля, калі апрытомнеў, — яму стала горача. Пот ліўся з ілба і тонкімі струменьчыкамі цёк па скронях.

Перш за ўсё трэба было падумаць, як затрымаць агонь, не пусціць яго да сябе, выйграць час. Важна правільна арыентавацца. Колькі часу ён ляжыць пад сасной? Жодзінаў усё добра памятаў. Ён ведаў, што сасна загарэлася ад той верхавіны, што ён кінуў на вогнішча пасля паўночы. Прыбіла яго перад світаннем, а цяпер дзесятая гадзіна. У лясніцтве яго будуць чакаць сёння пад вечар, а ён не з'явіцца, і заўтра леснікі ўстрывожацца і абавязкова выйдуць на пошукі. Але ці здолее ён так доўга пратрымацца пад дрэвам? Хоць асноўны ўдар на сябе прынялі закрайкі ямкі, у якой ён ляжаў, усё ж і нагам дасталося нямала.

Усімі сіламі трэба ратавацца ад агню. Прыкладна чатыры метры аддзяляла Жодзінава ад агню. Як хутка ён прасунецца па дрэве?

Хлопец пільна назіраў за сваім ворагам. Хутка яго ўвагу прыцягнула маленькая змейка агню, што з'явілася на паверхні ствала і заскакала, прасоўваючыся наперад. Яна была надта жвавая і за сабой вяла чародку маленькіх язычкоў. Не спускаючы з яе вачэй, Жодзінаў сачыў за змейкай, намацваючы рукой камячок снегу. Ён шпурнуў яго ў ворага, але не бачыў, як той камячок ударыў па сасне, як ён рассыпаўся на дзесятак маленькіх камячкоў і збіў-прыгасіў некалькі маленькіх чырвоных язычкоў.

Ад нясцерпнага болю Жодзінаў зноў страціў прытомнасць. А калі праз хвіліну-дзве апрытомнеў, зноў трымаў напагатове снег, каб кінуць яго.

А дзень браўся ціхі, бязветраны. Павольна гарэла сасна.

Ці не ходзіць хто-небудзь з паляўнічых па тайзе? Можа паспрабаваць даць аб сабе вестку? Іван Сяргеевіч, перасільваючы боль, выцягнуў стрэльбу і стрэліў. Гул стрэлу заглох пад першымі кедрамі. Не было сэнсу траціць патроны. Снег яшчэ трымаўся на дрэвах і глушыў усякія гукі. Нельга было забываць, што мядзведзь яшчэ не ўлёгся на зіму. У лесе шмат рысяў, якія часам кідаюцца на чалавека.

Раптам пачуліся нейкія гукі. Хто гэта? Крычыць арэхаўка? Не, не падобна на яе. Здаецца, нешта зусім знаёмае. Іван Сяргеевіч заплюшчвае вочы і думае. Ды гэта ж скуголіць Дружок! Яго, безумоўна, яго голас! Калі ўчора ён прагнаў Дружка, дык той паклаў морду на лапы і гэтак жа скуголіў.

— Дружок, Дружок! — стрымліваючы хваляванне, крыкнуў Жодзінаў. Няўжо гэта ён? Іван Сяргеевіч баяўся нават паверыць, што такое зараз магчыма. Прыслухаўся. Здаецца, недзе каля ручаіны пачуўся шоргат, потым сабака завішчэў і кінуўся на голас, але прыпыніўся за дрэвамі. Было нават чутна, як ён цяжка дыхае.

Нейкая цёплая хваля ўзнімалася з грудзей, падкатвалася пад горла, казытала. Сабака не пакінуў у бядзе, прыйшоў на дапамогу. Слёзы выступілі на вачах Івана Сяргеевіча, але ён не даў сабе расчуліцца і яшчэ дужэй закрычаў:

— Да мяне, Дружок!

Сабака віляў хвастом, радасна скавытаў, але не ішоў блізка. Іван Сяргеевіч намацаў пад рукой нейкую палку, кінуў яе цераз сасну і загадаў:

— Вазьмі, Дружок!

Сабака скокнуў праз дрэва, ухапіў у зубы палку і прымчаў яе гаспадару, як не раз ён гэта рабіў раней у пасёлку. А сам сеў і, стуліўшы вушы, глядзеў сваімі разумнымі вачыма ў твар чалавеку. Глядзеў, нібы пытаў, чаму ён ляжыць тут, чаму не ўстае?

Адказваючы на нямое пытанне Дружка, Жодзінаў гаварыў:

— Не магу, Дружок. Агонь падрыхтаваў для мяне пастку, і я ледзьве не загінуў. А зараз, хоць і жывы, але выбрацца адгэтуль без дапамогі не здолею...

Сабака падпоўз бліжэй і старанна абнюхаў абцасы кірзавых ботаў, што ледзь-ледзь вытыркваліся з-пад дрэва. Потым паклаў галаву на сасну і працягваў глядзець у вочы чалавеку. Ён нібы разумеў, што з чалавекам здарылася няшчасце.

Жодзінаў працягнуў руку, каб пагладзіць сабаку. Дружок падставіў морду і кожны раз цёплым языком лізаў далонь і, як верны сябар, шчыльна туліўся, лашчыўся да чалавека.

Горача абдымаючы Дружка, Жодзінаў адчуваў, што прыйшла надзея на выратаванне. На кавалку паперы ён напісаў буйнымі літарамі: «Неадкладна на дапамогу! Гіну пад дрэвам у кедрачы за Сухой рэчкай. Жодзінаў». Запіску загарнуў у насоўку і прывязаў на шыю Дружку.

— Бяжы, Дружок, у пасёлак, — сказаў Іван Сяргеевіч і лёгенька адштурхнуў ад сябе сабаку.

Праз колькі хвілін крыкнуў:

— Дружо-о-к!..

Ні гуку. Маўчала і рэха. Ушчаўся вецер, падхапіў клубы дыму і са снапамі іскраў кінуў яго на чалавека пад сасной. Дым лез у вочы, у горла, падступаў кашаль. Стала нясцерпна горача. Кожную хвіліну маглі загарэцца ватоўка, штаны.

У Жодзінава, апрача вачэй, ёсць яшчэ рукі. Як толькі дзе-небудзь задыміцца вата, рука паспешліва заціскае гэтае месца. Пякучы боль працінае далонь, але чалавек не здаецца, упарта змагаецца з агнём.

Жодзінаў каторы раз траціць прытомнасць. А ачнуўшыся, адчувае, як хочацца піць. Вусны засмяглі, у роце перасохла. Ужо вакол ад гарачага подыху вогнішча высахла зямля, а сасна гарыць, агонь набліжаецца.

Даўно скончыўся дзень, і на лес апусцілася ноч. Спыніўся гадзіннік, і Жодзінаў не ведае, колькі ўжо часу. Можна было б арыентавацца па зорках, але неба зацягнута хмарамі. Агонь яшчэ прыкладна ў двух метрах. Два метры. Як гэта мала! Моцна прыпякае ў правы бок. А што будзе, калі да агню застанецца метр, паўметра? Лепш аб гэтым не думаць.

Дзе цяпер Дружок? Ці пайшоў ён у пасёлак?

Жодзінаў ляжыць, заплюшчыўшы вочы. Здаецца, ён бачыць, як бяжыць Дружок ляснымі сцежкамі. Вось ён перасkоквае праз ручай, імчыць між соснамі, ялінамі, лістоўніцамі. А там перасякае бярэзнік, сасоннік, гарэлішча, зарослае малінай і асіннікам, перабіраецца цераз невялікае балотца і выскаквае на ўскраіну пасёлка.

«Хутчэй, Дружок, хутчэй!» — хоча крыкнуць Іван Сяргеевіч, але сухія губы зліпліся, не слухаюцца.

У кішэні гімнасцёркі ляжыць пісьмо ад Гэлі. Што піша яму дзяўчына з вясёлымі, пяшчотнымі вачыма? Не слухаюцца папечаныя пальцы, каб расшпіліць гузік і дастаць пісьмо, дзе так вядомы кожны радок. Смешная яна нейкая. «Беражы сябе, не прастудзіся, ухутвай ногі...»



Зноў вецер кідае дым, душыць, выядае вочы, атручвае ўсяго. З кожнай хвілінай дыхаць становіцца ўсё цяжэй. Подых агню апякае твар, сушыць вусны.

— Пі-і-і-ць, пі-і-і-ць! — крычыць нейкая птушка.

— Піць, — хоча сказаць чалавек, але вусны не слухаюцца, нібы скутыя, і разняць іх нестае сілы. Потым, здаецца, недзе загула піла — дз-шу, дз-шу, дз-шу...

— Хутчэй яму вады, — нібы з-пад зямлі, далятае голас. — Расцінай яму зубы!

Халодная вада абмывае язык, цурочкам сцякае ў горла. Жодзінаў глытае ваду і чуе, як нехта побач часта дыхае. Ён расплюшчвае павекі і над сабой бачыць Дружка, а побач — лесніка Карпешку.

— Жывы, сынок? — пытае стары ляснік, і скупая сляза збягае па яго маршчыністай шчацэ. — Гэта, браток, мая віна, што адпусціў цябе аднаго ў тайгу...

— Жывы, — аклікаецца Жодзінаў. — Дзякую вам, Карп Карпавіч!..

Над тайгой паступова займаўся новы дзень. Хутка сонечныя праменні расквецілі ўсё навокал у радасныя, жывыя фарбы.

Праз чатыры месяцы Іван Сяргеевіч стаў на ногі і вярнуўся ў Васюшкінскае лясніцтва, каб зноў заняцца доследамі па развядзенню лістоўніцы.

... Мы ідзём лесам. На высечках роўнымі радамі ўзнімаецца маладняк. Мімаволі залюбуешся пасадкамі Івана Сяргеевіча. Сапраўды, сібірская госця адчувае сябе тут гаспадыняй. Яна шырока раскідвае крону, узнімаецца к сонцу і магутнымі карэннямі чапляецца за палескую зямлю.

— Прыжылася. Навечна! — радасна гаворыць Жодзінаў. — Разам з дубам...

Лесавод у думках бачыць перад сабой магутны лес з лістоўніц, дзе кожнае дрэва — волат. Ён упэўнены, што гэта не мара, а заўтрашні дзень роднага Палесся.



## *Давайце пагаворым...*

**М. ЛЯВІЦКІ,**
**заг. кафедры педагогікі і псіхалогіі Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна**

# КАГО МЫ НАЗЫВАЕМ МЯШЧАНАМІ

**«Мяшчанства... пажырае асобу знутры»**
**М. Горкі.**

Мяшчанамі прынята называць людзей з дробнымі, абмежаванымі імкненнямі, з вузкім ідэйным і грамадскім кругаглядам. У краінах, дзе пануе капіталістычны строй, мяшчанская ідэалогія прапаведуецца з царкоўнага амбона, універсітэцкіх кафедр, праз школу, друк, літаратуру. Гэта і зразумела. Мяшчанства, як светапогляд, раз'ядноўвае людзей, пазбаўляе іх творчай ініцыятывы, выхоўвае інертнасць, кансерватызм і варожыя адносіны да ўсяго новага, перадавога.

У СССР няма ні эканамічных, ні палітычных прадпасылак для ўласніцкай ідэалогіі. Тым не менш, ігнараваць наяўнасць рэштак мяшчанства ў свядомасці некаторых людзей нельга. Мяшчанскія настроі, якія захаваліся яшчэ ў некаторых, як спадчына мінулага, перашкаджаюць нашаму руху наперад, парушаюць гармонію і цэласнасць савецкага чалавека, будаўніка камунізма.

Цяпер у СССР створаны асаблівa спрыяльныя ўмовы для барацьбы з рэшткамі буржуазнай ідэалогіі ў свядомасці людзей. Камунізм уваходзіць у нашае сёння не толькі касмічнымі ракетамі, атамнымі электрастанцыямі, гіганцкімі будоўлямі, высокімі ўраджаямі, але і тымі магутнымі духоўнымі сіламі, якія абудзіў у народзе працэс пабудовы новага грамадства.

Жывым увасабленнем гэтых сіл з'яўляецца побач са старэйшым пакаленнем і наша моладзь. Юнакі і дзяўчаты савецкай краіны займаюць пачэснае месца ўсюды, дзе выяўляюцца цудоўныя рысы камуністычнага заўтра. Узровень камуністычнай свядомасці савецкай моладзі асабліва ўзрос за апошнія гады.

Хочацца прывесці некалькі прыкладаў. Камсамолка Ліда Сацута з вёскі Крытышына Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці і яе сяброўкі—звычайныя савецкія дзяўчаты. Пры іх актыўнай дапамозе калгас імя Сталіна, дзе яны працуюць на свінаферме, перайшоў на групавое, бесстаночнае ўтрыманне свіней, увёў сухое кармленне іх. Якраз у гэтым калгасе нядаўна адбыўся раённы семінар свінарак. Моладзь дзялілася сваім вопытам у жывёлагадоўлі. Выступалі Ліда і яе сяброўкі, але ў іх прамовах не адчувалася нічога надзвычайнага. Ім, простым савецкім дзяўчатам, невядома імкненне праз павелічальнае шкло разглядаць сваё я. Натхнёная калектыўная праца на карысць грамадства—гэта іх штодзённае жыццё.

Уладзімір Сілакоў закончыў у 1958 годзе сярэднюю школу. У яго не было ваганняў у выбары жыццёвага шляху, бо рукі Валодзі былі прызвычаены да працы. Восенню таго ж года юнака прынялі ў зборачны цэх брэсцкага завода газа-

вай апаратуры. Уладзімір узяўся за працу горача. За кароткі тэрмін гэты камсамолец авалодаў усімі сумежнымі спецыяльнасцямі ў цэху. Цяпер ён здольны замяніць любога рабочага. Сілакоў паказаў сябе сапраўдным членам працоўнага калектыву. Калі ў цэх прыйшоў навічок Аляксей Назарук, Уладзімір добраахвотна ўзяўся навучыць яго зборцы каркасаў, хоць на некаторы час заработак юнака-інструктара крыху знізіўся. Валодзя спалучае напружаную працу ў цэху з заняткамі ў радыёклубе, ён мае першы спартыўны разрад па стральбе. Камсамольцы цэха выбралі маладога рабочага членам бюро сваёй арганізацыі. Ні ён сам, ні яго сябры не лічаць Сілакова нейкім звышчалавекам. Уладзімір—добры камсамолец, якіх у нас многа.

На брэсцкай швейнай фабрыцы нядаўна камсамолцы Ліліі Абрамчук было прысвоена званне ўдарніцы камуністычнай працы. Гэта дзяўчына ўмее добра працаваць і быць вартым прыкладам для сяброўак. Вытворчы план яна штодзённа выконвае больш чым на 200 працэнтаў. У той жа час дзяўчына вучыцца ў 10 класе, спявае ў хоры, з'яўляецца прафгрупоргам цэха. У грамадскую работу Лілія ўкладае столькі сапраўднай чалавечай цеплыні і сардэчнасці, што ўсе маладыя работніцы цэха лічаць абавязковым дзяліцца з ёю сваімі дзявочымі сакрэтамі.

Гэтымі прыкладамі мы зусім не імкнуліся здзівіць чытача. Мы проста расказалі пра некаторых тыповых прадстаўнікоў савецкай моладзі. Мы не збіраемся ўтойваць асобных недахопаў, якія ёсць у гэтых маладых людзей. Так, напрыклад, калі на камсамольскім сходзе ў зборачным цэху завода газаапаратуры крытыкавалі Івана Раманюка за дрэнныя паводзіны, Уладзімір Сілакоў не знайшоў у сабе мужнасці прама і рэзка выступіць супраць свайго сябра. Таварышы па камсамолу сказалі Уладзіміру шчыра, што ён памыляецца, і юнак прыслухаўся да гэтай сяброўскай крытыкі. Гэта лішні раз пацвярджае складанасць форм чалавечых узаемаадносін, якія існуюць у нашай краіне, і перавагу сацыялістычных норм паводзін і жыцця ў свядомасці савецкага чалавека.

На вялікі жаль, у асобных юнакоў і дзяўчат наглядаюцца яшчэ ўчынкі, якія не могуць не выклікаць трывогі.

Токар завода газавых пліт Міша К. імкнецца апранацца як мага больш крыклівa. Гэта складае асноўны клопат яго жыцця. Сваёй прычосцы і празмерна доўгім пазногцям ён аддае значна больш увагі, чым станку, на якім працуе. Міша лянуецца, таму і зарабляе мала. Малады рабочы не хоча прымаць удзелу у грамадскім жыцці калектыву, а толькі скардзіцца на тое, што яго не разумеюць, не цэняць, заціскаюць.

Галя Р. працуе першы год на брэсцкай швейнай фабрыцы. За гэты час дзяўчына паспела ўжо змяніць ажно пяць брыгад—нідзе не ўжываецца. Яна мае працоўную кемлівасць і валодае дакладным вокам, хуткімі рукамі, але калектыў прадпрыемства яе не цікавіць. Яна не жыве клопатамі прадпрыемства. Калі восенню фабрыка пасылала рабочых у калгас памагчы ўбраць бульбу, замест Галі паехала яе маці. Затое танцаваць дзяўчына гатова ў любы час дня і ночы. Галя ўпэўнена ў сваёй надзвычайнай прыгажосці. Апранаецца яна вульгарна і страката. Галя можа праводзіць час з любым хлопцам. Знаёмства з юнаком звычайна ў яе нетрывалае. Гэтаму нельга здзіўляцца: прыгледзецца хлопец да дзяўчыны ўважлівей і ўбачыць на твары тоўсты слой касметыкі. Наўрад ці яму захочацца з такой сябраваць.

Можна было б прывесці і іншыя прыклады. Але, відаць, хопіць і гэтых, каб разабрацца ў асноўных рысах маладых людзей нашага часу.

Сапраўдных маладых герояў сучаснасці вылучае шырыня светапогляду, яснае разуменне тых задач, якія яны ставяць перад сабою, перад сваім жыццём. Ім, гэтым маладым людзям, уласціва адчуванне адказнасці за ўсё, што робіцца ў нашай краіне. На любым участку працы яны адчуваюць сябе барацьбітамі за камунізм. Вялікая мэта натхняе нашу моладзь на гістарычныя подзвігі. Усе свае сілы, працу і думкі гэтыя людзі аддаюць творчым пошукам, вялікім здзяйсненням.

У адрозненне ад большай часткі савецкай моладзі тыя, каго мы называем мяшчанамі, імкнуцца прайсці жыццё не па шырокай дарозе, а збочыць на вузенькую сцежачку і ганяцца за хатнім маленькім шчасцем, быць воддаль ад агульнанароднай барацьбы з яе хваляваннямі, радасцямі і трывогамі, перамогамі і няўдачамі. Такія маладыя людзі вышэй за ўсё цэняць так званы «спакой». Ім уласцівы пасіўныя адносіны да навакольнай рэчаіснасці, абыякавы настрой, стан размагнічанасці. Перакананні іх няўстойлівыя; яны лёгка падпадаюць пад розныя ўплывы, асабліва благія.

Думаючы пра лёс такіх маладых людзей, нельга не ўспомніць словы пісьменніка В. Ажаева з рамана «Далёка ад Масквы», звернутыя да моладзі: «Не спакушайцеся лёгка даступнымі радасцямі жыцця за кошт менш даступных вялікіх радасцей. Ёсць у жыцці бліжняя і ёсць дальняя перспектыва. Ніколі не задавальняйцеся бліжняй». Пагоня за вузкаасабістымі маленькімі радасцямі жыцця робіць чалавека бяскрылым. Да такога чалавека лёгка прыліпае ўсялякі бруд.

Маракі добра ведаюць, што да карабля, які хутка рухаецца, ракушкі не прыстаюць, іржа яго не раз'ядае. Вядома, што калі парус застаецца без ветру, ён робіцца звычайнай мяккай тканінай. Гэтыя простыя агульнавядомыя жыццёвыя ісціны пра многае гавораць нашай моладзі.

Маладыя людзі тыпу Мішы К., Галі Р., апраўдваючы свае ўчынкі, спасылаюцца на тое, што яны, моў, людзі маленькія і таму нельга патрабаваць ад іх вялікіх спраў. Але ж Лілія Абрамчук разам з мільёнамі савецкіх юнакоў і дзяўчат здолела і ў маленькай даручанай ёй справе рэалізаваць сваю вялікую мару!

Вядома, для ўсіх людзей праца звязана не толькі з адчуваннем радасці. Напружаная работа выклікае стому, жаданне адпачыць. І які ж гэта чалавек, калі ён не ведае, што такое працоўнае натхненне, пасля якога нават боль у мускулах успрымаецца з адчуваннем радасці і вялікага маральнага задавальнення. Тым і прыгожая савецкая жанчына Валянціна Гаганава, што для яе праца ў калектыве зрабілася найпершай, арганічнай жыццёвай патрэбнасцю.

Для нашай моладзі, якая адчувае на сабе бацькоўскія клопаты Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада, характэрна імкненне да паўнаты жыцця. Праца, вучоба, грамадская дзейнасць, спорт, сяброўства, каханне запаўняюць цалкам жыццё юнакоў і дзяўчат.

У савецкага пісьменніка А. Талстога аднойчы спыталі, у чым ён бачыць шчасце чалавека. Аўтар многіх выдатных мастацкіх твораў адказаў, што сапраўднае шчасце дае чалавеку адчуванне паўнаты сваіх духоўных і фізічных сіл у іх грамадскім прымяненні. Цяжка сказаць, ці вычэрпваецца гэтымі словамі цалкам наша ўяўленне аб шчасці. Аднак няма сумнення, што аднатоннае жыццё, пазбаўленае шматгранных імкненняў і шырокай грамадскай дзейнасці, не можа даць савецкаму чалавеку трывалага шчасця.

Можна толькі пашкадаваць тых маладых людзей, якія штучна абмяжоўваюць сваё жыццё любаваннем сваёй асобай. Ёсць жа яшчэ такія дзяўчаты, якіх больш за ўсё цікавіць асабістая прыгажосць. Ёсць у нас і такія юнакі і дзяўчаты, жыццё якіх запоўнена пагоняй за аднымі прыемнасцямі.

Нам чужы аскетызм. Ніхто не адмаўляе права савецкага чалавека на матэрыяльную забяспечанасць, на карыстанне ўсімі багаццямі жыцця. Аднак мы супраць аднабокасці гэтых жаданняў. Кожны, хто хоць колькі-небудзь ведае жыццё, пагодзіцца з тым, што паміж людзей, якія шукаюць шчасця толькі ў задавальненні вузка асабістых інтарэсаў, вельмі мала задаволеных сапраўды.

Глыбока памыляюцца тыя, хто ўяўляе сабе шчасце, як жыццё, пазбаўленае цяжкасцей. Такое ўяўленне аб шчасці супярэчыць законам жыцця і існуе толькі ў фантазіі. Чаго варты чалавек, які не ведае цяжкасцей на сваім шляху? Шчасце ў тым, каб пераадольваць цяжкасці, выстаяць, перамагчы ўсе нягоды.

Стойкасць чалавека ў жыцці, здольнасць да валявога напружання шмат у чым залежаць ад значнасці тых ідэалаў, якімі ён жыве. Людзі шырокага жыццёвага светапогляду, ідэалам якіх з'яўляецца служэнне Радзіме, нязменна выходзяць пераможцамі ў барацьбе і знаходзяць асабістае шчасце. Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі пісаў з Варшаўскай цытадэлі сваёй сястры, што ён адчувае сябе значна шчаслівейшым, чым тыя, хто, хоць і знаходзяцца на волі, але існуюць без мэты.

Сапраўдны савецкі чалавек толькі дужэе, пераадольваючы жыццёвыя цяжкасці, бо ён не адзінокі, а знаходзіць сілу ў падтрымцы калектыву. Ён адчувае такую моцную сувязь з жыццём, што асабістыя непрыемнасці не могуць выклікаць у ім адчаю. Хіба не яскравы прыклад гэтага—цудоўнае жыццё вернай дачкі беларускага народа Веры Харужай? Яе пісьмы з белапольскага астрога,—поўныя палымянай любві да камуністычнай партыі, жыццерадаснасці, аптымізму. Надзежда Канстанцінаўна Крупская захаплялася стойкасцю гэтай палымянай рэвалюцыянеркі і ўказвала, што непераможную сілу гэта дзяўчына брала ў разуменні гістарычных шляхоў чалавецтва, якое ёй даваў марксізм, ва ўсведамленні, што толькі калектыўнай барацьбой можна адолець капіталістычнае рабства.

Бездзейныя людзі звычайна слабавольныя. Першая няўдача ломіць іх характары, здольна разбурыць іх жыццё. І ў бядзе і ў радасці яны адчуваюць сябе адзінокімі.

Вось чаму так радуе ў нашай моладзі пачуццё сапраўднага сяброўства, адказнасці за лёс асобных членаў калектыву. Калі стала ясна, што Галя Р. не можа прыжыцца ні ў адной брыгадзе брэсцкай швейнай фабрыкі, уся моладзь не шкадавала сіл і часу, каб выратаваць гэтую дрэнна выхаваную дзяўчыну. Неаднаразова камсамолкі наведвалі яе дома, размаўлялі з маці, строга сачылі за тым, каб Галя не прапускала маладзёжных вечароў на фабрыцы. Галю пачалі запрашаць на сумесныя паходы ў кіно, тэатр. Душэўная цеплыня, адчуванне адказнасці за лёс таварыша—арганічныя якасці савецкай моладзі.

У нас, у краіне сацыялістычных адносін, чалавек не мае права жыць без калектыву. «Сама па сабе без сувязі з калектывам,—адзначае М. Горкі,—без кола нейкай шырокай, якая аб'ядноўвае людзей, ідэі індывідуальнасць інертная,

кансерватыўная і чужая развіццю жыцця».

Індывідуалісты—гэта, у першую чаргу, *абыякавыя людзі, абыякавасць жа—самая бясплённая з усіх чалавечых якасцей.* Такіх людзей часам называюць заспанымі душамі. Яны нікога не любяць. *Любіць жа чалавека—значыць,* жыць яго думкамі, калі трэба, дапамагчы яму, маральна падтрымаць без шуму і самавыстаўлення.

У індывідуаліста заўсёды перабольшанае ўяўленне аб якасцях сваёй асобы. Свае памылкі, учынкі, няўдачы ён тлумачыць не заканамерным выяўленнем адмоўных рысаў свайго характару, а вынікам нядобрых намераў іншых людзей. У лепшым выпадку індывідуалісту патрэбны бывае чалавек, каб расказаць пра сябе, але ён зусім не ўмее *слухаць другіх.* У іншых індывідуаліст звычайна бачыць толькі дрэннае. Ён часта любіць ускрываць недахопы другіх і робіць гэта не дзеля таго, каб памагчы выправіць іх, а каб крытыкай чужых заган апраўдаць сваю бяздзейнасць.

Ганарыстасць, г. зн. пастаянная павышаная ўвага да самога сябе, эгаізм, выхваленне заканамерна выцякаюць з памылковага адчування асабістай перавагі над другімі людзьмі. Ганарысты чалавек пранікаецца пачуццём нядобразычлівасці да ўсіх, хто лепшы за яго ў чымнебудзь. У той жа час індывідуалісты з пагардаю ставяцца да тых, хто ніжэй за іх у чым-небудзь, нават калі гэта датычыць адзення, прыгажосці твару і г. д.

Усе формы пераацэнкі сябе—прызнак слабасці чалавека. Вядомы савецкі пісьменнік М. Прышвін зусім справядліва сцвярджае, што людзі, якія шмат гавораць пра сябе, выхваляюцца па слабасці сваёй волі.

Слабы чалавек, індывідуаліст схільны многае дараваць сабе, лёгка адступіць перад сваімі дрэннымі звычкамі. Ён патрабуе празмерна многа ад другіх, даруючы сабе свае недахопы. Такім людзям невядома радасць перамогі над сабою. Ігнаруючы думку калектыву аб сабе, індывідуаліст траціць правільную арыенціроўку ў жыцці, траціць крытэрый ацэнкі сваіх паводзін. Вядома, што, нават вельмі ўважліва прыглядаючыся да сваёй асобы, чалавек дасканала сябе не ведае. Лепшае люстра для чалавека — гэта калектыў. Толькі па адносінах калектыву да яго савецкі чалавек можа меркаваць пра асабістыя станоўчыя і адмоўныя якасці. У гэтым — вышэйшае праяўленне сціпласці. Гэта не ханжаская сціпласць самазнявагі, якая расцэньваецца яшчэ горш, чым ганарыстасць, а такая сціпласць, якая робіць чалавека моцным.

Сціпласць савецкага маладога чалавека праяўляецца таксама і ў яго адносі*нах да ўсяго таго, што прынята ў нас на*зываць знешняй прыгажосцю. Жаданне валодаць прыгожай знешнасцю—зусім зразумелае імкненне моладзі. У нашым савецкім грамадстве выпрацаваны свае *крытэрыі таго, што прыгожа і што непрыгожа.* Мы побач з унутраным хараством чалавека высока цэнім зграбнасць, стройнасць, спакойную ўпэўненасць у знешнім вобліку чалавека. *Нам падабаецца* выразны, адкрыты твар, ясны, прамы позірк. У нас лічыцца непрыгожым усё тое, што робіць уражанне расхлябанасці, размагнічанасці ў чалавека: шорганне пры хадзьбе, апушчаныя, абвіслыя плечы, рукі, якія боўтаюцца, як бізуны; што робіць рысы чалавечага твару дробнымі, невыразнымі: зняважліва прыжмураныя вочы, вяла апушчаныя губы—усё тое, што не надае твару яго натуральнай ветлівасці.

*Прыгожая прычоска павінна* падкрэсліваць прывабнасць чалавечага твару. Звышмодныя прычоскі, накшталт «а ля гарсон» (пад хлапчука), закрываюць лоб, *надаюць твару суровы выгляд* чалавека, які не выспаўся. Пярэдні локан, які так любяць некаторыя нашы юнакі, выцягвае твар, надае яму выраз здзіўленага і *бязвольнага чалавека.*

У адзенні мы высока цэнім элегантнасць. Трэба браць з прынятай у нашым грамадстве моды тое, што *падкрэслівае* натуральную прыгажосць чалавека, а не крыкліва вылучае яго сярод іншых.

Нельга не пасароміць тых маладых людзей, якія свае ўяўленні аб прыгажосці бяруць напракат з буржуазнага Захаду. Запомнім: для буржуазіі прыгажосць—гэта тавар, які патрабуе рэкламы, каб можна было даражэй прадаць сябе. Не грэх, калі пры гэтым пакупнік будзе ашуканы.

Сапраўдная прыгажосць сціплая, не крычыць сама аб сабе. Яна падкрэслівае гармонію чалавека, адзінства яго знешняга і ўнутранага вобліку.

Мы яшчэ можам часам сустрэць юнакоў у звышмодных пінжаках, звышвузкіх і звышкароткіх штоніках, з эксцэнтрычнымі гальштукамі, расфарбаванымі ўсімі *колерамі вясёлкі.* З імі побач часам убачыце кароткападстрыжаную дзяўчыну з валасамі, якія тырчаць у розныя бакі, дзяўчыну, якая крочыць, *пакалыхваючыся, нібы качка.* Дастаткова кінуць пагляд на такіх маладых людзей, каб пераканацца, што ўнутрана яны пустыя. На самай справе, яркасць іх адзення, *якая кідаецца ў вочы,* падкрэсленая звышмоднасць, імкненне быць падобнымі на чужаземца—ці ж гэта не адзнакі душэўнай пустаты? Калі сюды *яшчэ дадаць надзьмутасць, манернасць,* крыўлянне, какецтва, якое заўсёды ўласціва стылягам абодвух полаў, лёгка будзе зразумець, чаму савецкая грамад*скасць адмоўна рэагуе на такі* знешні воблік маладога чалавека.



Аднойчы два студэнты Брэсцкага педінстытута прыйшлі ў школу на практыку крыкліва апранутыя, з хаатычнымі, стыльнымі прычоскамі. Дырэктар школы пагутарыў з імі і прапанаваў перш-наперш прывесці сябе ў прыстойны выгляд, а потым з'яўляцца перад вучнямі. Правільна зрабіў кіраўнік школы!

Трэба адзначыць, што знешняя прыгажосць твару толькі тады прыносіць радасць яе ўладальніку і другім людзям, калі яна спалучаецца з багатым унутраным зместам.

Савецкая моладзь умее бачыць прыгажосць чалавека не толькі ў правільнай форме носа, прываблівым колеры вачэй, стройнай фігуры, але і ў багацці душы яго.

Кожны чалавек непаўторны ў сваіх адносінах да каханага ці каханай. На формы праяўлення кахання накладаюць адбітак тэмперамент людзей, іх схільнасці, звычкі, умовы ў сям'і, у якой яны самі выхоўваліся. Аднак у галоўным—у вернасці, пастаянстве пачуццяў, чуласці да каханага, беражлівых адносінах да яго шчасця—сказваецца духоўная сіла чалавека, яго грамадскае светаадчуванне.

Часам пытаюць, ці магчыма кахаць аднаго чалавека ўсё жыццё? На гэтае пытанне можа быць дадзены толькі адзін адказ:—«Так». Прыклад таму К. Маркс, У. І. Ленін, М. Г. Чарнышэўскі, пераважная большасць савецкіх людзей.

Не выклікае сумнення, што людзі вялікага душэўнага багацця, шырокіх грамадскіх ідэалаў умеюць кахаць так, як гэта і належыць гордаму званню чалавека эпохі камунізма. Такое каханне прыносіць сапраўднае шчасце і радасць, якія застаюцца да канца жыцця.

Аб'ект кахання не выбіраюць, кіруючыся характарыстыкай аддзела кадраў. Каханне вельмі часта ўзнікае паміж людзьмі з рознымі асаблівасцямі розуму, розным грамадскім становішчам, узроўнем развіцця і адукацыі. У каханні нярэдка бывае патрэбна і саступіць, абмежаваць сябе ў карысць каханага і нават нечым ахвяраваць. Без гэтага няма сапраўднага чалавечага кахання, якое надае высакародства характарам, выхоўвае душэўную чуласць і спрыяе ўсім чалавечым імкненням.

Варты жалю тыя маладыя людзі, якім невядома паэзія сапраўднага кахання. Нельга беспакарана разменьваць гэтае цэльнае пачуццё ў пагоні за імгненнымі задавальненнямі. Лёгкія і кароткатэрміновыя «поспехі» кахання спусташаюць душу, пазбаўляюць чалавека гонару, права глядзець людзям шчыра ў вочы. У гэтым чадзе часам гіне і сваё і чужое шчасце. Жывёльныя адносіны да кахання помсцяць за сябе тым, што чалавек траціць назаўсёды здольнасць да ўзнёслых пачуццяў. Такіх людзей прынята называць цынікамі і пашлякамі.

Праявы мяшчанства вельмі рознабаковыя. Далёка не ўсе, каго мы называем мяшчанамі, прытрымліваюцца аднолькавых поглядаў на жыццё. Сярод іх ёсць хлопцы і дзяўчаты, якія часова паддаліся дрэннаму прыкладу, ёсць такія, якія былі дрэнна выхаваны, і мяшчанства, натуральна, глыбей укаранілася ў іх псіхіку. На жаль, сустракаецца невялікая колькасць і злосных, цалкам свядомых мяшчан, якіх прынята ў народзе называць цвіллю, плесняю.

Агульнае ж, што ўласціва гэтым людзям, атручаным мяшчанскай ідэалогіяй—імкненне жыць толькі дзеля свайго задавальнення. Іх ідэалы—як мага менш даваць грамадству і як мага больш браць у яго. Гэтыя людзі любяць памарыць і пра камунізм. Але да новага грамадскага ладу яны падыходзяць чыста па-спажывецку, з пункту гледжання тых радасцей, якія ім забяспечыць камуністычнае грамадства. Наша камуністычнае заўтра, такім чынам, яны вымяраюць не матэрыяльнымі і духоўнымі дабротамі, якія атрымае ўсё грамадства, а тымі чыста бытавымі асалодамі, якія выпадуць на іх долю. Такая жыццёвая перспектыва робіць мары мешчаніна нізкімі, груба матэрыяльнымі. Гэта—людзі суцэльных будняў. Яны існуюць без натхнення, ім невядомы душэўны ўздым.

Настрой тых, каго мы называем мяшчанамі, выдатна сфармуляваў А. М. Горкі: «...не варта ствараць жыццё, і бескарысна імкнуцца перайначыць яго, дабро і зло—раўнацэнныя. І для чаго шукаць сэнсу дзён? Прымем і палюбім іх такімі, якія яны ёсць, напоўнім іх усімі асалодамі, якія даступны нам, і яны будуць лёгка і прыемна паглынацца намі».

Душэўна спустошаных людзей нішто не звязвае з калектывам. Па-сапраўднаму бедныя тыя людзі, каму недаступны той высокі накал, які дорыць людзям цудоўную духоўную і фізічную сілу. Маладосць жа—час натхнення, подзвігаў. Напомнім нашым чытачам, што У. І. Ленін напісаў сваю вядомую кнігу «Што такое «сябры народа» і як яны ваююць супраць сацыял-дэмакратаў» у 24 гады. Камсамолка Зоя Касмадзям'янская зрабіла свой велічны подзвіг у 18 гадоў. І. І. Мечнікаў у 19 год меў ужо некалькі друкаваных прац. Дзевятнаццацігадовым юнаком Я. Свярдлоў кіраваў бальшавіцкімі арганізацыямі Урала. Першая кніга рамана «Ціхі Дон» была напісана Міхаілам Шолахавым у 23-гадовым узросце. Гэтых людзей у маладым, нават юнацкім узросце натхняла думка пра народ, яго шчасце.

Мяшчанам жа з іх пагоняй за асабістым дробным шчасцем недаступна ўсведамленне таго, што камуністычная

этыка разлічана не на шчаслівых адзінак, а на шчасце мільёнаў. Змагаючыся за шчасце асабістае, яны абкрадаюць самі сябе, наступаюць на горла свайму шчасцю. Неаспрэчная ісціна, што прыгожы чалавек, моцны духам, разумны, фізічна дасканалы, чалавек гарманічна развіты можа вырасці толькі ў барацьбе за камунізм.

У чым жа прычына таго, што побач з мільёнамі савецкіх людзей, юнакоў і дзяўчат, вартых звання сапраўдных будаўнікоў камунізма, у нас усё яшчэ сустракаюцца маладыя людзі з мяшчанскімі імкненнямі і ідэаламі?

Цяжка пераацаніць ролю савецкай сям'і ў фармаванні маральнага вобліку чалавека. Ад бацькоў-працаўнікоў, савецкіх патрыётаў дзецям з малых год перадаецца любоў да Радзімы, сціпласць, унутраная чэснасць.

Рабочы чыгуначнага дэпо ст. Брэст Р. Гарэцкі—добры працаўнік, шчыры таварыш. У гэтага чалавека сямейнае жыццё неадлучна ад грамадскага. Гэтае правіла ўспрынялі і яго дзеці. Сын Гарэцкага Пётр яшчэ ў школе вылучаўся прынцыповасцю, вернасцю камсамольскаму абавязку. Цяпер ён працуе радыётэхнікам. У сярэдняй школе № 1 г. Брэста вучацца яшчэ двое дзяцей гэтага рабочага. Яны ва ўсім падобны на свайго брата—працавітыя, старанныя, таварыскія.

А вось процілеглы прыклад. Толя—адзіны сын у сям'і. Маці не можа на яго наглядзецца. Яна пераканана, што яе сын—будучы геній. Толя расце празмерна самаўлюбёным і эгаістычным. Пры пытаннях настаўніка на ўроку ён вышэй за ўсіх падымае руку. Толькі і чуеш: «Я ведаю... Я... Я!» Калі маці гавораць пра дрэнныя паводзіны Толі, яна адказвае: «Я свайго Толеньку ведаю. Ён сабе гэта не дазволіць».

Хто ведае, колькі трэба будзе намаганняў, каб перавыхаваць Толю, дапамагчы яму пазбавіцца ад звычак мяшчанства, якія прывіла яму празмерна клапатлівая маці.

Прыйшоў час па-сур'ёзнаму заняцца выхаваннем дзяцей у сям'і. Маленькія ж дзеці хутка стануць дарослымі. Яны будуць доўга несці на сабе сляды сямейнага выхавання. Наша савецкае грамадства многа ўвагі аддае перабудове сістэмы выхавання. Калі сямейнае выхаванне не будзе адпаведна палепшана, значная частка працы настаўнікаў можа загінуць марна.

Пакуль што адказнасць бацькоў за выхаванне дзяцей часта далей дэкларацый не ідзе. Мы не ведаем такіх фактаў, каб бацькі неслі сур'ёзную адказнасць за дрэнныя паводзіны дзяцей у школе, дома, на вуліцы. Нельга лічыць нармальным тое, што вельмі многія бацькі перакладаюць увесь цяжар сямейнага выхавання на маці. Бацькі ў многіх выпадках могуць уносіць адпаведныя карэктывы ў стыль сямейнага выхавання. Палепшанне сямейнага выхавання трэба разглядаць як справу ўсёй савецкай грамадскасці, а не толькі школы і настаўнікаў.

У педагагічнай навуцы многа год існавала ўяўленне, што дастаткова выкласці вучням асновы камуністычнай маралі, падмацаваць маральныя сентэнцыі неабходнай колькасцю прыкладаў, каб выхаваць школьнікаў у камуністычным духу. Такая «тэорыя» прывяла да таго, што з нашых агульнаадукацыйных навучальных устаноў часам выходзілі людзі, якія ўмеюць прыгожа і з натхненнем гаварыць пра камунізм, але не здольны практычна прыносіць ніякай карысці ў яго будаўніцтве.

Пасля XXI з'езда КПСС у нашу школу прыйшло шмат новага. Аднак старыя звычкі, традыцыі яшчэ даюць аб сабе знаць. Так, да гэтага часу крытэрыем школьных адзнак лічыцца толькі тое, як вучань займаецца і паводзіць сябе ў школе. Яго ж грамадская работа, яго ўдзел у жыцці піянерскай і камсамольскай арганізацыі зусім не прымаюцца пад увагу. Наўрад ці гэта спрыяе выхаванню ў школьнікаў высокіх маральных якасцей.

Мне ўспомнілася вытрымка з сачынення на тэму «Тацяна і Вольга Ларыны», якое пісала васьмікласніца Лена К.: «Тацяна едзе ў Маскву. Тут ёй удаецца выйсці замуж за генерала. Яна атрымала добрую кватэру і купіла многа модных сукенак. Потым прыехаў Яўгені Анегін. Тацяна магла б зноў займець з ім дружбу, але яна не захацела кінуць генерала. Яна сказала: «Я другому аддадзена і буду век яму верная».

Гэта мяшчанская інтэрпрэтацыя перажыванняў гераіні сусветнавядомага рамана не ўстрывожыла настаўніцкі калектыў, не прывяла выхавацеляў да думкі аб неабходнасці больш уважліва прыглядзецца да вобліку дзяўчынкі. У школе Леначка лічыцца добра выхаванай, таму што нікому сваімі паводзінамі яна не робіць непрыемнасцей.

У школе настаўнікі нярэдка баяцца сур'ёзна гаварыць з вучнямі старэйшых класаў аб каханні, аб праблемах сямейнага жыцця. Вечары на гэтыя тэмы часам падобны на пропаведзі аскетызму. Яны праходзяць сумна. Наша школа зрабіла дзейсныя крокі на шляху барацьбы з фармалізмам у навучанні. Задача ў тым, каб павесці такую ж рашучую барацьбу за ліквідацыю рэштак фармалізму ў працэсе выхавання.

Яшчэ вельмі слабы ўдзел камсамольскіх арганізацый у барацьбе з праявамі мяшчанства сярод моладзі. Часта камсамольцы, якія парушаюць нормы камсамольскай этыкі, робяцца прадметам грамадскага абмеркавання толькі тады, калі яны трапяць у рукі народных дружыннікаў або міліцыі.

Варта сур'ёзна падумаць пра выхаваўчы эфект той кінапрадукцыі, якая дэманструецца на нашых кінаэкранах. Мноства замежных фільмаў, ды і некаторыя карціны нашых кінастудый, выхоўваюць у нашай моладзі мяшчанскія густы. Імкненне зрабіць карціну як мага цікавай штурхае часам сцэнарыстаў і рэжысёраў на памылковы шлях. Праілюструем нашу думку на прыкладзе кінакарціны «Капітан першага ранга», якая зроблена на Талінскай кінастудыі. Новікаў-Прыбой імкнуўся ў сваім вядомым творы паказаць веліч простага рускага матроса, яго рэвалюцыйны дух. Карціна ж запамінаецца галоўным чынам прыгожымі тварамі, бездакорнымі манерамі афіцэраў царскага флоту, балямі, раундамі і танцамі жанчын лёгкіх паводзін у кабарэ. Гэта не можа не спрыяць развіццю мяшчанскіх настрояў.

Хацелася б, каб і праз кнігі нашы перадавыя савецкія людзі, пісьменнікі ў першую чаргу, вялі з моладдзю шчырую і сур'ёзную гаворку пра каханне, пра адносіны да сябе самога, да бацькоў, да сяброў. Мала яшчэ пішацца ў нас мастацкіх твораў, якія б паказвалі моладзі вобраз людзей камуністычнага грамадства. Гадоў дзесяць таму назад выйшла кніга пісьменніка Г. Адамава «Выгнанне валадара». На прыкладзе ацяплення раёнаў савецкай Арктыкі пісьменнік у мастацкай форме паказаў, як камунізм паступова ўваходзіць у побыт савецкіх людзей. Моладзь з ахвотаю чытала гэтую кнігу. Патрэбны новыя кнігі гэтага ж жанру.

У нашай краіне ёсць усе магчымасці для ліквідацыі нават самых нязначных праяў мяшчанства сярод моладзі. Гэта можна зрабіць у самыя бліжэйшыя гады. На гэта нацэльвае камсамол і нядаўняя пастанова ЦК КПСС «Аб задачах партыйнай прапаганды ў сучасных умовах», дзе асабліва падкрэсліваецца, што ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадства ў нашай краіне «...засваенне камуністычнага светапогляду, авалоданне асновамі марксізма-ленінізма, глыбокае разуменне палітыкі партыі робіцца жыццёвай неабходнасцю для кожнага савецкага чалавека».

# ГЕНІЙ ПОЛЬСКАЙ МУЗЫКІ

Мінула 150 год з дня нараджэння Фрыдэрыка Шапена. З творчасцю Шапена звязана адна з самых паэтычных старонак у гісторыі сусветнай музычнай культуры. Да нашых дзён геніяльныя творы польскага кампазітара прадаўжаюць хваляваць мільёны людзей розных краін свету.

Жыццёвы і творчы шлях Шапена — гэта шлях мастака-грамадзяніна, які палымяна любіў сваю радзіму, самааддана прысвяціў ёй не толькі ўсю сваю творчасць, але і ўсе свае пачуцці і імкненні, думкі і спадзяванні, усё сваё жыццё. Вельмі трапна ахарактарызаваў Шапена як кампазітара-патрыёта выдатны рускі крытык У. Стасаў. Ён пісаў: «Шапен... уяўляе такую яркую, самастойную і высока-таленавітую праяву нацыянальнасці, якой... нельга было ўявіць да яго ў музыцы... Магутная нота польскай нацыянальнасці, прагная, палымяная адданасць сваёй бацькаўшчыне ніколі не вычэрпваліся ў ім і выявілі велічную глыбокую рысу ў яго творчасці».

Дзякуючы народнай аснове сваёй творчасці, прызнанню народнасці, як галоўнага прынцыпа мастацтва, Шапен здолеў праўдзіва паказаць у сваёй музыцы многія бакі чалавечага жыцця. Ён шчасліва пазбегнуў характэрнай для заходне-еўрапейскага рамантызма XIX стагоддзя паэтызацыі вобраза героя, які супроцьстаўляўся грамадству або індывідуалістычна адасабляўся ад яго. Вось чаму ў сваім імкненні паказаць драматычныя перажыванні чалавека Шапен заўсёды застаецца шчырым, чыстым, глыбока эмацыянальным. У сваіх творах буйнага плана ён удала развівае прынцыпы псіхалагічнага рэалізма.

Геніяльны наватар гарманічнай мовы, рытмікі, формы музычных твораў, Шапен няўхільна змагаўся за поўную адпаведнасць зместу і формы, за прымат зместу, за праўдзівасць і мастацкую дасканаласць музычных вобразаў. І ў гэтым яму таксама дапамагала народная творчасць. Кампазітар лічыў неабходным захоўваць і развіваць усё лепшае, што пакінула ў спадчыну музычная класіка мінулых эпох, і абмінаць тое, што перашкаджае раскрыць ідэю, вобраз. Іменна таму творы Шапена вызначаюцца незвычайнай дасканаласцю формы, глыбінёй зместу.

З фальклорнай асновай творчасці звязана яшчэ адна выдатная якасць музыкі Шапена. Гэта — «невычэрпнае багацце» мелодый, якія, як славянскія мелодыі, «выступілі зусім выразна для ўсёй Еўропы ў творах Шапена» (А. Сяроў).

Вось чаму мастацтва Шапена, якое прасякнута рэвалюцыйнымі ідэямі польскага вызваленчага руху XIX стагоддзя і насычана жыватворнымі сокамі польскай народнай творчасці, каларытнае, непаўторнае — з'яўляецца блізкім і зразумелым для народаў усяго свету. У творчасці геніяльнага польскага кампазітара яны адчуваюць сапраўдную чалавечнасць, любоў да жыцця, да яго радасцей, «калі ў здаровых людзях праменіцца весялосцю стыхія жыцця».

Жыццёвы шлях Шапена пачаўся ў маёнтку Жэлязова Воля пад Варшавай, дзе Фрыдэрык Шапен нарадзіўся 22 лютага 1810 года. Тут яго бацька-француз, які яшчэ ў юнацтве эміграваў у Польшчу, працаваў выкладчыкам, а маці-полька была эканомкай у памешчыка.

Неўзабаве бацькі Шапена пераехалі ў Варшаву: там праходзіла ўсё маленства і юнацтва Шапена—будучага кампазітара. Гэта былі гады, калі Польшча жыла ідэямі барацьбы за ўзнаўленне сваёй страчанай дзяржаўнай незалежнасці. У. І. Ленін пісаў пра гэты перыяд у жыцці польскага



**Фрыдэрык Шапен.**
З партрэта Дэлакруа.

народа: «... тады рэвалюцыйнай была іменна Польшча цалкам, не толькі сялянства, але і маса дваранства».

Высокімі патрыятычнымі нацыянальна-вызваленчымі ідэямі былі натхнёны і бацькі Шапена. Для бацькі кампазітара Польшча была другой радзімай, ён змагаўся за яе нацыянальнае адраджэнне ў славутым войску Касцюшкі. Не менш дарагой была радзіма і для маці кампазітара. Аб уплыве бацькоў на фармаванне поглядаў Шапена Адам Міцкевіч пісаў: «Душа польскай маці іграла яго пальцамі, спявала, стагнала, а душа бацькі-француза смяялася на ўсё горла, — і гэта быў Шапен...»

У сям'і Шапена вельмі любілі польскія народныя песні і танцавальныя мелодыі. Гэтыя якасці вельмі рана праявіліся і ў будучага кампазітара, побач з яго любоўю да паэзіі, малявання, гумару.

Вучыцца іграць на фартэпіяна Шапен пачаў з шасці год. У сямігадовым узросце ён піша свой першы музычны твор, які быў адразу надрукаваны, — «Паланез». А ў восем год як піяніст і імправізатар ён становіцца любімцам варшаўскай канцэртнай эстрады.

У 1826 годзе, будучы ўжо аўтарам надрукаванага буйнага фартэпіяннага твора «Ронда до мінор», шаснаццацігадовы Шапен паступае ў Вышэйшую музычную школу ў клас вядомага кампазітара і дырыжора Юзафа Эльснера. Тут ён робіць дзівосныя поспехі ў галіне фартэпіяна і кампазіцыі. Пасля першага года навучання ў характарыстыцы Шапена ўзнікае адзнака — «Выключныя здольнасці», пасля другога года — «Выключны талент», а яшчэ праз год — «Музычны геній». І гэтую адзнаку таленту юнага Шапена праз некаторы час пацвердзіла ўся перадавая музычная Еўропа вуснамі вялікага нямецкага кампазітара Роберта Шумана. Шуман, пачуўшы варыяцыі Шапена на тэму оперы «Дон Жуан» Моцарта, напісаў у сваёй рэцэнзіі: «Зніміце капелюшы, панове, перад вамі геній!»

Першы, ранні перыяд творчасці Шапена закончыўся ў 1830 годзе, калі ён вярнуўся са сваёй першай канцэртнай паездкі ў Вену, пасля наведвання Прагі, Дрэздэна, Берліна.

К гэтаму часу малады кампазітар быў ужо аўтарам двух славутых фартэпіянных канцэртаў. У гэтых творах тонка пераўвасоблены многія рысы польскага народнага меласу ў дзівосныя па прыгажосці і лірызму музычныя вобразы.

У канцы 1830 года Шапен другі раз накіроўваецца ў канцэртную паездку за граніцу і да канца сваіх дзён застаецца адарваны ад бясконца любімай радзімы. Разгром царызмам пры падтрымцы міжнароднай рэакцыі рэвалюцыйнага паўстання палякаў 1830—1831 года, паласа зняважання і прыгнёту польскага народа, якая пачалася ўслед за гэтым, прывялі Шапена разам з іншымі вялікімі дзеячамі польскага мастацтва і літаратуры ў рады эміграцыі. Шапен жыве ў Парыжы, дзе зблізіўся з Міцкевічам, Славацкім, Красінскім, а таксама з такімі вялікімі дзеячамі сусветнай культуры, як Бальзак, Гейне, Жорж Санд, Гюго, Дзюма-бацька, Дэлакруа, Вернэ, Ліст, Берліёз, Мейербер, Обэр, Расіні.

Аб ігры Шапена ў Парыжы расказвалі цуды. Вельмі цікавую характарыстыку Шапену-выканаўцу дае вядомы піяніст Гілер: «Так ніхто і ніколі да клавішаў не дакранаўся, у такіх шматлікіх адценнях ніхто і ніколі не здабываў з іх гукаў. Тое, што ў іншых было выдатным упрыгожаннем, у яго станавілася раскошнай кветкай; што было ў іншых тэхнічным рухам, у яго нагадвала палёт ластаўкі. Усялякія разважанні аб якасцях ігры Шапена, накшталт: арыгінальнасць, закончанасць, пачуцці— знікалі. Пераважала над імі думка: гэта іграе Шапен».

Сярод шматлікіх твораў, прывезеных Шапенам у Парыж, былі эцюды, якімі ён зрабіў цэлы пераварот у га-

ліне фартэпіяннай ігры. Эцюды польскага кампазітара зрабіліся адухоўленым увасабленнем чалавечых пачуццяў.

Нягледзячы на спробы некаторых асоб з акружэння Шапена пераканаць яго ў тым, што «кожны артыст — касмапаліт», геніяльны кампазітар адчувае яшчэ больш палымяную любоў да сваёй радзімы.

У творчасці другога перыяду (1831 — 1840 гг.) Шапен з дзівоснай сілай выяўляе свой рамантычны патрыятызм. Пачуцці болю за прыгнечаную айчыну, нянавісць да прыгнятальнікаў уносяць у яго музыку драматычную насычанасць і трагізм. У гэты перыяд узнікаюць геніяльныя прэлюдыі ля мінор і рэ мінор, эцюд до мінор (так званы «рэвалюцыйны»), скерца сі мінор і г. д. У гэты ж час Шапен піша свае, навеяныя вершамі Міцкевіча, фартэпіянныя балады, паланезы — драматычныя аповесці аб гістарычнай велічы радзімы, стварае непераўзыйдзеныя ўзоры малюнкаў польскага народнага жыцця і, нарэшце, геніяльную санату сі бемоль мінор. Аб пахавальным маршы з гэтай санаты вялікі кампазітар Ферэнц Ліст пісаў, што ён характарызуе «ўсё, што ёсць урачыстага і журботнага ў жалобным шэсці цэлага народа, які прысутнічае на ўласным пахаванні».

У трэцім перыядзе сваёй творчай дзейнасці — у 40-я гады XIX стагоддзя — Шапен піша такія шэдэўры, як другая саната, фантазія, баркарола, лепшыя паланезы і г. д. Разам з узрослым майстэрствам у яго яшчэ мацней выяўляецца імкненне да псіхалагічнай праграмнасці, да драматызму музычных вобразаў, абагульнення і глыбокага развіцця ідэі. Яшчэ мацней адчуваецца ў творах гэтага перыяду любоў кампазітара да прыроды, да роднага краю, сцверджанне ідэй гуманізму.

Апошнія два гады жыцця хворы на сухоты Шапен ледзь зарабляў сабе на хлеб урокамі музыкі. Памёр ён у страшэннай беднасці 17 кастрычніка 1849 года ў Парыжы, да апошняга дыхання не расстаючыся з думкай аб радзіме.

Нягледзячы на многія дзесяцігоддзі, якія аддзяляюць сучасную народную Польшчу ад дзён, калі Шапен пісаў свае неўміручыя творы, яго музыка гучыць там яшчэ больш дасканала і прыгожа. Гэта зусім зразумела, бо яна звернута да таго народа, чыімі жыватворнымі сокамі напоена, чым нацыянальным гонарам быў яе тварэц.

Савецкія людзі, адзначаючы 150-годдзе з дня нараджэння Фрыдэрыка Шапена, ушаноўваюць геніяльнага кампазітара, стваральніка такіх узораў музычнай творчасці, якія блізкі сваімі ідэямі перадавому рускаму музычнаму мастацтву, кампазітара, чые творы знайшлі ў нашай краіне сваю другую радзіму.

**І. НІСНЕВІЧ.**

# НАРАДЖЭННЕ СІМФОНІІ

**Нарыс**

Вось і ўсё... Здадзены апошні экзамен, улягліся бясконцыя хваляванні... Кожны з учарашніх студэнтаў ужо ведаў, дзе ён будзе працаваць, чым займацца. Толькі што адбыўся развітальны сход у зале Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, і выпускнікі з разгубленым, але шчаслівым выразам на тварах пахаджвалі па калідорах, збіраліся невялічкімі групкамі ў класах і вялі бясконцыя размовы. Было ўрачыста, весела і крыху сумна. Весела таму, што зроблены першы крок да прафесіянальнага «вялікага» мастацтва. За плячыма засталіся гады нялёгкай вучобы, і прыемна было ўсведамляць, што цяпер не рызыкуеш больш «схапіць» тройку альбо слухаць ушчуванне за прапушчаную лекцыю. Ну, а сумна... Сумна таму, што скончылася вясёлае студэнцкае жыццё, што трэба развітвацца з сябрамі і настаўнікамі, з якімі знаёмы многа год. Цяпер ужо не будзе студэнцкіх вечароў, акадэмічных і шэфскіх канцэртаў. Не будзе... Ох, як многа чаго не будзе! Але навошта думаць аб тым, чаго не будзе? Упрадзе любімая работа, дзе можна скарыстаць атрыманыя веды, новыя сустрэчы, новыя сябры і многа-многа чаго новага, яшчэ нязведанага.

У адным з класаў, не запальваючы святла, сядзела некалькі выпускнікоў. Яны ўспаміналі першыя дні заняткаў, смешныя выпадкі са студэнцкага жыцця. А потым наплылі больш далёкія ўспаміны.

За вокнамі пакоя на плошчы пагойдваўся вулічны ліхтар, кідаючы на падлогу два светлыя квадраты, перакрэсленыя ценямі ад рамы. Было спакойна і неяк па-хатняму ўтульна. Можа таму амаль кожнаму з юнакоў прыйшлі на памяць родная хата і гады маленства. Не вельмі ласкавымі былі яны для многіх. У час вайны многія страцілі бацькоў, многія бачылі, як лютавалі ворагі на знявечанай зямлі і як мужна змагаліся іх браты і сёстры ў партызанскіх атрадах. Сярод юнакоў былі і такія, што самі са зброяй у руках абаранялі сваю Радзіму. І не дзіўна, што неўзабаве гутарка ператварылася ў своеасаблівыя ўспаміны аб партызанскіх засадах, спушчаных пад адхон варожых эшалонах, смелых налётах на фашысцкія гарнізоны — аб усім, чым жылі ў тыя грозныя гады савецкія людзі...

Успамінаў хапіла да самага світання. І толькі калі на ўсходзе засвяцілася першая палоска зары, усе шумлівым натоўпам выйшлі на вуліцу. Светлавокі хударлявы юнак, непрыкметна адстаўшы ад таварышаў, пайшоў не ў бок інтэрната, а звярнуў у сквер на плошчы Свабоды. Яму хацелася пабыць аднаму.

Здзейснілася запаветная мара: ён атрымаў дыплом аб заканчэнні кампазітарскага аддзялення Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Якім далёкім здаецца той час, калі ён, навучэнец чыгуначнага вучылішча, нават і не думаў, што ўсё яго далейшае жыццё будзе звязана з музыкай! Аднак свет чароўных гукаў з неадольнай сілай вабіў яго да сябе. І неўзабаве просты рабочы хлопец, які так горача любіў музыку, упершыню нясмела пераступіў парог кансерваторыі. Сказаць па праўдзе, яму і самому не верылася, што яго прымуць: ён жа не меў ніякай спецыяльнай музычнай падрыхтоўкі. Адзінае, што ён умеў — гэта па слыху іграць на гітары. Але вялікія музычныя здольнасці юнака ўзялі сваё — яго «ў парадку выключэння» прынялі на падрыхтоўчы курс кансерваторыі. Нялёгка было даганяць у вучобе сваіх аднакурснікаў, якія паканчалі музычныя школы ці вучылішчы! Але цяпер усё гэта далёка, а ён — ужо аўтар некалькіх музычных твораў, хоць яшчэ крыху вучнёўскіх, але праніклівых. Вось і ўчора на канцэрце выконвалася яго дыпломная работа — сімфанічная «Паэма-легенда», у аснову літаратурнага сюжэта якой пакладзена паэма Янкі Купалы «Магіла льва».



Яўген Глебаў за дырыжорскім пультам.
Фота С. Чырэшкіна.

Здаецца, яму ўдалося ўвасобіць у музыцы прывабнасць купалаўскіх вобразаў. Але гэта толькі пачатак. А над чым жа працаваць у далейшым? Рамансы? Песні? Музыка да спектакляў? Усё гэта цікава і прывабна. Толькі гэта не тое, куды б можна было ўкласці ўвесь запал юнацкай душы, усе веды, атрыманыя ў кансерваторыі! І міжволі ўспомнілася нядаўняя размова аб партызанах. Так, гэта былі сапраўдныя героі! Шкада, што ён у той час быў у далёкім Улан-Удэ і не мог бачыць усяго сваімі вачыма. Праўда, яму тады было ўсяго 12 — 13 гадоў. Толькі глыбока ў душу заселі шматлікія расказы старэйшых сяброў аб вайне, аб перамозе над гітлераўскімі прыблудамі, аб гераізме савецкіх патрыётаў. Вось бы пра гэта напісаць музыку! Ды не! Пра гэта створана так многа песень, сімфоній, напісаны і оперы. Маладому кампазітару боязна нават паспрабаваць сказаць штонебудзь сваё...

Думкі музыканта перапыніў шум першага трамвая.

— Эге, паважаны таварыш Глебаў, — звярнуўся сам да сябе юнак, — вы, здаецца, робіцеся летуценнікам! Гэта ж трэба — даседзець аж да шасці гадзін раніцы на скверы!..

Лёгка падняўшыся з лаўкі, юнак шпарка пакрочыў па вуліцы.

Скора Яўген Глебаў забыўся і пра размову з сябрамі ў кансерваторыі і пра свае думкі на скверы. Маладога кампазітара цалкам захапіла работа ў Тэатры юнага гледача, дзе ён працаваў загадчыкам музычнай часткі і дырыжорам. Але час ад часу да яго вярталася пачуццё незадаволенасці, адчуванне таго, што не зроблена нешта вельмі важнае. Пачуццё гэтае было неакрэсленым, і толькі пасля выпадковай размовы са сваім старым сябрам, былым партызанам, юнак зразумеў прычыну сваёй незадаволенасці.

— Якая ўсё ж цікавая рыса чалавечага характару — забываць усё цяжкае, — сказаў таварыш. — Ты ж ведаеш, што ў час вайны я быў у партызанах, удзельнічаў у цяжкіх баях, нямала страціў там сяброў і сам не раз быў на валасок ад смерці. Але не прайшло яшчэ і паўтара дзесятка год, як усе гэтыя падзеі адышлі ў памяці на другі план. І калі б я сёння не сустрэў аднаго са сваіх таварышаў па атраду, то, напэўна, і не пачаў бы з табой такой «лірычнай» размовы.

— Чаму ж лірычнай? — адказаў Глебаў. — Мне здаецца, што ў партызанскім жыцці не так ужо і многа было лірыкі. Тут правільней гаварыць аб героіцы.

— Ты, мабыць, уяўляеш, што мы беспрастанку рабілі гераічныя справы. Памыляешся, дружа! Людзі — заўсёды ёсць людзі... Мы не толькі ваявалі, але і марылі і спявалі... Памятаю, пад Пухавічамі далучыўся да нашай брыгады мясцовы партызанскі атрад «Праўда», якім камандаваў Пётр Іванавіч Іваненка з вёскі Клінок Чэрвеньскага раёна. Разам з ім была і ўся яго сям'я. Скажу табе шчыра, што такіх песеннікаў, якімі былі яны, не часта сустрэнеш. Ніколі не забуду, як мы спявалі складзеныя імі песні. Які магутны зарад бадзёрасці і жадання перамагчы ворага давалі нам хвіліны такіх калектыўных спеваў. Ці ж гэта не лірыка! Дарэчы, нашы атрадныя песні многія памятаюць і да гэтага часу. Ну, вось для прыкладу хаця б песня, складзеная Іваненкам — «Праз лясы густыя». Паслухай.

І таварыш, сеўшы за раяль, пачаў іграць. Сыграў адну мелодыю, другую, а потым, перапыніўшы ігру, зноў звярнуўся да Глебава:

— Ведаеш, я не так даўно быў на адкрыцці помніка загінуўшым партызанам нашай брыгады, сустрэўся там з Іваненкам... Ён з такім жалем скардзіўся на тое, што нашых песень даўно не чуваць і што ад іх скора не застанецца і следу... Мне зрабілася сорамна. Я ж музыкант і ў першую чаргу павінен быў паклапаціцца аб тым, каб запісаць іх, выдаць, прапанаваць у рэпертуар нашых хораў. А я хаваю іх у памяці. Праўда, сёе-тое я запісаў, хацеў зрабіць хор, потым марыў аб кантаце, а цяпер мне здаецца, што на гэтым матэрыяле можна стварыць сімфанічную паэму. У мяне нават і назва ёсць — «Успаміны партызана». Застаецца, як кажуць, толькі пачаць і скончыць. Паслухай, мне здаецца, што гэта песня якраз падыдзе да галоўнай тэмы паэмы.

Ён зайграў на раялі суровую, стрыманую мелодыю. Потым другую, трэцюю... Час ад часу звяртаўся да Глебава з запытаннем:

— Як табе падабаецца гэта? — І, не чакаючы адказу, зноў удараў па клавішах.

— Ведаеш што? — раптам загаварыў ён. — Свае творчыя планы я ўсё роўна ажыццявіць, мусіць, не здолею: ні часу, ні магчымасцей у мяне пакуль няма. Мне прыйшла цудоўная думка — а што, калі ты возьмешся за гэтую справу? Сам...

— Як гэта — сам?

— А проста так: я табе наіграю ўсе гэтыя тэмы, ты іх запішаш, абдумаеш, а потым, можа, і за паэму возьмешся. Праўда, цудоўна? — і, заўважыўшы жэст сябра, жартам дадаў: — Ні за ідэю, ні за тэмы я з цябе ганарару патрабаваць не буду, а ў выглядзе бясплатнага дадатку аддам і назву — «Успаміны партызана»... Дальбог, гучыць нядрэнна! Згаджайся, пакуль я не перадумаў...

Глебаву адразу спадабаліся мужныя мелодыі партызанскіх песень, і ён яшчэ ў пачатку размовы лавіў сябе на думцы, як лепей выкарыстаць іх. Захапіла яго і задума паэмы, і ён адчуў, што здолее ўвасобіць яе ў музыцы.

У той жа дзень, вярнуўшыся дадому, кампазітар сеў за інструмент. Пісалася проста і лёгка, гукі партызанскай песні набывалі стройную форму, у думках ужо вырысоўваліся канкрэтныя аркестровыя фарбы. І яму здавалася, што паэма «пойдзе» вельмі лёгка. Так адразу з'явіўся ўступ.

Але далей кампазітара чакала першая няўдача. Па яго задуме, галоўная партыя паэмы павінна быць яснай, даступнай і ў той жа час драматычнай і напружанай. Аднак атрымоўвалася зусім не тое. Калі ён звяртаўся да хуткіх рытмаў, музыка атрымоўвалася занадта мітуслівай і зусім не драматычнай. Спробы зрабіць яе больш павольнай вялі да таго, што тэма губляла напружанасць і набывала залішнюю мяккасць. Патраціўшы на пошукі больш двух тыдняў і не напісаўшы за гэты час і пяці тактаў, кампазітар вырашыў часова спыніць работу над паэмай, даць, як кажуць, магчымасць «адстаяцца» думкам, пачуццям.

Неўзабаве Глебаву прапанавалі напісаць музыку да п'есы А. Гутковіча і У. Хазанскага «Юныя мсціўцы», якую ставіў на сваёй сцэне Тэатр юнага гледача. П'еса апавядае аб гераічнай барацьбе обальскіх камсамольцаў-падпольшчыкаў з фашысцкімі захопнікамі. Такі змест спектакля цалкам адпавядаў творчым задумам кампазітара. У музыцы ж можна скарыстаць мелодыі песень, якія ён запісаў ад сябра, і свае накіды паэмы. Кожны музычны нумар будучага спектакля можа з'явіцца своеасаблівым мастацкім эцюдам да буйнага сімфанічнага твора. Вырашана! З сённяшняга ж дня ён бярэцца за работу.

* * *

Сапраўды, работа над музыкай да «Юных мсціўцаў» прынесла Яўгену Глебаву вялікую карысць. Ён адчуваў: у ёй гучалі тэмы, якія яго цяпер хвалявалі і непакоілі... Музыка атрымалася праўдзівай і шчырай. Гэта радавала кампазітара. Да таго ж, ён атрымаў шмат новага матэрыялу для далейшай работы над паэмай.

Як прымуць юныя гледачы музыку? — вось што цікавіла Глебава. Ён добра ведаў, што юныя наведвальнікі тэатра — самыя строгія і шчырыя крытыкі: яны не цярпяць фальшы. Асабліва хвалявала яго, як успрымуцца гледачом самастойныя музычныя нумары, не звязаныя з дзеяннем на сцэне, у якіх ён бачыў эскізы свайго будучага буйнага сімфанічнага твора.

Усё абышлося добра: былі воплескі, напружаная цішыня ў зале ў час выканання музыкі, засяроджаныя дзіцячыя твары. Заставалася толькі шкадаваць аб сціплых выканаўчых магчымасцях тэатральнага аркестра. Але гэта не бяда! Спроба сіл, здаецца, была ўдалай, і цяпер яму неадкладна трэба брацца за «Успаміны партызана».

Але чамусьці не цягнула да інструменту, пачатая партытура ляжала некранутай на яго рабочым стале, а задума паэмы здавалася няяснай і неглыбокай. Спачатку ён не разумеў, адкуль прыйшло да яго гэтае пачуццё, але потым здагадаўся, што трапіў пад уплыў спектакля з яго імклівым дзеяннем і драматычнымі сітуацыямі. Так, у параўнанні са спектаклем пра обальскіх герояў, задума яго паэмы была сапраўды крыху драбнаватай. Гэта ён асабліва выразна адчуў пасля аднай знамянальнай падзеі.

Паглядзець спектакль і сустрэцца з яго стваральнікамі прыехалі ў Мінск удзельнікі обальскай падпольнай арганізацыі, былыя партызаны Б. Маркіянаў і Ф. Зянькова. Сустрэча была шчырая і хвалюючая. Гасцям спадабаўся спектакль, і калі прайшлі першыя хвіліны няёмкасці, пачалася тая простая, натуральная размова, якая магчыма толькі паміж добра знаёмымі людзьмі. Уласна кажучы, так яно і было: артысты добра ведалі сваіх гасцей па ролях, якія яны ігралі ў спектаклі, а госці бачылі ў артыстах сваіх сяброў. Артысты сядзелі прыціхлыя і ўважліва слухалі расказы сваіх гасцей. Болей за ўсё ў гэтых расказах Яўгена Глебава ўразіла шчырасць, цеплыня, непасрэднасць. Ні Зянькова, ні Маркіянаў ніводнага слова не сказалі пра сябе, не было ў іх расказах і ценю самазахаплення і пахвальбы гераічнымі подзвігамі. Затое якую гарачую любоў і пачуццё болю можна было адчуць калі яны пачыналі гаварыць пра загінуўшых сяброў! Як жывыя, паўставалі вобразы Ніны Азолінай, Зіны Лузгіной, братоў Езавітавых, Мікалая Аляксеева і другіх обальскіх камсамольцаў.

Кампазітар вярнуўся дамоў усхваляваны. У яго думках узнікала ўсё пачутае сёння: размова з сябрамі ў кансерваторыі, расказы знаёмых і партызанскія песні, пачутыя ад сябра Анатоля. Ён яшчэ раз успомніў пра сваю сімфанічную паэму, якая ўжо каля года ляжала нясконачаная, і раптам зразумеў, чаму ніяк не можа ўзяцца за яе.

Усенародная партызанская вайна — гэта вельмі важны перыяд у гісторыі Беларусі. Каб увасобіць яго ў музыцы, трэба стварыць цэлую галерэю мастацкіх вобразаў. Музычны твор на гэтую тэму павінен быць манументальным. У адначастковай сімфанічнай паэме з яе канкрэтным літаратурным зместам многага не скажаш. Тут патрэбна цыклічная форма з некалькіх частак.

Сімфонія! Вось у чым можна ўвасобіць хаця б частку тых думак, пачуццяў, якія хвалююць яго і настойліва просяцца на нотную паперу.

Але ці здолее ён справіцца з такім буйным творам, як сімфонія? Тут патрэбен не толькі талент, але і добрае веданне законаў жанру, чоткае разуменне формы. Пісаць, напэўна, прыдзецца ў класічнай традыцыі, і цыкл будзе складацца з чатырох частак: санатнага алегра, павольнай часткі, скерца і фіналу. Але ці ўмесцяцца ў цесныя рамкі класічнай схемы тыя думкі, што так хвалююць яго? Ці зразумеюць слухачы, не заглядаючы ў праграмкі, што гэта твор сучасны? Атрымаць адказ на ўсе гэтыя пытанні мож-

на было толькі напісаўшы сімфонію. І Глебаў узяўся за работу.

* * *

«Санатнае алегра — форма музычнага твора, заснаваная на супрацьстаўленні і развіцці двух тэм, розных па танальнасці і злучаных потым аднной танальнасцю» — гэтае непарушнае правіла павінна было быць пакладзена ў аснову першай часткі сімфоніі. Глебаў не меў намеру адступаць ад класічнай формы і вырашыў строга прытрымлівацца кожнай літары канонаў санатнага алегра. Уступ у яго ўжо быў гатовы: змрочная, цяжкая, драматычная тэма. Яна можа служыць эпіграфам да сімфоніі, у ёй заключаецца ўвесь змест, уся карціна першай часткі... Цёмная векавая пушча... Партызанскі атрад толькі што выйшаў з цяжкага бою. Твары народных мсціўцаў стомленыя і сумныя: няма сувязі з Вялікай Зямлёй; у блакадзе Ленінград, вораг рвецца да Масквы, не вярнуліся пасля бою многія таварышы... Але і вораг запомніць сённяшні дзень: нямала палегла яго салдат пад кулямі партызан, а наперадзе яшчэ новыя і новыя баі...

Так, тэму ўступу трэба даць контрфаготу — яго тэмбр якраз найбольш падыходзіць да задуманай карціны і адразу перанясе слухача ў суровыя абставіны партызанскага жыцця. Цяпер можна пераходзіць да галоўнай партыі першай часткі... Вось гэтая — напружаная і мужная — зможа добра сімвалізаваць барацьбу народных мсціўцаў. У далейшым абедзве тэмы не раз загучаць ва ўсіх частках сімфоніі, у розных групах аркестра, набудуць трагедыйную афарбоўку...

Усё ішло цудоўна, і кампазітар запаўняў нотнымі знакамі адзін ліст паперы за другім. Але вось справа дайшла да пабочнай партыі. Па законах санатнай формы яна павінна супроцьстаўляцца галоўнай партыі, а значыць, быць светлай, напісанай у мажоры. Глебаў жа добра ўсведамляў, што ў карціне, якую ён хацеў стварыць, месца для мажорнай музыкі не было. Жаданне прытрымлівацца класічнай формы сутыкнулася з мастацкай неабходнасцю адступіць ад яе.

Кампазітар адышоў ад інструменту і нервова закрочыў па пакоі. Здавалася, выйсця няма. Няўжо ўсё перапісваць, перадумваць нанава? Няўжо з-за нейкай там танальнасці, што не месціцца ў застылую форму, адмовіцца ад усяго плана першай часткі? Не! Урэшце, можна паспрабаваць зрабіць так, як вымагае пачуццё мастацкай праўды, а там паглядзець, як звяжацца адно з другім!

Ён зноў сеў за раяль, і з-пад яго пальцаў палілася пявучая, драматычна-ўсхваляваная музыка. Яна хоць і гучала ў мінорах, але ў спалучэнні з дзвюма першымі тэмамі давала багатыя магчымасці для распрацоўкі. О, тут было дзе разгарнуцца! Пераплятаючы і напластоўваючы адна на другую ўсе тры тэмы, ён змог выкарыстаць складаныя і цікавыя прыёмы поліфанічнага пісьма, усё багацце аркестровай палітры. Групы аркестра, якія ўступалі адна за другой, трывожныя гукі труб і малога барабана, драматычныя калізіі, усё гэта як бы раскрывала нарастаючую сілу партызанскай барацьбы, якая прымала сапраўды ўсенародны размах. Але вось усё паступова заціхае, пачынаецца рэпрыза (паўтарэнне) — і музыка зноў набывае сурова-змрочны характар. І тут кампазітар не мог не зрабіць яшчэ аднаго адступлення ад кананічнай формы. Згодна схемы, рэпрыза павінна была быць у той жа танальнасці, што і пачатак сімфоніі — у рэ міноры, а пачуццё прыгожага і ўсё развіццё музычных вобразаў часткі падказала Глебаву іншую танальнасць (фа мінор), і ён, крыху падумаўшы, махнуў рукой на ўсё і напісаў так, як вымагаў яго густ. Закончыўшы ў клавіры першую частку, ён некалькі разоў прайграў яе, уважліва ўслухоўваючыся ў музыку, і твар яго пасвятлеў: усё ж такі, нягледзячы на адступленні, гэта было санатнае алегра, а значыць якраз тое, што яму трэба.

Цяпер можна брацца за другую частку. Але канкрэтнага плана пакуль няма. Ён толькі ведаў, што гэта павінна быць андантэ — павольная частка песеннага складу. Які перыяд ці які бок жыцця партызан можа адлюстраваць музыка такога характару? Хутчэй за ўсё, перапынак паміж баямі, святочны настрой ці што-небудзь накшталт гэтага.

— Скажы, Анатоль — запытаў ён аднойчы сябра, — якая пара года была для партызан звычайна найбольш лёгкай?

— Нешта не разумею цябе, — адказаў той. — У якім сэнсе лёгкай?

— Ну, калі ў вас было менш баёў, калі выдаваліся вольныя хвіліны ці больш спакойныя дні?

— На такое пытанне цяжка адказаць. Зімой фашыстам лягчэй было высачыць нас па слядах на снезе і нам прыходзілася быць больш асцярожнымі. А летам па чорнай сцежцы было лягчэй схавацца і зрабіць нечаканы напад на ворага, ды і адпачыць можна было пад кожным кустом. А чаму ты пытаешся пра ўсё гэта?

— Пачынаю пісаць другую частку сімфоніі, а сам добра не ўяўляю яе праграмы. Па задуме гэта павінна быць павольная, светлая частка, вось і хочацца ўявіць сабе атрад на адпачынку: нехта чысціць зброю, нехта зашывае кашулю, а недзе непадалёк чутна партызанская песня. Як табе падабаецца такая праграма?

— А, цяпер зразумела! — засмяяўся сябар. — Калі гэта будзе сцэна ў зямлянцы зімой, дык ты пакажаш у музыцы што-небудзь накшталт завірухі, а калі ўлетку — прымусіш аркестр шчабятаць па-птушынаму?

— Ды што ты, як табе не сорамна? — пакрыўдзіўся Глебаў. — Я цябе сур'ёзна пытаю, а ты смяешся!

— Не крыўдуй, я проста пажартаваў, а задума твая мне падабаецца, толькі раю сярэдзіну часткі напісаць не як песню, а як апавяданне аднаго з партызан.

— Правільна! Вось слухай: ....Гарачы летні дзень, сонца, прабіваючыся скрозь густыя кроны дрэў, робіць усё навокал жывым і вясёлым. Пад разложыстым дубам стары партызан апавядае сваім сябрам пра былыя паходы. Мірная карціна адпачынку змяняецца ўспамінамі аб нядаўніх баях, смелых налётах, раптоўных схватках. Апавяданне закончана, і партызаны зноў любуюцца сонечным днём, на поўныя грудзі дыхаюць водарам духмянага лесу... Ну, як?

— Застаецца толькі пажадаць, каб твая музыка была такой жа паэтычнай, як апавяданне!

Якую ж тэму пакласці ў аснову другой часткі сімфоніі? Яна павінна быць паэтычнай, светлай і абавязкова беларускай, нацыянальнай. Глебаў доўга перабіраў у памяці ўсе народныя песні, якія ведаў, пакуль не натрапіў на купальскую «Ой рана на Івана». Ну, вядома! Справа адбываецца летам, можа якраз напярэдадні Купалля. Непакоіла адно: гэтая песня многа разоў выкарыстоўвалася ў самых разнастайных творах беларускіх кампазітараў. Аднак кожная сапраўды народная песня заўсёды тоіць у сабе невычарпальныя магчымасці для мастацкага ўвасаблення, не трэба толькі яе механічна пераносіць на нотную паперу. Кампазітар павінен шукаць і выяўляць новыя спосабы, новыя прынцыпы яе выкарыстання. І Глебаў пачаў шукаць і выяўляць, патраціўшы на гэта каля дзесяці дзён і не падаўшыся наперад ні на адзін крок.

Пачатак другой часткі сімфоніі, па яго задуме, павінен быць плаўным і павольным. І калі ён спрабаваў укласці песню ў павольны тэмп, яна губляла ўсю сваю прыгажосць. У тым тэмпе, які патрабавала песня, пісаць яму не хацелася, але прыйшлося згадзіцца і на гэта. Тады перад ім узнікала другая цяжкасць: арыгінал песні быў мінорны, а мінор для такога тэмпа і новага вырашэння часткі не падыходзіў. Спробы механічна перавесці мелодыю ў мажор таксама нічога не далі. А калі ён надумаўся крыху змяніць некаторыя ноты песні, яна страчвала рысы народнасці і быццам крычала: «Я не народная, я — твая, я — глебаўская!»

Кампазітар нястомна працягваў пошукі. І праца нарэшце ўзяла сваё. Не парушаючы ні структуры, ні рытму, ні ладу песні, ён наклаў на яе мажорныя гармоніі, і яна раптам набыла мажорную афарбоўку, заблішчэла новымі яркімі фарбамі.

Сярэдзіна часткі — расказ партызана — таксама прынесла нямала клопату кампазітару. Хацелася, каб у ёй былі не толькі сум па загінуўшых сябрах, але і жыццерадаснасць; не толькі мужнасць, але і маладосць. Трэба было добра прадумаць і аркестровае вырашэнне. Прыём, калі ў творы вядзецца расказ ад імя аднаго з герояў, у музыцы не новы, і для яго выкарыстання нават устанавіліся нейкія традыцыі. Так, калі маналог гераічны, карыстаюцца звычайна гукам трамбона, эпічны — віяланчэлі і г. д. Ні адзін з гэтых варыянтаў не задавальняў кампазітара. Для музычнай характарыстыкі старога партызана гук віяланчэлі здаваўся занадта лірычным і мяккім, трамбона — залішне гучным і дэкларатыўным, а трэба было як мага праўдзівей перадаць інтанацыі простай чалавечай мовы. Бадай што з гэтай роляй мог справіцца толькі саксафон, але ці варта ўводзіць у склад сімфанічнага аркестра гэты інструмент, які за апошні час стаў належаць толькі джазу? Зрэшты, справа не ў назве, а ў манеры выканання, у мелодыі, якая будзе даручана інструменту. Так у сімфоніі з'явіўся саксафон. І Глебаў ніколі не шкадаваў аб гэтым, таму што менавіта саксафон у акружэнні струнных інструментаў прагучаў так, як трэба было — мякка, жалобна і прыгожа. Добра спалучалася яго гучанне і з гучаннем трамбона, уведзенага для ўзмацнення часткі ў кульмінацыйным пункце.

Наступнай часткай сімфоніі, згодна плана, павінна быць скерца — рухавае і напорыстае. У гэтай частцы кампазітару хацелася ўзнавіць у музыцы эпізод з партызанскага жыцця — падрыў варожага цягніка і кароткую імклівую сутычку з ворагам. У якасці матэрыялу для скерца Глебаў узяў тэмы ўступу і галоўнай партыі, змяніўшы іх да непазнавальнасці. Змест часткі пераканаўча перадавалі кароткія імклівыя пасажы струнных інструментаў, ваяўнічыя сігналы труб, гучанне меднай групы аркестра.

Кампазітар быў задаволены: яму ўдалося добра ўвасобіць сваю задуму ў музыцы, і частка атрымалася імклі-

вай, цікавай, яна здолела змясціць у сабе ўсе яго думкі. Але, праігрываючы яе, Глебаў выпадкова зірнуў на гадзіннік і не паверыў сваім вачам. Усё скерца ішло толькі паўтары мінуты! Не можа быць, ён, напэўна, памыліўся, трэба сыграць яшчэ раз! Аднак колькі разоў ён ні іграў, гадзіннік паказваў адны і тыя ж паўтары мінуты! Вядома, лічыць такое кароценькае скерца самастойнай часткай нельга, і кампазітар зрабіў адзінае, што здавалася яму правільным: далучыў скерца да другой часткі сімфоніі, як вывад з яе, як працяг падзей, што адбыліся пасля расказу старога партызана.

Заставалася напісаць фінал сімфоніі, і Глебаў зрабіў ужо ўступ да яго. Але далей работа не ішла. Увесь час было адчуванне, што ён робіць не тое, што трэба, піша не тое, што так доўга выношваў у сэрцы. Ён спрабаваў адкладваць работу на некаторы час, зноў садзіўся за інструмент, а пачуццё незадаволенасці не праходзіла. Фінал павінен быць хуткім, энергічным. Такі характар насіла і скерца. Дзве суседнія часткі ніяк не пасавалі адна да другой, ніяк не «манціраваліся». Можа, нанава перарабіць скерца? Не, і гэта не выхад. Якую ж памылку ён дапусціў у вырашэнні сваёй сімфоніі?

Дні ішлі за днямі, а адказу на свае пытанні кампазітар не знаходзіў. Ён ужо думаў, што прыдзецца прыпыніць працу над сімфоніяй, калі зусім нечакана для сябе зразумеў, дзе памылка.

Аднойчы, ідучы дамоў, ён апынуўся на плошчы Перамогі, і яго позірк спыніўся на велічным абеліску з шэрага граніту, які ўзвышаецца пасярэдзіне плошчы. І раптам ён адчуў, чаго не хапала яго твору. Партызанская барацьба складалася не толькі з адных перамог! Былі і паражэнні і цяжкія страты. Не ўсе, хто змагаўся з ворагам, вярнуліся дадому. Пра гэта не сказана ў яго сімфоніі. Цяпер ён ведае, чаго не хапае твору. Паміж карцінай падрыву варожага эшалона і фіналам павінен загучаць рэквіем.

Не звяртаючы ўвагі на здзіўленыя позіркі прахожых, ён амаль бег дадому. Хутчэй, хутчэй да інструменту! Гэтак жа нечакана, як узнікла думка аб рэквіеме, нарадзіўся і ўвесь план чацвёртай часткі сімфоніі. Гэта будзе не жалобна-пахавальны марш з гучаннем медзі — наадварот, частка павінна мець мужны і суровы характар. Такі, як і сум народа па сваіх сынах, якія аддалі жыццё за Радзіму і сталі бессмяротнымі.

Глебаў у нейкім адзіным парыве гадзіны за дзве накідаў контуры ўсёй часткі — успаміну аб загінуўшых. Гэтую частку ён даручыў струннай групе аркестра, якая магла найлепш перадаць сумна-суровы характар музыкі. У ёй не павінна быць і ценю сентыментальнасці і слязлівасці. Глыбокі роздум, стрыманы сум, які перарастае ў гнеўны пратэст, гарачае жаданне перамагчы смерць — вось аб чым павінна апавядаць музыка гэтай часткі.

Знайшоўшы, нарэшце, тое, што так доўга шукаў, Глебаў працаваў вельмі хутка і ўпэўнена набліжаўся да завяршэння сваёй работы. Ужо амаль поўнасцю быў напісаны светлы і энергічны фінал сімфоніі, у якім зноў былі выкарыстаны тэмы з першай часткі. Жадаючы падкрэсліць, што яго твор з'яўляецца толькі адлюстраваннем успамінаў удзельнікаў партызанскай вайны, кампазітар уводзіць у фінал тэму-апавяданне старога партызана з другой часткі, надаўшы ёй характар урачыстага марша. Але, дайшоўшы да апошніх тактаў фіналу, Глебаў зразумеў, што нельга заканчваць сімфонію ў такім урачыста-святочным плане. Сапраўды: у сімфоніі ж апавядалася і аб цяжкіх баях, і аб стратах, але вось прыйшла перамога — і ўсё забыта. Ці так гэта? Не, вядома, не! Хіба не вайна адабрала мільёны лепшых сыноў і дачок савецкага народа? Хіба не яна зруйнавала нашы гарады і сёлы? Хіба не яна так глыбока параніла сэрцы людзей? Дык ці ж можам мы забыць усё перажытае? А галоўнае — ці можам быць упэўнены, што гэтыя жахі ніколі не паўторацца? Немагчыма выкрэсліць з памяці імёны герояў, якія загінулі ў імя шчасця народа, і трэба быць пільным, каб не даць магчымасці ўсяму гэтаму паўтарыцца!

І вось урачысты фінал сімфоніі раптоўна перапыняецца, рэзка гучыць кароткая, трывожная тэма, музыка зноў вяртаецца да суровага і змрочнага пачатку ўступу:

«Людзі! Не забывайце!»

Дапісаўшы апошні такт, Глебаў міжволі яшчэ раз прыпомніў усе акалічнасці, звязаныя са стварэннем сімфоніі, і, паклаўшы перад сабой першую старонку партытуры, цвёрдым почыркам напісаў на ёй: «Прысвячаецца былому партызану Анатолю Каландзёнку».

* * *

Партытура была закончана, але наперадзе кампазітара чакала яшчэ нямала працы і хваляванняў. Трэба старанна пракарэктыраваць атрыманыя ад перапісчыка аркестровыя галасы, выправіць усе хібы інструментоўкі, якія выявяцца ў часе першых рэпетыцый, пасядзець за інструментам з дырыжорам...

Ашаломлены і разгублены, сядзеў ён на першых рэпетыцыях аркестра. Тое, што на яго думку павінна было гучаць празрыста і светла, нечакана рабілася шэрым і невыразным; у самых гучных кульмінацыях раптоўна з'яўляліся аркестровыя правалы. Ён добра разумеў, што артысты аркестра з першага разу не змогуць «прачытаць» сімфонію з усімі адценнямі і нюансамі, ведаў і тое, што ўсе яны добразычліва ставяцца да яго музыкі і калі памыляюцца, дык таму, што твор для іх новы і незнаёмы. І разам з тым кожную памылку аркестрантаў ён успрымаў як асабістую крыўду, настолькі дарагім і блізкім быў яму яго сапраўдны першынец. З кожнай рэпетыцыяй сімфонія гучала ўсё больш і больш стройна. Неўзабаве настаў дзень яе першага выканання.

Усхваляваны і прыціхлы, сядзеў ён у канцэртнай зале. Выкананне першай часткі не зусім задаволіла яго, затое другая прагучала добра і пераканаўча. Крыху паспешлівы тэмп узяў дырыжор у скерца, але чацвёртая частка была выканана амаль бездакорна. А вось пачаўся і фінал.

Як успрыймуць яго слухачы? Як будзе ацэнена сёння яго работа, якой ён аддаў часціну сваёй душы? Ці патрэбная гэта работа? Яшчэ хвіліна-другая, і ўсё высветліцца.

Прагучаў і паволі растаў апошні акорд сімфоніі, а зала яшчэ некалькі хвілін маўчала.

Толькі калі цішыню прарваў гром воплескаў, Глебаў адчуў, што задыхаецца: набраўшы ў лёгкія паветра, ён вось ужо хвіліну не можа выдыхнуць яго.

Зала апладыравала, і трэба было ўстаць, выйсці на сцэну, паціснуць руку дырыжору, пакланіцца, але ён усё ніяк не мог кранууца з месца. Нарэшце, ён сабраў сілы і пайшоў па праходу між крэсламі, а сэрца поўнілася радасным адчуваннем, што і ён паклаў свой лісточак на пышны вянок народнай любві да тых, хто не пашкадаваў свайго жыцця ў імя вызвалення сваёй радзімы, у імя шчасця народа.

**Дзмітры ЖУРАЎЛЁЎ.**

## На атэістычныя тэмы

# ЗАГАДКА ЗЯМНОГА ЯДРА

Над разгадкай таямніц зямных нетраў цяпер працуюць тысячы вучоных. Гэтым пытаннем заняты і асобныя групы спецыялістаў, якія ўваходзяць у склад савецкай антарктычнай экспедыцыі, і даследчыкі, што працуюць на караблях «Віцязь» і «Зара», і геафізічныя атрады, накіраваныя ў многія мясціны зямнога шара.

Чым жа выклікана такая цікавасць да нетраў нашай планеты? Што даюць гэтыя даследаванні для чалавека?

### У глыбінях Зямлі — разгадка многіх таямніц

Усе, безумоўна, ведаюць, якая вялікая ўвага ў сямігадовым плане развіцця нашай гаспадаркі аддаецца хіміі і цяжкай прамысловасці. Для развіцця гэтых галін гаспадаркі неабходна вялікая колькасць самай разнастайнай сыравіны. Большая ж частка карысных выкапняў схавана ў нетрах зямлі. Каб знаходзіць і асвойваць гэтыя месцанараджэнні, мы павінны добра ведаць будову нашай планеты.

У апошнія гады пад зямлёй на глыбіні 1,5—4 км знойдзены велізарныя месцанараджэнні гарачай вады. Гэтую ваду хутка будуць шырока выкарыстоўваць для ацяплення гарадоў, выпрацоўкі электраэнергіі, абагрэву цяпліц і атрымання з яе каштоўнай хімічнай сыравіны: брому, бору, мыш'яку, серы, вуглекіслаты і іншых прадуктаў.

Каб вызначыць запасы гарачых вод, іх хімічны састаў, ціск, пад якім яны знаходзяцца, высветліць, узнаўляюцца запасы вады ці не, мы таксама павінны добра ведаць будову нашай планеты і працэсы, што адбываюцца ў яе нетрах.

У адных месцах суша павольна (па 0,1—1,0 см у год) падымаецца, у другіх — апускаецца. Там дзе адбываецца апусканне зямной кары, мора залівае сушу, і чалавек вымушаны пакідаць гэтае месца або будаваць дамбы, каб адгарадзіцца ад мора. Галандцы, напрыклад, ужо некалькі стагоддзяў упарта змагаюцца з морам.

Гэтыя падняцці і апусканні сушы выкліканы рухам рэчыва ў глыбінях нашай планеты. Ясна, што вывучэнне заканамернасці гэтых рухаў—справа важная і патрэбная.

Моцныя землетрасенні выклікаюць жахлівыя разбурэнні, часам ад іх гінуць дзесяткі тысяч людзей. Прадказаць жа час, калі пачнецца землетрасенне, вучоныя яшчэ не могуць, і толькі больш глыбокае вывучэнне ўнутранай будовы Зямлі дазволіць вучоным дакладна прадказваць пачатак разбуральных землетрасенняў і тым самым дасць магчымасць уцерагчы людзей ад пагібелі.

Вывучэнне ўнутранай будовы Зямлі дае нам таксама магчымасць многае зразумець і ў будове іншых планет сонечнай сістэмы, дапамагае высніць пытанне аб паходжанні зямнога магнетызму, звязанага, хутчэй за ўсё, з працэсамі ў нетрах Зямлі.

І, нарэшце, даследаванне глыбінь зямнога шара дапамагае нам у барацьбе з антынавуковымі, прымітыўнымі поглядамі на будову свету. Вывучаючы нашу планету, мы не знаходзім у яе нетрах пекла, якім спрадвеку запалохвалі людзей. Мы бачым, што ў глыбінях Зямлі ўсё адбываецца па законах прыроды, а не з прычыны дзеяння нейкіх «боскіх сіл».

Вось чаму такая велізарная ўвага аддаецца ў нашы дні даследаванню ўнутранай будовы зямнога шара.

Аднак цікавасць да ўнутранай будовы Зямлі ўзнікла зусім не ў апошнія гады: людзі здаўна цікавіліся глыбінямі зямнога шара. Але з прычыны таго, што пранікнуць глыбока пад зямлю чалавек не мог, уяўленні яго аб унутранай будове нашай планеты доўгі час былі самыя супярэчлівыя і нярэдка вельмі фантастычныя.

### Вада ці агонь?

Вялікі вучоны старажытнасці Арыстотэль (384—322 гг. да н. э.) выказваў меркаванне, што Зямля наша ўнутры цвёрдая і мае мноства пустот з вадой, агнём і ветрам. Плутарх жа, які жыў пазней (I—II ст. н. э.), лічыў, што ў цэнтральных частках зямнога шара—вечны холад.

Цікавую думку пра будову Зямлі выказаў Ібн Сіна (980—1037 гг.)— адзін з выдатных мысліцелей сярэдневякоўя, які жыў у Сярэдняй Азіі. Ён пісаў: «Унутры зямнога шара павінна быць чыстая зямля, якая цалкам адпавядала б простай прыродзе зямлі». У гэтых словах ёсць правільная думка: нічога звышнатуральнага, незвычайнага ў глыбіні нашай планеты няма. Вядома, не маючы сучасных дадзеных, Ібн Сіна не мог зрабіць якіх-небудзь дакладных вывадаў аб стане рэчыва ў нетрах зямнога шара, але і прыведзенае яго выказванне гаворыць аб навуковым, а не рэлігійным падыходзе выдатнага мысліцеля да пытання будовы Зямлі.

Гэта—выключэнне для таго часу, бо і хрысціянскія і мусульманскія царкоўнікі змяшчалі ў нетры зямнога шара пекла, куды, паводле іх слоў, пасля смерці трапляюць грэшнікі, г. зн. усе тыя, хто так ці інакш парушыў прадпісанні рэлігіі.

Наіўныя, ненавуковыя ўяўленні хрысціянскага духавенства аб нетрах Зямлі асабліва ярка і красамоўна адлюстраваў у сваёй паэме «Бажэственная камедыя» вялікі італьянскі паэт Дантэ (1265—1321 гг.). У гэтым творы ён апавядае аб сваім падарожжы ў пекла, якое мае выгляд,—як пісаў Дантэ,—гіганцкай варонкі, што ідзе да цэнтра Зямлі.

Ды што казаць пра шматвяковую даўнасць! Яшчэ ў канцы XIX стагоддзя аб унутранай будове Зямлі ведалі так мала, што ў вядомай рускай энцыклапедыі Бракгауза—Эфрона, у артыкуле «Зямля», можна было прачытаць наступнае: «Большасць вучоных лічыць зусім даказанай высокую тэмпературу ўнутраных яе (г. зн. Зямлі) частак, пры чым яны дапускаюць, што ўвесь зямны шар знаходзіцца ў цвёрдым стане; паводле меркаванняў другіх, Зямля—гэта цвёрдае цела, у якім, у выглядзе разрозненых басейнаў уцалелі расплаўленыя вогненна-вадкія масы; трэція мяркуюць, што Зямля складаецца з цвёрдай кары і расплаўленага вогненна-вадкага ядра...» Некаторыя вучоныя, нарэшце, лічылі, што «нутро Зямлі знаходзіцца ў газападобным стане».

У той час, а таксама і крыху пазней, меркаванні аб тэмпературы ў цэнтры Зямлі рэзка разыходзіліся: адны лічылі, што там гарачыня ў дзесяткі і сотні тысяч градусаў, іншыя ж меркавалі, што там параўнальна невысокая тэмпература—каля 2 000—5 000°.

А што ж думаюць цяпер? Што ж, урэшце, у нас пад нагамі — вогненна-вадкая магма, вада, лёд ці рэчыва ў газападобным стане?

Каб адказаць на гэтыя пытанні, трэба пазнаёміцца з навейшымі навуковымі дадзенымі пра будову Зямлі.

### Велізарны ціск

Перш за ўсё прыдзецца адмовіцца ад думкі непасрэдна пранікнуць у глыбіні нашай планеты, выкарыстаўшы для гэтага шчыліны і пячоры.

Справа ў тым, што ніякіх гіганцкіх пустот і шчылін у Зямлі няма і не можа быць, таму што ўчастак зямной паверхні ў некалькі квадратных кіламетраў адразу ж абваліўся б пад уласным цяжарам. І хоць пячор на зямным шары мноства, але плошча іх, у параўнанні з агульнай плошчаю Зямлі, нікчэмна малая. Так, зала найвялікшай Мамантавай пячоры (ЗША) мае плошчу ў 5,5 тыс. кв. м. Плошча ж паверхні Зямлі—510 млн. кв. км, г. зн. яна ў мільярды разоў большая за плошчу гэтай найвялікшай у свеце пячоры.

Калі б мы з вамі маглі адправіцца ў экспедыцыю да цэнтра Зямлі, дык хутка пераканаліся б, што ціск — па меры аддалення ад паверхні—няспынна ўзрастае. З прычыны таго, што адзін кубічны сантыметр рэчыва Зямлі важыць у сярэднім 5,5 г. (гэта разлічана вельмі дакладна), у цэнтры Зямлі, на адлегласці 6 400 км ад паверхні, утвараецца вельмі вялізны ціск. Там жа на нас будзе ціснуць слуп рэчыва вышынёй амаль у 6 400 км, тады як на паверхні Зямлі на нас ціснe толькі слой паветра.

Вось чаму з павелічэннем глыбіні і наглядаецца такі хуткі рост ціску. Калі на ўзроўні мора ён роўны ўсяго 1 атмасферы, дык на глыбіні 2 900 км дасягае ўжо 1,4 мільёна атмасферы, а ў цэнтры зямнога шара перавышае

3,5 мільёна атмасферы, г. зн. на кожны квадратны сантыметр паверхні там ціснe 3,5 тыс. тон! Відавочна, што ні пра якія пустоты або шчыліны не можа быць і гаворкі.

Такім чынам, Зямля наша з'яўляецца суцэльным, шчыльным целам, без значных пустот і шчылін; ціск у ёй узрастае па меры набліжэння да цэнтра планеты, дзе дасягае велізарных памераў.

Вывучаць унутраную будову Зямлі — справа цяжкая: працэсы ж у яе глыбіні мы непасрэдна наглядаць не можам. Вучоным лягчэй паслаць ракету на Месяц, чым які-небудзь апарат да цэнтра Зямлі, хоць да Месяца 385 тыс. км., а да цэнтра зямнога шара — усяго 6,4 тыс. км. Пранікненню ў глыбіні Зямлі перашкаджае велізарны ціск і высокая тэмпература. Таму людзі вельмі марудна прасоўваюцца ў нетры Зямлі: найглыбейшая шахта свету дасягае толькі 3 354 м, найглыбейшая нафтавая шчыліна — каля 7 500 м.

Большая частка дадзеных пра будову Зямлі, аб стане рэчыва ў яе нетрах атрымана вучонымі ўскосным шляхам, дзякуючы прымяненню шэрагу дасціпных метадаў і разлікаў.

## Кацельня нашай планеты

У глыбокіх шахтах працаваць вельмі цяжка з-за гарачыні: чым глыбейшыя шахты, тым вышэйшая там тэмпература. Калі сталі вымяраць рост тэмпературы, дык аказалася, што на кожныя 100 м паглыблення ў зямлю яна ўзрастае прыкладна на 3°. Праз адзін кіламетр, такім чынам, ужо будзе 30°, а на глыбіні 6 400 км тэмпература будзе: 30°×6 400, г. зн. — 192 000°. Ці так гэта?

Такіх тэмператур у нетрах Зямлі няма і не можа быць. Хуткі рост тэмпературы наглядаецца толькі ў верхніх пластах зямнога шара. Мы дакладна ведаем, што ў нетрах Зямлі гарачыня дасягае да 1 200—1 300°, бо такую тэмпературу мае вулканічная лава, якая выліваецца з глыбіні нашай планеты. У цэнтральных частках Зямлі тэмпература наўрад ці перавышае 3 000—4 000°.

Калі б тэмпература дасягнула 192 000°, дык наша Зямля была б газападобным целам, чаго на самай справе няма: зямны шар — цела цвёрдае. Гэта разлічана зусім дакладна, зыходзячы з вышыні прыліваў, выкліканых прыцягненнем Месяца і Сонца. Калі б пад цвёрдай зямной карой рэчыва было б у газападобным або вадкім стане, тонкая зямная кара ўздувалася б пад уплывам прыцягнення Месяца і Сонца, і суша штодзень падымалася б на некалькі метраў уверх, а потым апускалася б уніз?

Ці адзначаны такія штодзённыя пад'ёмы сушы? Так, але яны дасягаюць не 10—16 м, як прылівы ў акіяне, а ўсяго толькі 0,5 м, а гэта сведчыць пра тое, што Зямля ў цэлым паводзіць сябе як цела, якое цвярдзей за сталь.

Такім чынам, наша планета з'яўляецца цвёрдым целам, рост тэмпературы ў якім з павелічэннем глыбіні запавольваецца. Гэта — бясспрэчныя факты. Ці нельга, аднак, знайсці тлумачэнне гэтым дзіўным абставінам— зніжэнню росту тэмпературы? Для гэтага трэба перш за ўсё ўстанавіць, адкуль Зямля атрымлівае цеплыню.

Значную колькасць цеплыні зямны шар атрымлівае ад Сонца, але гэтая цеплыня цалкам разыходзіцца ў пласце таўшчынёй усяго да 30 м. Для больш глыбокіх пластоў сонечная цеплыня ніякай ролі не адыгрывае. Затое там ёсць такая магутная крыніца цеплавой энергіі, як распад радыёактыўных элементаў. Пры гэтым радыёактыўным распадзе і выдзяляецца цеплыня.

Больш за ўсё радыёактыўных элементаў наглядаецца ў паверхневых пластах Зямлі; з глыбінёй жа іх колькасць памяншаецца. Калі б іх было ў нетрах зямнога шара таксама многа, як і ў паверхневых пластах, дык Зямля расплавілася б.

Атрымліваецца дзіўная карціна: колькасць радыёактыўных элементаў з глыбінёй памяншаецца, а тэмпература... узрастае. Тлумачыцца гэта вось чым: з паверхні Зямля астывае, аддаючы цеплыню ў сусветную прастору. Астыванне распаўсюджваецца да глыбіні ў 1 000 км. З цэнтральных жа частак зямнога шара адтоку цеплыні няма, таму там тэмпература няспынна ўзрастае, хоць і вельмі павольна.

Савецкі вучоны Е. А. Любімава разлічыла, што найвышэйшую тэмпературу верхнія пласты Зямлі мелі 2—3 млрд. гадоў назад. Пасля гэтага пачалося астыванне, але не ўсёй Зямлі цалкам, а толькі яе верхніх пластоў. Астыванне адбываецца вельмі марудна: прыкладна па 100° на кожны адзін мільярд год. Глыбінныя ж часткі нашай планеты за гэты час награюцца прыкладна на 200°. Аднак і ў будучым Зямля ніколі не расплавіцца: для гэтага проста не хопіць запасаў радыёактыўных элементаў.

Мы ўжо гаварылі, што тэмпература ў глыбінях зямнога шара не можа быць высокай. Аднак і 1,5—2 тыс. градусаў зусім дастаткова, каб расплавіць усе горныя пароды. Але мы ў той жа час ведаем, што Зямля — цела цвёрдае. Выходзіць, адны факты супярэчаць другім?





Лёд—рэчыва цвёрдае і разам з тым вадкае.

Аказваецца, не. З ростам жа ціску павышаецца і тэмпература, пры якой можа расплавіцца рэчыва. На паверхні Зямлі любая горная парода пры тэмпературы 1 500—2 000°, безумоўна, расплавілася б, але дзякуючы велізарнаму ціску гэтага не адбываецца, і рэчыва ўнутры зямнога шара, якое знаходзіцца пад адначасовым уздзеяннем велізарнага ціску і высокай тэмпературы, набывае асаблівыя ўласцівасці, пераходзячы ў так званы пластычны стан.

Рэчыва, якое знаходзіцца ў пластычным стане, мае ўласцівасці і цвёрдых і вадкіх цел адначасова. Успомніце леднікі ў гарах: яны павольна, няспынна цякуць, але ў той жа час лёд мае і ўласцівасці цвёрдага цела. Або вазьміце вар (кавалак тэхнічнай смалы): калі па ім стукнуць, ён разаб'ецца, пакладзены ж на роўнае месца, ён будзе павольна расцякацца.

Рэчыва, якое знаходзіцца ў пластычным стане, няспынна рухаецца. Гэтыя павольныя перамяшчэнні рэчыва ў нетрах Зямлі і з'яўляюцца прычынай пад'ёмаў і апусканняў сушы, гораўтварэння і землетрасенняў.

Калі ціск — дзякуючы, скажам, з'яўленню шчылін — недзе паніжаецца, дык у гэтым месцы рэчыва пераходзіць з пластычнага стану ў вадкі; часам яно вырываецца на паверхню Зямлі ў выглядзе распаленай вогнепна-вадкай вулканічнай лавы.

## Цудоўныя хвалі

Калі адбываецца землетрасенне, ад цэнтра яго ва ўсе бакі разыходзяцца так званыя сейсмічныя хвалі (ад грэчаскага слова «сейсмас» — землетрасенне). Пры вялікіх землетрасеннях яны праходзяць нават праз цэнтр Зямлі. Гэтыя хвалі ўлоўліваюцца і запісваюцца спецыяльнымі аўтаматычнымі прыборамі, сейсмографамі.

Хвалі, якія ўзнікаюць пры землетрасеннях, бываюць розных відаў. У падоўжных хвалях часцінкі вагаюцца ўздоўж напрамку распаўсюджання хвалі, пры гэтым часцінкі то набліжаюцца, то аддаляюцца адна ад другой. На паверхні Зямлі падоўжныя хвалі маюць хуткасць 5—6 км/сек, але з павелічэннем глыбіні іх хуткасць паступова ўзрастае, дасягаючы 13,6 км/сек, на глыбіні 2 900 км. Потым яна адразу спадае да 8,1 км/сек. і зноў павялічваецца. Падоўжныя хвалі праходзяць у цвёрдых, вадкіх і газападобных целах.

Папярэчныя ж хвалі, пры якіх часцінкі вагаюцца перпендыкулярна да напрамку ходу хваляў, праходзяць толькі ў цвёрдых целах, бо яны звязаны са змяненнем формы цела, а вадкія і газападобныя целы змяненню формы супраціўлення не аказваюць. Хуткасць папярэчных хваляў меншая, чым падоўжных і глыбей чым на 2 900 км яны наогул не пранікаюць.

Рэзкае змяненне хуткасці хвалі сведчыць аб тым, што на гэтай глыбіні мяняецца састаў або стан рэчыва. І вось вучоныя, вывучаючы распаўсюджанне хваляў, што ўзнікаюць пры землетрасеннях, разлічваючы іх хуткасці, атрымліваюць каштоўныя і




Схема будовы зямнога шара.

праўдзівыя звесткі аб унутранай будове Зямлі.

Аказалася, што наша планета складаецца з шэрагу канцэнтрычных пластоў. Верхні пласт, таўшчынёй у 50—60 км, называюць зямной карой; глыбей, да 2 900 км, ідзе абалонка; ад 2 900 да 5 000 км — ядро, а яшчэ глыбей, да цэнтра нашай планеты, унутранае ядро Зямлі.

Сейсмічныя хвалі — сапраўды цудоўныя хвалі: яны дапамагаюць вучоным нібы зазірнуць у нетры Зямлі і атрымаць каштоўнейшыя факты пра будову нашай планеты.

### Якое ж ядро?

Перш чым падвесці некаторыя вынікі, некалькі слоў неабходна сказаць аб росце шчыльнасці рэчыва з павелічэннем глыбіні. Мы ўжо гаварылі, што сярэдняя шчыльнасць Зямлі 5,5 г/см$^3$. Але гэта — іменна сярэдняя шчыльнасць, вылічаная для ўсяго зямнога шара. Зямная ж кара мае шчыльнасць усяго ў 2,7 г/см$^3$, потым — у абалонцы — шчыльнасць узрастае, дасягаючы на глыбіні 2 900 км (г. зн. — на граніцы з ядром) 6 г/см$^3$, і адразу раптоўна падскоквае да 9,5 г/см$^3$. Далей яна ўзрастае зноў пастунова, перавышаючы ў цэнтры Зямлі 12 г/см$^3$.

Мы, такім чынам, даведаліся, што Зямля — цвёрдае цела без якіх-небудзь значных пустот. Гэтае цела складаецца з шэрагу канцэнтрычных пластоў. Па меры паглыблення ў нетры зямнога шара ўзрастаюць тэмпература, ціск і шчыльнасць рэчыва. Тэмпература ў ядры Зямлі наўрад ці перавышае 3 000—4 000°; рэчыва ў абалонцы знаходзіцца ў пластычным стане.

Цяпер давайце ўдумаемся ў некаторыя цікавыя факты. Як вы ўжо ведаеце, хуткасць падоўжных хваляў на граніцы абалонкі і ядра раптоўна спадае з 13,6 да 8,1 км/сек. Папярэчныя ж хвалі праз гэтую граніцу наогул не праходзяць. Шчыльнасць рэчыва на глыбіні 2 900 км падскоквае з 6 да 9,5 г/см$^3$.

Што ж адбываецца на гэтай глыбіні, на граніцы абалонкі і ядра, чым выкліканы ўсе гэтыя змяненні?

Доўгі час вучоныя так уяўлялі развіццё Зямлі: спачатку гэта было вогненна-вадкае цела, у якім адбывалася размеркаванне рэчыва па важкасці. Жалеза, нікель і іншыя цяжкія элементы паступова як бы «сцяклі» ў цэнтральную частку нашай планеты і ўтварылі ядро Зямлі. Над ім размясціліся больш лёгкія рэчывы, якія ўтварылі каменную абалонку, а самыя лёгкія «ўсплылі» на паверхню і пры застыванні ўтварылі зямную кару.




**Як распаўсюджваюцца сейсмічныя хвалі ў зямным шары.**

Так уяўлялі раней развіццё Зямлі, так тлумачылі рэзкае павелічэнне шчыльнасці рэчыва на граніцы абалонкі і ядра. У апошнія гады, аднак, гэтыя погляды падвергліся сур'ёзнай крытыцы. Старыя ўяўленні аб расплаўленай Зямлі цяпер амаль нікім не абараняюцца. Большая частка вучоных лічыць, што Зямля, якая ўтварылася некалькі мільярдаў год назад з халодных часцінак пылу і газу, і сама была спачатку халодным целам. Толькі паступова, у выніку выдзялення цеплыні пры радыёактыўным распадзе, яна стала разаграваццa. Тады і пачалося размеркаванне рэчыва па важкасці. А з прычыны таго, што рэчыва ў нетрах Зямлі вельмі вязкае і перамяшчаецца надзвычай марудна, на размеркаванне яго па важкасці не хапіла б усяго часу існавання Зямлі. Ды і граніца паміж абалонкай і ядром вельмі рэзкая: атрымліваецца, што вось тут канчаецца жалеза-нікелевае ядро, а там пачынаецца ўжо каменная абалонка. Такога схематызму ў прыродзе, бясспрэчна, не можа быць.

Чым жа тады растлумачыць такое павелічэнне шчыльнасці на граніцы ядра?

Яшчэ ў 1939 годзе савецкі геолаг В. Н. Лодачнікаў выказаў думку, што раптоўнае ўзрастанне шчыльнасці выклікана разбурэннем электронных абалонак у выніку велізарнага ціску; пры гэтым ядры атамаў зближаюцца, што і вядзе да рэзкага ўзрастання шчыльнасці рэчыва. Англійскі вучоны Рамсей, развіваючы падобныя ж ідэі, сцвярджае, што рэчыва пры пэўным ціску пераходзіць у асаблівую, так званую металічную, фазу, набываючы пры гэтым некаторыя ўласцівасці металаў (высокую электраправоднасць і цеплаправоднасць).

Вадарод, напрыклад, пры ціску ўжо ў 700 000 атмасфер пераходзіць у металічны стан, пры чым яго шчыльнасць падскоквае з 0,4 да 0,8 г/см$^3$. А пры ціску ў 1,4 млн. атмасфер, як сведчыць савецкі вучоны А. Ф. Капусцінскі, розніца ва ўласцівасцях паміж асобнымі элементамі знікае, утвараючы ўніверсальны металічны стан. На граніцы ж абалонкі і ядра, як мы ўжо ведаем, ціск дасягае якраз 1,4 млн. атмасфер.

Згодна гіпотэзы Лодачнікава — Рамсея, на граніцы ядра, у выніку ўзрастання ціску да 1,4 млн. атмасфер, рэчыва адразу скачком пераходзіць у металічную фазу, чым і тлумачыцца высокая шчыльнасць рэчыва ў ядры. Хімічны ж састаў ядра прыкладна той жа, што і ў абалонцы, хоць, відаць, працэнт жалеза і нікелю там крыху вышэйшы.

Але чаму ж папярэчныя хвалі затухаюць на граніцы ядра Зямлі? Гэтыя хвалі, як вы ведаеце, не праходзяць праз вадкія і газападобныя целы. Выходзіць, ядро Зямлі вадкае?

У жніўні 1958 года на адной міжнароднай навуковай нарадзе савецкі вучоны Я. К. Фёдараў і англійскі вучоны Г. Джэфрыз выказалі адно і тое ж меркаванне, што ядро Зямлі сапраўды вадкае. Іншыя ж вучоныя — Любімава, Джэйкабс — мяркуюць, што ў вадкім стане знаходзіцца толькі вонкавая частка ядра, на граніцы з абалонкай, а ўнутранае ядро Зямлі цвёрдае.

Зрабіць, аднак, якія-небудзь пэўныя вывады цяпер яшчэ проста немагчыма. Каб дакладна ўстанавіць, у якім стане знаходзіцца рэчыва ў зямным ядры, трэба атрымаць у лабараторыях ціск у 1,4—3,5 млн. атмасфер і вывучыць стан рэчыва пры такім ціску, ды яшчэ пры адначасовым уздзеянні тэмпературы ў 2 000—4 000°. А гэта, зразумела, задача вельмі цяжкая.

Пранікнуць у нетры Зямлі чалавек пакуль што не можа. Вучоныя не могуць нават паслаць туды які-небудзь апарат. І ўсё ж, выкарыстоўваючы разнастайныя разлікі і метады, вывучаючы праходжанне ў Зямлі сейсмічных хваляў, параўноўваючы зямны шар з іншымі планетамі, вучоныя атрымліваюць усё новыя і новыя дадзеныя аб глыбінях Зямлі. З кожным годам нашы веды пра будову зямнога шара становяцца ўсё больш дакладнымі і надзейнымі. І мы можам быць упэўнены: няглядзячы на ўсе цяжкасці, чалавек паступова разгадае ўсе таямніцы зямных нетраў.

**І. ШЫШКІН,**
**лектар Маскоўскага планетарыя.**



# ПЯСНЯР НАРОДНЫХ ДУМ

**(Да 120-годдзя з дня нараджэння Ф. Багушэвіча)**

Высокі лоб, у позірку праніклівых вачэй глыбокая задума, доўгія вусы, шырокая з сівізной барада — так выглядае гэты чалавек у сярмязе. Звычайнай сялянскай сярмязе. Гэта партрэт беларускага паэта Францішка Казіміравіча Багушэвіча ў апошнія гады жыцця.

Увесь гэты «сялянскі» воблік і простая вопратка не былі «падробліваннем» пад народ. Чалавек, які выйшаў з народа, жыў яго інтарэсамі і спадзяваннямі, абараняў яго правы як адвакат і публіцыст, маляўніча паказваў сялянскае жыццё і побыт у сваіх выдатных паэтычных творах, не мог і не жадаў чым-небудзь адрознівацца ад тых людзей, якім быў шчыра адданы. Сэрцам. ПераканаННямі. Пяром паэта-рэаліста, пісьменніка-публіцыста.

Жыццёвы і творчы шлях Францішка Багушэвіча — гэта вернае служэнне беларускаму народу, сваёй радзіме. Пісьменнік-патрыёт не толькі паказваў цяжкую долю селяніна, ён самаадданна служыў свайму народу, клікаў яго да асветы, да ўздыму і развіцця беларускай культуры і літаратуры.

Пачуцці грамадскага абавязку абудзіліся ў свядомасці Ф. Багушэвіча даволі рана. Юнаком ён пайшоў працаваць настаўнікам у глухую вёску Доцішкі, Лідскага павету, вучыць сялянскіх дзяцей. А калі выбухнула паўстанне 1863 года, вясковы настаўнік са стрэльбай у руках накіраваўся з атрадам пад Сувалкі, у Аўгустоўскія лясы. Там ён быў паранены ў сутычцы з царскімі войскамі, некаторы час лячыўся ў сям'і нейкіх Крушэўскіх, якія памаглі яму пасля вярнуцца ў Вільню. Так закончылася першае баявое хрышчэнне Ф. Багушэвіча.

Рэпрэсіі царскіх улад абмінулі Ф. Багушэвіча: ён дзейнічаў у тых мясцінах, дзе ніхто яго асабіста не ведаў. Аднак заставацца ў Вільні ці на Віленшчыне было небяспечна, і будучы паэт палічыў за лепшае з'ехаць з вока ўлад, якія пазіралі на яго скоса і падазрона. Так Ф. Багушэвіч апынуўся на ўкраінскай зямлі — у горадзе Нежыне, каб атрымаць там юрыдычную адукацыю.

Пра амаль дваццацігадовую службу Ф. Багушэвіча на Украіне захаваліся вельмі лаканічныя звесткі. Больш цікавыя матэрыялы ёсць пра яго адвакацкую дзейнасць у Вільні, пасля звароту з Украіны. Адвакат Ф. Багушэвіч дапамог сялянам адсудзіць зямлі ў графа Чапскага. Біёграфы беларускага паэта — польскія літаратары Л. Узенбла і Н. Роўба сведчаць, што Ф. Багушэвіч ніколі не дбаў пра багацце і прыбыткі, часта замест платы грашыма прасіў селяніна расказаць якое-небудзь цікавае здарэнне. «За сваю справядлівасць і спачуванне бяднейшым кліентам, і ў прыватнасці сярмяжнікам, за высакароднасць сваіх пачуццяў, разуменне грамадскага абавязку Багушэвіч быў горача любімы і яго ставілі ў прыклад усім тым, асабліва калегам па прафесіі, каму кар'ерызм перашкаджаў быць праўдзівым і гуманным, не цярпеў ён арыстакратычнай фанабэрлівасці багатых адвакатаў, поўнасцю быў адданы ідэі дабра і грамадскага абавязку», — піcаў Люцыян Узенбла ў часопісе «Век» (1900 г. № 164).

Шматгадовая праца судовым следчым, а пасля адвакатам дала Ф. Багушэвічу багатыя жыццёвыя назіранні, якія знайшлі сваё адлюстраванне ў яго паэтычных і публіцыстычных творах. У цэнтры ўвагі паэта — селянін-пакутнік, якога абдзялілі пасля адмены паншчыны, якога абірае казна, крыўдзіць суд і адміністрацыя, якога чакае галодная вясна і неўраджайнае лета. Ніхто ў беларускай літаратуры з такой пераканаўчай мастацкай сілай, з такім рэалізмам не паказаў жыцця і сялянскага побыту, як аўтар «Дудкі беларускай». Ф. Багушэвіч не толькі грунтоўна ведаў вёску і селяніна, — у яго асобе шчасліва спалучыліся надзвычайная любоў і павага да чалавека працы, вера ў яго і вялікі паэтычны талент мастака слова. Таму такімі жывымі і яркімі паўставалі ў яго творах вобразы сялян Пятра Пантуркі, Аліндаркі, Ануфрыя Скірдзеля, Мацея, якога хрысцілі казакі.

Пісьменнік паказаў не толькі пакорнага, цёмнага і прыгнечанага чалавека, але і таго селяніна, які пасвойму крытычна глядзіць на жыццё і парадкі, можа нават з'ехаць «ураднiку тройчы меж вушоў».

Пісьменнік смела тлумачыў, чаму так цяжка жывецца селяніну. Параўноўваючы часы паншчыны і «волі», Ф. Багушэвіч пісаў у вершы «Быў у чысцы»:

Там быў аконам, камісар і цівун,
Наменік, ляснічы, хмістрыня,
паны.
І кожны меў права узяць за бізун.
І кожны меў права да нашай
спіны...
А цяпер?.. Ой, штосьці кепска
выходзе,
Цяпер ці не болей настала паноў?!
Не надта свабодна у гэтай
свабодзе,
І давай я лічыць паноў новых
ізноў:
Стараста, соцкі, пісар, старшына,
Пасрэднік,ураднік, асэсар і суд,
З'езд міравы, прысуцтвы і сход...
Аж паднялася са страху чупрына,
Аж пальцаў не стала на ўвесь
гэты шчот,
А пальцамі ж трэба карміць гэты
люд!..

Аднак Ф. Багушэвіч чуе не толькі, як «звякаюць ланцугі на людцах», глядзіць «на зямельку, слязьмі залітую», не толькі з горыччу і смуткам, ён верыць у тую часіну, калі «перастанем плакаць мы над сваёй доляй».

Творчасць беларускага песняра была цесна звязана з жыццём і побытам вёскі, багатымі крыніцамі народнай творчасці. Нядаўна пашчаслівіла натрапіць на новыя матэрыялы пра Ф. Багушэвіча, на яго публіцыстычныя артыкулы і допісы ў польскім часопісе «Край», якія даюць дадатковыя звесткі пра творчасць пісьменніка, уводзяць у пэўнай ступені ў творчую лабараторыю заснавальніка крытычнага рэалізма ў беларускай літаратуры.

Публіцыстычныя матэрыялы Ф. Багушэвіча, падпісаныя на старонках часопіса «Край» псеўданімамі «B. Huszicz», «Demos», «Vester», тэматычна блізка пераклікаюцца з паэтычнымі творамі «Дудкі беларускай» і «Смыка беларускага». Многія з іх напісаны на аснове ўражанняў ад-

вакацкай практыкі ў Віленскім акруговым судзе і жывыхназіранняў над жыццём сялянства Ашмяншчыны.

З кожнага радка гэтых артыкулаў і карэспандэнцый відаць сапраўдны гуманізм, вялікая павага пісьменніка да простага чалавека. У адным з артыкулаў Ф. Багушэвіч смела праводзіць думку, што судовыя справы пра «супраціўленне уладам» вынікаюць «па прычыне несумленных паводзін некаторых мясцовых чыноў». («Край», № 4, 1888 год). І адразу ўспамінаюцца творы «Кепска будзе», «У астрозе» і інш. Тут жа крытыкуецца здзеклівая цеганіна пры разглядзе судовых спраў, бюракратычныя адносіны да чалавека, а потым аўтар выстаўляе вельмі характэрнае патрабаванне: «Следчым трэба добра ведаць усе абставіны побыту, звычаі і народную мову (чаго заўсёды не хапае), каб не натрапіць на фальшывыя сцежкі ў праўдзівым расследаванні справы». А хіба ж не гэтая самая думка пакладзена ў аснову твораў «Як праўду шукаюць» і «У судзе»?

Многа ўвагі ўдзяляе Ф. Багушэвіч у сваіх артыкулах становішчу беларускага селяніна. Ён апісвае засуху, неўраджай: «Дажджы пачалі праходзіць у нашым закутку... Іх з радасцю сустрэлі сяляне, якія спадзяюцца, што падрасце яшчэ бульба, але для пажоўклай без пары яравыны няма ўжо ніякага ратунку, таму людзі з кожным годам становяцца ўсё больш неплацежаздольнымі. Наогул сельская гаспадарка ў нас перажывае заняпад». Пісьменнік перадае размовы, якія можна пачуць ад сялян: «На будучы год думаю прадаць інвентар, збяру толькі засеянае восенню жыта і сена, пасею сёе-тое на свой дамашні абыходак, а зямля, кажуць, няхай ляжыць аблогай, бо ні ў гэтым, ні ў будучым годзе выдаткі на гаспадарку не аплоцяцца. Няма, кажуць, ратунку!»

Пра падобнае становішча пісаў пісьменнік у вершы «Балада»:

Лета даждаўшы, даў бог недарод:
Зніклі на полі збожжа і сена,
Бульба звялася; згніў гарод,
А на аплату няма перамены!

Гаворачы пра эканамічны стан вёскі, нізкія ўраджаі, Ф. Багушэвіч прапаноўвае вучыць селяніна культуры земляробства: «Выданне танных папулярных кніг пра сельскую гаспадарку было вельмі добрай справай для тутэйшага краю». Пра гэта, звяртаючыся да пана, казаў ад імя селяніна Ф. Багушэвіч і ў паэтычных творах:

Ты ж пазнаў, што ў ксёнжках стаіць.
А там розуму шмат ад вякоў,
І ўсё можаш па ксёнжках рабіць:
А гдзе ж ксёнжка для нас, мужыкоў?
Гдзе ж нам розуму столькі набраць? —
Знаем толькі загон ды саху,
І жывём, каб касіць ды араць,
Ды жывём мы у божым страху.

Не абмінуў Ф. Багушэвіч і жыцця рабочага класа. У артыкуле пра віленскую гарадскую беднату («Край», 1890 г., № 12) ён дае такі малюнак: «Штодзень натоўпы людзей, якія шукаюць працу, ад ранку да позняга вечара запаўняюць плошчу перад ратушай і сумна выглядаюць, ці не пашле пан-бог якой-небудзь залатоўкі на хлеб для галоднай сям'і. Штодзень некалькі сот такіх «падзёншчыкаў» — беспрацоўных вяртаецца дамоў, не зарабіўшы ні капейкі».

Аўтар «Дудкі беларускай» быў не толькі выдатным песняром сацыяльнай праўды, таленавітым пісьменнікам-рэалістам. Ён адзін з першых выступіў як свядомы і шчыры патрыёт роднай Беларусі, асветнік свайго народа. «Ці ж ужо нам канешне толькі ў чужой мове чытаць і пісаць можна? Яно добра, а нават і трэба знаць суседскую мову, але найперш трэба знаць сваю»,— пісаў Ф. Багушэвіч у прадмове да свайго першага зборніка вершаў.

Абвостранае грамадскае пачуццё ў сэрцы паэта спалучалася з нацыянальнай свядомасцю, любоўю да жывой народнай мовы і фальклору. Ф. Багушэвіч у апошнія гады жыцця працаваў над складаннем слоўніка беларускай мовы, зборам і запісамі вуснай творчасці народа. Аднак ён ніколі не быў аднабокім нацыяналістам: з вялікай пашанай адносіўся пісьменнік да рускай, украінскай і польскай культуры, рос і фармаваўся як рэаліст на лепшых здабытках гэтых культур. Сярод публіцыстычных матэрыялаў ёсць цікавыя выказванні Ф. Багушэвіча пра вядомага рускага мастака І. Рэпіна, украінскую тэатральную трупу М. Старыцкага, творчасць Ул. Сыракомлі і г. д. У сяброўскіх адносінах быў беларускі песняр з вядомай польскай пісьменніцай Элізай Ажэшка, якая ў сувязі са смерцю аўтара «Дудкі беларускай» пісала: «Памяць памёршага Францішка Багушэвіча ўшаноўваю глыбока і вестку пра яго смерць прыняла з сардэчнай слязою. Быў ён адным з высакароднейшых людзей, якія служылі нашай зямлі, а для мяне асабіста адным з вельмі нешматлікіх сяброў. Успаміны пра яго для мяне дарагія і поўны смутку».

...Беларускі народ свята ўшаноўвае памяць свайго слаўнага сына і змагара за шчасце працоўных.

У маладым хвойніку, непадалёк ад вёскі Кушляны (Смаргонскі раён) на палянцы ляжыць вялікі камень, на якім выбіта: «Памяці Мацея Бурачка. 1900 г.». А ў Жупранах, на гранітным пастаменце ўзвышаецца бронзавы бюст паэта.

**Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

# ДОМ ПАД СОСНАМІ

Можа не кожны з мінчан ведаў раней гэты дом, схаваны ў засені кашлатых сосен, затое ўсяму свету вядома імя яго гаспадара. У гэтым доме, у далечыні ад гарадскога шуму, за надзейнаю вартаю дзвюх сосен, што стаяць па адзін і па другі бок зялёнае брамкі, жыў і працаваў народны паэт Беларусі Якуб Колас.

Цяпер тут адкрыты яго музей.

Існуе нейкая невідочная, але цесная сувязь паміж чалавекам і ўсім тым, што акружае яго пры жыцці. Зачыніўшы за сабою брамку і акінуўшы позіркам дом і ўвесь гэты зялёны куточак, са здзіўленнем пачынаеш пазнаваць знаёмы і мілы з дзяцінства Коласаў свет. Узгадаваны беларускай прыродай, Якуб Колас да апошніх дзён свайго жыцця быў неразлучны з ёю. І няхай не наднёманскі бор шумеў пад яго вокнамі, а ўсяго толькі некалькі сосен, але, здаецца, паэт не мог бы жыць, не чуючы іх шуму, не бачачы дрэў у квецені, не адчуваючы паху нагрэтае сонцам зямлі. Тое, што жыло ў душы, ён хацеў заўсёды бачыць перад вачамі.

І хвалюе да глыбіні душы, і неяк трошкі бянтэжыць тая даверлівасць, з якою прырода адкрывае адзін з запаветных куткоў вялікага Коласавага сэрца.

Жывы свет, што акружаў паэта, неяк міжволі стварае ўражанне, што і сам паэт жывы: вось зараз адчыняцца дзверы, і ён выйдзе на ганак, у чорнай кучомцы, з кійком...

З кожным, хто прыходзіць наведаць яго ў яшчэ не абжытым бяссмерці, Колас гаворыць зыркім позіркам праніклівых вачэй і моваю сваіх неўміручых твораў. А слухаць голас паэта даўно стала патрэбаю душы многіх мільёнаў людзей.

З тае далёкае пары, калі ў друку з'явіліся першыя вершы Якуба Коласа, яго імя стала сімвалам Беларусі, якая прабавала моц кайданаў, каб парваць іх. Ёсць нешта сімвалічнае ў тым, што народ, пагардліва ахрышчаны царскімі цемрашаламі самым адсталым, самым цёмным народам, у пару свайго духоўнага ўздыму выклікала першай рускай рэвалюцыяй, даў свету адразу двух вялікіх мастакоў — Якуба Коласа і Янку Купалу,



**Музей Якуба Коласа. Від з двара.**
Фота А. Дзітлава.



У адной з залаў музея.

удыхнуўшы ў іх творчасць сваю жывую, вялікую душу, сагрэўшы яе сваёю гарачаю вераю ва ўсё светлае на зямлі, даўшы ёй магутныя крылы свае нястомнае думкі. Вось чаму голас беларускіх песняроў адразу быў пачуты і ўхвалены вялікім Горкім.

Як зазначаў Кузьма Чорны, творчасць Якуба Коласа ахоплівае дзве эпохі ў жыцці беларускага народа: эпоху змагання за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне і эпоху росквіту духоўных сіл, пачатак якой паклаў вялікі Кастрычнік.

І вось яны перад намі, гэтыя дзве эпохі, у шматлікіх дакументах, фатаграфіях, малюнках, у карцінах мастакоў і творах самога пісьменніка.

Адкуль бярэ вытокі, дзе нарадзілася Коласава песня?

Доўга разглядаеш фота, на якім паказана звычайная сялянская хата, што прытулілася між старых, высокіх дрэў. Тут, у сям'і беззямельнага селяніна ў 1882 г. нарадзіўся Якуб Колас. Тут былі пачэрпнуты і першыя ўражанні з нялёгкага, бясхлебнага сялянскага жыцця.

Маляўнічыя ваколіцы Альбуці, кручы па-над рэчкай, імклівая, вольная плынь Нёмана, палявое і лясное прыволле — вось той другі свет, які адкрыўся паэту ў маленстве; ён будзіў у дзіцячай душы адчуванне харастваі наводзіў на роздум. І можа адсюль, з гэтых першых яркіх уражанняў вырасла потым і на ўсю моц загучала паэтава жальба на тое, што на гэтым бясконца шырокім белым свеце так цесна і цяжка жыць працоўнаму чалавеку.

Трэба было адкрыцца яшчэ аднаму свету — свету граматы, навукі, трэба было пераступіць парог сялянскай хаты мудрай народнай дасціпнасці Крылова, каб адразу загаварыла раней бязмоўная дзіцячая душа. Вось на малюнку малы Костусь чытае перад «хатняй аўдыторыяй» свой першы верш. Маці, адвярнуўшыся ад печы, і дзядзька, адклаўшы ў бок нейкую работу, уважліва слухаюць хлопца. А бацька... На яго твары свеціцца тое бацькоўскае, расчуленае і гордае, што не выкажаш ніякімі словамі...

У 1898 г. Якуб Колас паступае ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Вось дзе адразу адкрыўся прастор прагнаму да ведаў юнаку! Скрозь цёмныя нетры тагачаснай афіцыяльнай семінарскай навукі ён настойліва, як падарожнік да святла, прабіваецца да таго, што вабіла яго, — да паэзіі Пушкіна, Лермантава, Някрасава, да прозы Гогаля. Захапленне гэтымі пісьменнікамі пазней дасць сябе адчуць ва ўсёй творчасці Коласа: вольналюбівыя традыцыі вялікай рускай літаратуры як нельга лепш прыжываліся і давалі багаты плён на беларускай нацыянальнай глебе.

У другой зале музея выстаўлены цікавыя экспанаты — кнігі, па якіх вучыўся Колас. Сярод іх — «Славянская хрестоматия» Г. Васкрасенскага, «Образцы языка церковнославянского» В. Пакроўскага і інш. Якубу Коласу трэба было добра паспытаць афіцыйнай, адарванай ад надзённых патрэб жыцця навукі, трэба было глыбока зразумець, якая навука патрэбна народу, каб самому сесці за напісанне школьнага падручніка на роднай мове — чытанкі для дзяцей-беларусаў. У гэтай кнізе Колас вучыў глыбока паважаць родную зямлю і чалавека працы, шанаваць мову, на якой ён гаворыць, скіроўваў увагу на сацыяльную няроўнасць, што панавала ў жыцці. У аўтары чытанкі зліліся ў адно цэлае асветнік і змагар, што прачынаўся ў гэтым асветніку.




Вокладка чытанкі для дзяцей, якую склаў Я. Колас.





З карціны Манасзона «Пасля суда».

Беларуская сацыялістычная культура ад свайго зародку да буйнага квітнення мела ў асобе Якуба Коласа аднаго з самых вялікіх дзеячоў. Справе яе росквіту ён аддаваў увесь свой талент мастака, усе свае немалыя арганізатарскія здольнасці. Колас прымаў удзел у арганізацыі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Акадэміі навук БССР і многіх іншых навучальных і культурна-асветных устаноў.

Сярод экспанатаў, што паказваюць пачатак жыццёвага шляху і літаратурнай дзейнасці паэта, звяртае на сябе ўвагу карціна мастака Манасзона «Пасля суда». У аснову яе пакладзены сапраўдны факт з біяграфіі пісьменніка — арышт і судовы працэс за ўдзел у нелегальным настаўніцкім сходзе. Мастаку ўдалося перадаць не толькі партрэтнае падабенства Коласа, але і яго характар — барацьбіта, непакоры. Ён стаіць сярод цэлай зграі стражнікаў з вінтоўкамі, узброены толькі сваёю вялікаю нянавісцю да іх.

На стэндах пад шклом — першыя зборнікі Якуба Коласа «Песні жальбы», «Апавяданні», «Родныя з'явы». Колас выступіў у літаратуры адначасова як паэт і як празаік, развіваючы грамадзянскі і лірычны напрамак у паэзіі, закладваючы асновы рэалістычнай беларускай прозы.

З году ў год мужнеў і сталеў талент Якуба Коласа. Ён гартаваўся ў нястомнай барацьбе паэта поплеч з народам за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Гэта пашырала ідэйныя гарызонты пісьменніка і прывяло яго да стварэння «Новай зямлі» — своеасаблівай энцыклапедыі жыцця беларускага сялянства дарэвалюцыйнай пары.

Экспазіцыю аб савецкім перыядзе творчасці Коласа адкрывае пастанова ВЦВК аб прызнанні незалежнасці Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Савецкая ўлада дала правы грамадзянства Коласавай песні, натхніла і акрыліла яе. Пісьменніцкая дзейнасць Коласа становіцца шматграннай і ўсеабдымнай. Ён выступае як паэт, празаік, драматург, перакладчык, крытык, публіцыст, як чулы і клапатлівы выхавацель маладых літаратараў. Сведкі гэтага — шматлікія кнігі паэта, якія вытрымалі па многа выданняў. Глядзіш на іх — і дзіву даешся: няўжо адным рукам пад сілу перарабіць гэтулькі работы, аднаму сэрцу вынасіць усё гэтае бясконцае багацце думак і адчуванняў, аднаму розуму асэнсаваць іх...

Выходзіць, пад сілу. Працавітасць геніяў даўно ўвайшла ў легенду.

Творчасць Якуба Коласа заваявала ў нас усенародную любоў і прызнанне. Колас стаў сапраўды народным паэтам. Народ не толькі чуйна прыслухоўваецца да яго слова, — ён сам імкнецца падзяліцца з паэтам кожнаю сваёю радасцю. Адкрылі на Палессі нафту — і палешукі шлюць пасланца з бутэлечкай гэтай палескай нафты да Коласа, бо ведаюць, што гэта будзе для яго такою ж радасцю, як і для іх; даследавалі беларускія вучоныя новыя багацці торфу — і зноў жа ўзоры гэтага торфу будуць стаяць на стале ў Коласа: ён умее цаніць скарбы роднай зямлі; вышылі дзеці кашулю — і каму ж яе пасляць, як не Коласу: ён ацэніць і працу іх рук і хараство родных беларускіх узораў.



Стол, за якім працаваў народны паэт.


Фотографическая карточка и личная подпись члена ССП СССР

СОЮЗ СОВЕТСКИХ ПИСАТЕЛЕЙ СССР

ЧЛЕНСКИЙ БИЛЕТ № 48

**Пісьменніцкі білет Я. Коласа, падпісаны Максімам Горкім.**

Цяпер усе дарункі, якія былі паднесены Коласу, выстаўлены ў яго музеі. Тут жа і асабістыя рэчы, якія належалі паэту: чаравікі, у якіх ён пакінуў апошні след на зямлі, сціплае цёмнае паліто, неразлучная кавенька...

У гэтым доме ёсць адны дзверы, якія адчыняеш не адразу: перад імі на момант спынішся ў нерашучасці і збянтэжанасці. Ёсць нешта глыбока кранальнае ў той выключнай даверлівасці, з якою вялікія людзі, пераступіўшы мяжу зямнога, аддаюць на суд людскі ўсё сваё жыццё.

Два маленькія пакойчыкі з вокнамі ў сад. Тут працаваў, адпачываў, прымаў сваіх шматлікіх наведвальнікаў Якуб Колас. На маленькім круглым століку — брашурка, у якой сабраны законы аб пенсіях: відаць, дэпутату Вярхоўнага Савета СССР Канстанціну Міхайлавічу Міцкевічу часта даводзілася дапамагаць сваім выбаршчыкам уладкоўваць пенсійныя і іншыя клопаты. Тут жа і асабістыя справы самога пісьменніка — яго рукапісы, над якімі ён працаваў.

Рабочы стол Якуба Коласа. На ім — невялічкі бронзавы бюст Пушкіна, тэлефон, акуляры. Чарнільны прыбор у выглядзе дубовых пянькоў...

І зноў жа рукапісы, аркушы паперы, ужо трошкі кранутыя журботнаю жаўцізною....

Насупраць стала — вялікая кніжная шафа; цераз праход — мяккая канапа.

У другім пакойчыку — просты драўляны ложак, засланы тоўстаю байкаваю коўдраю. Такая ж коўдра прыбіта ля сцяны, каб не цягнула ад яе холадам. Пры ложку — невялічкі столік з прыёмнікам: адпачываючы, паэт любіў слухаць радыё.

Яшчэ больш узвышае Коласа гэтая яго сціпласць. Чалавек, бязмежна патрабавальны да сябе ў працы, у творчасці, быў вельмі сціплы ў асабістым жыцці.

На рабочым стале пісьменніка ляжыць недакончанае пісьмо літаратару Яўгену Мазалькову, датаванае 13 жніўня 1956 года — днём смерці паэта.

«Вы должны расценивать меня не как поэта, писателя, — пісаў Якуб Колас, — а как работника канцелярии в ее различных отраслях. Это меня возносит и снижает. Ведь я поэт на 50%. А где остальные 50%, Вы, думаю, знаете...»

І нам вядома, якім справам аддаваў палавіну свае душы Якуб Колас. У адной з залаў музея выстаўлены шматлікія дэпутацкія мандаты і значкі, якія належалі Коласу, яго партыйны білет, пасведчанні акадэміка. Колас быў нястомным грамадскім дзеячом. Вялікія камуністычныя ідэалы ён сцвярджаў не толькі кожным радком сваіх твораў, але і штодзённай чарнавой арганізатарскаю работай.

... Шумяць сосны над ціхім домам — апошнім прытулкам паэта. Нешта вельмі журботнае чуецца ў гэтым іх шуме: здаецца, яны жалкуюць, што нечага не дагаварылі паэту пры жыцці.

Паслухаць гэты шум, душою пагаварыць з паэтам штодзённа прыходзіць сюды многа людзей. І ўсім ён — блізкі і родны, гэты вялікі сын тае зямлі, якая стала слаўнай яго імем.

**В. ПАЛТАРАН.**



# Бібліяграфія

## Песню нялёгка скласці

Адзін за адным выходзяць у апошні час першыя зборнікі маладых паэтаў. Але, разгортваючы кожную новую кнігу вершаў, услухоўваючыся ў новы голас, задаеш адно і тое ж пытанне: а ці ўмее малады паэт па-свойму расказаць пра тое, што хвалюе ўсіх нас, яго сучаснікаў? Бо вершы толькі ў тым выпадку становяцца паэзіяй, калі аўтар валодае здольнасцю **па-свойму, праз сябе** адлюстроўваць тое, што цікавіць і хвалюе **ўсіх.**

Малады паэт Кастусь Цвірка свой першы зборнік назваў «Такія сэрцы ў нас».

Такія, мусіць, косці ў нас —
Нам у пуху не спіцца,
Такія, мусіць, ногі ў нас —
Нідзе нам не сядзіцца,
Такія, мусіць, рукі ў нас —
Ніяк ім не стаміцца, —

піша ён у вершы, якім адкрываецца зборнік.

Верш «Такія сэрцы ў нас» — своеасаблівая праграма, бадай, больш значная, чым звычайная для маладых паэтаў дэкларацыя аб мэтах творчасці. Гэта — праграма жыцця. Малады паэт услаўляе імкненне свайго пакалення да дзеяння, да вялікіх спраў і выступае ад яго імя. Гэта адкрыта выказаны намер гаварыць *аб тым*, што хвалюе ўсіх.

Як першую сапраўдную справу свайго пакалення, успрыймае паэт паездку моладзі на цаліну. Аб цаліне напісана ўжо даволі многа. І таму, чытаючы новыя «цалінныя» вершы Кастуся Цвіркі з цыкла «Казахстанскі жнівень», нельга не параўноўваць іх з папярэднімі, ужо знаёмымі. Такое параўнанне цікава і плённа для вызначэння асаблівасцей успрыняцця навакольнага свету і творчай манеры кожнага пісьменніка. Рыгор Барадулін, напрыклад, у сваім цыкле «Вечар над Таболам» дае вельмі канкрэтныя, насычаныя вобразамі малюнкі жыцця студэнтаў на цаліне, з якіх чытач ужо сам робіць вывады аб героях вершаў і думках, што натхнялі аўтара. У вершах Кастуся Цвіркі пачуцці і думкі перададзены больш адкрыта, больш публіцыстычна. Няма сэнсу аспрэчваць вартасць той ці іншай паэтычнай манеры, — трэба гаварыць аб яе эфектыўнасці, аб сіле ўздзеяння на чытача. Але нельга не адзначыць, што публіцыстычныя вершы патрабуюць вялікага накалу пачуццяў і значных, арыгінальных думак — сваіх, па-свойму пададзеных.

Амаль усё тое, што гаворыць аб цаліне Кастусь Цвірка, ужо знаёма чытачу — па вершах іншых паэтаў, з газет. Мы ўжо чыталі аб тым, што камсамольцы, якія паехалі на цаліну, браты па духу тым, хто будаваў Камсамольск-на-Амуры («Юнацтва ў дарозе»); аб тым, што ў цалінным стэпе моладзь новага пакалення зведала, як гартавалася сталь («Як гартавалася сталь»); аб тым, што ўборка цаліннага ўраджаю — самы адказны экзамен для студэнтаў, які абавязкова трэба здаць на «пяць» («Экзамены»); што ў палатках студэнты жывуць таксама дружна і па-брацку, як і ў інтэрнаце («Палатка»). Але справа не толькі ў гэтым.

Галоўны недахоп большасці вершаў Кастуся Цвіркі аб цаліне, уласцівы і многім іншым яго вершам, — залішні рацыяналізм, відавочная заданасць думкі.

Спачатку паэт ставіў перад сабой думку-тэзіс, напрыклад: «уборка ўраджаю — самы адказны экзамен для студэнтаў», а потым ужо цягнуў да гэтага тэзіса, як па шнурку, радок за радком увесь верш. У такім вершы мы наглядаем не раскрыццё пачуцця, а як бы справаздачу аб ім. Рытарычнасць павялічваецца яшчэ і тым, што малады паэт занадта перабольшвае цяжкасці таго выпрабавання, якім было для студэнтаў трохмесячнае знаходжанне на цаліне. Ён піша: «Эпоха (?) й нам дала па рукзаку», «Мы сцерпім мужна, як яны (г. зн. будаўнікі Камсамольска. — **Ю. К.**) і дождж, і

завіруху», «Тут вось у свісце віхур пазнавалі мы, як гартавалася сталь».

На жаль, у паэта не заўсёды ёсць падставы для такіх смелых параўнанняў.

Залішняя заданасць псуе і верш «Золата Джэтыгары». Паэт расказвае, што калісьці ў Джэтыгары здабывалі золата. З тых часоў стаіць тут «перамытага пяску гара». Далей ён піша:

’Шчэ не ўсё тут вычарпана з ілу,
Многа тут дабра яшчэ ляжыць.
Вунь пшаніца ў стэпе урадзіла:
Колас к коласу — зямля звініць!
Трэба нам усё сабраць да зерня.
А характар жа ў нас круты:
Зранку столькі збожжа
перавернем,
Што да сонца ўзнімуцца бурты.

І ўбачыўшы іх, які-небудзь мясцовы жыхар, што даўно не быў тут, скажа: «Зноў тут золата знайшлі». Відавочна, што ўвесь гэты верш напісаны дзеля эфектнай асацыяцыі, дзеля апошняга радка. Імкнучыся да яго, аўтар не зважаў на тое, **як** ён гэта робіць.

Звернем увагу на працытаваныя строфы. Колькі тут недакладнасцей і якая слабая сувязь паміж радкамі! «’Шчэ не ўсё тут вычарпана з ілу»,— піша Кастусь Цвірка, — а мы ведаем, што ніякага ілу тут няма, і золата, як і іншыя выкапні, ніколі з ілу не «чэрпаюць». І наогул іл гэты тут — толькі для рыфмы. У наступнай страфе для рыфмы пастаўлены «характар круты», і таксама няма лагічнай сувязі паміж радкамі.

Думаецца, што недахопы некаторых цалінных вершаў Кастуся Цвіркі ідуць ад жадання быць беспамылкова «правільным», ад вучнёўскага пераканання, што кожны верш павінен цэліць у чытача «вытыркнутай» з радкоў думкай. Калі ж Кастусь Цвірка давяраецца свайму непасрэднаму пачуццю, яго верш гучыць зусім інакш. Вось верш «Тарпан» з таго ж цалінная цыкла. Пачынаецца ён так:

На міг узнік перад буртом,
Не ўспелі й глянуць зблізку —
Па току тупнуў капытом,
І толькі ўгору пырскі.

Колькі руху ў гэтых радках, і хоць няма «партрэта» тарпана, але мы добра бачым яго! І калі мы чытаем далей пра гэтага карэннага жыхара стэпу, што:

...на кроку кожным
Спаткнецца ён аб баразну,
Абколе ноздры пожняй,

дык гэта сапраўды паэтычнае і пераканаўчае адлюстраванне надзвычайных змен, якія адбыліся ў гэтым краі. На жаль, канцоўка ў гэтым вершы не зусім удалая. Паэт спакусіўся кніжным выразам «вырваць глебу з-пад ног», блізкасцю яго прамога і пераноснага сэнсу:

І так гайсае без дарог
. . . . . . . . .
Хаця і вырвалі з-пад ног
Яго
плугамі глебу.

Гэта штучна, вычварна. У дадатак атрымалася яшчэ, што глебу вырвалі «яго плугамі». Не дапамагла і разбіўка радка.

У вершах двух астатніх раздзелаў зборніка «Рэха» і «Першае каханне» малады паэт расказвае аб уражаннях свайго дзяцінства і юнацтва — аб прыродзе роднага краю, роднай вёскі і зменах, якія адбыліся ў ёй, сельскай працы, студэнцкім жыцці, трывогах і радасцях першага кахання. У гэтых раздзелах мы зноў сустракаем вершы вельмі рацыяналістычныя, гэткія практыкаванні на тэму, як: «Іду зямлёй я», «У музеі Янкі Купалы», «Грэчка», «У цэмру вячэрняга неба» і іншыя, дзе значнае пачуццё не адлюстравана, а толькі дэкларавана, напрыклад, «Нават дзень».

Ёсць, праўда, у сярэдзіне кнігі і такія вершы, якія быццам выліліся з сэрца. Прачытаўшы іх, пачынаеш верыць, што перад намі аўтар з задаткамі сапраўднага паэта. Гэта верш «Лесавы хмель», дзе ў нешматлікіх радках перададзены ўсе адчуванні чалавека, які вандруе па лесе, ад той хвіліны, калі «першая сыраежка лягла ў кошык на дно», да моманту, калі ён «стому сваю» кладзе «ў пярыну мяккую — у мох». Жыве ў гэтым вершы сваім разнастайным жыццём і сам летні лес:

Расы на траве ні кроплі.
І, мусіць, ад раніцы тут
Стаіць над верасам цёплым
Бясконцы пчаліны гуд.

Хвалюе і верш «Ліпень»:

Можа ніцма ўпадзеш ты ў густую
траву —
Паслухай,
Мо’ да дрэва прытуліш на міг
галаву —
Паслухай...

Паслухай, і табе адкрыюцца таямніцы жыцця—ты пачуеш, як п’юць вільгаць карэнні, як звініць лісце, пачуеш цішыню. У гэтых вершах няма ніводнага сказанага адкрыта слова аб любві да роднай прыроды, не дэкларуюцца душэўныя вартасці лірычнага героя, але тут ёсць **сама** гэта любоў, адчуваецца сардэчнасць і тэмпераментнасць героя. І па форме гэтыя вершы значна цікавейшыя за іншыя.

Кранае сэрца непадробленасцю пачуцця верш «Журавы»:

У хмарках, далёка ад нівы
Гурт жураvoў растае.
Куды вы, куды вы, куды вы,
Шэрыя птахі мае?

Аб пакінутых журавамі гнёздах паэт кажа, што яны «стынуць». Якая шчыльная сувязь з тым, пра што гаворыцца, і якая паэтычная чуласць! На поўдні жураvoў чакае сонца і ў кветках арык. І паэт пытаецца:

Дык што ж вы на шэрыя ўзгоркі
Сумны рассыпалі крык?

Гэты верш, дзе няма ніводнага слова аб патрыятызме, дыхае сапраўднай і глыбокай любоўю да Радзімы.

Няма патрэбы супрацьстаўляць вершы маладога паэта на традыцыйныя тэмы вершам на тэмы сучасныя. Бясспрэчна, што ісці пратаптанай сцежкай, пісаць аб адвечных пачуццях лягчэй, чым араць цаліну, гаварыць аб тым, што народжана нашым часам.

Нельга не адзначыць пошукаў Кастуся Цвіркі ў галіне формы, яго імкненне рабіць разнастайным рытм вершаў. Але сустракаюцца ў яго нязграбныя звароты, вобразы-штампы, прыблізныя рыфмы. У вершы «Праязджаючы Урал» паэт піша: «крутых вяршыняў пікі праткнулі белы пух залётных хмар». Гэтыя «пікі вяршыняў» і «пух хмар» даўно страцілі свежасць і ператварыліся ў штамп. Услед за такой старасвецкай вобразнасцю ідзе страфа, перанасычаная вельмі ўжо сучаснымі іншамоўнымі словамі:

Зноў пад цягнік ляцяць масты і дамбы,
Гарбатыя ляцяць паўз нас хрыбты.
Сябры-аматары, залезшы ў тамбур,
Старанна ловяць іх у аб’ектыў.

Дамбы — гэта ж, вядома, дзеля рыфмы.

Але калі гавораць, што «песню не лёгка складсці», дык маюць на ўвазе, галоўным чынам, не цяжкасці формы, а тое, што паэту трэба валодаць шчырым пачуццём і глыбокай думкай. Менавіта аб гэтым, і асабліва аб шчырасці пачуцця, трэба клапаціцца перш за ўсё маладому паэту.

**Ю. КАНЭ.**

# Пра нашых сучаснікаў

Новы зборнік апавяданняў Міхася Даніленкі «Майская навальніца» прыцягвае ўвагу чытача перш за ўсё сучаснай тэматыкай. Героі **твораў** пісьменніка — пераважна прадстаўнікі нашай цудоўнай моладзі, якія няспынна шукаюць свайго месца, сваёй дарогі ў жыцці.

Таня Кавалёва толькі нядаўна пачала працаваць праваднiцай восьмага вагона пасажырскага цягніка («Па дарозе ў Вільнюс»). Але яна «палюбіла сваю работу і ўжо сумавала, калі, вярнуўшыся з паездкі, жыла з маці дома. Куды цікавей было імчацца наперад, адчуваць сябе чалавекам, без якога не могуць абысціся неспакойныя пасажыры».

Аднойчы ў вагон сеў маёр з трыма дзецьмі. Таня і астатнія пасажыры хутка здагадаліся, што гэты чалавек трапіў у бяду і што яму трэба памагчы. Маладая праваднiца парушыла ўсе фармальнасці і ўладкавала дзяцей на плацкартным месцы. На досвітку ў вагон прыйшоў рэвізор Фёдараў — чалавек бездушны і прыдзірлівы. Выявіўшы «непарадак», ён прапанаваў маёру пакінуць вагон, а Тані пагразіў спагнаннем. Але пасажыры заступіліся за маладую праваднiцу.

Пісьменнік расказвае толькі аб адным эпізодзе, які адбыўся ў Танiным вагоне, але гэтага дастаткова, каб уявіць неспакойны характар дзяўчыны, яе сумленныя адносіны да працы.

Перамагчы коснасць і бяздушша памаглі Тані пасажыры — звычайныя савецкія людзі. Студэнт ў футболцы, жанчына з ордэнам на жакетцы, ваенурач, дзядок, што першым зайшоў у вагон, — усе яны намаляваны двума-трыма штрыхамі, чытач нават не ведае іх імёнаў і прозвішчаў, але яскрава ўяўляе іх высокае маральнае аблічча.

Блізкі да Тані Кавалёвай і вобраз маладога журналіста Віктара Ермакова з апавядання «Урокі жыцця». Ён таксама не ідзе на кампраміс з уласным сумленнем, а паслядоўна і да канца змагаецца з мяшчанскім асяроддзем, з махлярамі і бюракратамі. У гэтай барацьбе загартоўваецца і сталее яго характар.

Невялікія псіхалагічныя замалёўкі «Родная зямля» і «Цудоўны почырк», здавалася б, не маюць нічога агульнага з папярэднімі апавяданнямі. Але яны, нягледзячы на пэўную абмежаванасць формы, працягваюць тую ж важную размову аб выхаванні ў моладзі новай, камуністычнай маралі.

Гэтай жа тэме прысвечана і апавяданне «Астры». Але, на жаль, вобразам апавядання, у прыватнасці, вобразу Юлькі, нестае жыццёвай паўнаты і мастацкай пераканальнасці. Самае, на нашу думку, цікавае — перажыванні Юлькі, якая напаткала пер-

шыя ў жыцці цяжкасці, засталося па-за ўвагай пісьменніка.

Аляксей, Толя і Грыша ў апавяданні вельмі падобныя адзін да аднаго. Імкнучыся паказаць іх сумленнасць, любоў да працы і супрацьпаставіць Юльцы, пісьменнік штучна пазбаўляе гэтыя вобразы канкрэтных, індывідуальных рыс. Што, напрыклад, мы ведаем пра Толю? Два ці тры разы аўтар падкрэслівае, што ён «круглы, як мячык» і «рыжы». Грыша ж заўсёды «спакойны і ўраўнаважаны». Адных дэкларацыйных аўтарскіх сцверджанняў, безумоўна, мала для поўнага мастацкага выяўлення вобраза. Хацелася б адчуць тую ці іншую рысу характару праз мастацкую дэталь, праз апісанне поўных зрухаў у душы герояў.

Тое ж самае здарылася і з апавяданнем «У сваю сям'ю». Гісторыя Славіка, які ўцякае з калгаса ў горад, а затым вяртаецца зноў у родную сям'ю трактарыстаў, не набывае належнага мастацкага, а таму і грамадскага гучання, бо сам вобраз зноў-такі мастацкі не пераканаўчы. Аўтар толькі паведамляе чытачу аб падзеях і знешніх зменах у жыцці героя. А чытачу цікава было б ведаць, як перажываў Славік сваю памылку, што прымусіла яго асэнсаваць яе і вярнуцца зноў у калгас.

Лепшыя апавяданні кнігі — «Майская навальніца» і «Эдэльвейс» — сведчаць аб тым, што да твораў Міхася Даніленкі можна падыходзіць з самай сур'ёзнай патрабавальнасцю. Іменна гэтыя апавяданні вылучаюцца сваёй кампазіцыйнай зладжанасцю, цікавымі вобразамі, багатым жыццёвым падтэкстам.

Апавяданне «Майская навальніца» пачынаецца малюнкам навальніцы, якая парушыла ўначы цішыню ў доме маладой калгасніцы Ірыны і вакол яго. Ірына прачнулася, зірнула ў акно і ўбачыла, як пад ветрам і навальніцай прыгінаецца на купчастай ігрушы жэрдка са шпакоўняй. Жанчына заклапочана глядзіць на яе і пачынае ўспамінаць усё сваё нялёгкае ўдовіна жыццё. Трапна знойдзеная мастацкая дэталь памагае пісьменніку выклікаць у гераіні шэраг асацыяцый, якія і складаюць сюжэтную тканіну твора. Праз унутраны свет перажыванняў Ірыны раскрываюцца тыя вялікія змены, што адбыліся ў калгасе за апошнія гады, паказваецца шчырасць узаемных пачуццяў Ірыны і Дарафея (шпакоўню ж зрабіў некалі Дарафей).

Прачытаўшы ў канцы апавядання аб тым, як раніцой Ірына ўзрадавалася, убачыўшы, што «сонечны прамень падкраўся да круглай адтулінкі шпакоўні і асцярожна зазірнуў унутр: ці не пасяліўся там які непаседа-верабей», чытачу хочацца верыць, што гераіня знойдзе сваё шчасце...

Аналагічна пабудавана апавяданне «Эдэльвейс». Герой гэтага апавядання глядзіць на сцэне раённага дома культуры выступленне самадзейнасці. Калі выконваецца аўстрыйскі народны танец «Эдэльвейс», ён успамінае аб прыгожым каханні, якое нарадзілася ў яго душы ў незвычайных абставінах — у жудасных умовах фашысцкага палону. Маленькая бялявая Аня, дачка суседняга бауэра, якая прыязджала па лупіны на кухню, — гэта адзінае, светлае, прыгожае, што саграваля яго душу ў тую чорную гадзіну.

Не варта было ўключаць у зборнік апавяданні «Ларыса» і «Маякі» — рыхлыя кампазіцыйна, з вобразамі, псіхалагічна не абгрунтаванымі і мастацкі кволымі.

Апавяданне «Ларыса» па думцы блізкае да такіх твораў, як «Па дарозе ў Вільнюс» і «Урокі жыцця». Вобраз сумленнай, шчырай Ларысы супрацьпастаўлены вобразу хабарніка Валодзі. І трэба сказаць, што адмоўны вобраз атрымаўся ў М. Даніленкі даволі выпуклы. Чытач добра ўяўляе лёгкадумнага, няшчырага Валодзю-хабарніка. Такой жыццёвай цэльнасці не хапае вобразу Ларысы. Прычына гэтага зноў-такі ў недастатковай псіхалагічнай абгрунтаванасці ўчынкаў Ларысы. Так і не вядома, чаму яна пасля таго, як не паступіла ў інстытут, паддалася ўгаворам цёткі і ўладкавалася на выпадковую працу ў горадзе, а не паехала назад, у калгас.

Супярэчнасці наглядаюцца і ў дэталях. Ларыса сустракаецца на кірмашы з Казікам, вясковым хлопцам, з якім яна сябравала з малых год. Хлопец быў апрануты ў стаптаныя боты і старую ватоўку. «Дзяўчына слухала яго, чамусьці сама канфузілася і старалася хутчэй пайсці ад Казіка. «Хоць бы ботаў такіх не надзяваў, калі сабраўся сюды, — думала яна. — Горад жа...» (стар. 76). Адкуль такая фанабэрыстасць у дзяўчыны, якая сама толькі два ці тры месяцы, як жыве ў горадзе, — чытач так і не можа зразумець.

Псіхалагічна не пераканаўча малюе аўтар перажыванні Ларысы, калі яна дазналася аб амаральных учынках Валодзі. Невыразнай атрымалася і канцоўка апавядання. Чаму Ларыса не адказвала на Казікавы пісьмы? Вернецца ці не вернецца яна ў вёску? Чаму аўтар падкрэслівае ў апошняй фразе, што цётка яшчэ раз глядзіць на раскрыты чамадан? Такіх «чаму» аўтару можна задаць многа.

Незавершаным з'яўляецца апавяданне «Маякі». Пісьменнік у пачатку намеціў поўную канфліктную сітуацыю, намеціў выразныя рысы вобразаў, у прыватнасці, вобраз старога бакеншчыка Міканора Іванавіча, які самаахвяравана робіць сваю сціплую, але патрэбную людзям справу. На жаль, канфлікт застаўся нявырашаным, бо чытачу так і невядома, ці змяніліся адносіны Міканора Іванавіча да Косціка, які заляцаецца да Лены, дачкі старога бакеншчыка. Зусім непадрыхтавана псіхалагічна і канцоўка апавядання. Сімвалічныя хлопец і дзяўчына, якія стаяць на тэрасе парахода, цесна прытуліўшыся адно да аднаго, выглядаюць ізаляваным сімвалам, штучна прыцягнутым у твор.

Імкненне да адлюстравання сучаснага жыцця нашай моладзі — добрая справа, якую толькі можна вітаць. Але нельга забываць, што сучасная тэма патрабуе глыбокага мастацкага раскрыцця. Наш чытач чакае новых высокамастацкіх кніг пра сучаснасць, якія адпавядалі б яго ўзрослым патрабаванням. Таму, адзначыўшы імкненне Міхася Даніленкі да сучаснай тэмы, хацелася б бачыць у яго творах большую мастацкую пераканальнасць і праўдзівасць у абмалёўцы герояў, большую псіхалагічную паўнату, менш літаратурных штампаў. Толькі тады творы на сучасную тэму здолелі б сапраўды ўсхваляваць нашага патрабавальнага чытача-сучасніка.

**В. НІКІФАРОВІЧ.**

## Вокнамі да сонца

Гумарыстычных твораў у нас пакуль што выпускаецца не так многа, і таму вельмі натуральна ў чытача ўзнікае жаданне знаёміцца з кожнай новай кнігай гэтага жанра. Такой з'яўляецца і зборнік апавяданняў Міхася Скрыпкі «Мая хата не з краю».

Па характару таленту Міхась Скрыпка — сатырык. Вось чаму ў полі яго зроку ў большасці трапляюць адмоўныя персанажы. Тут і злосны самагоншчык Антон Клепча («Пад корань»), і спекулянтка Кацярына, якая ўхілялася ад працы ў калгасе («Рэнтген»), і п'яніца брыгадзір Мікіта Струк («Пасля лазні»), і Барыс Сымонавіч Булойчык — загадчык кравецкай арцелі, якая шые добрыя касцюмы, але дрэнна прышывае гузікі («Гузікі»). Некаторыя з гэтых «герояў» перавыхоўваюцца і становяцца на правільны шлях, іншыя — атрымліваюць заслужаную кару. Усё гэта паказана як вельмі натуральная жыццёвая з'ява, без аніякіх нацяжак з боку пісьменніка. І адразу ж хочацца падкрэсліць першую станоўчую рысу пісьменніка — добрае пачуццё меры.

Найбольш цікавымі і яркімі з'яўляюцца ў кнізе тыя творы, у якіх пісьменнік паказвае барацьбу паміж адмоўным і станоўчым у жыцці. Да іх належаць: «Грошы», «Вецер жыцця», «Безбілетная», «Аксана». Чытаючы іх, ясна бачыш пазіцыю аўтара — ён злуе, абураецца на тых, хто ўпарта чапляецца за старое, баючыся патрывожыць свой спакой, і шчыра рады за тых, хто выкрывае і нішчыць усё старое, трухлявае, шукаючы нястомна новага, лепшага.

Асаблівай увагі заслугоўвае апавяданне «Сталічная спецыяльнасць». Яно, бадай, самае характэрнае для пісьменніка. Да таго ж і тэма яго надзённая — знікненне розніцы паміж горадам і сучаснай калгаснай вёскай.

У адзін з калгасаў, апавядае аўтар, едуць замежныя госці знаёміцца з дасягненнямі калгаснікаў. Ім патрэбна ўсё як мае быць паказаць і расказаць. Вось у калгасе і ўзнікае чыста гарадская спецыяльнасць экскурсавода. Экскурсаводам становіцца самы заслужаны чалавек у калгасе — дзед Мікола. Усё апавяданне вядзецца ў прыўзнята-лірычным тоне. Весялосць, што іграе на вуснах герояў, перадаецца чытачу — вось жа дажыў стары да шчаслівых часін: усё жыццё працаваў, а пад старасць ходзіць, нібы пан, ды паказвае гасцям плён руплівых рук калгаснікаў. І самому дзеду радасна, бо ў гэтым плёне ёсць часцінка і яго працы.

Часам здаецца, што пісьменнік, які працуе ў галіне гумару, дзе пануюць вясёлы жарт, бадзёры смех і вострыя кепікі, не здольны паказаць усю глыбіню драматызму сваіх герояў. Але гэта не так. Міхась Скрыпка ў апавяданнях «Заблудзіўся» і «Тройчы паранены» паказаў, што ён валодае і эпічнымі сродкамі. Праўда, у яго не абышлося без гумару. Пісьменнік застаўся верны сабе і паставіў героям у сякія-такія смешныя акалічнасці. Але гэта мастацкі апраўдана.

Асобны раздзел у зборніку займаюць гумарэскі. Лепшыя з іх —

«Масквіч» і начоўкі» аб тым, як старшыня калгаса набыў сабе аўтамабіль, але забыўся пабудаваць грамадскую лазню. Хутка калгаснікі дасціпна напомнілі яму аб гэтым.

Тэматыка твораў пісьменніка самая разнастайная. Розныя яны і па сваіх мастацкіх якасцях. Творы, прысвечаныя калгаснай вёсцы і яе людзям, найбольш удалыя ў зборніку. Пісьменнік ведае сваіх герояў, знаходзіць цікавыя факты, умела карыстаецца жывой народнай мовай, стварае яркія, запамінальныя вобразы.

Там жа, дзе пісьменнік адрываецца ад жыцця і хіліцца ў бок адвольнай выдумкі, з-пад яго пяра выходзяць такія кволыя ў мастацкіх адносінах творы, як «Чыліта». Аўтар хацеў паказаць сваіх герояў дасціпнымі і разумнымі, але замест гэтага прымусіў іх рабіць зусім недарэчныя ўчынкі.

Міхась Скрыпка назваў сваю кнігу «Мая хата не з краю», падкрэсліваючы гэтым сваё дачыненне да ўсяго таго, што адбываецца ў жыцці. Што хата не з краю — гэта добра, але трэба яшчэ, каб гэтая хата стаяла вокнамі да сонца, бо толькі пры сонечным святле ўсё набывае свой натуральны выгляд. А шчырага, светлага гумару ў творах Міхася Скрыпкі пакуль яшчэ малавата.

**І. ПАЎЛЮКОЎСКІ.**

## Майстэрства крытыка

«Усяго паўстагоддзя назад амаль кожная размова ў друку пра беларускую літаратуру пачыналася з пытання: а ці жыццездольнай, жыццеўстойлівай з'яўляецца літаратура на беларускай («простай», «мужыцкай») мове, ці здольна яна ўзняцца над узроўнем літаратуры правінцыяльнай, стварыць агульначалавечыя эстэтычныя каштоўнасці?»

Такім надзвычай важным пытаннем пачынаецца адзін з артыкулаў таленавітага беларускага крытыка Алеся Адамовіча. У станоўчым адказе на гэтае пытанне і заключаецца, на нашу думку, асноўная, калі можна так сказаць, унутраная, ідэя крытычных работ Адамовіча, сабраных у кнізе «Культура творчасці». * Думаецца, што сама назва зборніка невыпадковая. Яна падкрэслівае галоўную думку, якая праходзіць праз усе змешчаныя ў кнізе працы: параўнаўча маладая беларуская літаратура сваімі лепшымі здабыткамі эстэтычна ўзнялася да ўзроўню найбольш развітых літаратур свету.

Не адмаўляючы значных дасягненняў нашай крытыкі і літаратуразнаўства, усё ж хочацца сказаць, што мы даволі часта толькі дэкларацыйна заяўляем: беларускія пісьменнікі развіваюць традыцыі рускай і сусветнай літаратуры. Але якім чынам яны ўзбагачаюць нашу літаратуру ў эстэтычных адносінах, што новага ўносяць у развіццё яе жанраў і стыляў, якімі гранямі сваёй творчасці узнімаюцца да вяршынь сусветнай культуры? Канкрэтнага адказу на гэтыя важныя пытанні якраз і няма ў многіх крытычных працах.

Як нам здаецца, літаратурна-крытычныя артыкулы Алеся Адамовіча і вылучаюцца тым, што ім уласцівы глыбокі эстэтычны аналіз, разуменне і адчуванне самога руху нашай літаратуры да сапраўднай ідэйна-мастацкай сталасці. Шырокім поглядам на літаратурны працэс, удумлівым крытычным аналізам літаратурных фактаў і з'яў, пранікненнем у мастацкі змест твораў і іх філасофскі падтэкст, свежасцю і навізною думкі — такімі якасцямі вызначаюцца артыкулы і даследаванні крытыка.

Без перабольшання можна сказаць, што па актуальнасці ўзнятых праблем, па глыбіні і арыгінальнасці крытычнай думкі кніга «Культура творчасці» з'яўляецца адным з найбольш значных дасягненняў сучаснай беларускай крытыкі і літаратуразнаўства.

Большую частку кнігі складае даследаванне, прысвечанае праблеме жанра рамана ў беларускай літаратуры. Крытык не проста разважае аб тых ці іншых асаблівасцях рамана, а раскрывае заканамернасці станаўлення гэтага жанра ў беларускай літаратуры, суадносячы яго рух да сталасці з адпаведнымі літаратурнымі працэсамі, якія адбываліся ў сусветнай літаратуры. Даследчык грунтоўна прасочвае працэс узбагачэння беларускага рамана тымі якасцямі, якія, уласна, і вызначаюць яго жанравую прыроду (сінтэз моўных стыляў, глыбіня ў вырашэнні сацыяльных і маральных праблем, псіхалагічны аналіз, індывідуалізацыя вобразаў, драматызацыя сюжэта і інш.).

Асабліва глыбока ахарактарызаваны даследчыкам пераходны перыяд у развіцці беларускай прозы. Аўтар канкрэтна раскрывае шлях нашай прозы ад гумарэскі, бытавога анекдота, апавядання дакастрычніцкай пары да буйных празаічных жанраў, якія склаліся ўжо ў савецкую эпоху,— рамана і аповесці. Даследчык пераканаўча паказвае, што беларускія празаікі спачатку абапіраліся на фальклорную і паэтычную традыцыю, што эпічная паэма пракладвала шлях нашаму нацыянальнаму раману. Крытык «свежым вокам» прачытаў ідэйна-мастацкі, эмацыянальна-псіхалагічны змест коласаўскай «Новай зямлі», глыбей, чым гэта рабілася раней, зразумеў задуму і раскрыў багацце мастацкіх фарбаў гэтага эпахальнага твора ў беларускай літаратуры. «Наш нацыянальны літаратурны шэдэўр «Новая зямля», — піша А. Адамовіч,— узнік, такім чынам, на самым пераломе, калі літаратура беларуская пераадольвала недахопы мастацкай маладосці, калі літаратурная беларуская мова станавілася шматстылёвай, калі ў літаратуру прыходзіў штодзённы быт чалавека, прыходзіла сапраўдная псіхалагізацыя і індывідуалізацыя».

Адштурхоўваючыся ад шырокага аналізу вершаванага рамана «Новая зямля», на багатым матэрыяле раманаў і аповесцей 20-х—30-х гадоў — «Сокі цаліны», «Палескія аповесці», «Салавей», «Свінапас», «Сцежкі-дарожкі» і інш, А. М. Адамовіч даволі грунтоўна прасочвае дзве асноўныя стылёвыя лініі беларускай прозы: аналітычна-псіхалагічную і эмацыянальна-паэтычную. «М. Зарэцкі, М. Лынькоў, Я. Скрыган—усе яны,— слушна заключае крытык у артыкуле «Багацце мастацкіх індывідуальнасцей»,— больш ці менш паслядоўна, развіваюць традыцыю эмацыянальна-паэтычнай прозы. Такія ж пісьменнікі, як К. Чорны, К. Крапіва, П. Галавач, паступова ўсё больш схіляюцца да прозы па-сапраўднаму эпічнай, аналітычнай, «незалежнай» ад паэзіі...» Разглядаючы праблемы празаічнага рамана і аповесці, даследчык паказвае, як развівалася і ўдасканальвалася апавядальная культура беларускіх празаікаў, як зліваліся ў нашай прозе лірычныя і эпічны пачаткі, а паэтычная мова ў лепшых раманах і аповесцях станавілася ўласна празаічнай.

Крытык добра бачыць і адчувае не толькі тое агульнае, што характэрна для прадстаўнікоў «рамантызаванай» ці эпічнай прозы, але і тое адметнае, што робіць іх рознымі па вобразнаму бачанню свету, рознымі творчымі індывідуальнасцямі. Вось, напрыклад, як параўноўвае крытык мастацкі стыль Я. Коласа і К. Чорнага:

«У кожным творы Я. Коласа, апрача канкрэтнай мастацкай ідэі, прысутнічае яшчэ глыбокая філасофская (і вельмі народная) мысль аб невычэрпнасці форм і праяўленняў жыцця. Мысль гэтая ў творах Я. Коласа выяўляецца ў выключным багацці жыццёвых фарбаў, у непаўторнай натуральнасці чалавечых пачуццяў.

К. Чорны схільны заваструць самыя звычайныя «бытавыя» ўражанні і перажыванні чалавека і як бы абсалютызаваць многае з таго, што ў Я. Коласа застаецца такім жа простым і натуральным, як і ў самім жыцці».

У артыкулах А. Адамовіча зроблены таксама цікавыяназіранні над мастацкім стылем сучасных беларускіх празаікаў і паэтаў. Яго характарыстыкі асобных твораў М. Лынькова, І. Шамякіна, А. Кулакоўскага, Я. Брыля, А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі і іншых вызначаюцца ўменнем тонка падмеціць індывідуальныя асаблівасці творчай манеры пісьменнікаў, вылучыць тое новае, што яны ўносяць у літаратуру.

Заключны артыкул кніжкі — гэта ўсхваляванае слова крытыка аб гуманістычнай сутнасці літаратуры, аб грамадзянскай актыўнасці яе выдатных творцаў. «Толькі ў тым выпадку,— падкрэслівае ён,—калі ў чалавеку абуджаецца вострае пачуццё **асабістай** адказнасці за ўсё, што адбываецца навокал, у жыцці, толькі тады проста таленавітая асоба ператвараецца ў сапраўды творчую індывідуальнасць: у мастака паяўляецца свой, змястоўны погляд на свет, узнікаюць свае адносіны да жыцця, а тым самым і свой стыль».

Варта падкрэсліць, што працы самога Алеся Адамовіча таксама нясуць выразны адбітак яго творчай індывідуальнасці. Аўтар кнігі «Культура творчасці» шчасліва спалучае талент літаратуразнаўца, які аб'ектыўна даследуе літаратуру ў яе гістарычным развіцці, і страсны тэмперамент крытыка, які актыўна ставіцца да сучаснага літаратурнага жыцця.

**М. ЛУФЕРАЎ.**

* А. М. Адамовіч. Культура творчасці. Літаратурна-крытычныя артыкулы, ДВБ, Мінск, 1959.

## Выйшлі ў свет

У гэтым нумары мы знаёмім нашых чытачоў з новымі кнігамі, якія выпусціла Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выдавецтва Міністэрства асветы БССР.

**Янка Журба. Светлыя дні.** 144 стар. Тыраж 6 000 экз. Цана 2 руб. 20 кап.

Я табе, Беларусь,
Сёння шчыра пяю,
Слаўлю песняй сваёй
Моц-заможнасць тваю.

Гэтыя словы маглі б быць эпіграфам да новага зборніка вершаў Янкі Журбы, у які ўвайшлі творы, напісаныя старэйшым беларускім паэтам ў розныя гады яго творчага шляху.

Янка Журба славіць сваю краіну, свабодны савецкі народ, заняты мірнай, стваральнай працай, выказвае сваю любоў да маладога пакалення будаўнікоў камунізма.

Кніга адкрываецца ўступным артыкулам аб жыццёвым і творчым шляху паэта.

**З цемры да святла.** Зборнік мастацкіх твораў на антырэлігійныя тэмы. Складальнікі Л. Царанкоў і А. Шышонак, 236 стар. Тыраж 20 000 экз. Цана 4 руб. 45 кап.

У зборніку змешчаны беларускія народныя казкі, прыказкі, прымаўкі, а таксама творы Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Чарота, К. Крапівы і другіх беларускіх пісьменнікаў на атэістычныя тэмы. Гэтыя творы могуць быць выкарыстаны ў дакладах, пры наладжванні тэматычных літаратурных вечароў, чытацкіх канферэнцый і г. д.

**Вусна-паэтычная творчасць беларускага народа.** Хрэстаматыя для вышэйшых навучальных устаноў. Склалі С. Васілёнак і І. Гутараў. 328 стар. Тыраж 5 000 экз. Цана 5 руб. 30 кап.

У кнізе змешчана многа невядомых і малавядомых твораў вуснай народнай творчасці: упершыню друкуюцца ўрыўкі з беларускіх былін, некаторыя гістарычныя песні, новыя матэрыялы па дарэвалюцыйнаму рабочаму фальклору і партызанскай творчасці перыяду Вялікай Айчыннай вайны. Змешчаны таксама невялікія даведкі аб розных фальклорных жанрах.

**Янка Купала. Жыццё і творчасць.** Альбом. 192 стар. Тыраж 5 000 экз. Цана 21 руб. 40 кап.

Шматлікія фотадакументы і малюнкі, сабраныя ў гэтым альбоме, знаёмяць чытача з багатым жыццёвым і творчым шляхам народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Альбом складаецца з двух раздзелаў: «Жыццё і творчасць паэта ў дакастрычніцкі перыяд. 1882—1917 гг.» і «Жыццё і творчасць паэта ў савецкі час. 1917—1942 гг.» Разгляду творчасці пісьменніка прысвечаны ўступны артыкул кандыдата філалагічных навук В. Івашына. У альбоме чытач знойдзе таксама кароткі даведнік, у якім асвятляюцца галоўныя даты жыцця, літаратурнай і грамадскай дзейнасці песняра беларускага народа.

**Якуб Колас. Жыццё і творчасць.** Альбом. 192 стар. Тыраж 5 000 экз. Цана 18 руб. 80 кап.

Хата ў Акінчыцах, дзе нарадзіўся Якуб Колас. Леснікова пасада ў Альбуці, дзе прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады. Партрэт маці паэта Ганны Юр'еўны... Нясвіж, Палессе, Абаянь, Мінск... Крок за крокам праходзіць перад вачыма кожнага, хто перагортвае гэты альбом, багатае і разнастайнае жыццё пісьменніка, які стаў славай і гонарам савецкай літаратуры.

У альбоме змешчана больш трохсот фатаграфій, рэпрадукцый з карцін вядомых рускіх і беларускіх мастакоў, цікавыя біяграфічныя даведкі. І ўсё гэта як нельга лепш пацвярджае вялікую праўду слоў Кузьмы Чорнага аб тым, што ўся творчасць Якуба Коласа «ёсць найглыбейшае адлюстраванне жыцця беларускага народа за некалькі самых бурных і яркіх дзесяцігоддзяў яго гісторыі».

У канцы альбома змешчаны «Даты жыцця і творчасці Якуба Коласа».

**Сцяпан Майхровіч. Нарысы беларускай літаратуры XIX ст.** Выданне другое, папраўленае. 324 стар. Тыраж 5 000 экз. Цана 6 руб.

У гэтым шматпланавым даследаванні гісторыі беларускай літаратуры XIX ст. дадзены грунтоўны аналіз гістарычных і літаратурных працэсаў той эпохі, ахарактарызавана творчасць беларускіх пісьменнікаў, даследаваны плённыя сувязі рускай, украінскай і польскай літаратур з беларускай літаратурай.

**В. Дзяменцьеў, А. Шкляр, О. Якушка. Прырода Беларусі.** 316 стар. Тыраж 3 000 экз. Цана кнігі 8 руб. 60 кап. Цана карт 2 руб. 55 кап.

Праца гэтая належыць пяру групы вядомых беларускіх вучоных-географаў. Як адзначаюць аўтары ў прадмове да сваёй кнігі, яны «паставілі сваёй задачай даць новую, больш поўную характарыстыку прыродных умоў і рэсурсаў Беларусі ў цэлым і па фізіка-геаграфічных абласцях і раёнах».

**Магілёў. Гістарычны нарыс.** На рускай мове. 192 стар. Тыраж 3 000 экз. Цана 3 руб. 10 кап.

«Па часу свайго заснавання Магілёў адносіцца да сярэдневяковых гарадоў Русі. Тэрыторыя, на якой размешчаны зараз горад, была заселена яшчэ ў часы першабытна-абшчыннага ладу». Так пачынаецца кніга «Магілёў», якая асвятляе важнейшыя этапы гісторыі аднаго са старажытнейшых гарадоў нашай рэспублікі.

Кніга напісана калектывам выкладчыкаў Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута і разлічана на шырокае кола чытачоў, якія цікавяцца гісторыяй гарадоў нашай Радзімы.

**Б. Розен. У свеце вялікіх малекул.** 264 стар. Тыраж 8 000 экз. Цана 7 руб.

Ці можна з палена працы шаўковыя ніткі, з гароху рабіць шэрсць, а з дыму — пасуду? Калі б яшчэ паўтараста гадоў таму назад які-небудзь чалавек сцвярджальна адказаў на гэтыя пытанні, яго б адразу назвалі фантазёрам. А цяпер — гэта самыя звычайныя рэчы. Аб іх і аб тым, як чалавек пазнае прыроду і вучыцца карыстацца яе законамі, каб ствараць усё новыя і новыя рэчывы, і расказвае кніга Б. Розена.

**С. Белякоў. Альбом рысункаў для выпілоўвання.** Тыраж 5 000 экз. Цана 9 руб. 65 кап.

Выпілоўванне — вельмі цікавы і карысны занятак. Авалодаць гэтым майстэрствам або ўдасканаліць яго зможа кожны, хто пазнаёміцца з альбомам С. Белякова і метадычнымі парадамі да яго.

Альбом складаецца з 32 малюнкаў для выпілоўвання розных карысных і прыгожых рэчаў хатняга ўжытку, школьных прылад і іншага. Да кожнага малюнка даюцца тлумачэнні.

## Наша пошта

# ХТО Ж РАСЧЫСЦІЦЬ СЦЕЖКІ?

Аўтобус з таблічкай «Службовы. Мастацкі фонд БССР», не знізіўшы хуткасці, пратарахцеў праз усё сяло і на самай ускраіне прытармазіў ля новага, на добрым падмурку доміка. Домік гэты крыху адступаў ад шашы, як быццам спецыяльна, каб заінтрыгаваць людзей прымацаванымі па абодва бакі ганка шыльдамі.

Прайшоўшы па гурбах снегу метраў з дваццаць, ужо можна было разабраць надпіс:




З аўтобуса выйшла некалькі пасажыраў. Патупаўшы крыху ля аўтобуса і здзівіўшыся, што няма ніводнай сцежкі да дома, яны рашуча накіраваліся ў праўленне калгаса. Дом праўлення стаяў насупраць.

Тут у кабінеце старшыні адбылася прыкладна такая размова:

— Мы мастакі. Прыбылі ў ваш калгасны музей па камандзіроўцы Саюза мастакоў БССР. Думаем, што здолеем вам тым-сім дапамагчы. Напрыклад, намаляваць для музея некалькі партрэтаў лепшых працаўнікоў вашага калгаса...

— Усе ў наш калгас? — вочы старшыні крадком палічылі камандзіраваных і адразу неяк пабольшалі. — Ці знойдзецца ў нас столькі перадавікоў? Вось што, Іван Карпавіч, — ужо з дзвярэй звярнуўся ён да свайго намесніка, — ты займіся з таварышамі, а я пазнюся, трэба ехаць...

Іван Карпавіч, пажылы чалавек, з першых слоў зарэкамендаваў сябе спагадлівым:

— Значыцца, восем чалавек... Гм... Як бы гэта найлепш?

— Ды вы не турбуйцеся. Як-небудзь размесцімся... Цесна ды не крыўдна, — загаманілі мастакі.

— Ды яно знойдзецца месца і для васьмярых. І ведаеце дзе? У музеі! Толькі папярэджваю: калі фарбамі працаваць будзеце — не выйдзе. Замерзнуць. Кажаце, прапаліць? Выбачайце. Не можам. Чаму? Творы мастацтва загінуць.

Мастакі пераглянуліся, змоўклі. Шэсць гадзін трэсліся ў халодным аўтобусе і не адчувалі марозу, а тут, ва ўтульным, добра напаленым кабінеце, раптам пацягнула холадам.

Начавацъ мастакі накіраваліся ў Івацэвічы, а назаўтра пачалі працаваць у суседнім калгасе «Бальшавік». Там пакуль няма мастацкага музея, затое ёсць тое, што перш за ўсё патрэбна мастаку для плённай працы, — цікавасць і ўвага да яго.

* * *

Аб паездцы нашай брыгады даведаліся ў Брэсце. У абласным упраўленні культуры жахнуліся: а раптам усе чуткі аб тым, што Любішчыцкі музей «замарозіў» усю работу — ніякія не чуткі, а ява? І вось у Любішчыцы тэрмінова накіроўваюцца, каб паправіць справы, прадстаўнікі Брэсцкага краязнаўчага музея і абласнога ўпраўлення культуры.

Пазней за ўсіх аб такім паломніцтве ў музей у такі незвычайны час даведаўся самы блізкі сусед і апякун — Івацэвіцкі раённы аддзел культуры. І таксама прыняў захады: к поўдню наступнага дня інструктар аддзела Антаніна Іванаўна Рыгульская прывезла музею воз добрых дроў. Перш чым знаёміцца з музеем, мы запалілі ва ўсіх печах.

Разам з брэсцкім мастаком Іванам Якаўлевічам Фецісавым аглядаем экспазіцыю музея. Выдатныя пейзажы. Цудоўныя скульптуры. Цікавая графіка. Карціны развешаны прадумана. Асвятленне добрае.

Калекцыя музея параўнальна невялікая — усяго каля ста твораў. Але, можна смела сказаць, калгасны музей можа ганарыцца і такой калекцыяй. Тут няма амаль нічога з таго, што часам называюць «адыходамі мастацкай вытворчасці». І гэта зразумела: кожны твор музея — шчыры дарунак таго ці іншага мастака.

Жывапіс прадстаўлены перш за ўсё пейзажам. Пейзажы народных мастакоў БССР В. Волкава, І. Ахрэмчыка, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР В. Цвірко, М. Дучыца, В. Жолтак, А. Малішэўскага выклікалі цікавасць у гледача.

Тэматычная карціна, на жаль, прадстаўлена больш бедна, амаль выключна эскізам. Тут работы заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Я. Зайцава «Канстанцін Заслонаў», П. Крохалева «Арганізацыя калгаса», М. Манасзона «Мінскі трактарны» і іншыя.

Значны раздзел графікі. Ён займае асобны пакой. Тут серыя кніжных ілюстрацый А. Волкава, малюнкі В. Ціхановіча. Станковая графіка прадстаўлена цікавымі работамі А. Тычыны і Л. Рана, А. Паслядовіч і М. Бельскага.

Як расказвалі нам калгаснікі, асабліва доўга затрымліваюцца наведвальнікі перад скульптурамі В. Палійчука «У. І. Ленін», «Ранены воін», «На допыце». Ля скульптуры Н. Якавенкі «Тачачнік» разгараліся нават спрэчкі.

У. Стальмашонак напісаў і перадаў музею партрэты свінаркі калгаса імя Сталіна Е. Лахей і калгасніка П. Агейчыка, І. Фецісаў — трактарыста А. Сніткі і даяркі В. Талочка. Каля гэтых партрэтаў заўсёды людна, калі адчынены дзверы музея.

Вядома, чатыры-пяць партрэтаў — гэта мала, і партрэтным жанрам не вычэрпваецца паказ сучаснай вёскі. Не выпадкова наведвальнікі музея гавораць у кнізе водгукаў аб сваім жаданні ўбачыць не толькі партрэтную галерэю лепшых працаўнікоў сучаснай калгаснай вёскі, але і тэматычныя карціны, у якіх адлюстравалася б як страшнае мінулае вёскі, так і яе цудоўнае сёння.

У кнізе водгукаў чытаем: «...трэба было б больш паказаць жыццё калгаса», «Хочацца сказаць аб тым, каб мастакі аддавалі яшчэ больш увагі перадавым людзям нашых калгасаў, іхняй працы, а ў цэлым — развіццю калгаснай вёскі». Такія запісы сведчаць аб тым, што калгасныя працаўнікі не толькі ўсведамляюць значную ролю выяўленчага мастацтва ў культурным будаўніцтве, але і настойліва патрабуюць ад мастакоў: «Бліжэй да жыцця!»



Адразу відаць, што ў музеі, як у лядоўні.

* * *

Ва ўрачыстыя, радасныя дні — а іменна такім быў дзень адкрыцця калгаснага музея — усе дробязі, буднічныя дэталі адступаюць назад. І калі б у разгары прамоў, прывітанняў і пажаданняў нехта запрасіў гасцей агледзець, акрамя карцін, малюнкаў і скульптур, такія дробязі, як дзверы, аконныя рамы, дах, гарышча, — гэта маглі б успрыняць як недарэчны жарт.

Між іншым, многія прамовы забыты, а «дробязі» кожны дзень не толькі напамінаюць аб сабе, але і жорстка помсцяць за пагарду да іх. Праз незакончаны дах адкрыты доступ у памяшканне страшэннаму ворагу жывапісу — сырасці. Парадны скат даху, ад шашы, — пафарбаваны. Працілеглы — не, ржавее. Гарышча не ўцеплена засыпкай. Зімовых рам няма. Дзверы не падагнаны. Памяшканне, як мы ўжо казалі, не апальваецца. Доўгі час праз разбітую шыбу на карціны і скульптуры сыпала снегам.

Як атрымалася, што калгасны мастацкі музей, першы ў Беларусі, апынуўся ў такім незайздросным становішчы? Праз чыю халатнасць ці злосны намер аказаліся асуджанымі на гібель дзесяткі твораў, ад шчырай душы падараваных музею лепшымі мастакамі рэспублікі?

Шыльда, на якой ясна напісана «Мастацкі музей калгаса імя Сталі-

на» дае быццам вычарпальны адказ на пытанне, хто з'яўляецца гаспадаром музея. Але гэта не так.

Гаспадара, ва ўсякім разе юрыдычнага, музей не мае. Справа ў тым, што ў будаўніцтва памяшкання пад музей вельмі значны ўклад унеслі Брэсцкае абласное ўпраўленне культуры і яго раённы аддзел у Івацэвічах. Але будаўнічыя работы не былі завершаны. Музей так і застаўся «вісець» на балансе раённага аддзела культуры. І вось праўленне калгаса, зняўшы з сябе на гэтай падставе функцыі гаспадара, чакае не дачакаецца: калі ж з раёна прышлюць спецыялістаў — дзверы падагнаць, дах закончыць...

Загадчык музея Клаўдзія Аляксандраўна Осіпік — па адукацыі мастак. Яе галіна ведаў — прыкладное мастацтва. Кіраванне музеем — справа для яе новая.

— З восені справы ў музеі нядрэнна ішлі, прынамсі, мне так здавалася, — расказвае яна. — Вось паглядзіце самі па кнізе запісаў. Былі экскурсіі, многа наведвальнікаў. Пры музеі працавала студыя выяўленчага мастацтва. Дзеці прыходзілі сюды і з вялікай ахвотай малявалі. Але ўдарыў мароз, паліць не было чым. У дзяцей алоўкі з рук валяцца, а наш старшыня з намеснікам адно паўтараюць: паліць нельга, са столі вада пальецца. Гэта нібы таму, што гліняная змазка па накату позна ўвосень рабілася і змерзлася, не высахшы як след. Але вось бачыце, у печы паліцца, а столь сухая, не капае.

— У снежні мінулага года я ездзіла ў Маскву, — працягвае Клаўдзія Аляксандраўна, — на нараду кіраўнікоў мастацкіх музеяў. Многа цікавага і карыснага даведалася там. Пасля вяртання з Масквы стварыла савет музея...

Так, савет музея створан. Але члены савета дрэнна ўяўляюць свае абавязкі. Нікому не прыйшло ў галаву, што трэба скласці план работы, вызначыць распарадак работы музея, а галоўнае — паклапаціцца, каб ён быў адкрыт.

У нашы дні кожная ініцыятыва, накіраваная на здзяйсненне патрэбных, добрых спраў, не прападае дарма. Мінскія мастакі ехалі ў калгасны музей з высакароднымі намерамі, але... Супярэчлівае пачуццё ахапіла нас. Перш за ўсё пачуццё гонару за нашу краіну, за наш народ. Мастацкі музей на сяле! Гэта цудоўна! «Вы здзейснілі тое, аб чым мы здаўна марылі», — з захапленнем пішуць у кнізе водгукаў прадстаўнікі дзеячоў культуры Румыніі, якія былі тут увосень.

Але будзем гаварыць шчыра: дарогу да музея занесла снегам. Здарылася так таму, што надта «забыўлівыя» людзі ёсць сярод кіраўнікоў культуры Брэсцкай вобласці. Зрабілі добрую справу — і забыліся. Віктар Васільевіч Краўчанка, загадчык аддзела культуры Івацэвіцкага райвыканкома, умудрыўся забыцца і пра дах, і пра зімовыя рамы, і нават забыўся, дзе тая дарога ў музей. Не дапамагае яму ўспомніць пра ўсё гэта нават грамата, выдадзеная ў Брэсце, кажуць, за заслугі ў арганізацыі гэтага асяродка выяўленчага мастацтва на вёсцы.

Не памаглі калгаснаму музею стаць на ногі, узмацнець партыйная і камсамольская арганізацыі калгаса...

Як відаць, і ў Івацэвіцкім райкоме камсамола забыліся аб змесце слоў вялікага Леніна: «Мастацтва належыць народу», хоць гэтыя словы і напісаны на чырвоным палотнішчы, прымацаваным да фасада калгаснага музея.

Так, Любішчыцкі мастацкі музей не стаў пакуль цэнтрам эстэтычнага выхавання калгаснікаў. І не таму, што працаўнікі вёскі абыякавыя да выяўленчага мастацтва. Наадварот, яны вельмі цікавяцца сабранымі ў музеі скарбамі. Але ж музей, і асабліва мастацкі, не павінен абмяжоўвацца такімі пасіўнымі формамі работы, як простая рэгістрацыя наведвальнікаў.

Гутаркі, лекцыі, арганізацыя тэматычных выставак, работа студыі выяўленчага мастацтва — і ўсё гэта з дапамогай кваліфікаваных лектараў-мастацтвазнаўцаў, кансультантаў, майстроў мастацтва. Калгаснаму музею дапамогуць усе. Ад Брэста, ды і ад Мінска, сюды, як кажуць, рукой падаць!

А колькі можна знайсці новых цікавых форм масавай работы сярод насельніцтва! Так, напрыклад, у калгасе (і ў раёне, у вобласці) шырока распаўсюджаны ткацтва, мастацкае вышыванне. Створаныя рукамі народных майстроў ручнікі, пасцілкі вызначаюцца вялікім густам. Арганізаваныя музеем выстаўкі народнай творчасці, конкурсы дапамаглі б не толькі выявіць народныя таленты, але і ўзняць аўтарытэт самога музея.

Мастацкі музей у Любішчыцах — пакуль што адзіны ў рэспубліцы. Хочацца верыць, што следам за ім з'явяцца такія асяродкі культуры і ў другіх калгасах. Хочацца таксама верыць, што Міністэрства культуры БССР і Саюз мастакоў Беларусі пры падтрымцы мясцовых партыйных і камсамольскіх арганізацый не дадуць загінуць добраму пачыну.

Дарогу да калгаснага музея не павінна заносіць снегам!

**Мастак В. ГРАМЫКА.**

Фота аўтара.



**Агульны выгляд будынка музея.**

# ДЛЯ ТЫХ, КАГО ЧАКАЕ ПРАЦА

Прынятая сёлета ў студзені пастанова Цэнтральнага Камітэта КПСС і Савета Міністраў СССР аб працаўладкаванні і матэрыяльна-бытавым забеспячэнні ваеннаслужачых, якія звальняюцца з арміі ў адпаведнасці з Законам аб новым значным скарачэнні Узброеных Сіл СССР — яшчэ адно сведчанне вялікага ўсенароднага клопату аб тых, хто прыходзіць на працоўны фронт.

Рэдакцыя «Маладосці» атрымлівае пісьмы ад воінаў Савецкай Арміі, у якіх яны горача дзякуюць партыі за клопаты аб іх працаўладкаванні і цікавяцца некаторымі пытаннямі працоўнага заканадаўства. Адказваем на гэтыя пытанні.

**Пытанне.** Які агульны парадак прыёму на работу?

**Адказ.** Залічэнне на работу афармляецца загадам (распараджэннем) або прыёмнай запіскай адміністрацыі.

Пры прыёме на работу адміністрацыя прадпрыемства (установы) абавязана расказаць рабочаму ці служачаму аб яго правах і абавязках, аб умовах аплаты працы, азнаёміць з парадкам работы, абыходжаннем са станком, машынай або інструментам, з правіламі ўнутранага працоўнага распарадку, тэхнікі бяспекі, вытворчай санітарыі і супроцьпажарнай ахові.

**Пытанне.** Якая роля працоўнай кніжкі і калі яна заводзіцца на нанава прынятага работніка?

**Адказ.** Працоўная кніжка — асноўны дакумент, які характарызуе працоўную дзейнасць рабочага і служачага. Паводле запісаў у ёй устанаўліваецца працягласць агульнага і бесперапыннага стажу работы. Асобам, якія паступаюць на работу ўпершыню, выпісваецца працоўная кніжка не пазней чым праз пяць дзён пасля прыёму на работу. Працоўная кніжка захоўваецца ў адміністрацыі прадпрыемства (установы), а пры звальненні рабочага або служачага выдаецца яму на рукі.

**Пытанне.** Ці ўключаецца ў бесперапынны стаж работы час службы ў арміі?

**Адказ.** Час службы ў арміі ўключаецца ў бесперапынны стаж пры ўмове, калі дэмабілізаваны паступае на работу не пазней, чым праз тры месяцы пасля звальнення з арміі (час пераезду да месца пастаяннага жыхарства не ўлічваецца). Гэта датычыць усіх ваеннаслужачых, незалежна ад таго, вярнуліся яны на былое месца работы ці паступілі на новае прадпрыемства (установу). Калі ваеннаслужачы да службы ў арміі не працаваў у дзяржаўных установах (прадпрыемствах), час знаходжання ў арміі таксама ўключаецца ў бесперапынны стаж работы.

**Пытанне.** Ці маюць сілу кваліфікацыйныя талоны шафёра 1-га або 2-га класа, выдадзеныя ваеннаслужачым?

**Адказ.** Кваліфікацыйныя талоны шафёра 1-га або 2-га класа, выдадзеныя ў 1959 годзе ваеннаслужачым, даюць ім права працаваць па гэтых класах вадзіцелямі грузавога і пасажырскага аўтамабільнага транспарту.

**Пытанне.** Які тэрмін папярэдняга выпрабавання пры прыёме на работу?

**Адказ.** Для праверкі работніка адміністрацыя ўстановы або прадпрыемства мае права ўстанавіць пры прыёме на работу папярэднюю выпрабаванне. Выпрабавальны тэрмін не павінен перавышаць для рабочых 6 дзён, для звычайных служачых — 2 тыдняў,

а для служачых на адказных работах — аднаго месяца.

**Пытанне.** Пасля якога тэрміну бесперапыннай работы работнік мае права на атрыманне водпуску?

**Адказ.** Чарговы водпуск з захаваннем заработнай платы прадастаўляецца адзін раз у год за год. Рабочы год лічыцца з таго дня, калі рабочы або служачы паступіў на работу на прадпрыемства або ва ўстанову. Права на чарговы водпуск з аплатай рабочыя і служачыя атрымліваюць пасля 11 месяцаў бесперапыннай работы на прадпрыемстве (установе). Наступныя водпускі, згодна графіка водпускаў, могуць прадастаўляцца і перш чым надыйдзе гэты тэрмін, г. зн. авансам.

**Пытанне.** Якая працягласць чарговага водпуску?

**Адказ.** Чарговы водпуск прадастаўляецца рабочым і служачым на 12 рабочых дзён з дабаўленнем выхадных і святочных дзён, якія ўваходзяць у адпускны час. Для шэрагу рабочых і служачых устаноўлены дадатковыя водпускі. Напрыклад, электразваршчыкі, акрамя чарговага водпуску 12 рабочых дзён, атрымліваюць пры рабоце ў памяшканнях дадатковы водпуск 12 рабочых дзён, а пры рабоце на паветры — 6 рабочых дзён.

Рабочыя, занятыя на вытворчасці ў горнай, металургічнай, металаапрацоўчай, хімічнай і тэкстыльнай галінах прамысловасці, у прамысловасці будаўнічых матэрыялаў, на чыгуначным, водным і аўтадарожным транспарце і на буйных будоўлях, калі яны працавалі на адным і тым жа прадпрыемстве або будаўніцтве не менш двух год, атрымліваюць, акрамя чарговага водпуску, дадатковы трохдзённы водпуск штогод або грашовую кампенсацыю ў размеры трохдзённага заработку.

З прычыны таго, што служба ў Савецкай Арміі ўключаецца ў бесперапынны стаж, тыя ваеннаслужачыя, якія пасля дэмабілізацыі паступяць ва ўказаныя галіны народнай гаспадаркі, будуць таксама карыстацца дадатковымі трохдзённымі водпускамі.

Рабочыя і служачыя з ненармаваным рабочым днём, акрамя чарговага водпуску, атрымліваюць дадатковы водпуск у 6 або 12 рабочых дзён, у залежнасці ад умоў работы.

Рабочыя і служачыя, якія працуюць у раёнах Крайняй Поўначы і маюць ненармаваны рабочы дзень, атрымліваюць дадатковы водпуск, акрамя асноўнага, 30 рабочых дзён, а пры нармаваным рабочым дні — 18 рабочых дзён.

**Пытанне.** Якія ільготы прадастаўляюцца рабочым і служачым, што займаюцца ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах без адрыву ад вытворчасці?

**Адказ.** Для лабараторных работ. здачы залікаў і экзаменаў прадастаўляюцца дадатковыя водпускі з захаваннем заработнай платы: на першым і другім курсах вышэйшых навучальных устаноў — 20 каляндарных дзён; на трэцім і наступных курсах — 30 каляндарных дзён штогод; на першым і другім курсах сярэдніх вячэрніх спецыяльных навучальных устаноў — 10 каляндарных дзён; на трэцім і наступных курсах — 20 каляндарных дзён штогод. На першым і другім курсах у вышэйшых і сярэдніх завочных навучальных установах водпуск прадастаўляецца 30 каляндарных дзён штогод, а на трэцім і наступных курсах — 40 каляндарных дзён штогод.

Для здачы дзяржаўных выпускных экзаменаў у вячэрніх і завочных сярэдніх спецыяльных навучальных установах прадастаўляецца дадатковы водпуск звыш штогадовага на 30 каляндарных дзён з захаваннем заработнай платы. Для падрыхтоўкі і абароны дыпломнага праекта, устаноўлена вучэбным планам вышэйшых тэхнічных і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, студэнтам вячэрніх і завочных вышэйшых тэхнічных навучальных устаноў прадастаўляецца чатырохмесячны дадатковы водпуск з захаваннем заработнай платы. Навучэнцам вячэрніх і завочных сярэдніх тэхнічных навучальных устаноў на час падрыхтоўкі і абароны дыпломнага праекта прадастаўляецца дадатковы двухмесячны водпуск з захаваннем заработнай платы.

Рабочым і служачым, дапушчаным да ўступных экзаменаў, прадастаўляецца дадатковы водпуск без захавання заработнай платы: тым, хто паступае ў вячэрнія і завочныя вышэйшыя навучальныя ўстановы — 15 каляндарных дзён і ў сярэднія вячэрнія і завочныя спецыяльныя навучальныя ўстановы — 10 каляндарных дзён, не лічачы часу на праезд да месца знаходжання навучальнай установы і назад. На час праезду таксама прадастаўляецца водпуск без захавання заработнай платы.

**В. ГЛОЗМАН,**

**выкладчык савецкага працоўнага права Беларускага політэхнічнага інстытута імя І. В. Сталіна.**



# БЕЛАЯ АЛІМПІЯДА

Мінулы год быў цікавым і напружаным у жыцці савецкіх фізкультурнікаў. Ён прайшоў пад дэвізам другой Спартакіяды народаў СССР і прынёс нашым спартсменам шмат радасных поспехаў.

У новым, 1960 годзе дзве важныя падзеі прыцягваюць да сябе ўвагу аматараў спорту — Белая Алімпіяда ў Скво Вэлі і Алімпійскія гульні ў Рыме.

У другой палове лютага адбыліся VIII зімовыя алімпійскія гульні ў Скво Вэлі. Сюды ў горную даліну Каліфорніі, каля ціхаакіянскага ўзбярэжжа Злучаных Штатаў Амерыкі, з'ехаліся мацнейшыя лыжнікі, канькабежцы, хакеісты трыццаці краін свету. Мужчыны спаборнічалі ў скорасным бегу на каньках на дыстанцыях 500, 1 500, 5 000 і 10 000 метраў, лыжных гонках на 15, 30 і 50 кіламетраў, эстафеце $4 \times 10$ кіламетраў, у сучасным зімовым двухбор'і (лыжная гонка на 20 кіламетраў са стральбой на чатырох рубяжах), прыжках на лыжах з трампліну, двухбор'і (прыжкі на лыжах з трампліну і гонка на 15 кіламетраў), слаламе, слаламе-гіганце, скорасным спуску, а таксама фігурным катанні на каньках і па хакею з шайбай.

Цікавая праграма жаночых выступленняў, што адбыліся ў «Даліне індыянак» — так перакладаюцца словы «Скво Вэлі». Гэта — лыжная гонка на 10 кіламетраў і эстафета $3 \times 5$ кіламетраў, слалам, гіганцкі слалам, скорасны спуск на лыжах і фігурнае катанне на каньках. Упершыню жанчыны стартавалі ў скорасным бегу на каньках на дыстанцыях 500, 1 000, 1 500 і 3 000 метраў.

Зімовыя алімпійскія гульні як самастойныя міжнародныя спартыўныя святы бяруць свой пачатак з 1924 года, калі адбылася першая алімпіяда ў Шамані (Францыя). Савецкія спартсмены не прымалі ўдзелу ў іх да 1956 года. Выхад нашых лыжнікаў, канькабежцаў і хакеістаў на старты VII Алімпіяды прымусіў пацясніцца ў турнірнай табліцы каманды тых краін, якія раней займалі вядучыя месцы. Савецкія спартсмены заваявалі званне алімпійскіх чэмпіёнаў па хакею з шайбай, выйгралі з рэкорднымі вынікамі спаборніцтвы па скорасному бегу на каньках на дыстанцыях 500, 1 500 і 5 000 метраў, узялі першынство ў лыжнай эстафеце $4 \times 10$ кіламетраў у мужчын і гонцы на 10 кіламетраў сярод жанчын.

Цікава адзначыць, што за ўсю гісторыю Белых Алімпіяд толькі два канькабежцы змаглі выйграць тры дыстанцыі на адных гульнях. Гэта былі нарвежцы Івар Балангруд і Ялмар Андэрсан. Алімпійскія рэкорды на ўсіх чатырох дыстанцыях паляпшаліся два разы: на гульнях 1936 года і праз 20 год у Карціна д'Ампецца. На Белых Алімпіядах былі пабіты сусветныя рэкорды толькі тры разы. Гэта зрабілі на VII гульнях савецкія канькабежцы Яўген Грышын (500 і 1 500 метраў) і Юры Міхайлаў (1 500 метраў). Нікому са спартсменаў, акрамя Івара Балангруда, не ўдалося стаць прызёрам трох алімпіяд.

Вядома, што жанчыны даўно ўдзельнічаюць у Белых Алімпіядах, спаборнічаючы па лыжах і фігурным катанні на каньках. А сёлета па рашэнню Міжнароднага алімпійскага камітэта яны спаборнічалі і ў канькабежным спорце.

Гонар савецкага спорту ў VIII Белай Алімпіядзе абаранялі мацнейшыя лыжнікі, канькабежцы, хакеісты краіны. У складзе спартыўнай дэлегацыі Савецкага Саюза было каля 70 чалавек.

Спаборніцтвы ў Скво Вэлі праходзілі ў своеасаблівых кліматычных умовах. Начныя тэмпературы ў лютым тут дасягаюць 15—16 градусаў марозу, а раніцай і асабліва ўдзень пад праменнямі гарачага каліфарнійскага сонца пачынае таяць снег, цурчаць ручайкі. Тэмпература паветра даходзіць да 19 градусаў цяпла, аднак тэмпература ільду на катку нязменная — мінус шэсць градусаў. Каток размешчаны на вышыні каля двух тысяч метраў над узроўнем мора. Авальная бегавая дарожка мае сталую тоўшчу ільду — 5 сантыметраў. Гэта дасягаецца тым, што кожны раз пры заліўцы лёд стругаюць.

Халадзільная ўстаноўка катка дзейнічае аўтаматычна, і ўвесь час падтрымліваецца аднолькавая тэмпература ільду. Такім чынам, нібы ствараюцца аднолькавыя ўмовы для ўсіх выступаючых. Але практычна наўрад ці можна гэтага дасягнуць. Пры забегах на 10 000 метраў, напрыклад, тыя, хто стартуюць пазней, трапляюць у горшыя ўмовы.

Нягледзячы на ўсё гэта, савецкія спартсмены дасягнулі ў Амерыцы новых бліскучых поспехаў. Яны яшчэ раз пацвердзілі сваё высокае майстэрства.

Ледзяны стадыён два разы бурна вітаў выдатную савецкую спартсменку Лідзію Скобліkаву. Яна першай з усіх 740 удзельнікаў алімпіяды ўстанавіла сусветны рэкорд, прабегшы 1 500 метраў за 2 мінуты 25,2 секунды. Другі залаты медаль чалябінская студэнтка заваявала на дыстанцыі 3.000 метраў з вынікам 5 мінут 14,3 секунды. Пераможцай у бегу на 1 000 метраў таксама стала савецкая спартсменка. Залаты медаль дастаўся Клары Гусевай, якая паказала лепшы час — 1 мінута 34,1 секунды. Толькі адну з чатырох дыстанцый праігралі канькабежкі Савецкага Саюза.

Велізарны поспех выпаў на долю нашых лыжніц. У спаборніцтвах на дыстанцыі 10 кіламетраў яны выйгралі чатыры першыя месцы. Чэмпіёнкай алімпіяды стала ленінградка Марыя Гусакова з вельмі высокім вынікам— 39 мінут 46,6 секунды. Сярэбраны медаль заваявала Любоў Баранава, бронзавы — Радзья Ярошына. Чацвёртай перасекла лінію фінішу Аляўціна Колчына.

Ва ўпорнай барацьбе праходзілі спаборніцтвы па канькабежнаму спорту сярод мужчын. На самай кароткай дыстанцыі перамог масквіч Яўгені Грышын з небывалым часам 39,6 секунды.

VIII зімовыя алімпійскія гульні ў Скво Вэлі сталі ўжо адной з найбольш цікавых старонак спартыўнай гісторыі. Дастойнае месца ў ёй занялі савецкія спартсмены. Яны заваявалі 7 залатых, 5 сярэбраных і 9 бронзавых медаляў.

На алімпіядах не прынят камандны залік. Аднак, неафіцыйны традыцыйны падлік ачкоў вядзецца ўсёй міжнароднай прэсай. У гэтым падліку ўлічваюцца першыя шэсць месц, занятых спартсменамі ў кожным відзе спаборніцтваў. Першае месца дае камандзе 7, другое — 5, а кожнае наступнае — адпаведна 4, 3, 2 і 1 ачко. У выніку савецкія спартсмены набралі 146,5 ачка і занялі першае месца.

**М. УЛАДЗІМІРАЎ.**

## *Гумар і сатыра*



**Хай працуюць бабкі, маткі—**
**Весялей у нас заняткі.**

Мал. У. Лося.

**ПАКУЛЬ НЕ ГРЫМНЕ**



. . . . . . . . . . . . . . . .



**Ваш білет, грамадзянін?..**

Мал. Г. Скамарохава.

**ЗВЫШЭЛЕКТРАЧАЛАВЕК**

**Каб жанчынам падабацца**
**Ад шкарпэтак да павек,**
**Кожнай раніцы за працай**
**Звышэлектрачалавек.**
**Ды хутчэй, чым стаць прыгожым,**
**Ад святла аслепнуць можа.**



**НА КАСМІЧНЫЯ ТЭМЫ.**

Мал. Л. Чурко.





Першыя візітныя карткі Месяца.



— На Месяц я цябе пушчу, толькі пры адной умове, што ты не пяройдзеш на нябачную частку яго.



Карагод, карагод...







Трэніроўка перад палётам...



# *Шахматы*

пад рэдакцыяй майстра спорту СССР
А. СУЭЦІНА

## НЕСПАДЗЯВАНЫ ТАКТЫЧНЫ ЎДАР

Шахматная партыя развіваецца ў адпаведнасці з пэўнымі прынцыпамі стратэгіі і тактыкі. Стратэгія звычайна ажыццяўляе агульнае кіраўніцтва шахматнымі сіламі, тактыка ж максімальна набліжана да канкрэтнага дзеяння, улічваючы прызначэнне і магчымасці кожнай фігуры і пешкі. Тактыка — гэта майстэрства вядзення бою на шахматнай дошцы.

Галоўную ролю адыгрывае стратэгія, бо задума вызначае дзеянне. Але было б няправільна думаць, што тактыка слепа падпарадкоўваецца стратэгіі. Кожны стратэгічны план перш за ўсё павінен быць тактычна абгрунтаваны.

Практычна больш за ўсё ўзнікае патрэба змагацца супраць тактычных аперацый праціўніка. Недаацэнка ролі тактыкі і вядзе часцей за ўсё да вялікіх памылак і пралікаў.

Павучальны наступны прыклад, які ўзяты з партыі аднаго з першынстваў СССР.



У гэтай партыі іграў белымі міжнародны майстар Г. Лісіцын, чорнымі — майстар А. Толуш.

Апошнім ходам перад пазіцыяй 1. Фа5 белыя напалі на пешку с7, адначасова падрыхтаваўшы непрыемны выпад Фа5—g5.

У адказ чорныя неспадзявана сыгралі 1. ... h6!?. Ствараецца ўражанне, што з двух непрыемнасцей чорныя выбіраюць большую, аддаючы пешку с7. Белыя не ўтрымаліся ад спакусы і сыгралі 2.Ф : с7.

І вось тут раскрылася глыбокая тактычная задума чорных: 2. ... Кf5! Высвятляецца, што ад пагрозы Кf6—g4 у белых няма надзейнай абароны.

3. h3 (Ратунку ўжо не бачна. На 3. Ле2 ідзе 3. ... Кg4, 4. g3 Фh3, 5. Лfe1 К : g3, 6. hg Ф : g3+, 7. Крf1 Кh2+ і г. д.) Цяпер жа было сыграна 3. ... Кg3!, і высветлілася, што белыя трацяць, як мінімум, якасць. На 4. Лf2 ідзе 4. ...Кg4!

Разам з тым тактычны ўдар не павінен быць самамэтай. У канчатковым выніку ён павінен дапамагаць ажыццяўленню стратэгічнага плана.

Гэта добра ілюструе наступны прыклад, узяты з партыі Толуш — Батвіннік на XI першынстве СССР.

Апошні ход белых 1. Фd1—d2 (гл. дыяграму) звязаны з хітрай пасткай.



На 1. ...Кd5 белыя адказалі 2. Сс7!? (Гэта — аснова задумы белых: здаецца, яны дасягаюць яўнай перавагі.) 2. ... Ф : с7, 3. К : d5.

Цяпер, каб пазбегнуць матэрыяльных страт, чорныя павінны сыграць 3. ... Фd7. На гэта якраз і разлічвалі белыя, хочучы сыграць 3. Лd1 е6, 4. Ке7! або 3. ... Кс6, 4. Фс2!, у абодвух выпадках дамагаючыся выйгрышнай пазіцыі.

Але... было сыграна 3. ... Л : d5!, 4. Ф : d5 Се6. 5. Фd2 Кс6!, і высветлілася, што ў чорных мацнейшая атака на ферзевым флангу, таму што белыя безнадзейна адсталі ў развіцці свайго каралеўскага фланга.

Такім чынам стала зразумелым, што вельмі прыгожая тактычная аперацыя была пазбаўлена стратэгічнага абгрунтавання. Такі тактычны ўдар, як правіла,ваўсёды заканчваецца няўдачай пры правільнай ігры праціўніка.

## ЗМЕСТ


**Пімен Панчанка.** *** Руду і хлеб мы здабываем самі... *** Дождж ідзе... Мазурка Шапена. Пра неўмяшанне. Пра суіснаванне. Амерыцы. У даун-тауне. Хлопчык з фермы. Сустрэча з «Бярозкай». На акіянскім лайнеры. Вершы . . . 3
**Міхась Пянкрат.** Шчасце маё. Аповесць . . . 11
**Еўдакія Лось.** Жыву я ў доме гарадскім. Нечаканы прыход зімы. *** Ты — ясакар... . . . 55
**Мікола Гроднеў.** Галачка. Апавяданне . . . 57
**Вера Вярба.** *** Белакрылая хусціна... *** Схіляецца ніва... 63
**Авяр'ян Дзеружынскі.** Казка пра ваду, агонь і вецер. Вершы . . . 64
**Барыс Камар.** Каменьчык. Апавяданне. Пераклад з украінскай мовы . . . 66
**Уладзімір Верамейчык.** Развітанне з Арменіяй. Верш . . . 72
**Пісьменнік і сучаснасць** . . . 73

### Дарогамі сямігодкі

**Юры Ермалюк.** Неспакойныя. З жыцця брыгады камуністычнай працы . . . 75
**«Маладосць» вядзе рэпартаж...** Шэсць магіляўчанак . . . 82

### Гары, камсамольскі аганёк!

**А. Петрашкевіч.** У паходзе за культуру. Артыкул . . . 86

### Навука — праца — чалавек

**Нашы інтэрв'ю.** Хімія крочыць на палі . . . 91
**Б. Гарэлік.** Знойдзенае прызванне . . . 93
**Б. Усцінаў.** Подых жыцця . . . 96
**Г. Навіцкі.** Каму даступна вышэйшая адукацыя ў ЗША . . . 101

### З блакнота падарожніка

**Уладзімір Мяжэвіч.** Адзін у тайзе . . . 104

### Давайце пагаворым...

**М. Лявіцкі.** Каго мы называем мяшчанамі . . . 111

### Слухачам народных універсітэтаў

**І. Ніснeвіч.** Геній польскай музыкі . . . 118
**Дзмітры Жураўлёў.** Нараджэнне сімфоніі . . . 1[illegible]

### На атэістычныя тэмы

**І. Шышкін.** Загадка зямнога ядра . . . 1[illegible]3
**Сцяпан Александровіч.** Пясняр народных дум . . . 1[illegible]4
**Вера Палтаран.** Дом над соснамі . . . 1[illegible]7

### Бібліяграфія

**Ю. Канэ.** Песню нялёгка скласці . . . 141
**В. Нікіфаровіч.** Пра нашых сучаснікаў . . . 143
**І. Паўлюкоўскі.** Вокнамі да сонца . . . 145
**М. Луфераў.** Майстэрства крытыка . . . 14[illegible]
**Выйшлі ў свет** . . . 1[illegible]

### Наша пошта

**В. Грамыка.** Хто ж расчысціць сцежкі? . . . 1[illegible]
**В. Глозман.** Для тых, каго чакае праца . . . 1[illegible]

### Спорт

**М. Уладзіміраў.** Белая Алімпіяда . . . 15[illegible]
**Гумар і сатыра** . . . 157
**Шахматы** . . . 15[illegible]


**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**


Галоўны рэдактар Пімен ПАНЧАНКА
Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола АЎРАМЧЫК, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Генадзі КАЗІЦІ[illegible], Міхась ЛЫНЬКОЎ, Іван НАУМЕНКА, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Янка СКРЫГАН, Уладзімір ЮРЭВІЧ (адказны сакратар).